# ПОЛЫМЯ

КНІГА ~~ПЕРШАЯ~~ трэцяя

*

## ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ

1 · 9 3 0

В · Ы · Д · А · В · Е · Ц · Т · В · А

# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ



САКАВІК
1930

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# ЗЯЛЁНЫ ШУМ

## Цішка Гартны

*Аповесьць*

I

Юстын Плот давёў баразну да сьценкі, павярнуў каня і стаў. Брудная, патрэсканая яго рука павольна паднялася ўгору, да галавы і разлажыла на бакі густыя, скамечаныя і пасівеўшыя косы.

Ён глыбока ўздыхнуў і спагадліва, загадкава паківаў галавою.

Конь кашлянуў. Сьледам настаражыўся—з-пад тоўстага аб'імшэлага каменя, які займаў амаль ня ўсю шырыню палоскі, выпархнуў каршун. На цёмна-сінім небе, аб'інталяжаным белымі мяккімі воблачкамі—птах правёў сваім лётам выгінастую стужку. Там за двума курганамі, адным—зялёным, як рута, другім—драпястым ад плям жоўтага пяску, каршуна акружыла з дзесятак варон. Іх прарэзьлівы лямант рассыпаўся па шэрай роўні папарнага палетку.

— Нядобра, дэрыш...—выказаў няскончаную думку Юстын.

Яго прыжмураныя вочы ўперыліся ў бок курганаў, ужо не даверху, а нізам—і хвілін на пяць глядзелі ў адну кропку.

— Надаела, нарэшце... Дзе-ж тут уцерпіш... Трохвярстовая даўжыня і на сажань шыркі...

Ён крута павярнуўся назад, па другі бок сьценкі. Вузкая стужка палоскі бегла ад яго ўбок маладое дубровы, сьціскаючыся ў двухшаговую дарожку.

— Абрыдла думаць і гаварыць. Людзям не ўталкаваць. Галоўнае, што кожны ведае сам, а нешта трымае яго за полы, як кляшчамі за рэхву. Не разьбяруся, ды годзе. Прырасьлі да старога, як мох да саломы...

Юстын з лёгкай нэрвовасьцю памяўся каля плугу, некалькі разоў прамераў абудва канцы палоскі і пагнаў каня ў новую баразну.

— Годзе! Трэба, нарэшце, выбіць дур з галавы і пачынаць справу... Важна заварушыцца, а там... Н-но-а-а, малы! Хутка праводзіцьмем барозны ўшыркі-ы... Кончым, няпраўда, з надаедлымі шнуркамі... Зрэжам межы і твой абавязак цягаць плуг паступова зьнікне... Чуеш, дэрыш? Па тваіх кроках прагудзе жалезны конь і ўспаша роўныя кавалкі поля глыбокімі барознамі... Нно-а-ж! Ужо недалёка той час, калі... Ну, яшчэ баразну...

Юстын грузна налёг на дзяржаньне плугу і скасіў лямяхі ўправа. У яго ваччу бліснула абгладжанае жалеза, порстка ўрэзаўшыся ў кудлатую мяжу. Кавал дзярыны, як закладка, прагарнула разору на суседнюю палосу.

— Тпру-у, дэрыш! Само, вось, просіцца... Гэты межы...

Натруджаная рука Юстына выпусьціла правы тронак плугу і працёрла ўспацелы лоб. Рагі раскоўзанага поту, зьмяшаўшыся з гразёю, зарысавалі вычварнымі рысамі маршчыністае поле ілбу. Над лахматымі брывамі земляроба выплылі чорныя наддужжы.

— Слабыя мы з табою, дэрыш,—пагладзіў Юстын каня па крыжы.

Стомленая жывёліна затрапятала клубам і чмыхнула.

Юстын не апамятаўся, калі конскі чмых зьліўся з гучным лапаценьнем, якое данялося з-пад гасьцінцу, убок Ясеннага саўгасу.

— Дэрыш, чуеш?—праказаў ён да каня і вызваленую ад плуга руку абярнуў у казырок над вачмі.

Чырвоны промін захаду абымаў непатухлым сонцам разрэджаныя пакрасы дзярэў, цёмны чатырохкутнік з высокіх ліп і зялёныя дахі саўгасных будынкаў. Дарагімі інталяжанымі, сплеценымі чараўніцай натурай, глядзеліся стройныя дубы, каштаны ды клёны ў выразную глыбіню неба. Пад імі палавела пшаніца; белымі стужкамі валю пярэсьціла яе полаў квітучая грэчка. Неадзначаным адценьнем перабіваў бялізну грэчкі вагненна-бурдовы колер распусканай канюшыны.

То быў пэрсыцкі дыван, разасланы дбайнаю рукою гаспадарных рабочых маладога саўгасу. І лёгкай хмурынкаю здаваўся той цёмны дым, што пяцьма слупкамі цёгся ўгору. А перабойнае лапаценьне снавала новыя камякі курава, якія рухалі наперад, убок будынкаў, разам з трактарамі.

— Якая любата! Ні табе каня, ні табе плуга! За дзень—што нам з табою, дэрыш, за месяц не вабраць. І з музыкаю—на адпачынак. Вось гэта я разумею. Дакуль-жа трымацца за гэта саматужства?.. Не-э! Няхай што хочуць кажуць... няхай клянуць і лаюць, я не пакіну сваіх намераў. У нас павінна адбыцца поўная зьмена зямлякарыстаньня... Далей чакаць ня можна... Шкодна... усё ідзе наперад, паляпшаецца, набывае новыя формы, а мы... топчамся па сваіх нітках, абы не растацца з паганаю ўласнасьцю. Го-а-а! Пара, Адасю, растацца з сваёю ганарлівасьцю. Яна не да часу, мілы суседзе! Не да часу! Пара старшынаў мінула... Кнакі папятралі марна... Няма разгарненьня на зьдзекі з беднаты—годзі! Ні падпалам, ні забойствам ты мяне не запалохаеш, даражэнькі... Менск адказаўся вясною, зараз ня будзе ўпірацца... Дзесяць чалавек у вуліцы знойдзецца... А знойдзецца дзесяць чалавек—гатовы колектыў, сябрыня... Ня трымацца-ж за фалды Адасёў ці Сьвітак... Іх манэўры—дарма... Мо' няпраўда, дэрыш?

Лапаценьне трактараў, аддаючыся ў сьценах саўгасных будынкаў, змаўкала.

З яго вылятталі рознастайныя гукі адвячоркавага жыцьця ў саўгасе. Скрыгацеў непадмазаны вочап у студні. Найгравала жалейка. Перарыквалася гавяда, і піскілівым галаском маладзіца напявала „чарнушачку“.

— Цягне мяне да вас, браточкі!—умільна вымавіў Юстын і расплыўся покатным сьмехам на густыя медныя гукі саўгаснага гонгу.

— Саўгас—гэта тая-ж фабрыка... Хлебная фабрыка Савецкае ўлады... Няўжо паны яшчэ думаюць вярнуць сабе яе? Дурасьлепы, паганцы... Хто-ж вам аддасьць сваё дабро? Хто дазволіць вам ступіць паганаю нагою на памытую нашай працай зямлю... Хі-ха-ха-а-а!

У Юстынавай руцэ затраслося ядлоўцавае пужальне. Доўгі цень, што паў ад яго на закаржэлую цаліну між чорных разораў, дапомніў мінулае, зьнікшае на векі.

— Трэсьлі над нашымі сьпінамі, а зараз!..—Гэта вас, панове, чакае ў кожную хвіліну... Паедам, дэрыш!

Пахілены плуг апісаў дугавую рысу ўбок накіраванага павароту—Юстын гнаў каня да возу.

На двары надыходзіла к вечару, а язды да хаты болей двух кілёмэтраў. Заўтра ўсёроўна давядзецца прыяжджаць—чаго-ж пазьніцца?

— Стой, малы, сьмірна! Сонца на заходзе!

Юстынавы вочы глядзелі на старую збрую, што перабіралі каравыя рукі, а ў галаве вярцеліся думкі пра новае земляўпарадкаваньне.

Два месяцы, як ён вярнуўся з Менску. Хадзіў з Мікалаем у Камісарыят землязробства. Дамагаліся там папасьці да самога камісара, а вышла, што вярнуліся ні з чым. Ніхто ім толкам нічога азначанага не сказаў, да і яны талкова не маглі нічога сказаць. У іх было адно рашэньне—гэта пагаварыць пра новае ўпарадкаваньне зямлі. Вёска з даўных часоў узьнімала пытаньне расквітацца з старою формаю доўгапалосіцы. Надаела цясьніцца на вузкіх палосках. Агоркла марнаваць час на двухвярстовыя пераезды. Трэба знайсьці выйсьце, але ў чым? На гэтым упіраліся. Адась Папелка—за хутары. Аляксей Сьвітка—за пасёлкі. А разам, калі ўшчынаць—сумятня і візіркі, незгаворанасьць. Няхай разважыць Менск. Камісарыят землязробства. Там-жа людзі на гэтым сядзяць... І—на табе—дарога—блізкі сьвет—бяз скутку... Сёньня-ж зайду да Мікалая... Людзі вакол варушацца, мяркуюцца, пачынаюць нешта рабіць, а мы...“

Над канём крутнулася пуга. Сьледам передок нараду стукнуў калёсамі ў глыбокія калдобіны зарослае мураўкаю сьценкі. Юстына закалаціла на сукаватым аполку.

— Паберажыся!—хтосьці гукаў наперадзе.

Ён саскочыў з нараду і паглядзеў наперад.

— Адась Папелка?

Чырвоны гладкі конь цягнуў воз гною. Абочынай, трымаючы лейцы ў руках, тупаў здаравенны, гадоў сарака пяці, поўнатвары селянін.

Застыглая кусьлівая ўхмылка ўбірала яго поўны, з маленькімі сінімі вачмі павосьпэны твар.

Калі Юстын параўняўся з Адасёвым возам, то пачуў укорлівае, зачэпнае пытаньне:

— У многіх мясцох паараў мяжу?

Гэта зычэла жартам, у якім хавалася варожая ўпічлівасьць.

— Баішся?

— Каго, але не цябе.

Пачакай, ня ручайся. Зрэжам межкі—нядоўга астаецца.

— Трасцу! Не дажджэш.

— Упоперак арацьмем.

Адась не адказаў, ці мо' Юстын не пачуў, бо значна ад'ехаў.

„Ня любіць!“—падумаў Юстын пра сябе.

Было ўцешна падражніць Адася. Але Юстын разумеў, што за гэтым сьмехам хаваецца сур'ёзная справа. Адась увасабляў сабою тую сілу іх вёскі, якая адгароджвалася ад другое, бяднейшае часткі, не аднымі платамі. За Адасём зьбіраліся рэшткі пražыткаў старое, царскае пары. Ганарлівая заможнасьць, зьвязаная з даўнейшымі прывілеямі ў праўных адносінах, выраджаная ў самавітае кулацтва, выглядала з пяціваконнае, ашыфляванае хаты, з трохдзесяціннага саду, з дваровага гумна. Стан дзедзіча вітаў над яго кудрастаю галавою, як камары над балотам.

— Адась, не гарачыся! Ха-ха-ха!

## II

Доўгая, як вокам згледзець, сумяцілася вёска Булаўка. З усіх канцоў сьцягала хлебаробаў. Тарашчэлі перасохлыя нарадзікі, драбіны. Выпявалі рыплівыя песьні вароты, дзьверы, весьніцы. Дзеці і гавяда крыжавалі выбітымі забрудненымі дарожкамі ад хаты да хаты, з двара ў двор. Куравіў пыл, за якім хаваліся выразныя рысы хат і платоў.

У вузкіх, цесных дварох туліліся да сьцен, пад капяжы роўнаскладзеныя кастры дроў, земляробныя прылады, хатняе начыньне. Цесната, ад якое грозілі крычаць жывою моваю: плугі, гаршкі, цабры і дайніцы, перавязаныя дубцамі калы.

Двары, як клеткі, агароджаныя з усіх бакоў, сьціснутыя капяжамі ды рэдкімі дзярэўцамі. А за гумнамі, што як авечкі пастульваліся адно да другога, ня могучы адбегчыся ад дваровай цеснаты, выпіралі пукатыя межы. За межы, як за плот, ні ткніся. Над межамі—векавая лаянка, праклёны, тузаніна. Не аступіся, не спатыкніся.

Ужо ў пагоне Юстын адчуў, нібы яго нехта давіць. Вёска сустракала яго няпрытульнасьцю аджыўшых парадкаў, непатрэбнае купнасьці, у якой квасілася шкодная, балючая варожасьць, мітрэнгі, азьвярэласьць.

Ён азірнуўся туды, дзе лапацелі трактары пра новае жыцьцё.

— Людзям здэцца, што плуг можа хадзіць усяго ў адзін бок. Цудныя! Або толькі двухвёрстныя адасобленыя палоскі родзяць збожжа? Нябось глядзелі і любаваліся булаўкаўцы саўгаснаю канюшынаю, мурагамі, густою пырыстаю яркаю...

Пазадзе тарахцела фурманка, мэрам-бы Адася. У шэрасьці ўзьнятага пылу цяжка было разабраць конскую масьць. Ну, а па росту—Адасёў.

— Нно-а, дэрыш! Я не хачу з ім зьяжджацца. Падбяжы да завароту.

Наперадзе, за Ігнатавым баракам, падкалодзішча. Пільныя ўзрокі Юстына спыніліся на высокім жураўлі. Ці то ён рыпіць у тахту стукату вёдрамі, ці можа?..

Натаўп. Гоман. Ля калодзезя—мітынг? Ляпяткія, рэзвыя кабеты наперабой, пярэкрыкам, пнуцца наперад з сваімі думкамі ды радамі. З прарэзьлівых альтоў вынікаюць рыпатыя і плаўкія басы мужчын. Падаюць жалезныя кручкі і б'юць па бляшаных вёдрах драцяныя восілкі. Грукаціць конаўка.

— Бацька, во-а!

Перад Юстынам натаўп раступіўся. І пасярэдзіне, між двух людзкіх сьцен—ухмыльны твар сына...

— Якаў?

— Госьць! Госьць! Ды з навінамі!

— Паслухаем, што табе сын прывёз!

У галасох з натаўпу мяшалася нязлоснасьць з гіранічнасьцю. Аднак Юстыну няведама было, ад чаго адно і за вошта другое.

„Якаў!“

„Так, госьць!“

„Ну, каму-ж, якаво?“

— Якаў хутчэй уладзіць з зямлёю, як ты з Мікалаем. Хутка пойдам разьмяраць. Ты казаў раней—за пасёлкі, а сын вось колектыў з Менску прывёз... Можна заказваць агульны кацёл. Тым, хто любіць гульню... Чуеш, Адась?

Каля Юстынавай сьпіны ўжо чмыхала мыза Адасёвага каня. А гаспадар яго нарыхтованым бег да натаўпу з пугаю ў руцэ і з лаянкаю на вуснах.

— Згубца, ліха яго матары. Вы-ж ведаеце, людзі добрыя, гэта-ж зламысна парэзаў усю маю мяжу. Ня цярпіцца, гаду... Абы пакасьць зрабіць, абы... Няхай сын пасудзіць...

— Поле не тваё, Адась, чаго крычыш. Захочуць—заўтра парэжуць на кускі і раздадуць, каму ўздумаюць... Зямля—дзяржаўная.

Падаткнутая маладзіца ябедна паглядзела на Юстына. Але пуглівa адвярнулася да поўных вёдзер.

Суседка тузанула яе за падол і нешта на вуха парадзіла.

— Ды няўжо-ж, бок...

— Твой язык даўжэй усіх... Каму-б прыстала, толькі ня Ваплянцы...

Сур'ёзная міна маладога, у паласатым зрэб'і, мужчыны, заткнула рот маладзіцы. Гэта быў адзін з трох партыйцаў Булаўкі—Тамаш Хіб.

Стаяў у нерашучасьці і Адась.

— Трэба на людзей глядзець... Перайходзяць-жа на колектывы і жывуць ня горай нашага. Вунь хоць-бы ў Асьмінаўцы... Першы год, а якія посьпехі! Зямля—разам, у кругу... Тут табе і выган, і поплаў, і папар... Аж міла! А пшаніца, а канюшына, а ячмень! Ня ўступяць саўгаснаму... Я-ж знарок хадзіў глядзець... Або-ж да бясконцасьці будзем душыцца вёскаю?.. Адно другому на ногі наступаць... выдзіраць вочы, туліцца, як мышы па норах.

Стары Гальляш Сукня нахмурана паглядаў то на Адася, то на Ваплянку. Яго пранозьлівыя ўзрокі ацінялі іхнюю задзёрыстасьць і нішчылі ўражаньне непаладнае гутаркі.

Якаў бачыў, як Адасёва пуга выпала з абвялых рук, а зламысная ўхмылка—растала ў восьпеных ямках. Адась ня мог спадзявацца на агульнае спачуваньне і крыўдліва павярнуўся да калодзезю.

З нездаволеным мармытаньнем падалася ад натаўпу Ваплянка. Крывы каромысел хістаўся на яе мяккім плячуку і плюхаў вадою з ведзер па круглых чырвоных лытках.

Паварочваючы за хату, яна азірнулася і кінула натаўпу вострым словам лаянкі.

Гальляш добра не рашчуў, але колка ўсьміхнуўся, праказаўшы:

— Не падабаецца імасьці. Каб гэта ды яе гаспадарства фальбаркам замяніць—магчыма і згадзілася-б. А ў колектыў, бачыце...

— У колектыве трэба будзе кожнаму рабіць, а фальбарак заўсюды найміты трымалі,—

Мужчына ў зрэб'і паглядзеў у бок, дзе за хатаю схавалася кабета з ведрамі, і адвярнуўся да Адася.

Той паіў каня. Суровымі ўзрокамі ён пазіраў спадлоб'я ўбок Гальляша і мужчыны ў зрэб'і і лаяў каня.

Змрок хаваў сярдзіты выраз яго твару, а гоман—скрадаў знэрвованы настрой.

Адася дапякала гутарка людзей, з якімі яшчэ нядаўна ён не хацеў мець ніякае справы. Гальляш Сукня, ці Тамаш Хіб—хто браў іх на ўвагу? Галота, задрыпанцы, жабракі—вось іх характарыстыка ў Адасёвым разуменьні... Бывала...

Ён рашчуліўся і ня стрымаў расхваляванага пачуцьця:

— Вы рады, што зараз... Бальшавікі...

Выпушчаная з рук конаўка моцна стукнула па зрубу і скрала канчатак Адасёвага сказу.

— Я нажыў сваю гаспадарку цяжкаю працаю ўсяе сям'і... Чым я вінаваты, што вы ўвесь век гультаявалі... А зараз—за партыю хаваецеся...

Цяпер, каб і стукала конаўка аб зруб, усё-б не застукала яна дружнага, многагалосага выгуку:

— Вво-а-а! Ччу-у-лі? Дзедзіч па дзедзіцкі... Партыя бакі муляе...

У зьлітным голасе некалькіх мужчын і жанок чулася жорсткае абурэньне. Дзесяткі гадоў вынесьлі наповерх сучаснасьці зацяглую, клясавую варожасьць паміж котлішчамі Папелкі, Грызуноў, Пасьвічаў і Гарцаў і беднымі, паўбабыльнымі сялянамі Булаўкі. Заможная пыха, пагардлівасьць і цураньне бяднейшых адновяскоўцаў выпуклілася, як клубок і едкаю прыкрасьцю кранула многіх за жывое.

— Бацькаў сынок. Праўдамі і няпраўдамі наадцягаў ад людзей зямлі і думае, што да яго ніякія законы не датычны... Досыць, нябожа. Мінуліся часы і старшынь і падкупных судоў. Ня люба з усіма—прэч... Абыдамся бяз дзедзічаў...

— Можа выкупу папросіш за зямлю?

— Шкода, што іх ня пыталі, калі рабілі рэволюцыю!

— Сельсавет—ня воласьць!

Адзін за другім, на перабой і зьлітна, нясьліся да Адася пагрозныя, зьнішчальныя выгукі. Яны аколілі яго вострымі драцянымі загарадзямі, з якіх цяжка было выбрацца.

І ён бязмоцна азіраўся вакола, рвучыся выехаць ці ўбок, ці наперад,—ды і ногі ня рушылі з мейсца, і вочы ня бачылі прагалку.

Здрочыла адгаварвацца, але, вочавідкі, было бязмэтна. Над ім гудзеў голас клясавае помсты, пакуль папярэдні, дапамінальны, ня ў сутнасьці сваёй руйнуючы і беспагадны.

Адчуваючы гэта, Адась шчыльна прытуліўся да каня і злосна, азьвярэла заскрыгітаў зубамі.

Ён не заўважыў, як Юстынава фурманка аддзялілася ад яго і схавалася разам з грамадою сялян у згушчаным змроку набліжанае ночы. Не дачуў, як астатнія сказы, накіраваныя на яго, расталі ў пацішэўшай гутарцы разыдзеных людзей.

— Ада-ась!

Яго гукала жонка, стаючы на адгоне некалькіх сажняў і ловячы вачмі мужаву постаць.

— Адась! Дзе ты дзеўся—а?

III

Адась Папелка заехаў у гумно і каля гадзіны займаўся распрэжкаю каня. Яго рукі адказваліся варушыцца—а думкі не знаходзілі прасьвечыны ў наступным. Водгалас прагучэўшага абурэньня сялян перадаваўся ў малейшым скрыпу, у цішэйшым зыку заміраючага жыцьця вёскі.

Гэта было ўпяршыню, колькі ён жыве на сьвеце. Раней, як памятае—ці мо' памяць атупела—на яго ніхто ня крычаў, ня сьмеў ашчэрыцца рэзкім словам, непавагаю. Кожны булаўкавец нізка кланяўся пры стрэчы, далікатна адзываўся, зьяжджаў яму дарогу, даваў мейсца на прызьбе... Ніхто ня выцяў яго сабакі, які не аднаму „падшыванцу“ грызануў лытку.

А зараз—адкуль гэта?

Конь хрумстаў сочную цьвятуху канюшыны і пырскаў носам. У засеку шамяталі мышы. У высі, пад кроквамі новага гумна—хлопаў крыламі кажан. За гумном—гукала перапёлка. Гэтыя, звычайна, не заўважаныя гукі зараз перабівалі яго ўспаміны, драпалі па сэрцы і не давалі апамятацца.

Але мінулае высувала пакрысе, адрыўкамі сякія-такія выпадкі, здарэньні, дапамінкі... Адно за другім ішлі: суд з Гальляшом Сукняю за апляцнік, спагнаньне падаткаў у 13 годзе па земскіх плацяжох, прымусовае высяленьне Тамаша Хіба... і цэлы рад спраў, за якімі мігалі ўсе гэтыя людзі, што ён, Адась, іх дагэтуль не заўважаў... „Гэты людзі, якія варты...“ Злосьць напірала знутру і ў пене на губах, і ў сударажным папярханьні вылівалася наповерх. „Не, я не згаджуся ніколі, каб з мяне пацяшаўся якісьці Плот, або Сукня... Я... ды ці-ж я адзін? Яшчэ можна патузацца... Выхварэюць, а займаздароў ня здамся...“.

Ад гэтых думак Адась асьмялеў і вышаў з гумна.

Раньняя ноч сьціскала яго цемнатою. Чуць-чуць вызначаліся камлі закаржэлых плакучых бяроз. А на небе—рассыпаліся зоры. Усе над ім, але няясныя і халодныя, як яго растрывожанае і зьнеахайнае пачуцьцё „слаўнага“ дагэтуль чалавека.

Ён падышоў да вярэі ў весьніцах, што адгароджвалі прыгумень ад гароду і стаў сьпіною да Платовага пляцу. Адтуль нясло пахам бульбяніку, а ў яго на прыгуменьні палавела пшаніца.

Шырокаю паласою цягнулася яе істужка, мінаючы гумно, аж да яравых палеткаў. Ядраная пшаніца гатавала багаты ўраджай. Уцеха гаспадара, якому не хапала натланнасьці, перанясла Адасёвы думкі да неапарожненых кадак і хвас, што стаялі і ў каморы, і ў пуні, і ў засеках гумна. Пухоныя блінцы, з ісподу падмазаныя здорам. Кублы сала і слаі малака... пудовыя кумпякі...

Пачуцьцё скнарнасьці дапомніла пра небясьпеку, і ён агляну́ўся вакол сябе...

— Х-га-кх!—кашлянуў ён з перапуду, пачуўшы за плотам, у Юстынавым гародзе якісьці нявыразны шоргат.

Адась прыглядзеўся, апусьціўшыся на карэчкі.

З-за адрыні вылузвалася палоска сьвятла, ну, так, шырынёю з ручнік. Але шоргат у гародзе зьнік.

— Няўжо мяне сьцерагуць?

Ацяжэўшая нага Адася з пудоваю труднасьцю паднялася на першую ператочку весьніц, і не магла ўстаяць—ён скрыпнуў весьніцамі, ажно спалохаўся сам. І ўжо сьпярэпалаху, папіханы боязьню, ён пералез у свой гарод, а сьледам у двор і хапіўся рукамі за клямку сеняшніх дзьвярэй.

Жук кінуўся да ног і заскавытаў.

У хаце сьвірэла газьніца.

Ён паглядзеў і заўважыў, як жонка ўзіралася ў покутнае вакно, ужо амаль разьдзетая.

Адась цішком падышоў у канец двара, да вуліцы, і высунуў голаў.

З вокан Юстынавай хаты сьвяціў агонь. Між ценявых рысункаў ваконных рам выдзялялася некалькі людзіх сылуэтаў.

Ён прыслухаўся—у хаце чуўся бойкі, заліўны рогат.

„Сход!“.

„Меркаваньні! Во-а! Трое комуністых... Хіб правадыром...

З мышынаю ўкрадкаю, заціскаючыся ў міжкольле, азіраючыся на вуліцу, Адась набліжаўся да вакна Юстынавай хаты. Яго дрэнчыла выглядзець, хто там і што гавораць.

„Магчыма ўсё пра мяне“.

Паўз шуляваньне каўзануў Адасёў сачковы ўзрок у суседаву хату... У тую хату, з якое ён яшчэ нядаўна прыказваў зьдзіраць салому, і ў сьцены каторае бязбоязна стукаў дрывамі і прыладамі... На гэтай хаце спынялася ліхамысная думка Адася, толькі яе ўздымала зьненавісьць да Юстына...

Зараз ён разглядаў яе зьмест.

Загавор?

Так, усё разьляцелася прахам: і мары выселіць Юстына, каб пашырыць свой пляц, і замыканьне свайго гаспадарства ў недатычную фортэцыю, і мары пра набыцьцё крывасьценных паплавоў...

Калі ўсё гэта згрудзілася над ім—апусьціўшыся чорнаю шапкаю капяжу? Каб ён мог чакаць!

— Вунь, вунь—усё гэтыя самыя... Які агідны гэты Хіб!.. Тамаш Хіб, Мікалайка... І стары корч, балхва... Сукня...

Вока пасунулася да рамы, а на сьлізкім шклу лягло вуха:

— Якаў прапаведвае... Напэўна пра колектывізацыю, прабеглец...

Заліўны рогат стукнуў у вакно і задрыжэў перазвонам шкла.

— Толькі адзіная форма зямляўпарадкаваньня можа выбавіць наша бядняцкае ды серадняцкае сялянства... Колектывізацыя ёсьць адзіны фактар перабудаваньня вясковага жыцьця...

Выгнутая сьцяна муляла Адасёў бок. Яго рука не знаходзіла мейсца, каб утрымацца.

Але ён стаяў і ўсё шчыльней туліўся да сьцяны.

— Ды ўжо калі насталі, то зробяць...

Ён намерыўся вылаяцца—ды не пасьпеў: лаянка засела на прысохшых вуснах, як прыцятая дзеравяным клёкатам брашчоткі, якою махаў вышаўшы з процілежнага двара вартаўнік—Дзям‘ян Завала.

„На яго ўсё ліхое—надало яму!..“

Завала накіроўваў на распасьцертае з вакна праменьне.

Адась паўзком, прыгнуўшыся, адтуліўся ад сьцяны і паўзплоцьцю вярнуўся ў свой двор.

— Адась? Гэта ты?

Белая, як здань, з-пад пуні вышла яго маладзіца.

— Ну, дзе ты гінеш усю ноч?

— Шш-ыі-ш!

Адасёва рука паднялася ўгору і спыніла жонку на мейсцы.

Праз пару хвілін яны моўчкі ачуліся ў хаце.

На прыпяку мышыным вочкам сьвірэла газьнічка.

Затуленая гарцовым гаршком, яна бедна асьвечвала невялікі прастор кухні.

Адась шэптам перадаваў жонцы навіны мінулага дню.

## IV

А гэтым часам у хаце Юстына Плота цягнулася разгорнутая гутарка.

Якаў стаяў пры стале і дзяліўся з дзядзькамі ды бацькамі сваімі думкамі і плянамі

Сталы Гальляш Сукня, апершыся рукамі аб тапчан, умільна глядзеў на госьця, пакіўваючы галавою на кожны Якавін сказ.

Мікалай Жвыр компэнсаваў сваю згоду з Якавым аднастайным, памінютным, як стук гадзіньніка цьвёрдым: але! ыалле-а! аіле-э!

Задаволена ўхмыляўся Тамаш Хіб. „Во-а! Во-а! Во-а!"

За кожным гукам прасоўваўся яго ўказны палец убок Юстынавага твару.

Якавіны бацькі расплываліся ў салодкай уцесе з сына.

А той казаў:

„Я не разумею, чаму некаторых дурмяняць пасёлкі! Няўжо яны думаюць, што ў гэтым знаходзіцца выхад сялянскаму гаспадарству? Сьмешна! Тады навошта было адбіраць панскую зямлю, абрэзваць фальваркі і, наогул, рабіць рэволюцыю. Ці-ж яе мэта была ў тым, каб зьмяніць памешчыкаў на кулакоў, а ня зьнішчыць той лад, што іх нараджвае і трывае? Іська́на, пра якую зараз лішне казаць... Але рэволюцыя, дзядзькі, не канчаецца прагонам паноў, генэралаў ды фабрыкантаў. Рэволюцыя ад гэтага пачынаецца, а канчаецца—комунаю... Так, так! Ад палітычнага ладу—да звычаёвасьці, ад агульных узаемаадносін—да самотнага пераіначаньня. Сапхнуты з пазалочанага трону цар—не павінен замяняцца ні абліччам бога, ні балванствам кулака. А неабагуленая маемасьць спрачаецца поступу наперад і можа вырасьціць усякую дрэнь... У хутарох, у пасёлках, у адзінкавым гаспадарстве, ува ўсім тым, што разьлюдняе селяніна-бедняка—хаваецца яўная адсталасьць і дзікарства. Зямля, дзядзькі, не расьце, а людзі прыбываюць. Зьняць другую плянэту? Не пад сілу—няпраўда, мо'?.. І зусім ня можна забываць таго, што жыцьцё на месцы не стаіць. Жыцьцё прэ наперад, мяняе формы і сутнасьць і праз гэта дасягае палепшаньня... Пашто, дзядзькі, заціскаць абручы, набітыя на вас чужою ды варожаю рукою! Вас-жа паклікала Савецкая ўлада да самачыннасьці, да выяву і выказу свае волі, свае творчае здольнасьці. Вы яшчэ дагэтуль жылі з старымі формамі зямлякарыстаньня. А хто-ж, хоць адзін з беднякоў ці сераднякоў, імі

задаволены? Гэткіх ня знойдзеце. Старым зямельным ладам можа здаваляцца толькі Папелка, Пасьвіч, Грызун ды яшчэ дзесятак дзедзічаў з Булаўкі... але ня Жвыр, ня Хіб, ня Сукня. Ды ці ў дзедзічах рэч? Рэч, дзядзькі, у мільёнах беднякоў і серадняκоў, якія пасаблялі рабочым праводзіць рэволюцыю, і каторыя мусяць яе працягаць у гаспадарскім жыцьці... і ў жыцьці звычаёвым... Зьмена зямлякарыстаньня—то рэволюцыя ў зямельным пытаньні. Колектыў разьбівае абручы, што набіты на ваша гаспадараньне доўгавяковым капіталістычным ладам. Сапраўды, дзядзькі, удумайцеся, адно: межы, платы, капцы і тычкі—гэта добра? Запіраньне, замыканьне адзін ад другога—падабаецца? У кожную хвіліну, на кожным кроку—крыўдлівасьць, лаянка, цураньне, зьненавісьць—а карысьці? Якім-бы высокім тынам не адгарадзіліся адзін ад другога—адасобленасьць вас не спасе. Вось чаму, дзядзькі, колектыў адчыняе вам простор, разгарненьне і дае правіды ў наступнае, у будучыню...

Гэта ня словы, далёка не адны словы... Слухайце... Я па дарозе дамоў зрабіў аб'езд... Я наведаў да дзесяці колгасаў... Кажу вам—сэрца радуецца... Людзям адчыніліся вочы. Яны ўбачылі сьвет, яны пераканаліся, што свая палоска, свой хляўчук і карова—зданілі ім, затуманьвалі прагляды... а жыцьця не паляпшалі, ні званьня. Зямля родзіць не ў угоду Палікару ці Язэпу, як асобным гаспадаром...

Я бачыў колгаснае жыта—праўду дзядзька Гальляш кажа—хавае чалавека. А чаму, бо яго карэньні запушчаны глыбей, чым вашага. Бацькаў дэрыш ня ўгоніцца за трактарам. Не-э!..

Юстын не ўцярпеў і ўзапеў працягнуў:

— Нне-э, сынку, не-э!.. Ты праўду кажаш! Вось я бачыў, як сёньне яны лапацелі па саўгаскіх сьценках..., паверыш—сэрца радуецца...

Яго рука вывела над сталом якіясьці рысы.

— Так, так! Або-ж нам трэба казаць! Сябрыня заўсёды выгадвае. Дзе колектыў—там і перамога. Вядома-а...

Касьцістая, а яшчэ пруткая, рука Гальляша прайшла тым-жа мейсцам стала, што і Юстынава.

— А некалі хто нам пасабляў адваёўваць зямлю ў князіні Хаглавы? Сябрыня, дружня... Каб ня разам, а паасобку, даўно ўжо папруцянелі-б у бабылях ды ў парабкоўшчыне... Што казаць... Якаў мае поўную рацыю...

Якавіным тварам прабегла здавальняючая ўхмылка. З прысутных ня было нікога, каб яму пасупярэчыў. Усе пагоджана і спагадліва адносіліся да яго доўгае ўгаворнае прамовы.

Але, ці на гэтулькі поўна яны праняліся яго пераконаньнем, каб зрабіць першы рашучы крок?

— Я бацьку, як бацьку, раджу не задумлівацца доўга. Дзесяць чалавек—і ўжо ячэйка колектыву. Вы дасьце прыклад, а за вамі, убачыце, усе... Толькі, зразумела, без Папелак...

Мікалай Жвыр ажно падняўся з мейсца. Ён захапіўся Якавінай гутаркаю і пачаў казаць:

— Дык, давайце, мужчыны. Сапраўды, што нам дадуць пасёлкі? Я раней дарма на іх азіраўся... Была памылка... Падумайце самі—тая-ж вёска. Год, пяць год міне—ды зноў думай. А колектыў, браткі, зусім іншае. Колектыў, па-моему, фабрыка. Тут табе і трактар, і малатарка, і парашкі. Колектыў—гэта грамада. Усе працуюць для ўсіх. Ну, кшталтам таго, як у заводзе. Супольна. Адзін пры адным, на воку. Бо чым больш і лепш напрацуеш—у агульны кацёл, бач—сабе... Памагаем-жа мы, часамі, адзін другому дзерава перавясьці на хату... Гарцілі-ж мы некалі супольна дарогі... А араць ня сумець? Сьмешна!.. На перагонкі, браткі. Кожны ў кожнага на воку! Зносіцца плуг—новы! Ды што—плугі! Добра Юстын кажа—па магчымасьці—трактары. А будзе нешта навейшае—давай і тое. Грамада—сіла. Разумею, браце, Якаў. Ты праў... Няхай яны спрахнуць і пасёлкі, і, тым болей, хутары... і зьвязаная з імі адасобленасьць. Дзічэць? Хавацца, як ваўкі—па мярлогах? Спрабавалі ўжо. Годзе...

— Пачынаем, Юстын?

Мікалаевы вочы ўстрэмлена глядзелі ў Юстынаў твар, вымагаючы яснага і цьвёрдага сагласу.

— Пачынаем! Я, да ты, да Тамаш... Я ўжо намерыўся...

— Ды я...

Гальляш споўз з тапчана і падышоў да Мікалая.

— Не абмінай, нябожа. Вы з Хібам камуністыя, а я? таксама не далёка ад партыі... Ды яшчэ я магу і плугам паварочваць, і цэпам памахаць. Дарма, што шэсьцьдзесяты на плячох. Ввo-а!

Стары сашчапіў касьцістую руку ў кулак і стукнуў па стале. Начыньне забрашчэла на ўсю хату.

— Дзядзька, няхай вас чэмер...

— А калі і разаб'ецца пару місак—ня здолееш новых купіць?

— Купідла мала.

— Знойдзецца... У колектыў запішамся—лепшае нажывом.

— Хіба ў колектыве, бо так, адным, не дачакацца... Дзяды і бацькі, і мы з імі—сотні гадоў—а гаспадарства ні ўлева, ні ўправа.

— Пачуй, што сын кажа. Нябось, маладое пакаленьне—яно разумнейшае ад нас. Яно расьце пад уплывам партыі... Трэба слухацца, Пятруля.

— Яно, зразумела, дзядзька, дык вось за гэтымі Папелкамі ці можна што кольвечы добрае зрабіць?

Жанчына паказала рукою ў бок тыльнае сьцяны.

— Плюй... Пятруля... Цяпер—ня некалешняе. Дармо... Павытрасаем дзедзічавы панчожкі ды павыбіраем з хвасак... Досыць, Пятруля! Знойдам і папалім усе купчыя... Іхняя пара мінулася...

У старога Гальляша чулася моцная ўверанасьць у тое новае, што веяла навакола Булаўкі і якое выявіў перад ім Якаў.

— Мне вы падабаецеся, дзядзька Гальляш... Сапраўды, ці-ж мы будзем азірацца на мінулае? Гэта цень—які растае на сонцы... Пачынайце! У вас старыя гады, ды малады настрой.

Якаў аглядзеў чацьвярых мужчын і, мэрам-бы зьвязаў іх сваім узрокам у адно цэлае і непадзельнае.

На іх тварах, з адбіткам зацятае працы, з адценьнем рудое зямлі сьвяцілася зьлітнае, маладое жаданьне ступіць на новы шлях асуполенага гаспадарскага жыцьця.

Ні адзін з іх не сумняваўся ў пераважнасьці гэтае формы жыцьця над яго старым закаранелым выглядам і ні адзін ня пытаў сябе, як паглядзяць на іх іншыя.

— Пачынаем?

— Пачынаем?

Гэта была кляцьба і зарука.

Якаў праводзіў іх з хаты а першай гадзіне ўночы, калі ўжо на ўсходзе займалася ранкам і завяраў:

— Мне падабаецца ваша рашучасьць. Бо ў колгасным будаўніцтве вы знойдзеце новае жыцьцё.

V

У прысадку шамацелі каплі дажджу. З шэрага вакенца, перакрыжованага жалезнымі пруткамі—павявала цёплаю вільгацьцю. Пад парогам сеняшніх дзьвярэй—квокалі куры.

„Якая пара?“

Сумнаватае сьвятло казала за раніцу, але ў сенях было ціха.

„Бацькі на полі?“

Якаў перавярнуўся на другі бок і задрамаў. Учарайшні вечар, праведзены ў гутарцы з дзядзькамі не пакідаў вязаць рознастайныя сьненьні. Саўгасы, колгасы, дзесяткі і сотні людзей, лапаценьне трактароў і звон гонгаў, песьні дзяўчат і прыказаньні старшых; шырокія чатырохкутнікі дзядзінцаў і агульныя сховы прыпасаў. А дзе ён? На пахкім стаўпу сена ў саўгаснай аборы? Бацька разгружае воз. Жанкі пашлі на паліва ільну... Ён зялёны, вусаты, як разасланы дыван... Гароды з маладою крохкаю расадаю. Чорныя ямінкі ад паліўкі...

— А што за крыкі?

Якаў прачнуўся. Востры руб дзеравянага ложку і згратаванае вакенца.

На гародах—гоман—лаянка?

„Няйначай—маці“.

Ён падняўся, ускінуў на плечы жукетку і прасадзіў у дзьверы галаў.

Разьясьненае надвор‘е асьляпіла вочы—ён працёр іх рукавом кашулі.

— У чым-жа справа? І яго імя пялешчыцца на языку якоісьці крыкухі.

Якаў прайшоў да пералазу ў гарод.

Ага—Адасіха! Зразумела—ніхто іншы. І той-жа гарласты крык, і памятныя, брудныя словы лаянкі. І тэма—усё пра адно, як летась, як залетась, як пяць гадоў назад—так і цяпер.

— Не дажджэш... Усё спрадамо; спалім, нарэшце, а ты не паспытаеш, галота. Завідуеш? Трасцу—рукі кораткі. Ня нам—але-ж і ня вам... Ра-а-

да-а! Сын прывалокся з гораду—дык няма меры... Комуністы... Пачакай—не фанабэрся гэтак... Дзедзічы! Кулакі! Каб табе скулы паселі на карку, як кулакі. Гады ў рады працавалі, гаравалі—а зараз гаспадар знайшоўся—Плот. Дай ты рады. Кулакі!

Якавіна маці спакойліва адгаварвалася:

— Годзі, годзі, галубка, ганарыцца. Будзе-а! і гуменца, і сьвіронкі, і хваскі, і кубельчыкі—усё праверыцца. Разгорнем сувойчыкі палатна і апарожнім слоікі з маслам... І гуменіцы, і калодзішчы—усё перакроім, пераарoм сумеснымі плугамі во гэтак, во, на ператоч... Кончана Папелчына сьвята... Комуністым папікаеш!.. Мэрам-бы гэта ганьба! Я ганаруся гэтым...

„Няўжо дагэтуль яны ня выгаварыліся?“ паматаў галавою Якаў.

І выказаў сам сабе наступныя думкі:

— Ня выгаварыліся і ня выгаварацца датуль, пакуль рэволюцыя ня зьменіць іх гаспадарчых узаемаадносін. Працаваў некалі ў гаспадара—сваркі не абабрацца. Яго інтарэсы—не мае інтарэсы. Выгада яму—утрата мне; і наадварот. А зараз—іншае. І дарэктару фабрыкі, і рабочаму—адно. Нас трыста чалавек, а жаднае розьніцы.—Зьяднаны адзіным клясавым пачуцьцём, аднэю соцыяльнаю сутнасьцю... Агульная мэта. Больш зробім, зробім лепш—усім лепш. Ды ня толькі ўсім тым, што на фабрыцы, а і ўсім, што ў Савецкім Саюзе. Бо наша фабрыка, гэта частачка Савецкага вытворства, агульнага назьбіраньня супольнага багацьця...

Яго перабіла Адасіхіна лаянка на Пятрулю:

— Не паднімай ужо так галавы! Апусьціш! Пазьбіральніца ты, жабрачка... З табою гаварыць ня варт... Басалыга... Ты-ж усяго нядаўна на свой хлеб узьбілася, а дагэтуль папрошвала... І то, каб ня сын... Нячэмніца ты, гультайка. Твой Юстын... Яго партыя трымае...

Адасіха сплюнула праз плот і адвярнулася да гумна.

Якавіна маці спакойліва пускала ёй удагон едкія, калючыя словы:

— Не наелася? Трасцу—і не наясіся. Ня прыгорнеш усяго—рукі закароткі. Спазьнілася, імасьць. Зараз і з гэтым што маеш—растанешся... Ну, дык што, калі партыя трымае... Бо і трымае...

— Экономіка,—клясавыя супярэчкі павярнуў Якаў ад пералазу:—Адасю не ўгадзіць Юстыну, а Юстыну—Адасю. Два чалавекі і абое рознага стану. Адзін наступае, а другі абараняецца... Прыдзецца заткнуць горла Папелку. Іначай... Пара наступаць бедняку...

— Маці, кіньце ўжо вы перагрызацца. Які ад гэтага толк,—пазваў Якаў.

— А ліха яе ведае, чаго ёй хочацца... Ужо-ж, здаецца, набралася досыць... Крулявалі, як хацелі і ўсё яшчэ мала... У магілу гатова пабраць...

— А табе крыўда?..—даняслося з вуснаў Адасіхі.

Адасіха, як малатарня, усё яшчэ траскацела языком па заплоцьцю, ажно пакуль Якаў з мацерою не схаваліся ў хаце.

— Хоць-бы барджэй тая перамена! Так ужо мне надаела гэта суседзтва—што выказаць нельга. Падумаць—якіх дваццаць гадоў, скора я перашла ў гэту хату—няспыняльная сварка. Муха—заваруха. Курыца голаў прасадзіць у яе гарод—бяда. Комін нахіліцца ў іх бок—бойся. Гэта ўсяго—што ты ў нас, а то-б—сьцерлі-б у парашок.

Якаў прыбіраўся, а маці гатавала сьнеданьне.

— Кончана. Няхай пакрычыць у ахвоту. Адплача... Цяпер цырымоні кораткі... Партыя...

Пятруля села каля стала і абурана заківала галавою.

— Каб наш бацька дасьціпнейшы—ужо-б даўно можна было выбрацца адгэтуль. Людзі бралі прырэзкі, некаторыя высяляліся ў іншыя мейсцы, ішлі ў колгасы, а гэта—усё нечага чакаў. Прачытае твой ліст і адложыць. „Як людзі, як усе людзі". Або: „як з Менску скажуць". Ці-ж з усімі людзьмі памяркуешся? Гэта-ж ня тое, што на фабрыцы—усе аднака. Тут, глядзі, во: Папелка сваё, а Хіб сваё. Пасьвіч цягне да адных, а Жвыр да другіх... Векавыя супярэчкі... Багацейшы бяднейшаму вораг... Я і казала бацьку...

Пятруля недавыказала думку, я Якаў ня скончыў есьці—калі на вуліцы ўзьняўся новы, ужо мужчынскі лямант. Абое кінуліся ў вокны.

Сярод вёскі стаяла пара падвод. Іх гаспадары трымаліся за грудкі. З усіх канцоў зьбягаліся да іх жанкі і дзеці, сьцяною акольваючы падводы.

— Тамаш сашчапіўся з Алесем Пасьвічам,—паведаміла Якаву маці:— У іх тое самае, што і ў нас з Папелкамі. Нясьціханная варожасьць... Не дакажы сьвет, што за брыдота гэты Пасьвічы. Дзедзічы таксама. Яны загрызьлі гэтага Тамаша. Штогодня—аб'аруць, абкосяць і яшчэ вінавацяць. А ён, як і наш бацька, маўчыць, чакае нечага ...Дарма, што комуністы... Я ўжо казала, узяў-бы ды... Ці ў савет, ці ў траском, ці ў ячэйку...

Над грамадою мігнуўся аскабалак, крута апаўшы да нізу.

Прарэзьлівы ёнк разьнёсься па вёсцы, скалануўшы грамаду.

— Напэўна, Тамаш крычыць!.. Бяжы, Якаў, абараняць. Абязьвечыць, паганец... Чуў ты?

Пятруля ня згледзіла, як Якаў выскачыў з хаты і панёсься ўбок ляманту.

Але Якаў не дасьцігнуў грамады, калі з яе асяродку двое дзяцюкоў-комсамольцаў цягнулі Алеся Пасьвіча напрамкам да сельсавету. За ім гналіся вострыя лаянкі і пагрозы.

— У чым справа?—пытаў Якаў.

— Зямля... і дзедзічы... А яшчэ іншыя шкадуюць раставацца з сваімі палоскамі і цырымоняцца з кулакамі... Па-моему—узялі-б комсамольцы...

Падводы разьехаліся—Тамаш схаваўся ў сваім двары. А да растулянае грамады нясьліся басыстыя гукі ўпаўнаважанага Рамана.

— Пераб'яцеся, ліха вам, усе. Ай, ай! Дай ты лад! Людзям стараюцца даць палягчэньне, а яны... Чаго вам пільнавацца гэтае Булаўкі?

Няўжо ў ёй адзін выхад? Каб сказаў, што зямля прыватная, ды расьце, большыцца—ну, тады іншая рэч. А гэта-ж ня тое! Зямля, пане мой, агульная... А вось, як кляшчы за кляшню, пачапляліся за палоскі—і ні рады. Пара, пара кідаць гэту дуроту! Улада за колектывы—запісвайцеся. Чаго-ж глядзіць ячэйка? Чаго марудзіць?.. Паглядзелі-ба, як у людзей гэта справа разгортваецца! Люба! Проста люба!

— Ізноў за ўгаворы, дзядзька?

— Чулі ўжо, чулі.

— Цябе чакалі.

Дзесяткі выгукаў, асыпаўшы ўпаўнаважанага, раптам абарваліся, толькі падняўся ўгору Раманаў кій.

— Ня слухаеце мяне—вырашайце самі. Я гэта да партыйных звараючаюся. Заўтра а восьмай гадзіне на цьвінтары сход. Прыехалі з акругі для канчатковага вырашэньня пытаньня пра зямляўпарадкаваньне...

Усе змоўклі і пачалі пераглядацца.

— Вот што!

Тыя, што праводзілі ўпаўнаважанага, не заўважылі стройнага прабегу буланага аўтомобілю, які правёз да сельсавету некалькі чалавек вакружнае ўлады.

## VI

Справа зямляўпарадкаваньня панавала над думкамі і настроямі булаўкаўцаў. Яна выпхнула з чаргі дню ўсе іншыя пытаньні і напорліва займала першае мейсца.

Справа зямляўпарадкаваньня кіравала і буднім і сьвятошным жыцьцём кожнага гаспадара і кожнай гаспадыні. Яе перагаворвалі за працаю, пры адпачынку, у сям'і ды на вуліцы, па двое і грамадою. Векавыя выгляды, складзеныя з доўгіх вузкіх палосак трохпалёўкі, пярэсьціліся рознастайнымі зьменамі. Пільныя, моцна зацікаўленыя вочы гаспадароў у думках праводзілі падоўжныя ды ператочныя лініі ва ўсе канцы і напрамкі. Настойлівыя плянаваньні, дагадкі і надумы прасіліся да хутчэйшага разьвязаньня.

Справа зямляўпарадкаваньня абяцала новае, але пакуль ня выяўленае поўнасьцю жыцьцё. Тоўстыя пласты закаржэлай даўнасьці, як ліпкая гразь, чапляліся за больш нерашучых і трымалі іх на мейсцы пад пагрозаю споласу. З старое формы зямлякарыстаньня тырчэлі асьцякі жорсткае ды калючае мінуўшчыны. Трапяталіся цені нясупынных звадак, непрыхаванае галоты. Касьцістымі шкілетамі вызіралі дробныя кароўкі, непадгадаваныя сьвіньні. Дзеравяныя міскі з сухімі заплясьнелымі кавалачкамі хлеба, неабіраная бульба. Ныўная адасобленасьць з дробнымі самотнымі інтарэсамі п'ялася на празрыстыя пляміны сонечнага асіяньня. Думкі, як падстрэленыя птахі, бяз выразных скуткаў...

Цьвіль, парушэньне, закаржэласьць.

Але, годзе!

Выразны адрыў ад старога многавяковага ўжо быту кранаў сялянскія сэрцы. Яны цюкалі новымі настроямі, прасякаліся саладжава-казытнымі адчуваньнямі. Здалёк, а што дзень, штогадзіны ўсё бліжэй, глядзеліся трапяткія навіны. Хтосьці іх рассыпаў поўнымі жменямі па шырокіх прасторах поля, па вузкіх дарогах і сьценках. Гаваркі ветрык пераносіў іх па верхавінах рэзьвістых дзярэў, скруткамі зелянеючага жыта, калыханьнем лугавое мятліцы. З раньнім сонцам на небе, з неапаўшаю расою ўзьнімаліся яны з адчынятых, нявыяўных схоў і белымі воблачкамі плавалі над пастарэлымі хатамі цесных вёсак. На вачох расьлі, паўнелі, акругляліся і вабілі да сябе чырвонымі заманамі сялянскую ўвагу.

Чуткая, як волас на ветры, хлебаробава памяць лавіла найцішэйшыя перашэпты, весткі і пераказы, намёкі і апавяданьні. У шалясьценьні газэт, у тупату лістаносца, у праезьдзе незнаёмае падводы—удоўжкі ды ўпоперак, скрыжаваньнямі і пераплётамі бегалі, лёталі, насіліся павеі новага жыцьця, новай творчасьці, новых выяў.

Ад хаты да хаты, з засьценку ў засьценак, з сяла ў сяло, вырастаючы, аформляючыся, рознастайнячыся пераказваліся першыя спробы пабудовы колгасаў; іх пасьпехі, іх бліскучая будучыня. Нячуваныя словы, таемныя разуменьні выліваліся ў ачулую сапраўднасьць.

Грузавікі, трактары, комбайны...

Гасьцінцамі і шляхамі, якімі дагэтуль тупалі маркотлівыя коні—загудзела, залапатала, засьвістала—

Перабудова!

Поўнае, усебаковае рашучае ператварэньне: звычаю, складу, формаў, быту—

Колектывізацыя!

* * *

— Пойдам, Юстын!

Мікалаева лахматая галава мігнулася ў вакне і зьнікла.

Юстын, як еў, палажыў неаблізаную лыжку на агрызку хлеба і вышаў на вёску.

На ўсьцяж, болей вярсты, па двое, па адным, хутчэй і павольней, ішлі ў бок царквы расьцікаўленыя сяляне. На яркім грэйкім сонцы бяліліся зрэбныя сарочкі, і лахматыя валасы на галовах ды бародах. Ручаінаю пераліваласа дбайная, разварушаная гаворка—

Пра зямлю!

— Трэба ўладжвацца па-новаму.

— Трэба, трэба, трэба!

Ужо ведама, рэшана, неадменна, як жыцьцё, неператожна, як яго поступ.

— Цікава, што нам акружныя скажуць?

— Што-б не сказалі, вярні да колектыву. Мой Якаў—дык мне праходу не дае—ідзі, бацька, ды ідзі...

Юстын пытальна паглядзеў на Мікалая.

— Ён праў. Толькі так.

Мікалай адвярнуўся назад.

— Вунь сьпяшаць усе: і Пасьвічы, і Папелкі, і... як на трывогу...

— Прыгрэла...

— Яму за Тамаша яшчэ падпякуць... Дай ты рады. На партыйца нападаць белым днём.

— Паскуда... Паслухаем, што ён запяе...

— Сьцішаць... Мой Якаў... Ды ўсе вы, ячэйкаю...

На цьвінтары, як вялік, поўнілася сялян.

Іх грамада варушылася патрывожаным вуляем і гудзела дубраваю.

— Глядзі, во!

Яны прайшлі ў варотцы, калі на ганак узьбіралася некалькі незнаёмых чалавек. Было відаць, што падыходзіла адчыненьне сходу.

Людзкі напор рушыў да ганку і схаваў яго чырвоныя дошкі ў белым кальцы сялянскага зрэб'я. Сотні галоў падняліся ўгору, напруджана гледзячы ў бок чорных царкоўных дзьвярэй.

Юстын пацягнуў Мікалая ў людзкую гушчу, але раптам спыніўся:

— Хопіць—пачуем.

Жанкі ня сьціхалі перакрыквацца.

— Гусі, ша-а-а!—гукаў упаўнаважаны Раман, стаючы на першым уступе ганку.

— Шша-а-а!

Хутка ўсе, як замерлі.

Сярэдніх гадоў мужчына адкашляўся, пільна аглядзеў сялян і чоткім, цьвёрдым вымавам праказаў:

„Дазвольце адчыніць сход“.

Калі з дзесятак галасоў адказала:

— Про-о-сім!—ён даў слова свайму суседу.

— Таварышы сяляне!—пачаў той,—„Шпаркі тэмп перабудовы нашае краіны настойна вымагае ад нас перагляду сыстэмы вядзеньня нашае сельскае гаспадаркі. Рэконструкцыя прамысловасьці патрабуе ад нас перабудовы зямлякарыстаньня на колектыўных пачатках...

— Таварышы сяляне!

Колектыўны спосаб зямлякарыстаньня ўзводзіць нас на новую ступень соцыялістычнага будаўніцтва... Савецкая ўлада і комуністычная партыя пастанавілі на працягу бягучага году цалкам колектывізаваць Прыгайскі раён,. у які ўваходзіць і ваш сельсавет“...

Напруджанасьць увагі з боку булаўкаўцаў не парушалася да канца прамовы. Але агалошаны прамоўцам лёзунг „няхай жыве колектывізацыя ўсяе краіны!“ узьняў моцны гоман сярод сялян—гоман адобрываньня пастановы сходу.

Сьледам грамада булаўкаўцаў разьбілася на купкі і заспрачалася. Думкі, пляны і намеры перайходзілі ў войстрыя перараканьні, сваркі і лаянкі. Склоны популярнага слова „колектывізацыя“ вылятала з дзе-

сяткаў вуснаў. Юстын перайходзіў ад аднае да другое купкі булаўкаўцаў і настойна ўгаворваў аднавяскоўцаў кідаць усе іншыя намеры і запісвацца ў колектыў. Гэтую агітацыю ня меней настойна вялі Тамаш Хіб і стары Гальляш Сукня.

Усе яны сустракалі шырокае спачуваньне і падтрыманьне сваім словам з боку пераважнае большасьці сабраных.

Аднак варожая думка таксама знаходзіла сабе глебу. Папелка старанна падбіваў тых, на каго яшчэ ня страціў уплыву, супроць уваходу ў колектывы. Яго запалохі аплутвалі неразборных булаўкаўцаў і настройвалі іх адмоўна і да прамоўцы і да Юстына з Мікалаем і да Тамаша з Гальляшом.

Некалькі дзедзіцкіх жанок гістэрычна крычала на ўвесь цьвінтар:

— Згу-убцы-і нашы-і! Што-а вы захаце-элі з намі зрабіць? Вы нас у зямлю загоніце жыўцо-ам! Ой, ёй! Што за насланое... З гармат-бы лепш расстралялі нашу вёску!..

Але другія, беднякі і серадdespite, пасьмейваліся з іх і кпілі гіранічна:

— Бедныя! Хоць ідзі ды капай ім магілы... Не пазахлынайцеся хаця-а... ненатланьніцы...

Адась нахабна завяраў:

— Кончана гаспадарка. Мы не земляробы далей. Годзе! Працавалі на карысьць уладзе—а зараз няхай другія... Няхай комуністыя самі працуюць... Хіб, Жвыр, Плот...

На яго маталі рукамі.

— Дарэмна! нядзе дзенешся... Комуністы будуюць і адбудуюць...

Пасьля разыходу з мітынгу разгарачаныя спрэчкі булаўкаўцаў, павастраючыся, яшчэ доўга разьліваліся па ўсёй вёсцы, па дварох, па хатах, малодзечы сабою нараджэньне новае формы жыцьця.

## VII

Вобраз прамоўцы, цьвёрдая, пераканальная яго прамова і шырока разгорнутая агітацыя з боку партыйцаў і комсамольцаў глыбока прасяклі ў настрой булаўкаўцаў. Рой новых думак закруціўся над галавою кожнага гаспадара. Нядаўнія намеры перайсьці да пасёлкаў—зьніклі ў бурлівым разьбегу соцыялістычнага будаўніцтва. Жыцьцё настойна выпірала новыя, больш удасканаленыя формы сельскае гаспадаркі—

Колектывізацыю.

Крохкія, нясьмелыя і выпадковыя гутаркі разгарталіся ў ачулую сапраўднасьць. З нявыразных чутак радзіліся ясныя і акрэсьленыя намеры. З няпэўных намекаў—паўставалі закончаныя пляны.

Лірычная марнасьць адзінкавых энтузыястых вырастала ў рэальныя вобразы набліжанай наступнасьці.

З вузкіх палосак, перамераных да пасёлкавага ладу, але з тымі-ж межамі, з тэю-ж вясковаю цеснатою і з тымі-ж аджыўшымі дробнаўласьніцкімі формамі, выросталі непамежаныя палеткі гуртавое сябрыні.

Платы і сьценкі, межы і капцы, перамеры і перагляды—лёгкім дымам, растайным лунем адляталі ад маладзеючай зямлі.

Аддаленыя і малазаўважаныя гукі і зыкі, што іх радзілі жалезныя госьці гарадоў, рабіліся мілейшымі ды бліжэйшымі. Дбайлівыя ўзрокі азіралі вузкія сьценкі, яшчэ са знакамі конскіх падкоў, па якіх праводзілі намалёваныя ў памяці—земляробскія машыны. Зялёная з чырвоным фарба сеялак ды малацілак, цяжка, не пад сілу набыўная для аднаго, хадзіла жывым стварэньнем па разгорненай агульным карыстаньнем ніве. Зубы барон ня рэзалі чужое мяжы і коні не перагіналі галоў на суседаву збажыну...

Праехаўшы лёгкі аўтомобіль прадстаўнікоў улады, ацягнуў Булаўку сымболем мэханізацыі... Елачка з-пад яго гумавых калёс адгароджвала старое ад новага, саху гарапашніка ад трактарнага плугу новага гаспадара, сябра колгасу...

Ці не яму, вось, бадзёраму колгасьніку заматаліся хустачкі булакаўскіх дзяўчат на праводзінах акруговага прамоўцы? Упераныя ў расьцяг дарогі пільныя ўзрокі булаўкаўцаў пазглядалі ў блізкае наступнае.

Ясна вызначалася, што да прыезду ўпаўнаважанага акружнае ўлады, да зьяўленьня ў Булаўцы Якава Плота, комуністага з заводу, было адно, а зараз—сталася другое, інакшае.

Маленькі гурток „падбухторнікаў“, з траіх партыйцаў і сям'і комсамольцаў, значна павялічыўся. Прамоўцу ўжо пляскала да пяцьдзесят чалавек булаўкаўцаў. А пакуль мітынг разышоўся—пераглядзелі свае думкі і многія іншыя.

Завяральныя словы прамоўцы прабіваліся ў раскалыханыя нутры сялян-беднякоў. Палахлівыя думкі, што іх радзіла задзёрыстая, маладая навіна—адстойваліся ў памацнеўшай запэўненасьці.

Заложаны пластамі старых навыкаў, выбіваўся да чыннасьці цьвярозы клясавы крытэрый. Асьцярожліва, але ўверана павярнула яго леза да разрэзу згушчанага прагнілага аколяньня.

Сапраўднасьць!

Вось яна! Яе складанае, яе соцыяльная рэчавасьць.

Рабоча-сялянская ўлада—доўгая чырвоная істужка ў далёкае мінулае.

Прыгон і нядоля—мары да свабоды.

Цяжкі панскі вызыск—гутаркі пра зямлю.

Концэнтрацыя зямельнай уласнасьці ў маёнтках—змаганьне за зямлю і волю.

Вайна!

Рэволюцыя.

Кастрычнік!

Разьняволеная вёска—гаспадар зямлі.

Векавыя мары ў бліскучай сапраўднасьці.

Молат і серп—сымболь работніцка-сялянскае ўлады.

Няўжо-ж яна, гэта ўлада, думае і робіць ня тое, што на карысьць рабочага і селяніна-бедняка, селяніна-серадняка?

Хто ня бачыць таго, што ўсё: і палітычная свабода, і экономічнае вызваленьне, і ўпартае шырокаразгорнутае будаўніцтва—накірованы на карысьць рабочых і сялян!..

Рэволюцыя для нас і будаўніцтва для нас...

У чым-жа справа?

Колгасы, колгасы, колгасы...

На прасьветленых ухмылкамі тварах, у астоеных думках, у цьвёрдай апоры аголеных ног—выстраеных пры дварох булаўкаўцаў—гусьцілася палкая вера ў новае жыцьцё.

Пра яго звоняць пераможную песьню каморніцкія ланцугі.

Гаманліваю чарадою бягуць сярэдзінай вёскі булаўкаўскія дзеці і ўрачыста высьпеўваюць—

Колгас!

* * *

Стары Гальляш Скрыня нёс пару чырвоных харангелачак. Тамаш Хіб барашчаў стосам жалезных пруткоў.

— Перамеры?

— Перамеры!

— Разьвітвайцеся, цяткі і дзядзькі, з межамі, з платамі, з надазойлівым расьцягам вузкіх шнуркоў—

Колгасы.

— Вядома!

— Згодны?

— Поўнасьцю...

— Ды ня ўсе... Вунь захмыльвае губу Адасіха. Не да спадобы?

Гальляшова барада трасецца ад рогату.

— Ня будзь, дзядзька, вельмі хітрым. З чужое бяды рагочаш,—крычыць дзедзічка.

— Бяда!! Скажы-і ты, бяда-а! Усім добра, а вось, Папелкам бяда. Можа адмяніць пастанову сходу? Як твой Адась кажа? Грозіў-жа пакінуць гаспадарства... Чуеш, нябога?

— Кінь вышчарацца...

Габлёваныя весьніцы аддзяляюць Адасіху ад Гальляша. Але рогат старога, як клясавая помста, ганіцца за ёю, па сьлядох, праз двор на гарод, а там—на гуменьне.

Ужо, ужо нішто яе не схавае ад новага ладу.

— Спрадасі?! Не гарачыся...

Старога мінае нездаволены Пасьвіч. Ён злазіць з воза і хаваецца за канём ад чырвоных харангелачак, ад вясёлых каморнікаў і пары заядлых „падбухторшчыкаў-комуністых“,—Тамаша Хіба і Якава Плота.

„Вой, добра, хаця, што мае вочы ня ўбачаць, як ляжа ланцуг у ператоч мае нівы“, мільгаюць у яго галаве пужлівыя думкі.

На Пасьвіча пазіраюць з абудвых бакоў: з-пад шулаў у дварох, і праз вокны зацікаўленыя булаўкаўцы.

— А 'шчэ надовечы тросься загрудкі з Тамашом. Ці-ж можна гэткім спосабам паспрачацца новаму повею жыцьця?..

— Ужо нічым не паспрачаецца.

— Ня кіне-ж!

— Хай спрабуе!

— Або ён адзін—хэўра. Вунь Адасіха хмурыла бровы... Адась.

— Былі Адасі, а цяпер з'адасіліся.

Жорсткімі, як шрот, каціліся за Пасьвічам трапныя словы клясавае ўкоры. Яны няшчадна разрывалі доўгагадовую сетку экономічных адносін, якія аплятаталі булаўкаўцаў.

Арэоль заможніка, як слаўнага гаспадара, як верхавіны вёскі, рассыпаўся парушынаю пад ногі „агіднай галоце“.

Яна, гэта „галота“ растопча да шчэнту і „слаўных“ і тыя ўмовы, што іх нараджалі,—растопча

Колгасам!

— Гатовы?

Юстын тузаў лейцамі.

— Едам?

— А ты гатоў?

— Заскочу за халатом.

Мікалай павярнуў ад Плотавага двара.

— Пагода, як у жніво! Сьпяшы!

Якаў вывеў каня на вуліцу і павярнуў направа.

— Садзіся!

Мікалай чакаў пры сваёй хаце. У яго на руках вярцеўся галаногі хлапчук.

Жонка паглядала з двару і ўгаварвала мужа ня бавіцца.

— А то без цябе тут мала што станецца. Людзі пойдуць запісвацца, а мне—няма ведама як.

— Не палохайся. Гэта не пасёлкі—дзяліць ня прыдзецца і зямлі выбіраць ня трэба. У колектыве знойдзецца мейсца... Адасю наўрад, а з намі... Маўчы Тэкля...

— Ой, колькі яшчэ будзе грызьні... Думаеш нашы дзедзічы так і пагодзяцца з гэтым—ніколі. Паслухай, што гаворыць Пасьвічыха... А, думаеш, яна адны свае думкі выказвае—дзе там... А вам, партыйным, асабліва трэба быць на чаку...

— Жонка нататкі чытае?

Юстын ухмыльнуўся Мікалаевай жонцы і паказаў Мікалаю на воз:

— Сядай! Да вечара мусім быць на месцы.

— Ці-ж пасьпеем сёньня што-колечы аглядзець?.. Хоць-бы бульбяную станцыю, ці сьвінарню... Паперы захапіў, Якаў?

— Не без таго: усё занатую... Трэба-ж будзе сялянам даклад зрабіць...

Мікалаева жонка загадліва паківала галавою і ўзяла з мужавых рук малога.

— Ласьне няйначай вам абавязкова ехаць?

— Людзі выбралі—чаму-ж пагарджаць людзкім даверам. Цудная кабета! Ідзі лепі...

— А без агляду ня трапілі-б пабудаваць колгасу?

— Хха-а-х! Кінь ужо! Баба-бабаю. Там вопыт, практыка—чаму-ж не пераняць!

Кабета махнула рукою—конь уподбежкі пагрымеў калёсамі па сухой вуліцы Булаўкі.

На завароце да Калодзішча грамадка сялян перадала пасланцом некалькі пажаданьняў і просьбаў і правяла іх спачувальнымі ўзрокамі да пагону.

Завіхраны пыл адзначаў паступовае аддаленьне фурманкі, якая вязла камісію з трох чалавек у бліжэйшы ад Булаўкі колгас—Асьмінаўку.

## VIII

На грудку, што перацінаў сабою доўгія палоскі жытніх палеткаў, стаяў з касою Адась Папелка. Раз-по-разу ён павяртаўся то ў адзін бок, то ў другі, азіраючы высокую тоўстакалосую пшаніцу. Густая, як дзяцельнік, шырокалістая, як плюшнік, яна гойдалася сувоямі ад ціхага паўдзённага ветру, убок да вёскі. Каласы бахаліся адзін аб другі, рассьсяваючы лёгкі шэлест.

Адасёва палоса выдзялялася з суседніх значнаю шырынёю. Абочныя выглядалі пашыранымі межамі. Рэдкае, тонкае жыта казала пра выразную беднасьць іх гаспадароў—Адасёвых суседзяў.

І так—гадамі.

Шчодра ўгноеная палоса Адася сьведчыла за выстачу свайго гаспадара. Увосень гаралі яе параконным плугам. Сытыя, выкармленыя коні лёгка цягалі глыбока запушчаны ў землю плуг. Жалезная барана дробна разьбівала груды. Тоўсты пласт гною сытна ўдобрываў глебу. Адабранае насеньне знаходзіла добрую спажыву.

Але сохлі яго асобныя зярняты—паўшы праз мяжу. Роўная зямля—няроўна радзіла. Тупыя сашнікі калупалі зямлю суседзяў зьверху. Біткі-канякі ледзьве цягалі дзеравяную борану. Глеба ня бачыла гною. І непадсяванае насеньне давала рэдкае, дробнакалосае жыта.

Адась пацьвільваўся з сваіх суседзяў.

— Гультаі!

Так ён празываў і Юстына Плота і Мікалая Жвыра. Яго ня цікавілі прычыны экономічнай можнасьці яго самога і яго суседзяў. Адась не ўдаваўся ў гістарычнае паходжаньне свае заможнасьці. Ні старшынства бацькі, ні шахрайства з судамі, ні жулікаватае абдурваньне тых, у каго яго бацька перакупляў зямлю—нічога ня цікавіла выбітнага дзедзіча Адася.

— Я стараўся працаваць!—гэтым пакрываў ён сваё права на заможнасьць. Гэтым казыраў Адась і супроць колектывізацыі.

Але—булаўкаўцы ведалі кошт яго ліцамерным завярэньням. На іх вачох узростала Папелкава заможнасьць. Яе карані вытыркалі з зямлі, як шыла з мяшка.

Годзе!

Аглядаючы буйную пшаніцу, Адась чуў у яе шоламе пагрознае—

Годзе!

Ад сьценкі прыгуменя да маладое дубравы, у адгоне пятнаццаці гоняй—нясьліся да грудка незмаўканыя перaказы—

Годзе!

Скора роўныя абкошаныя ім-жа межы, кучкі пазьбіранага каменьня і дзьве, як адна, дзічкі-грушы загубяцца ў шырыні ператочных баразён.

Вунь-унь!

Грамадка людзей выдалася на палавым абрусе жытняга палетку. Чырвоная харангелачка над іх галовамі заматалася ў сінцы цёплага паветра.

— Перамеры?

У Адасёвым нутру нешта абарвалася, і лёдавы халадок прабег па ўсёй істоце.

Самі сабою заплюшчыліся вочы, калі каморніцкі ланцуг распасьцёрся пры яго палосцы.

Колгасы!

Ён пастаяў колькі хвілін, як ашаломлены, згроб накошаную траву і вышаў на гасьцінец.

Настрэчу ехалі Плоты з Мікалаем Жвырам на агляд суседняга колгасу.

Вясёлы сьмех данёсься да Адасёвых вушэй і кальнуў яго ў сэрца.

— Плоты? Жвыр? Камандзіры-ы-і!

Параўнаўшыся, ён намерыўся адвярнуцца, ды яму Мікалай папярашкодзіў.

— Касіў Адась?

— Дзендобры!

Адась натужліва стрымліваў сваё хваляваньне, але яно выяўлялася ў яго зацішаным голасе, у частым папярханьні ў горле.

— Якава адвозіце?—бязмэтна запытаў ён.

— Едам аглядаць „Асьмінаўку“.

— Навошта?

— Грамада абрала... Мусім-жа азнаёміцца з людзкімі дасягненьнямі. Пастанавілі-ж перайсьці на колектыў—чаго-ж марудзіць...

Якаў прымячаў, як Адась мяняўся ў твары. Яго здаровая, каржастая постаць заўважна асядала кнізу, а пруткія ногі—нясьціхана пераступалі з мейсца на мейсца.

— Няўжо такі канчаткова пастаноўлена пераходзіць на колгасы?

— А ты думаў—жартамі?

— Ну, мералі-ж на пасёлкі. Няхай-бы сабе... Навошта тыя зьмены... Перамеры... Дратаваньне людзей... На пасёлкі ніхто-б не пярэчыў...

— Во-а! Чуеш!

Усе прыслухаліся. З-за жыта выглядалі галавы каморнікаў і работнікаў. Зьвінеў каморніцкі ланцуг.

Гукалі:

— Пра-а-ве-эй! Так, во!.. Яшчэ-э-а!

Сьледам, на тым-жа грудку, дзе вось-вось стаяў Адась, запорхала чырвоная харангелачка. Чалавек зваў ёю каморніка.

— Дзядзька Гальляш! Глядзеце, як стараецца!

Якаў заліўся бадзёрым сьмехам.

—Паганцы! Грабіцелі!—несьцярпеў Папелка.

Плоты з Мікалаем бачылі, як ён праз жыта кінуўся ў бок грудку, дзе матлялася чырвоная харангелачка.

— Звар'яцеў! Драпежная зьненавісьць!

Юстын пагнаў каня.

Калі разышоўся ўзьняты калёсамі пыл, яны ўгледзелі Адася пашоўшым дарогаю да вёскі.

— Дзедзічам не падабаецца-а-а!

— А што-ж—уважаць іх хіба?

Якаў расказаў бацьку і Мікалаю Жвыру здарэньне, якое адыгралася на яго ваччу пры заезьдзе ў адзін з колгасаў.

Падобны Адасю, селянін-багацей, няпрыняты ў колгас, сякераю засек прадсядацеля сельсавету. Як ашалелы, неспадзявана накінуўся ён на хлопца і—як па палене—г-г-г...

— Упарта спрачаюцца дзедзічы. З розных мясцоў паведамляюць пра напады на вясковых актывістых, на ўрадавых працаўнікоў... Забойствы, падпалы... Кулаччо супраціўляецца мерапрыемствам улады і партыі...

— Бароняцца, вядома...

— А то-ж хто згодзіцца спакойліва ўступіць векавыя прывілеі. Дзе-ж вы бачылі...

Мікалай паглядзеў на Якава.

— Дармо, усё-ткі, дзядзька. Дробязь... Адзінкі супроць тысячаў... Ці-ж ім спыніць развой жыцьця! Плёвая рэч... Сударгі старога ладу... Перад сканаиьнем. Рэволюцыя ня гэткага ворага мела—ды і то расправілася. А гэта—рэшткі, бачыце... Ласьне ім патураць? Ды ці-ж вам казаць—самі-ж партыец...

— Я цябе добра разумею, Якаў. Мала каму што ўздумаецца... Трэба глядзець, чаго хочуць усе, большасьць... А... Ды хто, бачыш, не згаджаецца зараз з пастановамі партыі—во... Папелкі, Пасьвічы, Гарцы, Грызуны... Брыды ўсякае процьма, пакуль...

— А што-ж ты думаў—ня дзе-ж дзелася. Паны ды генэралы троха зьбеглі, а іх агенты засталіся... Нно-а-а! Яшчэ ёсьць каму пакасьціць!.. Калі паглядзім... Але не падамося ўжо, не-э!

З-за дробнага беразьняку паказаліся саўгасныя будынкі. Паўвярстовая абора адгароджвала вялікі чатырохкутнік маладога саду. Над яго паверхняю тырчэў чорны комін паравіку. Яго тоўстая галава, як у турэцкай чалме, сапла густымі камякамі дыму. Звычнае сыканьне лесапілкі перапляталася з гудзеньнем вады ў застаўках млыну. Траскацела крупадзёрка... На жытловым будынку мігаўся флюгерны пеўнік, мерачыся дапырхнуць уверх аплеценай дратамі антэны.

— А мы, бывала, думалі, што толькі паном улучна гаспадарыць маёнткамі. Паглядзеце, во-а! Жы-ы-тта-а! А-ё-ай! Мо-а-ра-а! А ростам—лес... Ды ці дзіва! І паном-жа, бачыце, ня хто, а мы расьцілі. Наша праца, наш пот,—недаяданьне... Бяз нас падохлі-ба ўсе-э дармаеды, трутні. І дохнуць, нябось, заграніцаю,—казаў Юстын.

— Бацька рэволюцыянэрам стаў—засьмяяўся Мікалай.

Якаў абярнуўся да яго.

— Дарма, браце, сьмяешся. А ці ня мы, бывала, проклямацыі разносілі па сёлах? А ў мястэчка на няможныя сходы—хто, думаеш, як ня Юстын, хадзіў? А ў пятым годзе, хто даў кліч ісьці бурыць Хаглавін маёнтак? Усё Ю-у-сты-ынн, бацька. Ды ў гэту, вось кастрычнікаўскую рэволюцыю мы з бацькам першымі апынуліся ў пакоі валаснога камісара... Так што, браце... Усяго, што яшчэ не ўвайшоў формальна ў партыю... А думкі—амаль не аднакавыя з нашымі...

Ператочнаю сьценкаю пралапацеў трактар.

Конь накапыліў вушы і падаўся назад. Перадок закруціўся пэрпэндыкулярам да возу.

Якаў спрытна выскачыў на дарогу і нап'яў лейцы.

— Сталёвы конь перагарадзіў дарогу!

Дзядзькі правялі трактар замілаванымі ўзрокамі.

— Любата, Мікалай. Калі-б гэта ўдалося нашаму колектыву залучыць пару гэткіх прыладаў—адно трымайся. Было-б ой, як латва... А праз год—яшчэ пару. Ды мне здаецца, што, калі справы колектыву разгорнуцца—тады мы гэта зробім. Сябрыня—вялікая сіла, вот калі... Як, сын, кажаш?

Задавольненая ўхмылка заліла Якавін твар.

— Ды ўжо-ж... Цяжэй пачатак, а там усё пойдзе, як сьлед. Будуць і трактары, будуць і сеялкі, абы стараньне...

Пры выезьдзе з зарасьніку, на шырокім папарышчы паслося вялізарнае стада гавяды. Здаровыя, гладкія каровы нічым ня розьніліся ад ранейшых панскіх.

— Паглядзі, во, Мікалай—або раўня нашым? Яшчэ-б сотню гадоў пажылі па цяперашняму—ня мелі-б гэткага статку. Колгас—сьвятая справа. Будзе, вось, гэта самае... пабачыце...

Крыху ў баку стаўбунілася лахматае, рослае бульбеньне.

— Глядзеце, во; што ў нас яшчэ толькі-толькі выпаўзла з зямлі... Раўняй...

— Дзе-ж ты параўнаеш...

Па другі бок дарогі паказаліся старыя яшчэ сталыпінскія хутаркі. Дробныя, асунутыя хаткі хмура, з завідаю пазіралі ў бок саўгаскіх будынкаў. Скупыя, забуялыя травою нівы, нічым ня розьніліся ад булаўкаўскіх. Па зарослых межах дзікаром тупаў панураны, адлюднены чалавек.

— Табе гэта падабаецца, ласьне?

Юстын ухмыльнуўся.

— Паверыш—ніколі мяне не цягнула да хутару. Не цярплю! Як мядзьведзі па норах. Няхай нашым няпрыяцелям... Ня цягне—ды годзе. Іншыя хваляцца, што зямля пад носам—праз вокна ўсю відаць. А мне хоць-бы што... Люблю, каб разам, гуртам... Ды навошта, памойму, было рабіць рэволюцыю, калі пладзіць новыя фальбаркі, хутары, або і... Разбурыць, памойму, усё гэта, дашчэнту. Зьнішчыць фальбаркаўцаў і кулакоў—так як і паноў. Новы сьвет і новае гаспадараньне. Сабрацца ўсім у колектыў—і найлепшая справа... Тады хоць прыдзе сапраўдная роўнасьць... А то...

— Брава, бацька!..

Якаў пляснуў у далоні.

— А ты думаў, што мы тут мохам абрасьлі? Нне-э, сыне! Варушыліся, як бачыш. Круцім мазгамі і квапім, у які бок трымаць дарогу. І партыйных маеш, і комсамол... Слабей, зразумела, вашых, але не адстаем. Жыцьцё—не абмінае нікога. Паглядзі—так падгатаваліся, што варта было прыехаць прадстаўніку ўлады, як усё парыхтунку—мэрам па маслу. Тое нічога, што чуліся некаторыя скрыпы ў калёсах. Змоўкнуць... Бачыў? Замоўкнуць, сыне... Ланцугі з прыпеўкамі гуляюць па палетках... А мы, вось, едзем... Калі тое было? Нно-а-а! Дэ-эрыш!

Яны ўзьяжджалі на грудок, з якога адчыняліся вокагляды на колгасныя палеткі.

Направа ляжала нелапая вёска, вакол якое падніманіся новыя аграмаджаныя будынкі. Шырокі полаг суцэльнага палетку цягнуўся далёка на ўскасяк да сьпярэшчанага алешнікам поплаву. Убаку ад яго бегалі ў працы адзін за другім пара трактараў. Помеж, у струнку, маршавалі параконныя аратыя. Бадзёрыя, рэзвыя водгукі зьліваліся ў нястройнае сьпяваньне, якое разносілася далёка навакола.

На іх вачох да дваццаці кабет, кінулі поліва ільну і з песьнямі накіраваліся ў бок вёскі.

Конь увайшоў у пагонную агарожу, калі насустрач паказаўся цуг нагружаных мяшкамі фурманак.

— Спынімся? Асьмінкаўцы?

Якаў ня даў бацьку адказаць, як раптам тузнуў лейцамі, і дэрыш стаў.

Пярэдні вазьніца пытальна паглядзеў на Плотаў з Мікалаем і запытаў:

— Вы не ў Асьмінаўку, часамі?

— Так, у Асьмінаўку... Ёдам з Булаўкі, каб азнаёміцца з вашым колгасам.

— Ласьне?

Чалавек ажно пачырванеў ад радасьці.

— На сур'ёз? Варта... Калі хочаце будаваць колгас—ёсьць чаго паглядзець.

— Будуем, а чым мы горай іншых.

Вазьніца засьмяяўся і матнуў шапкаю ў бок падвод. Праз некалькі хвілін вакол Плотавага возу ішла рэзвая, ажыўленая гутарка на тэму колгаснага будаўніцтва.

## IX

Вёска Булаўка спала. Рэдкія ліхтарыкі гайдалі густыя цені. Па задворках і на гуменьнях падвывалі сабакі. Раз-ад-разу, як з-пад зямлі вырываліся зычныя сухія бразгі вартаўнічае трашчоткі.

Пры калодзішчы голасна крумкалі разьвяселеныя жабы. З поля даносіліся гукі начлежнікаў.

Якаў прыадчыніў акно і задумліва паглядзеў углыб цёмнага неба.

Спакойнае надвор'е веяла цеплатою. Мяккі пах зяляніны зьмешваўся з цяжкім смуродам гною.

У хаце, над аголеным сталом, сьвірэла прыкручаная лямпа. На стале ляжаў лісток лінаванай паперы і стаяла малюпаткая чарнільніца.

На палу храплі бацькі.

„Заўтра ранкам на валку лесу. Цікава, як многа пасабіла наша паездка ў Асьмінаўку! Людзі захапіліся і дружна бяруцца за справу... Толькі штосьці ў сельсавеце наглядаецца павольнасьць. Прадсядацелю ня шкодзіла-б рухацца жвавей, з партыйцамі слаба... Хіб заняты... Куй жалеза“...

Якаў вылез з вакна, прычыніў фортку і завесіў фіранку. Пасьля падкруціў кнот у лямпе і ўзяўся за асадку.

„Дарагі таварыш Лебяда!

Памятаючы сваё абяцаньне, я, нарэшце, сабраўся напісаць гэты ліст. Па-першае—шчыра дзякую, што ты настойваў на тое, каб мяне паслалі ў камандыроўку ў раён. Я пасьпеў да гэтага часу наведаць пару колгасаў і чатыры саўгасы. Трэба сказаць, што мяне зьдзівіла ў іх пастаноўка справы. Саўгас „Ясенны“ да таго ўдалы, што я сьмела скажу, перагнаў ужо панскія маёнткі. Гаспадарства ў ім пастаўлена на добрую ногу і вядзецца старэнна і ўмела. Ужо тры гады, як дае даход. Падсобныя прадпрыемствы, як лесапілка, крупадзёрка, сукнавальня,

дапамагаюць назьбіраць капітал для далейшае машынізацыі сельска-гаспадарчага і жывёлаводнага сэктараў... Перад саўгасам цікавая будучыня.

Але ня меней суцешылі мяне і колгасы. Адзін з іх „Асьмінаўка" робіць дужа выгаднае ўражаньне... Гэта ўжо моцны колектыў. Людзі ў ім падабраліся адзін да другога, старанныя, памяркоўныя, даладныя, і праца ідзе на яць! Зараз шырока разгорнута будаўніцтва ўстаноў абслугоўваньня, як школа, млын, вэтэрытарны пункт. Агульныя хлявы скончаны яшчэ вясною—і ты-б паглядзеў, браце, што за хараство! Адносіны да жывёлы дбайлівыя і гаспадарныя. Летась колектыў выплаціў увесь падатак і яшчэ заставіў значны рэзэрв. Цікава, што абагуленьне ежных прыпасаў вельмі хутка ўспрынялася ўсіма сябрамі колектыву. Мэрам-бы гэта вялося дзесяткі гадоў. У працы—звычаёвае спаборніцтва. Амаль ніхто нікога не падганяе, амаль ніхто нікога ня ўпікае ў гультайнасьці... Ну, паверыш, ня хлушу, мяне ўсё гэта да таго захапіла, што я, трапіўшы да бацькоў, зацята павёў агітацыю за пабудову колгасу ў сваёй весцы. Якраз мой прыезд прыпаў на момант, калі думка пра колгасы стала азадачваць нашых сялян. Мае ранейшыя лісты да бацькі, падгаворы двума студэнтамі сваіх бацькоў, праца вясковае ячэйкі і комсамольцаў—зрабілі тое, што, як кажуць, насеньне пала на падгатаваную глебу. Я сустрэў дружнае падтрыманьне з боку некалькіх аднасялян—беднякоў, сярод якіх трое партыйных... Бацька з намі таксама... Неўспадзеўкі згуртавалася кіраўнічае ядро... Да рэчы, з акругі пад'ехалі прадстаўнікі акрзу і наладзілі сход... Тэма—заснаваньне колгасу. І ведаеш, прапанова сустрэла, хоць і не агульныя, але моцныя воплескі... Праўда..."

Раптоўны брэх прабегшага дваром сабакі адцягнуў Якава да вакна.

Ён прыслухаўся: і ці то яму здалося, ці то сапраўды, на гародзе штосьці зашамала.

А можа то на яблыні, дзе начавалі куры, каторая з іх зашлёпала крыламі?

Якаў настарожана прыслухаўся, але шамаценьня не пачуў.

Неасьцярожлівасьць узьняўшага яго сваячасова зьнікла ў дбайнай скрадлівасьці.

І толькі тады, калі Якаў ізноў нагнуўся над папераю, мэрам-бы нешта паўторна скрыпнула ў баку хлява. Асадка затраслася ў яго руках, і напісанае слова пакінула іншы, як не яго, почырк.

Якаў устаў і прашоўся хатаю.

За вакном, на вёсцы, затарашчэла вартаўнічая брашчотка. Яе тарашчэньне нічым ня розьнілася ад ранейшага.

Вартаўнік нікога не палохаў, а падаваў весткі пра сябе...

Між тым абое, і Якаў і вартаўнік, не падозрывалі пра загаворны сход у Папелкавым гумне.

На Плотавым гародзе шамалі ногі Пасьвіча, які, спусьціўшы колькі хвілін, скрыпнуў пералазам.

Шчыльна прычыненыя вароты Папелкавага гумна глушылі ціхую, шэптам, гутарку пяці чалавек. Каразьлівасьць тэмы цягнула за сабою вострую небясьпеку, але цёмная ноч, ды позьні час дазвалялі афармляцца ліхамысным плянам.

Стараньней іншых увіхаўся навокал іх Адась.

Каб хто сумеў падглядзець, той заўважыў-бы на шурпатым Адасёвым твары выразны адбітак зацятае злосьці.

Сьцяўшы зубы і трасучы кулакамі, ён раскалыхваў у сваіх хаўрусьнікаў пачуцьцё помсты да сына і бацькі Плотаў. У іх асобах Адась бачыў усю страшлівасьць для сябе надышоўшага расстаньня з доўгалетняй заможнасьцю.

— Мы не павінны даравадь гэтага. Яны прынесьлі нам згубу. Гінуць—дык са стукам... Паганцы—Плоты мусяць адчуць на сабе нашу помсту...—казаў Адась.

Яму патураў Пасьвіч.

— Так, ты маеш рацыю: спрадаць усё—та грошы можна будзе схаваць... Не аддаваць-жа дармаедам свайго дабра. Гультаём... А Плоты... ды Х-і-б... Р-р-р-р!

— Адплаціць!—параіў трэці.

Гэта слова было іскраю, кінутаю ў сухую салому. Пляны зацяжнага супраціўленьня адышлі назад, а раптам вытыркл  на першае месца драпежныя, дзікія замеры разбойнікаў.

— Ці ня Якаў толькі сядзіць? Я ішоў і праз завешанае вакно—відаць—у хаце гарыць лямпа...

Пасьвіч павярнуўся да варот.

Але Адась асьцярожліва адчыняў іх сам.

— Або здаецца, або і сьвеціць...

Пасьвіч вышаў на прыгумень і ўперыўся вачмі ў начную цемь...

Пакуль ён глядзеў—Якаў працягваў свой ліст:

„Настрой у бядняцка-серадняцкага сялянства—цалком за колектывізацыю... Дармо некаторыя з нашых гарадзкіх таварышоў стараюцца даказаць неадпаведнасьць моманту. Іх палахлівыя разьлічэньні ні на чым не абгрунтованы! Яны мяркуюць здалёк... Бядняцка-серадняцкаму сялянству стала вачавідкай поўная нясталасьць і хісткасьць яго сучаснае формы зямлякарыстаньня. У вёсцы носіцца выразнае жаданьне перабудаваць стары індывідуальны лад на аграмаджанае гаспадараньне. Вёска жыве яснымі імкненьнямі да новае формы зямлякарыстаньня. Цікавая гэта зьява, браце! Яна характарызуе сабою цалковае абгрунтаваньне ўзятай партыяй і Савецкай уладаю лініі ў справе перабудовы сельскага гаспадарства... Соцыялістычныя ідэі, агалошаныя вялікім Кастрычнікам...“

Якаў не давылажыў поўнасьцю гэтае думкі, як выразьлівы трэск, ні то ў сярэдзіне хаты, ні то ў дварэ—адняў яго ўвагу ад лісту. Ён адхіліў край фіранкі і прасунуў галаў у вакно. Яму здалося, мэрам-

бы хто мігнуўся ў бок вуліцы. Але магло стацца, што то была яго цень.

Гэта яго дапушчальнасьць уверана пацягнула руку з асадкаю да вузкага горлачка запэцканай чарнільніцы.

Перарваны сказ быў гатовым да заканчэньня...

...„паглыбляць свае пранікненьні ў рознастайныя праявы...“

Нарастаньне думак узьнімала Якавін настрой, і пераносіла яго ў вобласьць лятуценьняў. Акольваючыя абставіны гінулі з яго ваччу, губячы конкрэтныя абрысы, форму і сутнасьць.

Ён уступаў зямлю, як апору пад нагамі, свайму ворагу, Пасьвічу, які асьцярожліва і ўкрадліва набліжаўся з-пад гароду да асьветленага вакна. Якаў не абчуўся—то Пасьвічава нага выціснула трэск з паламанае ралкі сухога дубцу. Трэск зьбянтэжыў загаворніка, але спыніць яго ўжо ня мог. Ахоплены клясаваю помстаю, ён ішоў да адзначанай мэты.

Якаў запісваў наступны сказ, калі Пасьвічавы ногі аперліся на мяккую кучку зьмеценага сьмецьця, а рукі ўзьнялі да пляча набітую загадзя адразанку.

Прыржавелая руля кінула на зямлю чорную палку цені і незварухна накіравала ў сярэднюю шыбіну завешанага вакна.

Жукацеўшае сьвятло выдавала поўнасьцю Якавін сілуэт. Ён чарнеў на белай фіранцы выразным адбіткам.

Прыгнутая да сталу Якавіна галава выпірала левы плячук. Пад ім, ніжэй, узмоцнена білася разгарачанае сэрца энтузіястага. Расхваляваная кроў прыбівала да мазгоў і гойдала ў іх напружныя, узьнёслыя думкі. Порсткім струменем гэтыя думкі беглі праз руку да пяра і выліваліся ў далейшых сказах лісту да таварыша.

„Праўда, наступ на капіталістычныя элемэнты вёскі дае сябе адчуваць. Дзедзіч і фальбаркавец ашчаціліся і заядла супраціўляюцца. Яны вядуць агітацыю сярод бяднейшага ды серадняцкага сялянства супроць колектывізацыі, організуюць напады на прадстаўнікоў улады, робяць злачынствы ў адносінах да сельскіх актывістых. У нашай вёсцы маецца, таксама, невялічкая купка дзедзічаў. Яны заварушыліся, як мурашкі на сонцы, тэрарызуюць маленькую партыйную ячэйку і комсамолію і ўзяліся за сваю контррэволюцыйную працу... Надовечы“...

Глухі, балючы ўдар, у справоджаньні моцнага бразгу шкла, паваліў Якава на стол. Ён моцна стукнуўся падбародкам аб стол, а рука працягнулася да чарнільніцы і сапхнула яе на зямлю. У наступны момант Якаў пахіліўся ад стала і паваліўся за чарнільніцай. У яго ваччу маланкаю бліснула яскравая думка пра недапісаны ліст, і сьледам патухла. Ён хацеў гукнуць бацьку, але не знашлося сілы вымавіць слова: боль у надплеччы засушыла горла. Адчувалася, нібы яго прыбіваюць да зямлі, ці да крыжа і выпростваюць ногі ды рукі.

Калі на момант Якаву стала мэрам-бы лягчэй, і ён чуць-чуць прыадплюшчыў вочы, то заўважыў, як перад ім мятусіліся бацькі. Ні то рушнік, ні то белы валь, хістаўся над яго плячуком, а ў губах мулялася гладкая халодная паверхня шклянкі...

Разгорненая і напалоханая маці ахалоджвала яго прасохшае горла студзёнаю вадою, і прычытала:

— Яак-каў-ка-а, мой, ссынну-ок... Хтуо-ж-ж то за разыбойніак? б-жа-а, мой... Якаўка-а-ы...

— Падляцы-і! То справа дзедзічаў! Ім не замесьці сьлядоў. Нне-э!— гукаў Юстын.

Паложаны бацькамі на пасьцель, Якаў задрамаў, але скрозь пакутную драмотлівасьць ён чуў узростаючую сумятню ў хаце.

Скора ён бязвольным, чуць памятлівым быў перанесены на поўны саломы воз і адвезены ў бальніцу.

Сьвяціла яшчэ ненагрэтае сонца і доўгія цені вялікага будынку слаліся на дзядзінцу, калі асьцярожлівыя служыцелі ўнясьлі Якава ў памяшчэньне бальніцы.

Вусаты, клінатвары доктар затуліў ад яго белым халатом і вокны, і столь, і скрыпнуўшыя дзьверы.

Уразенае плячо аддалося пякучаю больлю па ўсяму целу, але праз нейкі час Якаў усьцішыўся і не пачуў, як зьнябыўся.

*(Канец будзе)*

# З ПОЭМЫ „ВЯСНА ЗЯМЛІ“

**Зьмітрок Астапенка**

## 1. НАПЕВЫ ВЯСНЫ

Сягоньня так блізка, знаёма
Пачуў я напевы вясны.
Сягоньня я з ціхага дому
У далеч вакно адчыніў.

Вакол лістападныя клёны
І сьветлыя лоні далін...
І думкі ў вясёлай пагоні
Лятуць у прасторы зямлі.

Я бачу—вясны агнявеі
Імчацца ў жытнёвы абшар,
Хаця... лістападам чарнее
Хлусьлівы, стары каляндар.

Ён штосьці гаворыць пра восень,
Пра жоўтых лістоў перазвон
І дальнія песьні прыносіць
Балотных гасьцей—жураvoў...

Раней, у далёкія годы,
Як ён з лістападам вітаў—
Я ў гукі юнацкіх мэлёдый
Асеньнія песьні ўплятаў.

Былі у тых песьнях—дарогі,
Сузор'і асеньніх акрас
І іншага многа пустога
І любага кожнаму з нас.

А сёньня на жоўтую восень
Я з іншаю песьняй зірнуў...
У гэтай-жа восені штосьці
Я чую другую вясну.

Я рады ў агні загарацца
Вясновай пары залатой—
І песьні асеньняе працы
Зьліваюцца з песьняй маёй.

...Нястройна гучаць малатаркі,
Ля гумнаў шуміць паравік,
І клёны барвуюцца ярка
Ў мяцеліцы каласавін.

Даносіцца веялак рокат,
Саломы калышыцца бель.
За ціхім вакном, недалёка
Сартуе пшаніцу арцель.

Абозы колгасныя з хлебам
У горад ідуць чарадой...
І вісьне асеньняе неба
Над шыр'ю зямлі залатой.

## 2. ЗАДУМАЙСЯ, ДРУЖА...

Задумайся, дружа, якая краса
У трактарных гэтых колёнах,
Што з гораду йшлі каля ціхіх прысад,
Мінаючы сьветлыя клёны!..

Якая магутнасьць! Які-ж размах
І сымболь прыгожы на дзіва!..—
Сталёвыя коні нам горад прыслаў
На плодныя нашыя нівы.

Я горад затое так моцна люблю,
Што гэтыя шумныя госьці
Прынесьлі з сабою вясну на зямлю,
Вясну ў урадлівую восень.

Прыслухайся, дружа, як ў сінюю муць,
У раньняй расе і тумане,
Сталёвыя госьці па полі плывуць,—
Упоперак межы ламаюць.

Як глуха трашчыць застарэлы быльнёг
На жорсткім адвечным узьмежку,
Як буйнае сонца з вясёлым агнём
Сталёвыя плавіць усьмешкі.

Я бачыў на вёсцы, што сотню гадоў
Стаяла нязрушна, задумна,
Ламалі павеці памершых дзядоў,
Будуючы веліч комуны.

І тут, на аселішчы продкаў сваіх,
Як сымбаль пракляты старога,
Кідалі назаўжды у цьвіль абразы
Ля брудных зламаных парогаў.

Задумайся, дружа, як нашы палі
З вясноваю буйнаю стромай
Гісторыю пішуць жытнёвай зямлі,
Пракінуўшы сотні старонак!..

### 3. У ХОДЗЕ ШТОДЗЕННЫМ

Часы буянасьці прайшлі
І ў ходзе канулі штодзенным...
Нас нашы песьні прывялі
Да працы творчай і натхненнай.

З заводаў, жнівеньскіх лагчын—
Шырокай, сьмелаю лавінай
Пайшлі мы дружна ў далячынь
І павялі сваю краіну.

І вось цяпер,
За крокам крок,
У даль магутна і няспынна
Ідзе з малінавай зарой
Мая вясновая краіна.

Я чую грукат малаткоў
І сьпеў жалеза на заводзе...
Сталёвы плуг, сталёвы конь
Барозны новыя праводзіць.

Ён кліча новую зару
На даляў сьветлыя павекі.
Гадоў вялікіх буйны зрух
Перараджае чалавека.

І на палёх, дзе ветраў стынь
Мяце асеньнюю дарогу,
На межах зьбітых колектыў
Удалеч трубіць перамогу.

Зямля цьвіце. Растуць рады,
Растуць юнацкія атрады.
Пад іхны поступ малады
Квітнее край вялікім садам.

Часы буянасьці прайшлі
І ў ходзе канулі штодзенным.
Нас нашы песьні прывялі
Да працы творчай і натхненнай.

### 4. ЖЫЦЬЦЁ ІНАКШАЕ

Па вечарох зьвіняць лады
Пра шчасьце песен веснавое,
І як будуе колектыў
Жыцьцё інакшае, другое.

Як адчыніў чырвоны май
У разьлёт гадоў тугія дзьверы,
Як у комуне ураджай
Прыняў нябачныя памеры.

І песьні слухаюць дзяды
Ля новых ліпавых павецяў,
Успамінаючы гады
Мінулай цемры, ліхалецьцяў.

Шумяць яны і за гару
Гаворка сьцелецца спавівам...
І на вішнёвую зару
Глядзяцца росевыя нівы.

Выходзіць вечар.
На зямлю
Спадаюць ліпеньскія росы.
Гарыць агнямі новы клюб.
У зорках сінія нябёсы.

Зямля цьвіце праз ціхі сон
Жытнёвым шчасьцем урадлівым.
І ніжуць ласкавы трызвон
Аўсоў зялёныя спавівы.

### 5. ІДУ

Іду да хаты ў вечар цёмны.
Вакол жыты... вакол жыты.
У плячох—ад працы слодыч стомы,
Іду—вакол жыты... жыты.

Халодна-цёмнае калосьсе
У твар мне пыршча кроплі-росы
І звоняць сонныя лады
Аб шчасьці вечна-маладым.

Іду. З нябёс глядзіцца месяц.
Ў прасторы—ноч і ціхі сон.
Палынны водар нікне дзесьці
У моры срэбраных аўсоў.

Пшаніца сонна хіліць пасмы,
Ў расе бульбовыя кусты.
Іду стамлёны да калгасу,
Вакол жыты. Вакол жыты.

Кастрычнік, 29 г.
г. Мсьціслаў.

## ДЫКТАТУРА[1])

(*П'еса ў 4-дзеях*)

**І. Мікітэнка**

### ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

7

**У сэрцы крызіс**

Пакой сельсавету. За сталом: Гарох, Нечай, Каваль, Нябаба, бednякі. Відаць даўно ўжо спрачаюцца. Усе знэрваваны, разгарачаныя. Нібы ў роспачы рвуць словы. На лавах, каля сьцен сядзяць сяляне. У куточку няпрыкметна—Рамашка.

Нябаба (*усхапіўшыся*). Гэта вы. Гэта ваша віна.

Гарох. З якое рацыі. Такі момант...

Нябаба. Дагаласаваліся!

Каваль. Ганьба!

Бядначка. Даў Чырве расьперазацца. Чаму не заткнуў яму рота? З цябе такі старшыня сельсавету, як з курыцы птушка!

Гарох. Думаў аб гэтым...

Нябаба. Нічога вы ня думалі. Вы здрэфілі. Вы-ж спужаліся. Вы яшчэ на пасяджэньні здрэфілі, а на сходзе зусім ня ведаў, што рабіць. Я дам галаву на сьцінаньне, калі тут ня было кулацкага пляну. Ён быў. Быў падрабязны распрацаваны плян, як сарваць сход. Нехта сказаў ім суму і яны, чатыры кулакі, адбілі ад нас сераднякоў. Ганьба. Хто-ж гэта? Хто ім сказаў. Можа ён сядзіць тут?.. сярод нас. (*Азіраецца*). Можа ён глядзіць нам у вочы? (*Рамашка туліцца. Нябаба доўга і пільна ўглядаецца ў Гароха*).

Гарох. Бог з табою, Аксана...

Нябаба. Бога пакінце сабе! Таварыш Нечай, можа здраднік сярод беднякоў.

Нечай. Кінь, Нябаба. Не пячы мяне хоць ты!

Нябаба (*ступіла да Каваля*). Каваль, комсамольцы-ж ніколі ня здраджвалі?

Каваль. І ня здрадзяць! Ня сьмей так ставіць пытаньне!

Нябаба (*у роспачы*). Дзе-ж провокатар?.. (*Паўза*).

---

[1]) Гл. „Полымя" № 2, 1930 г.

Права пастаноўкі толькі з дазволу аўтара, альбо УТОДІКА (Украінскае Таварыства Драматургаў і Композытараў).

Аўтар.

Каваль. Вы разумееце, Чырва цяпер тры пуды дае. Прыходзім да яго, траха не разарвалі сабакі. А ён завёў нас у сьвірань, паказаў парожнія засекі і ў куточку пудоў з пяць пазадзьдзя. Гэта кажа ўсё. Скажэце Дудачу, няхай прыдзе з мяшочкам. Дам тры пуды...

І селянін. Зьдзекуецца, сукін сын.

Гарох. Певень дае два. Сыроватка паўрубля. Гэта момант...

Чарнега. Праўда, што момант. Гэта быццам на манастыр... Ды я-ж бы яго па мордзе!

Каваль. Гэта, дзядзька Чарнега, трэ' было на сходзе гаварыць, а цяпер ня вешайце насоў. Трэба падумаць, што рабіць далей.

*Уваходзіць Дудач.*

Нябаба. Трэба спачатку падумаць, што мы скажам Дудачу. Што гэта будзе, калі ён дазнаецца? Чаго-ж вы ўсе маўчыце? Ён-жа сказаў а ні нагою да іх. А мы... хадзілі...

Дудач (*падыходзіць да стала*). Што ты сказала? (*Усе змаўкаюць. Некаторыя зрываюцца з месца і зноў садзяцца*).

Каваль. Таварыш Дудач...

Дудач. Я не дачуў. Я глухі. Ну, паўтары, табе кажуць.

Нябаба. Мы хадзілі...

Дудач. Што такое? Вы хадзілі з торбамі па падвоканьню, як жабракі? Палажэце на стол паперы. Дакуманты вашы на стол. Ну! Я адсылаю вас у раён. Вы мне не патрэбны. Будучыя бальшавікі... Баягузы. (*Раптам павярнуўся да Гароха*). Ты, хвасоліна зерне! У цябе ў сельсавеце комсамольцы жабруюць. Замест таго, каб паставіць Чырву на колені, вырваць у яго хлеб, які недзе гніе, яны жабруюць, просяць у яго. Чуеш?

Чарнега. Гэта праўда. На калені яго...

Дудач. Чаго маўчыш? Ну, кажы кашпараўская бародка!

Гарох. Я, таварыш... Такі момант, што мы разам хадзілі...

Дудач. Што? Ня чую. Разам? (*З вялікім зьдзіўленьнем*). Разам хадзілі! Ты разумееш, што ты кажаш? Ты што? Хочаш зрабіць компромэтацыю аўторытэту? Рабоча-сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў хочаш прадаць? Голасна адказвай!

Гарох. Пастанова была, дык мы...

Дудач. Адказвай на запытаньне: хто табе сказаў з торбаю іці? У жабрацтва, хто цябе пасылаў, пытаю?

Чарнега. Ды сваім розумам...

І селянін. Навукі ня ведае... Вось у чым гвозд.

Каваль. Таварыш Дудач...

Дудач. Памаўчы. Хто сказаў, што з-пад зямлі дастанем? Ты. (*Да Нябабы*). Хто сказаў, што зрыва ня можа быць? Ты. На што спадзяваліся? Толькі чупрынаю ўмееце трэсьці. Рэволюцыянэры з баньцікам. Чырвоныя хустачкі. Ура тады, калі вораг згубіць штаны. А калі ён пакажа зубы, дык вы наўцекі. Прыдзем і паклонімся. На ручку паглядаеце.

Нябаба (*застагнала*). Няпраўда. Мы не хацелі правяраць іх да канца. Мы лепшага хацелі... Цяпер мы зможам паказаць іх твар усяму сялу.

Дудач. На той год скажаш сваёй бабе. Твар. Які ў іх твар, калі ў засеках пуста. Навукі няма? А мы з міністраў павыходзілі? З губэрнатараў.

Рамашка (*выходзіць з кутка*). Дазвольце вас перабіць. Не з губэрнатараў...

Дудач. А ты што за адзін?..

Рамашка. Я? Так сабе... чалавек... серадняк...

Дудач. Ці ня той гэрой, што супраць белых хадзіў?

Рамашка. Ага-ж, той самы.

Дудач. А цяпер за Чырву галасуеш?

Рамашка. Не, ня выпала.

Дудач. За каго-ж ты галасаваў?

Рамашка. Устрымаўся.

Дудач. Ня чую. Мацней крычы, каб ведаў невук, што ты на дванаццатым годзе рэволюцыі ўстрымоўваешся. А калі стаяў супраць белых, тады таксама ўстрымоўваўся?

Рамашка. Не, там галасаваў за зброю. Ці пападаў, дык ужо бог яго ведае, а страляць у ворага рэволюцыі страляў. Ну, цяпер нам цяжка стала разьбірацца, дзе белае, а дзе чорнае..., а дзе чырвонае. На фронце было прасьцей. Вось так я, а о так вораг рэволюцыі. Камандзір звода скамандаваў: па ворагу рэволюцыі плі!.. ну і пашла. А цяпер, бачыце, і сам камандзір Ігнат Гарох не ўгадае. Ня тое жыцьцё. Вам нябось у горадзе відней. Электрычнасьць гарыць, у газэтку заглядаеце, у каталёгі розныя, ды ў біноклі таксама... А ў нас, дык ужо ня тое. У гнаі нібы той жук...

Дудач. Ты, браток, проста кажы: жывяце ў горадзе, як буржуі. Єтук-грак, дай пятак.

Рамашка. Ну і наша жыцьцё ня з мёдам.

Дудач. Ня з мёдам. А мы ў малаку купаемся. А ты і ня ведаў? У малаку і кожны дзень варэнікі варым ды гульні спраўляем. А ў чорным поце ты-б не хацеў пакупацца? У цыстэрне! Каб сьцёбнула цябе электрыкаю ў пячонку. У гнаі? Прападзеш у гнаі, калі ня будзеш рабіць гуртам. Ты ведаеш гэта...

Галасы. Што праўда, то праўда.

Дудач. Уся Украіна колектывізуецца, а вы чаго сядзіце? Вы ня толькі не навучыліся, як сумесна працаваць, а нават свайго гною, чырвей не асіліце. Гарбачы! А я не ў гнаі вырас? У белых пялёнках. (*Голасна*). Га? Дакуль-жа ты будзеш гаварыць, што ў гнаі? Бяры. Кляпай новае жыцьцё. З намі кляпай, бо аднаму табе жаба цыцкі дасьць...

Галасы. Правільна!

Селянін. У самае месца!

Бядначка. У самае месца, але-ж не варушыцеся вы з месца. Хіба-ж з вамі што зробіш!

Рамашка. Ды не пячы-ж хоць ты. Свая-ж, а пячэ. Дык вось слухай-жа, таварыш Дудач. Бачу, што з аднаго мы цеста. Дык слухай-жа і ня гневайся. Бо хоць і дурні мы, цёмны народ, а ўсё такі адзін аднаго не прадамо. Ĭ вось я хадзіў сабе і думаў. Як-жа так, што дванаццаць гадоў наша ўлада была, а пасьля Чырва выграў? Не, мяркую сабе, ён прайграў навекі. Падумайце-ж грамадзяне: Чырва свой хлеб, сваю сілу захаваў. А з каго-ж возьме дзяржава? З аднаго Малаштана ды з мяне? Не, ня выдзе. Соцыялізм для мяне даражэйшы за Чырву. Слухай, таварыш, сушчую праўду: праўду кажам. Хлеб ёсьць. Чырва схаваў свой хлеб і кажа, што няма.

Нябаба. Дзе схаваў?

Каваль. Вы ведаеце?

Дудар. Спакойна, Кавалёк. Далей.

Рамашка. Далей... толькі знайці, а тады ўжо і далей.

Дудач. Так. (*Паўза*). Ты-ж... разумееш, што значыць гэтае далей?

Рамашка. А вядома. Гэта значыць паказаць народу ворага рэволюцыі і тады... чырвонае выйграе, а белае прайграе. Вось як я разумею. Яшчэ хачу прызнацца...

Дудач. Ну, браток, цяпер я бачу, што ты, сапраўды хадзіў супраць белых. Руку! (*Пацiскае*). Кавалёк, Нябаба, заставайцеся тут. Ня злуйцеся, што крыкнуў. Не абражайцеся. Такі час. Як на позыцыі...

Нябаба. Мы, таварыш, не рэволюцыянэры з баньцікамі, каб абражацца. Мы комсамольцы.

Дудач. Ну, дай руку, камса. Цяпер вам будзе работа. Лепшая, чым хадзіць з торбамі. Гарох! Бяры, дружа мой, панятых і зараз-жа да яго. Панятых бяры, ня чухайся.

Гарох. Каго-ж бы тут узяць у такі момант?

Дудач (*да Рамашкі*). Пойдзеш?

Рамашка. А вядома пайду. За рэволюцыю.

Бядначка. Бяры мяне. Я другая панятая. Я пальцамі разграбу зямлю.

Чарнега. Бярэце і мяне. Буду капаць.

I селянін. Ды і я пайду. У мяне рыдлёўка добрая. Стальная! Ĭ панятым магу быць.

Дудач. Дзе-ж вы былі раней? Чаму на сходзе маўчалі? Пачакайце. За трэцяга панятога мы возьмем... ведаеце каго?

Усе. Каго?

*Уваходзіць Малаштан.*

Дудач. Вось каго!

Усе. Правільна!

Дудач. Малаштан! Ты паняты. Ідзі да Чырвы трэсьці хлеб.

Малаштан (*доўга нічога ня можа сказаць. Пасьля ціха*). Я не пайду.

Дудач (*сашчапіў кулакі. Ледзьве стрымоўвае сябе, падступае да Малаштана*). Ня чую. Мацней!

Малаштан. Ён мой родны кум. І ў яго хлеба няма.

Дудач. Ня пойдзеш? Кінь жарты. Як-жа ты можаш не пайці, кулацкі падгалосак. А як вось гэтаю самаю рукою, во, глядзі, я дваіх сваіх кумоў зьністожыў за тое, што яны здрадзілі рэволюцыі і падаліся да белых? А ты кажаш, што ня пойдзеш? Кумэдны чалавек! (*У пакоі поўная цішыня*).

Нечай. Падумай, Малаштан!

Дудач. Я-ж цябе за свайго лічыў, думаў абаперціся на цябе, а ты выступіў на сходзе, як вораг. Як-жа ты, вераб'іная душа, ня пойдзеш, калі ты нічым больш не загладзіш свае віны, нават сьмерцю. Ты мо' забыўся чаму дыктатура? Я напомню: Альбо за мною пойдзеш, альбо прападзеш. Зразумеў?

Малаштан. Зразумець, то я зразумеў, а зракацца кума не зракаюся. У кума хлеба няма. Веру—няма.

Дудач. Рамашка. Давай яшчэ раз. Ёсьць хлеб у Чырвы?

Рамашка. Ёсьць хлеб... і гэты хлеб закапаны ў зямлю. А ты, Пятро Малаштан, не чалавек, калі радзі кума прадаеш рэволюцыю...

Малаштан. Не прадаю!

Рамашка. Прадаеш! Ішоў ты паўз могілкі з рыбкай. А ён, твой кум, чакаў цябе. На магілах чакаў. Не перабівай. І ты яму ўсё сказаў. (*Усе эварухнуліся і пільна ўглядаюцца ў вочы Малаштана*).

Нябаба. Ён!

Рамашка. І сказаў, колькі на каго налажылі і ўсё, да канца. А Чырва... Грамадзяне і ты, таварыш Дудач, слухайце... А Чырва, Сыроватка, Певень і... я стаялі расьпятымі на крыжох, нібы наша ўлада расьпінае нас на крыжох. І чакаў цябе Чырва, як шпега. І сказаў ён табе запытаць пра дыктатуру. А ты, Малаштан, узяў ды запытаў. (*Усе стаяць, нібы іх ударыла маланка*).

Нябаба. Значыць гэта вы?

Каваль. Вон яго з вачэй!

Нечай. Пятро, да чаго ты дайшоў? Гэта-ж цябе расстраляць мала!

Бяднячка. Прадаў... (*Падступілі да яго*).

Дудач. Цяпер я цябе, браток, зразумеў. Адступецеся таварышы. (*Ціха*). Тут... памылка. Чалавек гіне. (*Лагодна, цёпла*). Трымайся, таварышок, трымайся. Ня хістайся... Абдурылі. Як малога, як хлапчука абдурылі? Я разумею, дзівак, што ты ня вінен. Ну, даруй, што крыкнуў. Я, ведаеш, глухі. (*Крычыць*). Ды ня падай, кажу табе, ня падай. (*Хапае яго за плечы*).

Малаштан. Туман... мігціць... (*Праводзіць па твару рукою*). Як-жа гэта так, што я памыліўся? На могілках. Улез у душу... А на сходзе

сказаў, быццам я протэстую! Дзе ён? Дзе Чырва Козыр, быўшы мой кум? Дзе ён? (*Выбягае з пакою. Усе напруджана глядзяць у сьлед*).

Дудач (*ціха*). Нябаба. За ім. У сэрцы крызіс. Не чапай яго, толькі ідзі за ім, бо можа засекчы.

Нябаба (*ціха*). Ёсьць (*Выбягае*).

Цёмна.

8

**Гусак урастае ў соцыялізм**

Двор Пеўня. На хаце залезная страха. У садку стол з рознымі закускамі. Пасярэдзіне стала вялізная бутля. Яна падпяразана шырокаю чырвонаю істужкаю з надпісам: „Пі ды розуму не прапівай“. Калі падымаецца заслона, за сталом шум, выгукі, жаночыя сьпевы. Госьці ўжо трохі „прычасьціліся“.

I госьць. Вы, сваток, такі галава!

Госьці. Залатая галава. З такою галавою перавернем сьвет!

II госьць (*ікае*). Ікстаз у чалавека. Во. Абвёў, абвёў вакол пальца, няма, во!

Певень. Ды чорт яго бяры, абы выйгралі.

Пеўніха. Частуйцеся-ж. Макар, налівай-жа людзям.

Сыроватка. Грэх так казаць...

II госьць. А я кажу, ікстаз!

Сыроватка. Грэх. Трэба дзякаваць богу, што выйгралі, а вы такія словы.

Жонка. Чаго там грэх. Ён яшчэ і не такія словы ведае...

Пеўніха. І-і-і-і, якое ліха! Макар мой таксама, калі што скажа, калі прыкажа, як адрэжа.

Госьці. За здароўе свата Чырвы!

Чырва. Дзякую, суседзі, вам і богу.

Сыроватка. І Малаштану...

Певень. Равела, Андрэй, равела...

Жонка. Вярбу! Давайце вярбу!

Ой, вярба, вярба,
Дзе-ж ты-ы ўзра-аслла...

Певень (*перабівае*). Равела! Равела!

Чырва (*паважна*). Можна і равела. Цяпер можна. (*Падняўся*). Суседзі! Не, не магу гаварыць. Душыць... Радасьць душыць мяне. Давай равела!

Госьці. Равела, равела!

Певень. Сват, Сыроватка, кіруй.

Сыроватка. Госпадзі, баславі. (*Пачынае*).

Рра-ве-ла бура, дождж шумеў
І ветры ў дзеправ бушавалі...

Госьці (*падхоплiваюць*).

> Ї біз прарыўна гром гррымеў
> Ї ветры ў дзепрах бушавалі...

Сыроватка.

> Їр мак о-страпуў ада-сна
> Їгі бель здра страміцца ў волны...

*Падхоплiваюць.*

> Душа адвагаі спална
> Нода ляко од брэ гачоўны...

Сыроватка.

> Рраавe-ла бура дождж шумеў
> Ї веп-ры ў дзепрах бушавалі...

Чырва і Певень (*з натхненьнем, сурова, з пераконаньнем*).

> Ї біз прарыўна гром грымееў...
> Но ір... мака ўжэ ня стала!..

II госьць. Вось гэта ікстаз, дык ікстаз...

Госьці. Як у царкве сьпяваюць.

I госьць. Го... лос... як труба... (*Шум, бразканьне. З хаты выходзіць Гусак*).

Гусак. Макар Мітрафанавіч...

Певень (*падыходзіць да яго*). Панцялей Іванавіч. Зяцёк!

Гусак. Грошы ёсьць.

Певень. У гэтага? У твайго?

Гусак. А вы-ж як думалі? Што ён прыехаў проста пагуляць на заручанах? Вы наіўны, як дзіця. (*З хаты выходзіць Гунявы. Тып гарадзкога спэкулянта*). Давайце задатак.

Гунявы. Па чатыры пяцьдзесят?

Певень. Пяць.

Гусак. Андрэй Кірылавіч! (*Падыходзіць Чырва*). Гунявы дае задатак. Бярэце.

Гунявы. Чатыры пяцьдзесят.

Чырва. Не, я ў такую хвіліну не магу рабіць торгу. Душа расквітае. (*Пашоў да стала*).

Певень. Ну, хоць чатыры семдзесят пяць?

Гунявы. Вы добры чалавек, а я яшчэ дабрэйшы. Маеце пяцьсот!

Гусак. Ідзеце да гасьцей. Зараз выйдзем з маладою.

Певень. Пад марш. Казырні Панцюша. Пакажы ім...

Гусак. Ня вучэце быўшага студэнта.

Певень (*схаваў грошы. Пашоў да стала*). Чаго-ж сядзіце, не частуецеся? Прычашчайцеся!

Гусак (*да Гуняваго*). Дзесяць процантаў за агітацыю.

Гунявы. Пяць...

Гусак. Што? Я лепшых сыноў Украіны яму прадаю...

Гунявы. Ну, дык і добра зарабляеце. Чаго-ж вам? (*Пашлі ў хату*).

Пеўніха. Ды дзе іх ліха падзела гэтых маладых? Хоць паскакаць. І-і-іх! Даруй, госпадзі. Частуйцеся! Усяго-ж напякла! Расьпяразвайцеся, сваток!

Госьці. Напяклі, сваха, напяклі, дзякуй богу.

Пеўніха. А што нам. Толькі ўласьці, ды ўласьці? Трэба-ж і сабе што-небудзь у рот класьці. (*Рогат*).

I госьць. Ідуць! (*З хаты выходзіць музыка: скрыпка, гітара, талеркі, засланка, апалонік, чыгун, качалкі. Гусак вядзе пад ручку Параньку. Гунявы поруч*).

Госьці. Карцінка! Як намаляваныя!

Певень. Сюды, сюды, дзеці мае, вазьлюбленыя між сабою. (*Гусак, Паранька, Гунявы праходзяць да стала*).

Гусак. Шаноўныя грамадзяне. Я, Панцялей Іванавіч Гусак, быўшы студэнт першага курсу дзяржаўнага вэтэрынарнага інстытуту, маю за гонар і скажу проста—за шчасьце назваць вам будучую падругу майго бурлівага шляху Параню Макараўну Певень, а ад нынешняга часу—Гусак.

Госьці. За здароўя! На многія леты!

Гусак. Прашу таксама любіць і паважаць майго даўняга знаёмага Сідара Мікітавіча Гунявага. Ён хоць і не вэтэрынар, але можа дапамагчы ўсякай скаціне. Залаты чалавек.

II госьць. Залатая скаціна.

Госьці. Залатая.

Чырва. Суседзі! Сваты! Браты! Кумы! Радня! Знаёмыя! і так добрыя людзі. Хачу я вам сказаць адну рэч.

Госьці. Ш-ш... Чырва гаворыць. Гаворыць, гаворыць Андрэй Кірылавіч.

Чырва. Жыцьцё наша складанае, жыцьцё цяжкае і заблытанае. Труднае жыцьцё.

Госьці. Я як-жа... што казаць...

Чырва. Але сёньня ў нас сьвята. Сёньня падвойнае сьвята. Першае, гэта—наша перамога.

Сыроватка. Дзякаваць богу.

Чырва. Другое сьвята: вось. Дзеці. Вы маладыя, а мы старыя. У вас маладыя сілы, а ў нас стары вопыт. Павучэцеся-ж дзеці, у нас, бо яшчэ прыдзецца нам усім, ня раз і ня два, абараняць сваё дабро, вырываць яго з зубоў... пакуль ёсьць над намі дыктатура. Ну... (*Б'е кулаком па стале*). І ў нас душа не з мякіны. Памераемся. Сьпявайце, весялецеся, радуйцеся, ды памятайце лёзунг: будзь напагатове!

Певень і Сыроватка. Заўжды напагатове!

Госьці. Правільна! Вось гэта правільна!

Певень! Ды бі іх, вось і ўсё! Разьбівай!..

Пеўніха. Частуйцеся! Ежце. Гаварэце і ежце, каб раты ня гулялі. Параня!

Паранька. А-ж нудзіць ад гавядзіны. Панцялей, еж ты, ты-ж мужчына.

Галасы. Равела, равела. (*Пачынаюць*).

Гусак. Прашу пачакаць. Пару слоў. (*Падымаецца*). Высокапаважаныя госьці і вельмі шаноўныя грамадзяне, занядбанае нэнькі Украіны! Я поэт. Але я буду гаварыць рэальна.

Параня. Як?

Гусак. Рэально—значыць—праўду ў вочы. Вы, грамадзін Чырва, як той стары Караль Маркс, перадаеце сваім вучням ваш жыцьцёвы вопыт і наказ змагацца. Але Маркс не памыляўся, а вы (*да Пеўня*), вы, Макар Мітрафанавіч, памыляецеся.

Певень. Я зроду не памыляўся.

Гусак. Даруйце, але вы, нават, больш чым памыляецеся. У пытаньнях змаганьня і тактыкі вы проста няшчасны саматужнік-адзіночка і ў гэтым уся суць і трагэдыя Украіны...

I госьць. І дась-жа бог чалавеку такі розум.

Гусак. Першая тэза: калі нарэзвалі вам сталыпінскі вотруб...

Госьці. Вось былі часіны...

Гусак. ...А тыя, што цяпер трымаюць нас пад вуздэчкаю, не давалі,—лёгка было змагацца. Забілі Міхайлу Сьляпога і кончана.

Чырва. Ш-ш... Як гэта забілі? Ён сам памёр.

Гусак. Але цяпер... цяпер зусім іншая рэч. Што-ж вы крычыце „бі“. Каго „бі“, як „бі“. Калі гэта можна і трэба рабіць толькі ў асобных выпадках і організавана. Інакш не пераможаш... Гэта вам антытэза. Грамадзянін Чырва Козыр, вы студэнтам ня былі, але ў вас інстынкт.

II госьць. Ікстаз.

Гусак. Не, вы ня зьбівайце. Толькі інстынкт. Організацыя. Колектыў. Урастаньне ў соцыялізм. Але якая організацыя? Які колектыў? Які соцыялізм? Адказваю: організацыя наша! Колектыў наш! Соцыялізм!..

Госьці. Наш.

Гусак. Правільна! Калі мы ўжо ўрасьцем, дык ня толькі сто Дудачоў, але і сто чартоў ня выкарчуюць нас. За іхнюю пагібель, за наша жыцьцё, за ўрастаньне ў соцыялізм!

Госьці. Горка!

Паранька. Панцюша, урастай-жа. (*Гусак цалуе яе*).

Госьці. Правільна! Няхай соцыялізм, абы мы гаспадарамі былі...

Певень. Ніколі. Здохну, прападу, як сабака, пад плотам, а ў соцыялізм не пайду.

Сыроватка. Марына, глядзі, вунь і твой ужо ўрастае... (*II госьць перад гэтым адышоў ад стала і заляцаецца да нейкай маладухі*).

II госьць. У мяне ікстаз... А вы, як ягадка...

Сыроватка. Закладае колектыў... (*Рогат*).

Госьця (*кідаецца на парачку, да мужа*). Ах, ты-ж сабака! Дома хворы, а тут вунь што... (*Крык, бразганьне, рогат*).

Жанкі. І-гі-гі-гі! Няхай яго чэрці. Хоць скачы.

Пеўніха. Дык і паскачэце. Маладыя, хіба-ж вы ня ўмееце?

Гусак. Вучэцеся танцаваць культурна. Зараз мы з Паранею пакажам вам студэнскі факстрот, якому я навучыў яе нашымі украінскімі месячнымі начамі. Параня.

Паранька. Бяры на трэцяе калена.

Гусак. Ведаю сам. Музыка. (*Скачуць*).

Жанкі. І-і-х. Нібы іголкамі смаліць. Вось каб мой так умеў.

Пеўніха. Польку! Урэжце польку, трах на вашу галаву. (*Іграюць польку. Жанкі хапаюць мужчын і ўсе пачынаюць шалёна скакаць*).

Малаштан (*прыбег і, зьдзіўлены такім відовішчам, спыніўся*). Стойце! Спынеце музыку! (*Усе спыняюцца*). Не скачэце, ня іграйце, бо яшчэ ваша ня выйграна!

Чырва. Кум!

Малаштан. Ніякіх кумоў! І хто ты такі, мы яшчэ ня ведаем. Але мы дазнаемся!.. Усё будзем ведаць!

Чырва (*налівае шклянку*). Кумок!.. выпіце... вам дрэнна...

Малаштан. Ня цікаўлюся! Прымі саракаградусную і слухай, што табе скажа бядняк Малаштан. Ты ня кум мне больш, ты—гад! Я верыў табе ўсё сваё дурное жыцьцё, а ты шпега з мяне зрабіў. Але я бядняк быў і ёсьць, а ты кулак быў, ну але ўжо ня будзеш!

Певень. Бі яго. (*Хапае бутлю*). Рашчаплю! (*Усе рушыліся да Малаштана*).

Певень. Бі!

Чырва. Назад. (*Усе спыніліся*).

Гусак. Грамадзяне, выказвайце свае думкі бяз лірыкі. Што вам трэба?

Малаштан. Што мне трэба... (*Кідаецца да Чырвы*).

*Нібы вецер улятае з крыкам Нябаба.*

Нябаба. Малаштан! (*Стала між імі. Паўза*). Нашто хвалюецеся... Калі трэба быць спакойным, як камень... Пойдзем, там нас чакаюць...

Малаштан. Не, галубка, пачакай крыху. Што мне трэба? Трэсьці ворага рэволюцыі Чырву! Я паняты! За мною на ваш двор. Чырва Козыр! За мною!

Певень. Прадаў. Рамашка прадаў! (*Разьбівае бутлю. Страшэнны бразгат. Кароткі піск у оркестры. Нібы жабы распаўзаюцца госьці*).

Цёмна.

9

**Бяз Козыра**

Двор Чырвы. Відаць вугал старое хаты з дзьвярыма. За сцэнаю гоман. Капаюць.

Малаштан (*прабягае з рыдлёўкаю*).

Чырва (*зьвесіўшы галаву ідзе насустрач*). Кумок...

Малаштан. Не падыходзь!

Чырва. Кум, не сябе шкода, а вас. Перад народам сораму набіраецеся. Тры дні, нібы краты рыеце зямлю, а што знайшлі?

Малаштан. Не падыходзь! Калі не знайду, сам лягу ў тую яму... Адна мне сьмерць.

Чырва. Ды навошта сьмерць? Скажэце яму, няхай спыніць вось гэты глум. Народу поўны двор. (*За сцэнаю гоман*).

Малаштан. Знайшлі?! (*Пабег*).

Чырва. Знойдзеш... Зямлі-б ты наеўся... (*Адтуль, дзе капаюць, зьяўляецца задуменны, пахмуры як ноч Дудач. Сустракаецца з Чырваю. Доўга ўглядаюцца адзін на аднаго, гатовы схапіцца за горла*).

Дудач. Ідзі з дарогі.

Чырва. Думаеш, буду прасіць—не капай? Думаеш буду грызьці зямлю? Не, не дажджэш. І з дарогі я не саступлю. Мая дарога сумленная.

Дудач. Брэшаш. Саступіш, дзед. Альбо мы пяройдзем праз цябе.

Чырва (*наступае, нібы хоча ўчаперыцца пазурамі ў Дудачова горла*). Капай! Скрозь капай!

Дудач (*паказвае рукою*). Праходзьце, дзед. (*Чырва прыплюшчвае вочы, згінаецца і павольна, павольна адступае. Дудач адзін*). Ня сплю тры ночы... (*Сьціснуў галаву*). У галаве нібы хто молатам гваздае. Увесь двор узрылі.

Малаштан (*прыбягае*). Няма! Не знайшлі. Нідзе няма. Што, калі мы ўсе памыліліся? Усе да аднаго!

Дудач. Малаштан, будзь цьвярдзейшым. Выгані з сэрца ўсякі страх. Ты-ж паняты. Назад. Рабі сваё да канца.

Малаштан. Ды я паняты... да канца. Ды калі-ж той канец... Ніяк і не дакапаемся... (*Пачуў за сцэнаю гоман. Рвануўся*). Знайшла? (*Пабег*).

Каваль (*прыбягае*). Яе няма? Ня было?

Дудач. Ня было.

Каваль. Яе нідзе няма. (*З жахам углядаецца на Дудача*). Яе забілі...

Дудач. Сэкратар комсамолу, ты, здаецца, баба. Агітпроп у цябе Нябаба, але сам ты—баба.

Каваль. Ну... Дзе-ж яна магла дзявацца? Два дні, як прапала...

Дудач. Кавалёк... ідзі. Пакінь мяне... галава трашчыць.

Каваль (*ціха*). Я іду (*Пашоў туды, дзе капаюць*).

Дудач. Дзе-ж яна сапраўды? Дзе яна? Што яна надумалася, дурная дзеўка? Дзе і каго яна шукае?

Каваль (*вярнуўся*). Таварыш Дудач. Можа... даволі капаць? Я прапаную канфіскаваць маемасьць. Арыштаваць Чырву і яшчэ некалькі. Пазбавіць іх голасу. Склікаць другі сход і канфіскаваць маемасьць.

Дудач. Кавалёк, бальшавік, апрача агню павінен мець яшчэ і вытрымку. Бяз гэтага ён быў-бы, як трэска: згарэў і няма. А трэба, каб была справа. Разумееш?

Рамашка (*падыходзіць*). Дзяржыся, Паўлуша. Наша возьме! Вось што, таварыш Дудач, мусіць, так, ня ведаючы, дзе шукаць, мы ня знойдзем. Трэба спачатку выведаць, дзе яно ёсьць, а тады ўжо і капаць.

Дудач. Рамашка, ты, здаецца, спрытны чалавек, чаму-ж ты не разьведаеш?

Рамашка. Ёсьць такі чалавек, што павінен бы ведаць...

Каваль (*схапіўся*). Дык чаго-ж вы маўчыце?

Рамашка. Не сьпяшайся, Паўлуша. Я гэта толькі ўспомніў. У Чырвы быў наймiт... Чырва яго разьлічыў... А дзе ён цяпер служыць, ня ведаю.

Каваль. Будзем ведаць. Усіх комсамольцаў на ногі...

Дудач. Пачакайце, пачакайце, таварышочкі. Я ведаю, дзе Нябаба. Яна яго шукае! Га?

Рамашка. Ну, вось не брашу, і я так думаў.

Каваль (*углядаецца на дарогу*). Ды гэта-ж яна. Едзе! Едзе! Нябаба! (*Пашоў насустрач*).

Дудач. Так! Едзе! Конна! Гэта яна! Нябаба!

Рамашка (*гукае*). Пачакайце, таварышы, не капайце!

*Зьяўляюцца: Нечай, Гарох, Бяднячка, Чарнега, I селянін, Чырва, Малаштан.*

Галасы. Што такое? Можа ў хаце?..

Бяднячка. Трэба памацаць пад печчу...

Чырва. Адпачыньце, людзі добрыя...

*Каваль вядзе Нябабу, якая амаль падае.*

Усе. Нябаба.

Дудач (*падхоплівае яе*). Кажы, Нябаба, ну?

Нябаба. Зараз. (*Хістаючыся падыходзіць да Чырвы*). Ну? Чаму-ж вы ня скажэце людзям, дзе трэба капаць?

Чырва. Калі ты ведаеш, дык і скажы.

Нябаба. А вы ня ведаеце? Ну, добра. Тады я дапамагу вам. У старой хаце. Чуеце? У старой хаце!

Малаштан. Кажы, што ў старой хаце!

Чырва. Ты, кумок, сам ведаеш—хлеў.

Малаштан. Так, хлеў.

Нябаба. А ў хляве—хлеб. Яма там. Дайце мне рыдлёўку (*Рух*).

Рамашка. Не збрашу, думаў і я, што там... Што-ж. Андрэй, адчыняй хлеў. Бо мы-ж і так колькі працуем.

Чырва. Адчыню.

Дудач. Так. Памаўчаце, таварышы. Я хачу сказаць гэтаму дзеду два словы. Вось што, дзед, слухайце мяне. Добра слухайце. (*Разьдзельна*). Я-шчэ ня-поз-на.

Чырва. Што?

Дудач. Ня позна сказаць, што заўтра вы прывезяце ўсё. Ратуй сябе, чортаў дзядур, пакуль ня позна...

Чырва. Позна, грамадзянін з заводу. Позна, людзі добрыя. Хлеба ў мяне няма. Я сказаў няма! Душу бярэце, вырывайце з грудзей, а хлеба няма! Капайце! Я ня выпушчу вас. Капайце. Дакапвайцеся да дзедавых і бацькаўскіх костак, каб я мог пасьля прагнаць вас са двара. Капайце!

Рамашка. Ну, і сярдзіты-ж ты, Андрэй. Усё хочаш запужаць. Але-ж мы ня спужаемся! Я жывую кроў бачыў, а ты мяне косткамі пужаеш.

Дудач. Капайце! (*Пашлі капаць*). Нябаба, заставайся тут.

Нябаба. Чорт. Разьбілася. Пячэ як... семдзесят шэсьць вёрст адмерала. Пракляты конь... Трасе (*Хоча сесьці*). Ой, шчыміць.

Дудач. Нябаба. (*Пяшчотна*). Ах ты-ж... Нябаба. Камса. А ты беражком сядай... вось так... Ну. Як-жа ты? Га? Семдзесят шэсьць вёрст? Галасьней!

Нябаба. Насілу знайшла хлапца. Аж у другім раёне служыць. Ну, пагаварылі крыху, хлопец свой, адразу сказаў. Загадаў, кажа, пограб капаць. А пасьля фіць! Разьлічыў. Чырва ня дурны, каб пры ём сыпаць у яму хлеб...

Дудач. Так. Гэта-ж апошняя надзея. Ну, чырвенная масьць!

Нябаба. А як Малаштан?

Дудач. Малаштан цяпер гэрой. Вытрымае.

Нябаба (*ківае галавою*). Хто яго ведае... Вы і дагэтуль у яго?

Дудач. У яго. У гумне сплю. Нікуды я з гэтага гумна пераяжджаць ня буду, аж пакуль не вярнуся на завод. Трэба вырваць яго з гэтых кіпцюроў. Нявольнік з дзядоў прадзедаў, а ты хочаш, каб ён перамог гэтае нявольніцтва за адзін дзень. Ах, ты, камса...

Каваль (*прыбег*). Сухая зямля. Зусім сухая. Старая цьвёрдая. Нябаба, ты не памылілася?

Нябаба. Капай.

Каваль. Ужо глыбінёю на рыдлёўку выбралі зямлю. Няма.

Дудач. Капай. Сьвет перакапаем, а знойдзем. Там закопан твой аўторытэт.

Каваль. Павінны знайці. (*Пабег*).

Дудач (*ціха*). Нябаба, я-ж быў некалі селянінам... Разумееш?

Нябаба. Цяжка?

Дудач. Цяжкавата. Калі запытаў тады Малаштан, чаму дыктатура... а яны як паднялі бароды... і... разумееш, нібы паднялася на цябе кулацкая ніва... хоча раздушыць. Успомніўся дзевятнаццаты год.

Нябаба. Хадзем туды. Я не магу сядзець... Яны працуюць, як мухі.

Дудач. Цярпеньне!

Малаштан (*прыбягае, а за ім счакаўшы крыху Чырва і Гарох*). У цэглу стукнулася!

Дудач (*схапіў яго за плечы*). Дык чаго-ж супыніўся, Малаштан? У цэглу?

Малаштан (*радасна*). Чую, рыдлёўка,—цок! Вось так—цок... хрусь! Што гэта значыць, дабрадзей Чырва—Козыр?

Чырва. Старая хата. Печ некалі была...

Гарох. Ой, Чырва. Сьцеражыся! Гэта цэмант... Сьцеражыся, Чырва.

Галасы. Цэгла! Цьвёрда! Не бяруць рыдлёўкі! (*Усе вышлі на сцэну*).

Чырва. Печ была. Яшчэ калісьці дзед хату быў паставіў. Чумакаваў дзед. Гора набраўся.

Рамашка. А ўжо-ж. Сем пар валоў меў. Гэта-ж клопат...

Чырва. Вядома клопат. А пасьля бацька жыў. Пот свой, кроў сваю высушыў на гэтым двары.

Чарнега. Ну, ужо чый пот ліўся на гэтым двары, ты лепей не ўспамінай.

Малаштан. Не ўспомінай, Чырва! Чуеш!

Чырва (*быццам ня чуў*). А колькі я прылажыў працы. Колькі жыл выцягнуў. Але што-ж, колькі мужык ні рабі, яго праца не залічваецца. Праходзяць бесклапотныя, рыюць бацькаўскія дамавіны, перакідаюць...

Дудач. Чырва, ня будзь прарокам, казёл барадаты! Кінь гвазды выдзіраць. Вырашай. Яшчэ ня позна, накуль сэрца маё не скамянела.

Рамашка. Хіба ты бацьку ў хляве пахаваў?

Чырва. Печ там была... старая печ... Дзедаўская...

Дудач. Капайце. Раскопвайце печ. Выкідайце цэглу!

Малаштан. Раскопвайце печ, выкідайце цэглу.

Чырва (*траціць раўнавагу*). Крышэце! Ламеце... Беце ў дзедаўскія косьці.

Рамашка. А ты, Андрэй, ня злуйся. Ты хочаш лепей для сябе, а мы для сябе і ўсіх працоўных. Старая цэгла, а ты крычыш косьці... Брэшаш. Ніякава, нават, за цябе (*Усе павалілі за сцэну*).

Галасы. Дайце лом! Бі рыдлёўкаю! А моцная печ! (*Чуваць бразганьне залеза. Дудач і Нябаба напружана чакаюць*).

Голас Малаштана. Чарот!

Нябаба (*схапіла Дудача за руку*). Чуеце? Чарот!

Дудач. Спакойна, Нябаба. Спакойна, баёк.

*Усе апрача Бяднячкі зноў прышлі на сцэну.*

Рамашка (*глянуў на Чырву*). Мусіць дакапаемся да крыжу. Скажы, Андрэй, хоць у апошнюю хвіліну.

Малаштан (*з пучком чароту*). Чарот, пане Чырва? А чаго гэта чарот?

Дудач (*ціха*). Адказвай, дзед (*усе напружана чакаюць адказу*).

Чырва (*нарэшце зламаўся. Задрыжаў увесь і, як гара, упаў перад Дудачом на калені*). Не капайце. Умаляю вас, не капайце.

Дудач. Позна. Цяпер позна. Падымеце яго, я-ж ня земскі...

Чырва. Госпадам богам Ісусам... Ленінам прашу вас... Ён-жа быў за народ... Не капайце! Сам выкапаю. Крышку схаваў. Галадаем-жа. Думаў хоць колькі пудоў для дзяцей... не капайце, таварыш рабочы...

Дудач. Таварыш. Каму таварыш?

Малаштан. Ты вораг!

Бяднячка (*прыбягае*). Пшаніца!!! (*Становіцца на авансцэне, з яе прыполу залатым струменем доўга сыплецца на сцэну пшаніца і гіпнотызуе людзей*).

Усе (*ціха*). Пшаніца. (*Стаяць, нібы зачарованыя*).

Дудач (*пад уражаньнем гэтага нязвычайнага для яго факту*). Пшаніца ў зямлі!.. (*Доўгая паўза*). А ты чуў калі-небудзь, каб мы закопвалі ў зямлю плугі, бароны, машыны? Можа чуў хто з вас, што рабочыя зрабілі цыстэрны для нафты, якая награе паравік у вашым млыне, і закапалі ў зямлю? А пасьля сказалі на сходзе: няма цыстэрны. Няма плугоў. Га? Няма машын! На вольным рынку прадамо. Спэкулянтам! Ня чулі? Дык можа ты. Чырва, чуў, што рабочы нічога ня мае апрача гэтых вось рук, глядзі, чырваточына, панюхай! На іх родзіць толькі мазоль. Ты чуў? Але ты ня хочаш, каб яны пра гэта чулі, тыя, што адкапалі тваю пшаніцу. Чаго-ж вы, Козыр, хочаце? Вядома! Зьнішчыць дыктатуру, вярнуць сабе зямлю і зноў сесьці на Малаштана. Не пашчасьлівіцца! Капайце, таварышы.

Малаштан. Мы ўжо дакапаліся. Да ўсяго дакапаліся. А ты, Чырва, казаў, што я не дакапаюся. Дайце мне сажань, я памераю глыбіню. (*Пабег*).

Рамашка. Ня злуйся, Андрэй, ну, а я табе так скажу: не па дарозе нам. І да рэволюцыі было не па дарозе, а цяпер і пагатоў. Разышліся, як на дрэве дзьве галінкі. Твая ў стары сьвет, а мая ў новы. Твая да тых, хто прыгнятае, а мая да тых, хто вызваляе. Ты змагаўся супраць нас, а мы супраць цябе. Так што ня злуйся, што мы перамаглі. На тое і змаганьне...

Малаштан (*прыбягае з сажнем*). Глыбіня... (*Паўза*). Вось гэта, дык глыбіня... Сажань усадзіў, руку таксама і дна не дастаў. Пудоў на шэсьцьсот, га, Чырва?

Чырва. Ты... (*кідаецца на Дудача, хапае яго за грудзі*). Ты ня возьмеш!!! (*Рух сярод людзей*).

Дудач (*строс яго з сябе, як ігрушу і адышоў*). Як-жа я не вазьму, калі рэспубліка патрабуе хлеба? Га? А ён-жа гніе ў цябе ў зямлі! Вазьму. Панятыя. Запячатайце сені. Заўтра перавезяце хлеб у магазын. Галава, Нябаба, трашчыць галава.

Нябаба. Хадзем. (*Пашлі*).

Рамашка. А цяпер ты, Чырва, бяз Козыра. (*Пашоў. Усе пашлі. Чырва застаецца адзін. Цямнее. Асьветлены зялёным праменем месяца, ён згорблены, доўга, нярухома стаіць. З глыбіні двара выходзіць Гусак. Ён падыходзіць да Чырвы і моўчкі дае яму адрэз*).

Заслона

## ДЗЕЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ

### 10

### Госпадзі, украпі дзясьніцу маю...

Чуваць глухія ўдары звону. Падымаецца заслона. Старая званіца. Унізе дзьверы. На другім паверсе шырокія вокны. Відаць вялікі звон. Ад сэрца звана падае вяроўка. Месячная ноч. Царкоўны сторож адбівае гадзіны.

Сторож... восем... дзевяць... дзесяць... адзінаццаць... адзінаццаць... дванаццаць... Ту-у, даруй, госпадзі, здаецца адну гадзіну лішнюю выбіў. Гм. Хіба адбіць назад? (*Б'е яшчэ раз*). Дванаццаць! Сьпі народ праваслаўны. (*Пазяхае і ідзе напяваючы*). „Да-воз-крэсь-нет б-о-о-о хірастачацца вразі яго-оо“.

Чырва (*зьяўляецца ў вакне званіцы*). Якая месячная ноч. На небе рай, а на зямлі—пекла, госпадзі. Пашлі на месяц хмару! Закрый яго!.. *Глядзіць на месяц*). Рана сьмяешся, паплакаў-бы перш! (*Зьнікае*).

*Унізе зьяўляюцца Певень і Сыроватка.*

Сыроватка (*хрысьціцца*). Сьвяты ўгоднік, Мікола, заступі, спасі, сахрані і памілуй нас...

Певень. Цішэй! маліся ў душы. Яно дойдзе... Здаецца выбіла дванаццаць?

Сыроватка. Трынаццаць.

Певень. Няўжо?

Сыроватка. А пасьля яшчэ раз. (*Певень ціхенька тузае за вяроўку*).

Чырва (*зьяўляецца ў вакне, кідае ўніз ключы*). Ціха адмыкай... (*Сыроватка адмыкае дзьверы і яны абудва зьнікаюць у сярэдзіне. Праз хвіліну яны зьяўляюцца ў вакне каля Чырвы*).

Чырва. Ну, што?

Певень. Мы прапалі! Усё прапала! Сяло ўжо ня тым стала. Здурнеў народ. Кожны вязе хлеб. Што з імі зрабіў гэты Дудач? На сходзе траха не пазабівалі нас. Дудач ім кажа: „толькі стэрвы могуць так зрабіць, як зрабіў Чырва. Толькі стэрвы і ворагі пролетарыяту, бядняцкага і серадняцкага сялянства“. Кажу яго ўласнымі славамі. Ды мы, кажа, не падамося. Дванаццаць, кажа, гадоў не зламалі нас, а цяпер,

гаворыць, чорта з два. Уперад, кажа, за дыктатуру пролетарыяту, аж да комунізму! А мы, калі заўтра не адвязем, дык канфіскуюць усё да ніткі. Так пастанавіў сход. Пазбавілі голасу. У чорныя сьпісы ўпісалі і на варотах прыбілі! Што рабіць? Што рабіць?

Сыроватка. Твой хлеб ужо перавезьлі ў магазын. Зважылі. Шэсьцьсот дваццаць пяць пудоў, як адзін фунт.

Чырва (*стогне*). Шэсьцьсот дваццаць пяць і было. Забралі. Я ўжо ведаю. Быў.

Сыроватка. Дзе?

Чырва. Там, на сваім двары. Прышоў, нібы злодзей. Падкраўся. Сабакі кінуліся мне на грудзі. (*Абняў Сыроватку*). Барожка мая, кажу. Сука мая, Барожка... А яна лашчыцца. Цалуе мне грудзі, рукі. Скавыча, нібы скардзіцца на абразу. (*Абняў Пеўня*). А Сірко вые. Страшна вые. Падыходжу да хлява. Мацаю рукою. Няма пячаткі... І замка няма... Адчыняю дзьверы. Уваходжу... Толькі вецер гудзе. Яма парожняя, парожняя да дна.

Певень. Ну, раз парожняя, дык парожняя, а нас канфіскуюць. Чуеш?

Сыроватка. Канфіскуюць!

Чырва. Ня вас, а ўсіх нас... Злыбяда наступае на горла. Дудач перамог. А ты ведаеш, колькі важыць гэтая перамога? Гэта шэсьць тысяч цьвікоў у нашы труны. Мы падаем у яму... Гэта не пшаніцу выкапалі...

Певень. А што-ж?

Чырва. Гэта нашу сілу выпілі. Пладовае дрэва ад зярняцы адлучылі. Ды хто-ж мяне абадранца паслухае. Хто схіліцца перада мною, калі будзе ведаць, што ў мяне няма, не пазычу, ня дам на адработак, бо самога абадралі... Голасу пазбавілі...

Певень. А на якога д'ябла мне голас? Няхай бяруць, абы не чапалі пшаніцы.

Сыроватка. Э, не. Бяз голаса таксама дрэнна.

Чырва. Певень, калі-б ты быў ня певень, а арол, ты-б ведаў-бы, што значыць утраціць моцную дзюбу! Ня ты будзеш дзяўбці, а цябе. Чуеш? Бяз голаса цябе заклююць. Але ты певень і не разумееш гэтага.

Сыроватка... Пасьлязаўтра Дудач едзе ў горад. Усё сяло вязе хлеб. Само вязе...

Певень. ...чырвоным абозам. Ужо завезьлі на склад дзевяць тысяч.

Чырва. Дзевяць?

Сыроватка (*ябедна*). Вось табе і плян! Казаў ты на сходзе, што можа і дванаццаць нассыпаюць. Вось ужо дзевяць нассыпалі... і яшчэ сыплюць...

Певень. Сто душ—сто груш... што праўда, то праўда. Еж цяпер. Арол. Які арол знайшоўся, хе!

Чырва. Не павязе! Не, не павязе!..

Певень. Як гэта не павязе, калі ўжо і сьцяг нарыхтавалі, а колектыў трактарам вязе свой хлеб. А ты кажаш не павязе.

Чырва. Не павязе Дудач нашага хлеба. Чуеце? (*Прыцягвае іх да сябе*).

Певень. Дык...

Сыроватка. Выходзіць...

Чырва. Маўчэце. (*Усе трое сыходзяцца ў кучу і доўга ўглядаюцца адзін аднаму ў вочы*). Маўчэце!

*Уніве зьяўляецца Гусак. Тузае за вяроўку. Чырва кінуўся да вакна.*

*Певень і Сыроватка спужана адступаюць углыб званіцы.*

Гусак (*ціха*). Галё! (*Чырва дае знак падняцца наверх. Ён падымаецца*).

Чырва. Прынёс?

Гусак (*дае стрэльбу*). Бярэце. Перадаю ў моцныя рукі. А адрэз дайце назад. Надыходзяць трывожныя часы. Бачу, што не знайду сабе прыстані... (*Хавае адрэз пад крысо*).

Певень (*падыходзіць*). Адрэз! Гэта лепш...

Гусак (*пахмура*). Самому трэба.

Сыроватка. Я чалавак не вайсковы, але ведаю, што са стрэльбы толькі вераб'ёў добра біць. Адрэз, гэта пудла ня дасьць...

Чырва. Не, не, ня зьбівайце мяне. Адрэз, гэта—зброя бандыта. А я-ж за сваё дабро. За жыцьцё. Вось мая сястрыца і парадніца: дзедаўская спадчына. Набіў? Добра... Валавянаю пшаніцаю. Давай сюды... Цяпер ідзеце. Пакіньце мяне аднаго. Дайце мне ўзмацніць дух. Ідзеце... (*Певень, Сыроватка, Гусак адзін за адным выходзяць з дзьвярэй і за званіцаю зьнікаюць*).

Чырва. Ты, уседзяржыцель! Дзе ты дзеўся? Ты дапусьціў есі, каб Дудач перамог Чырву Козыра. Але ты ведаеш, што ня той гэрой, які перамог, але той, хто выкруціўся! Украпі-ж, госпадзі, дзясьніцу маю, каб ворагі нашы не пасьмяяліся... (*Бярэ стрэльбу, яшчэ раз важыць яе на руцэ і зьнікае. Праз хвілінку выходзіць з дзьвярэй і, крадучыся, ідзе ў бок царквы*).

Цёмна.

11

## Праліта кроў

Двор Малаштана. З правага боку хата. На заднім пляне старое гумно з шырокімі з чароту дзьвярыма. Яны расчынены. У гумне на тапчане з саломаю ляжыць Дудач. Трывожна сьпіць. З хаты выходзіць Малаштан, пазяхае і падыходзіць да гумна.

Малаштан. Вытрасьлі... (*Пазяхае*).

Дудач (*хворы. Раптам ускаквае на локці*). Хто тут?

Малаштан. Гэта я.

Дудач. Хто ты?

Малаштан. Малаштан.

Дудач. Які Малаштан?

Малаштан. Ды Пётра Малаштан.

Дудач (*падае на пасьцель і вярзе*). Ты б'еш ня ў тую цэль, Сьцёпка! ня ў тую.

Малаштан. Якога гэта Сьцёпку вы, таварыш Дудач, успамінаеце?

Дудач? Ня ў тую, кажу. Ты ведаеш сяло? Гарбачы ведаеш? А ты Чырву Козыра ведаеш?

Малаштан. Дзіва, што я ведаю. Сёньня ўжо кума і дзяцей маіх выгнала з двара. Ідзеце, кажа, чарцяната галапузыя, да свайго разумнага бацькі, да скажэце яму, што хто меў, той і будзе мець, а хто ня меў, той і ня будзе мець, як падраная торба?

Дудач. Чаго табе трэба?

Малаштан. Пагутарыць. Вось адчуваю, што няпраўда, а не магу адказаць. І ў хаце аднаму нявесела. Быццам Чырва гоніцца за мною. Што яно азначае? Ці гэта здань якая, ці што?

Дудач. Ня дрэф, Малаштан, бі ў цэль...

Малаштан. Нібы ён тут за сьпіною... Дванаццаць гадоў таму служыў у яго, махаў цэпам па таку, жыта малаціў. Вось я бачу такі малюнак... Лета. Сьпёка такая, што трава вяне. І вось гоняць па вуліцы Міхайлу Сьляпога. Чырва нясе павесіўшы на грабілна сіненькую кофтачку, нібы пратэсу і гукае: украў у мае жонкі Міхайла Сьляпы, украў. Беце яго, праваслаўныя. Тут яго зьмясілі і растапталі. А быў чалавек, як звон. За рэволюцыю ішоў.

Дудач. А, Чырва Козыр. Прарок... Камень на тваей шыі... Ідзі сюды, Малаштан... як бухкае кроў. Ты чуў такое слова—эксплёататар? Э-э... Малаштан, ты ні чорта не разумееш. Ты думаў, што дыктатура гэта адзін Дудач? Аж яно з Дудачом супраць Чырвы і Малаштан і Рамашка. Разам! Супраць эксплёататара. Бі яго, сволач, пад рабрыну!

Малаштан (*хапае Дудача за руку, мацае лоб*). Таварыш! Ды ў цябе-ж гарачка... ты-ж гарыш... запаленьне цела... ты захварэў.

Дудач (*падышоў да дзьвярэй, дыхнуў, правёў рукою па твары. Іншым тонам*). А ведаеш, Малаштан, твая праўда, гэта малярыя. (*Уздрыгануўся*). Балота... камары... Ух, як трашчыць галава.

Малаштан. Таварыш, нельга-ж у гумне... Хадзем у хату. Я адвяду цябе... Палажу на сваю пасьцель... прылажу канпрэс. Каляндар піша, што ад гарачкі канпрэс... хадзем. На... вось мой палітон. (*Накідае яму на плечы свой палітон*). Абапрыся. Вось так... хадзем...

Дудач. Гэта пройдзе. Заўтра мы, Малаштан, едзем.

Малаштан. Едзем! і я еду з чырвоным абозам. Едзем! Дзень добры, скажу, таварышы... А як вы тут маецеся? (*Пашлі ў хату*).

*Зьяўляюцца Нябаба і Каваль. Яны ўстрывожаны.*

Нябаба. Можа табе здалося?

Каваль (*ціха*). Нічога не здалося. Вышлі з-за плоту ўтраіх. Аднаго я пазнаў: Гусак. Ён пашоў з імі, але тыя недзе на агародах. Я азірнуўся назад, а з плоту шаснуў Чырва... і нібы ў воду кануў.

Нябаба (*счакаўшы*). Значыць ён з сяла нікуды ня зьнік? Ён тут і схаваўся.

Каваль. Гэта іншая справа. Цяпер ня гэта важна, а тое, што яны нешта надумалі...

Нябаба. Ты думаеш, што яны... Паўлік!

Каваль. Цішэй. Я ўпэўнены...

Нябаба. Будзі таварыша Дудача. (*Кінуліся ў гумно. Няма*).

Нябаба. Няма.

Каваль. Значыць ён яшчэ ў сельсавеце. Там апошняя падрыхтоўка.

Нябаба. Паўлік, адным духам туды! (*Зьнікаюць*).

Малаштан (*выходзіць з хаты*). Ну, Малаштан, ідзі адпачывай, бо заўтра едзеш у горад. Так сказаў Дудач. Цяпер і я скажу: лажыся, Малаштан, і ня тужы. Досьвіткам падрыхтуй сваю „рысачку" і гайда ў госьці, вось як!.. (*Уваходзіць у гумно, зачыняе за сабою дзьверы. Цішыня. Музыка зорак. З-за клуні выплывае Чырва. Падкрадаецца да дзьвярэй. Прыслухоўваецца. Паўза*).

Чырва. Сьпіш?.. Я не разбуджу... сьпі... гарадзкі вурвіцель. А я табе ўсыплю пшанічкі... (*Узводзіць курок. Прачыняе дзьверы, настаўляе рулю стрэльбы і цэліцца*). Пшанічкі. Мушкі ня відаць... (*Прасоўваецца ў гумно. Стрэл. У дзьвярах праз шчыліну блісънуў агонь. Чуваць як Малаштан стогне. Чырва выскаквае з гумна, затыкае пальцам дула стрэльбы*). Чырва улучыў! Пацэліў... Пацэліў. Цяпер уцякай! (*Насустрач яму, нібы з-пад зямлі вырастаюць Каваль і Нябаба. Загарадзілі яму дарогу. Доўгая паўза*).

Нябаба. Ты забіў яго?

Каваль. Забіў Дудача?

Чырва. З дарогі!

Нябаба (*выхопלівае наган*). Ты забіў?!

Чырва. З дарогі сьмецьце! (*Б'е Нябабу стрэльбаю па руцэ. Наган падае на зямлю*).

Каваль (*не сваім голасам*). Забіў??? (*Кідаецца на Чырву. Нябаба нападае з другога боку. Яны сашчапіліся з ім нібы двое маладых зьвяркоў са старым мядзьведзем. Чырва хрыпіць, раве. З хаты выбягае Дудач. Хапае Чырву за горла. Чырва раптам нямее, шырока расчыненымі вачыма, ён углядаецца проста на публіку*).

Нябаба. Не забіў!

Каваль. Жывы!

Дудач (*паварачвае Чырву тварам да сябе*). Пазнаеш?

Чырва (*дзіка закрычаў*). Жывы?!!

Дудач. Каго-ж ты забіў? (*Доўгая паўза*). *З гумна чуваць стогн. Нябаба бяжыць туды. Ракам выпаўзае ранены Малаштан. Пры сьвятле жоўтага прожэктара, ён нібы здань падпаўзае да групы і хоча стаць на ногі*).

Малаштан. Хто... гэта... хто мяне... ты?! Кум, Чырва?!

Чырва (*раве*). Не цябе, дурань, не цябе хацеў...

Малаштан. Не мяне... ведаю... Ты хацеў забіць тое, што больш за мяне. Не заб'еш! У зямлю пойдзеш! Мая кроў за Дудача... А твая... для гною... (*Падымае з зямлі Нябабін рэвольвэр*).

Дудач. Малаштан!

Малаштан (*хацеў стрэліць у Чырву, але рука яго дрыжыць і ён страляе ў бок*). Ды не маею слабою рукою... (*Падае на локці. Чырва кідаецца ўцякаць, але Каваль хапае яго за плечы*).

Каваль. Стой!

Дудач. Куды, дзед, бяжыш? Твая дарога скончылася...

Цёмна.

## 12

### Чуеце? Кліча!

Завод у вялікім гармонічным руху.

Кныш (*убягае*). Таварышы! Едуць!

Рабочыя. Едуць! Едуць!

Зубчэнка. Спаткаць, таварышы, як найлепей спаткаць!

Кныш. А ліст ад Дудача... „Тысяча дзевяцьсот дваццаць дзевятага году, здароў Кныш і ўсе таварышы кацельшчыкі і ўся братва нашага заводу імя Андрэ Марці... Пішу я вам з дальняга сяла нашае Чырвонае Украіны, з сяла глухога, але чырназёмнага... (*З вуліцы чувапь духавая музыка. У вокнах заводу мільганулі сьцягі*).

Рабочыя. Ідуць.

Ахрыменка. Я скажу ім прамову!

Кныш. Толькі не пачынай з „міжнароднага“.

Ахрыменка. Я з унутранага пачну.

*Убягае Дудач.*

Дудач. Здарова катляры! Сустракайце гасьцей!

*Уваходзяць са сьцягам сяляне. У Малаштана забінтавана галава. Рамашка, Нечай, Гарох, Бяднячка, Каваль, Нябаба, Чарнега, I селянін, дзед Сава і яшчэ некалькі сялян.*

Рабочыя. Здаровы, таварышочкі! Здароў Дудач! (*Вітаюцца, радасны гоман*).

Кныш (*абдымае Дудача*). Дай я, просты катляр, абдыму гэроя!..

Дудач. Здароў, здароў, Сьцёпа. Здарова Ганка! Ну, як вы тут? Не праігралі?

Зубчэнка. Таварышы! Вы чуеце? (*Гоман: „ого“, „кінь, Грыша“*).

Малаштан. Дзень добры, таварышы, як вы тут пражываеце?

Ахрыменка (*выступае наперад*). Пражываем мы, браток, як агонь, што разгараецца. Бывае, што полымя ня ўверх б'е, а ў шырыню сьцелецца. Але пасьля, заняўшы тэрыторыю, зноў уздымаецца. А як там ваша прамысловасьць і хто гэта цябе прычасьціў?

Малаштан. Быўшы кум, інхвузорыя, альбо Чырва бяз Козыра.

Рабочыя. Як?

Дудач. Слухайце, катляры. Вось перад вамі... гэроі рэволюцыі! Гэта бядняк Малаштан. Кум яго ахрысьціў за дыктатуру... агнём і порахам.

Рабочыя. Мацней будзе.

Дудач. Думаю, што будзе моцна. А гэта—Рамашка. Той Рамашка, што супроць белых хадзіў у дзевятнаццатым годзе і зноў пашоў тысяча дзевяцьсот дваццаць дзевятага.

Рабочыя. Любата.

Дудач. А гэта бяднячка Наста, якая напэўна будзе калі-небудзь старшынёю Акрвыканкому... (*Сьмех, шум задавальненьня*).

Бяднячка. І скажа-ж так... Мы лепей высунем Гароха.

Гарох. Не такі, бачыце, момант, што ня спраўлюся. (*Сьмех*).

Дудач. А гэта—камса. Найясьнейшае полымя рэволюцыі. Наскрозь зямлю прапякае. Так Кавалёк? Чаго маўчыш? Нябаба, раскажы, як ты семдзесят шэсьць вёрст на кані... Чакайце! А яшчэ-ж дзед Сава! Вось! Гэта той самы дзед Сава, што гэтае зімы ажаніўся! (*Сьмех*). Гэта першая перамога. А другая—даў дзяржаве шэсьцьдзесят пудоў хлеба.

Майстра. І ажаніўся. Вось за гэта пагушкаць дзеда! (*Сьмех, выгукі: на гура дзеда!*).

Кныш. Слава! Слава! Няхай жыве дзед Сава. Ого, я яшчэ на поэта выйду...

Дзед. Хіба-ж можна так высока падкідаць чалавека. Яшчэ заб'яце, а ў мяне-ж маладая жонка—усяго шэсьцьдзесят трэці год пашоў. (*Рогат*).

Малаштан (*падаўся наперад*). Таварышы рабочыя! Перш за ўсё я хачу перадаць вам прывітаньне ад нашага сялянства, ад беднякоў і серадпякоў. Мы сеем жыта, пшаніцу і ўсякую... зернавую культуру. Ну, але-ж зямлю дручком не ўскалупаеш, хлеба ня будзеш есьці. Трэба яе машынаю драпануць. Так што давайце трактара... (*Гоман „правільна“*). І яшчэ сказалі напомніць вам, што ў дзевятнаццатым годзе некаторыя з нашага сяла разам з вамі ішлі супроць ворагаў рэволюцыі, а цяпер мы ідзем разам з вамі ўперад, хоць я да гэтага часу і ў тумане хадзіў, але затое цяпер гэта прайшло. І вось, канчаю свой даклад і хачу сказаць: няхай жыве дыктатура пролетарыяту!

Рабочыя. Любата! (*Воплескі*).

Рамашка. І я хачу сказаць... таварышы... (*Усе слухаюць*). Многа трэба гаварыць... (*махнуў рукою*). Далучаюся да слоў папярэдняга прамоўцы і дадам, што ўсё наша сяло Гарбачы організуе вялікі колектыў, які будзе называцца шлях да комунізму. (*Воплескі, гоман, выгукі*).

Малаштан. І ў якім ня будзе месца ніякім Чырвам!

Кныш. Ах, Дудач, Дудач, што-ж гэта ты нарабіў. Надудачыў? (*Сьмех*).

Дудач. Братва! Мне хочацца зараз... не ўгадаеш Сьцёпа! Хочацца засьпяваць! Але так засьпяваць, каб разам з намі засьпяваў увесь новы сьвет. Але-ж наш майстра Пiлiп Тодаравiч скажа, што гэта прагул. Ён скажа, што перад намі яшчэ мора работы і цэлы акіян змаганьня. І ён не памыліцца. Ідзеце-ж, таварышочкі, у сяло, яно чакае вас, свой баявы актыў. Ідзеце і скажэце ўсім гарбачанам... скажэце ім, што... Кавалёк, Нябаба, што вы ім павінны сказаць?

Нябаба. Што жыць—значыць змагацца і палымнець!

Дудач. Змагацца і палымнець. Што змаганьне наша жорсткае і разам з тым цудоўнае, вялікае змаганьне не за пуд хлеба, а за новы сьвет! Да яе... (*Гудок*). Чуеце? Кліча! (*Усе слухаюць. Завод загуў, пашоў. Ударылі малаткі, загуркацела пнэўматыка, блiснуў агонь*).

Заслона.

*Пераклад з украінскае мовы* **В. Сташэўскага.**

9/XI 1929 г.
г. Харкiв. Холодна Гора.

## ДВА ВЕРШЫ

**Юлі Таўбін**

Сьнягі шырокаю заслонай
Закрылі ціхі далягляд.
Вячэрнім вогнішчам зялёным
Дрыжыць запалены закат.

Кладуцца цені нечакана,
Як чорны пласт, як лёгкі дым
На дзераўляныя парканы,
На абгалёныя сады.

Забыты думы і паперы,
Ў спакоі ціхім смутак зьнік...
Як лёгка жыць... Як лёгка верыць...
Як тае парай маладзік...

* * *

Паў на поле хуткі сьнег,
Лёгкі лёд скаваў аборкі.
Ў зачарованым паўсьне
На зямлю спадаюць зоркі.
Ўзад і ўперад—сьнег ды гладзь...
Не абняць прастораў вокам...
Можна думай прыгадаць
Аб цудоўным і далёкім.

1/II 1930.
Мсьціслаў.

## Я СТАЯЎ ЛЯ ДАРОГ...

**Сяргей Астрэйка**

Я стаяў ля дарог
І глядзеў у туман
Дзе чарнелі пахілыя
гумны.
Уставала зара
Ля квяцістых палян,
Каласіліся родныя шумы.

*

Людзі сьцежку знайшлі
Да шырокіх надзей,
Да бяскрайніх цьвятлі-
вістых мараў.
На палеткі прышоў
Златаструністы дзень—
Пад іскрыстыя бляскі
пажараў.

*

Годы бурна ідуць,
Пакідаюць сьляды
І ўраджаі надзеяў багатых
Уздымаюцца ў высь
І ў туман гарады,
Упіраюцца ў срэбныя
шаты.

*

А палеткі й лугі
Зашумелі, як шоўк,
І ў майдан векавечны
зьліліся.
Родны край дарагі
Сваё шчасьце знайшоў,
Аб чым марыў і думаў
калісьці.

*

Я вітаю размах
Будаўнічай пары,
Рулявых я вітаю краіны...
І плывуць ручнікі
Асмуглелай зары
Па шырокай нябеснай
раўніне.

в. Каласоўшчына.
17/I—30 г.

# ПАРАБКІ

*(З жыцьця Заходняй Беларусі)*

**Язэп Пралеска**

Іх сорак.

Сорак сем'яў парабкаў у маёнтку пана Халхоўскага, апроч чатырох удоў з дзецьмі—бобам.

Удовы—Андрэіха; мужык яе летась быў забіты разьюшанымі стаеннымі жарабцамі, якіх ён выводзіў на паказ панскім гасьцям. Даўнарыха—ўжо год бяз мужа, якому малатарняй адарвала абедзьве рукі і які бяз лекавай дапамогі памёр ад гангрэны. Рыгорыха—быўшая панская пакаёўка-палюбоўніца. Рыгор загінуў невядома дзе і пры якіх варунках, пашоўшы з панам на паляваньне. Пан толькі абвясьціў, што Рыгор утапіўся, і паслаў „шукаць", але дарэмны пошукі, нідзе яго не знайшлі, прапаў бяз сьледу. І чацьвертая—жонка лясьніка Каравайчыка, які вельмі шчыра служыў пану; за кожную сухастоіну, за падбор сукоў адбіраў у сялян сякеры, падсядзёлкі, перадаваў эканому,—а той за гэта скуру зьдзіраў: альбо прымусіць адрабіць за бярэмя сукоў тыдзень у гарачую летнюю пару, альбо падасьць у суд, у панскі суд. Каравайчыка знала ўся ваколічная бедната, як панскага падлізу, ну і... знайшліся людзі, прыкончылі...

* * *

Рыхтавалі зямлю пад засеў ярыны.

Сёньня цівун выгнаў раней, чым у звычайныя дні. Заўтра нядзеля, коні адпачнуць, а воркі многа—трэба сьпяшацца.

Яшчэ досьвітам парабкі былі на полі. Цівун вызначыў кожнаму вучастак. Добра выпешчаныя сорак пар коняй ішлі поўнай ступою, а за плугамі ледзь пасьпяваючы дыбалі парабкі.

Было ўжо каля 9 гадзін, калі стары сівабароды парабак Сымон канчаткова выбіўся з сіл, млявасьць падразала ногі.

— Вось, каб выпіць халодненькай вадзіцы, прысесьці адпачыць.— Кругі ў вачох засьляпілі коней і баразну... усё закруцілася... Сымон выпусьціў плуг з рук, паваліўся на ральлю.

Прызвычаеныя коні сталі...

Растаптаныя лапці зьвісьлі ў баразну, расхлістаныя ўпалыя грудзі цяжка дыхалі, зямлісты твар яшчэ больш пачарнеў, вочы ўваліліся, губы

нешта шэпчуць... Ачнуўся... памеціўся ўстаць, але зямля паплыла... Малюнкі мінулага нібы вырастаюць з ральлі...

... Нявестка, дзябёлая, чарнявая, з завязанай чырвонай хусткай вязе гной. Пяцігадовы ўнучак бяжыць праз поле да маці, спатыкаецца, плача, хоча пад'ехаць. Панскія сабакі напалі на дзіця... Парвалі. Нявестка дабегла да дзіцяці—яно было мёртвым. Яна галосіць, кідаецца аб зямлю... сьмяецца... бегае па полі... яе ловяць, вяжуць... Сын, што малады дубок, схапіў сякеру, пабег біць сабак... пана... Зьвязалі, кінулі ў панскі склеп... а на другі дзень... зьнялі з дзягі...

Сымон зжахнуўся. Апомніўся... 4 гады, а стаяць у ваччу, як жывыя... Няма сілы.. Прыдзецца як стараму Вінцэсю памерці з голаду пад плотам...

— Аб чым, дзядуля, задумаўся?—абарваў думку Сымона Язэп.— Даўно адпачываеш? Не дасі рады, як бачна, сёньня ўсё ўзараць.

Сымон глядзеў на няўзворанае поле і нібы сам сабе гаварыў:

— Так, ня дам рады, зусім самлеў.

— Вось што, дзядуля! Мужчыны гавораць, каб сёньня ня ўзворваць вызначанай нормы. Табе мы дапаможамураўняцца з намі. А цяпер— гайда, ладзь коні, едзьма сьнедаць.

— Як людзі, так і я,—сказаў Сымон і памеціўся ўставаць.

— Высмакталі з дзядулі ўсю сілу,—падумаў Язэп і, падхапіўшы Сымона за руку, дапамог яму ўстаць.

Сымон з зайздрасьцю паглядзеў на Язэпа. Нявысокі, шыракаплечы дзяцюк, круглы твар абрастаў мохам, ласкавыя і ўдумлівыя вочы вабілі да сябе.

— Быў і я малады, дужы, спадзяваўся...

Язэп не даслухаў Сымона і пабег далей.

А праз некалькі хвілін усе парабкі пакідалі поле і адзін за адным цягнуліся сьнедаць.

Цівун быў на сенажаці, дзе парабчанкі баранавалі і раўналі засееныцімафееўкай лог. Конь пад ім гарцаваў. Ён пад'язджаў то да аднэй, то да другой, галёкаў на іх, падганяў коняй, пакручваючы свае лахматыя вусы. Вочы яго блішчэлі нібы ў драпежніка. Задаволенасьць пырскала з усёй яго постаці. З пагардаю паглядаў наўкола, нібы сам гаспадар, прынамсі бізун у яго руках напамінаў гаспадарскі.

— Ту завіхаюцца, а як там, з ворывам,—падумаў цівун і павярнуў каня...

Пустое поле? Дзе-ж парабкі? Ен з усёй сілы выцяў каня і навыцяжкі паскакаў за парабкамі...

Дагнаўшы іх недалёка ад стайні і ледзь памятуючы сябе ад злосьці, цівун спытаў:

— Чаму самавольна кінулі працу раней часу?

— Раней выйшлі, пара адпачыць, мы не машыны,—адказалі з грамады парабкі, ня спыняючыся.

— Я вам кажу вярнецеся, будзе лепш, а то прападзе ўвесь дзень, не заплачу,—ізноў заскочыў цівун наперад.

— Ня страш, ня ты гаспадар, і сам-жа служыш, прамінаючы цівуна, гаварылі парабкі.

— Варочайцеся зараз назад, а не дык—праганю з двара.

— Вось круцядух, нябось сам нажорся.

— Разгадаваў бруха нашымі хунтамі... пачыналі абурацца парабкі і паскорылі крок.

— Хто хоча застацца ў маёнтку—вярнецеся!

Дружны рогат парабкоў быў адказам цівуну. Ён зразумеў, што пагрозы не дапамогуць. Пасінелы ад злосьці папёрся ў палац да эканома.

— Вось гад дык гад,—развражалі парабкі.—Такога цівуна яшчэ ніколі ня было. Ня вытрымаем. Жывых у зямлю пазаганяе.

— Ня дзіва, служыў жандарам у тым самым палку, дзе пан быў афіцэрам. Разам расстрэльвалі паўстанцаў.

* * *

Сымон ледзьве плёўся дадому. Пераваліўшыся праз парог ён вачыма акінуў хатнія манаткі. На нарах праз дзіркі старой посьцілкі выбівалася сьцёртая салома, у кутку ляжала жончына дзявочая падушка. Нары так вабілі яго, што ён ня стрымаўся і рынуўся на іх. Над галавой на бэльцы вісеў стары кажух, латы папрадзіраліся, поўсьць выбівалася. Сьвітка зьвісла адною крысою з бэлькі і Сымон праз яе дзіркі разглядаў печ. Скрозь пуста. Старыя нагавіцы і лапці нібы прасіліся „не чапай нас, мы ўжо сваё адслужылі“...

— А ім лепш як мне, думаў Сымон,—вось добра было-б паляжаць на печы, каб ніхто не чапаў.

Ад суседа прышла жонка. Згорбленая, яна доўга нешта гаварыла бяззубым ротам, але Сымон ня мог разабраць і сам запытаў, ці ёсьць што есьці.

— Бульбы саганок і зацірку вару ў Антосіхі. Зараз прынясу...

— Жыві, працуй. Бульба ды іржаная зацірка...

Сымоніха прынесла ежу.

— Уставай, пасілкуйся, а то зараз будуць мужчыны ісьці, не пасьпееш зьесьці.

Цяжка было Сымону растацца з нарамі, але страх, што пан прагоніць з хаты, штурхаў.

Сымон сеў на зэдзік і пачаў есьці.

Чамусьці сёньня асабліва адчувалася хатняя пустата. Ён абводзіў хату вачыма і нібы пытаў:

— Няўжо гэта ўсё, што мы зарабілі за ўсё жыцьцё?

Зрок спыніўся на абшарпаным абразіку, які быў так закуран дымам, заседжан мухамі і заткан павуціньнем, што нельга было пазнаць, мужчынскі ці жаночы твар намалёван там.

— І гэта ўтрапеньне ні чорта ня варта,—падумаў нечакана Сымон і спужаўся сам сваіх думак.

Пабарабанілі ў вакно. Гэта мужчыны пасьнедаўшы ішлі ўжо на поле. Сымон сербануў яшчэ некалькі лыжак заціркі, выбраў цалейшых бульбін, палажыў запазуху і рушыў за парабкамі.

* * *

— Чулі, мужчыны, навіну?—прагаварыў Антось, нявысокі з крывою нагою, рэдзенькай бародкай, парабак. Фурман казаў маёй дзеўцы, што сёньня прыяжджае пан.

— Можа сышчам грошы ды ардынарыю.

— Пан прыедзе і грошы прывязе? Вось дурні! Ён прыедзе сам па грошы.

— Каб зрабілі так, як рабочыя на броварьі, дзе-б ён дзеўся, заплаціў-бы.

— З рабочымі іншая рэч, там спэцыяльнасьць, цяжэй знайсьці чалавека. А ты—сёньня пакінь, дык заўтра двух на тваё месца знойдзецца. Паўвёскі галечы, усе ня маюць працы, рады будуць, а ты дзе дзенешся?

— Чаму баіцёся так вясковай беднаты, яе таксама пан абдзірае.

— Ты, Язэпка, малады, і вельмі давяраеш качагару. Ён цябе выведзе ў людзі, толькі слухайся, астрогу ня мінеш,—заўважыў рыжы з перагнутым носам Дамінік, які меў надзею, што Язэп возьме яго дачку.

— А што ў вастрозе ня людзі? Яшчэ лепшыя за нас,—са злосьцю адказаў Язэп.—Ёсьць тут чаго шкадаваць.

— А усё-ж воля...

— Ну і воля!—нецярпліва перабіў Паўлюк, высокі плячысты мужчына. Горш няволі нідзе ня знойдзеш.

— І табе забаламуціў ужо мазгі? Ён умее!

— На тым тыдні такія рэчы гаварыў, што аж страх слухаць.

— А што, можа няпраўду гаворыць?

— Мала, што праўду, але як яе ўзяць гэту праўду?

— Па адным ня возьмеш, трэба ўсім разам. Чаму на броварьі, як забаставалі ўсе, дык і дамагліся павялічэньня заработку і плаціць у пору.

— Нябось, самі не дамагліся. Эканом казаў, што быў ліст ад пана, каб павялічыць, ну а яны якраз забаставалі...

— А чаму-ж не плаціў да забастоўкі?

— Хвароба яго ведае? Што я з панам у карты гуляю, ці што?—урэшце ўзлаваўшыся сказаў Дамінік.

— Я і сам хацеў-бы, каб як палепшала... Ды час ня той. Дзе ты дзенешся, як выкіне з двара?

— Вось і сёньня пагарачыліся...

* * *

Цівун з эканомам пад'ямджалі з поля да стайні.

Эканом быў бляды. Прыплюшчаныя вочы глядзелі з нянавісьцю на грамаду парабкоў, скулы дрыжэлі. Ён ледзь стрымліваў злосьць сьцёбаючы хлыстом па сядле. Конь нецярпліва гарцаваў на месцы.

— Хто гэта вас, мужчыны, нагаварыў кінуць працу раней часу?—і па твары яго заскакалі жылы, а вочы шукалі вінаватага.

— Самі, паночку, раней сёньня прыступілі да працы, раней і сьнедаць пайшлі,—у адзін голас адказалі парабкі і застанавіліся.

— Скажэце, хто першы?—ужо спакайней углядаючыся ў парабкоў, нібы распазнаючы, сказаў эканом.

— Усе разам,—як па загаду адказалі парабкі.

— Як то ўсе разам?—зьдзіўлена спытаў эканом і па твары яго распаўзлася зласьлівая ўсьмешка.

Парабкі маўчалі.

— На гэты раз я дарую, ідзеце араць, але глядзеце, каб ваша самавольства не завяло вас далёка. Ня хочаце працаваць—можаце ісьці. Хто вас тут трымае... Сьвет вялікі, а да мяне кожны дзень прыходзяць людзі прасіцца на работу. Магу абыйсьціся і бяз вас,—і эканом з цівунам ад'ехалі.

— Ня ўмееш ты ладзіць з парабкамі,—нэрвова адказаў эканом.—Не заўсёды крыкамі і пагрозамі возьмеш. Трэба часам і ласкай заахвоціць да работы. Вось бачыш, я: на каго трэба—пакрычу і нават вон праганю, з іншымі ў мяне гутарка знойдзецца і параду дам. Трэба ўмець жыць.

— А вось удовы ідуць.

— На сьнеданьне?—спытаў эканом.

— Так, паночку...

— Пара ўжо.

Эканом угледзеўся ў Рыгорыху. Прыгожая баба—вочы, стан, паходка—падумаў ён, і вось лёс—палюбоўніца пана і разам з тым парабчанка, абвешаная рызманамі. Ня ўмела жыць. Трэба было быць лепшай да мяне—была-б ахмістрыняй.

Цівун перабіў думку эканома:

— А што, пане эканом, хутка пачынаем сяўбу?

— На тым тыдні трэба пасеяць гарох і авёс,—са злосьцю адказаў эканом, нібы шкадуючы, што яго адарвалі ад прыемных мар.

— Ці пасьпеем?—як жнівеньская муха прыліпаў цівун.

— Трэба пасьпець...

* * *

Парабкі запрагалі коняй. Яны былі задаволены, што на гэты раз нават эканом не асабліва крычаў. А мо' вылічыць пры выдачы ардынарыі? Можа грошы не даплаціць? Чорт яго ведае, чым гэта скончыцца...

— А што, мужчыны, каб сёньня сказаць, як прыедзе пан, пра ардынарыю і грошы.

— Што там казаць? Пайсьці ўсім грамадой і патрабаваць, каб плаціў і кончана. Дакуль-жа цягнуць будзе?

— Па іншых маёнтках так і робяць. Гэта мы такія недарэкі,—сказаў Паўлюк, завязваючы лейцы,—галадаем і маўчым. Толькі і ўмеем, што скінуць шапку ды слухаць, што пан гаворыць.

Едучы на поле парабкі канчаткова дагаварыліся ня ўзорваць вызначанай нормы.

Ад поўдня стаяў цівун над іх каркам і рознымі спосабамі падганяў— аднаго пахваліць, на другога пакрычыць, не дарма-ж вучыў эканом. Але парабкі праходзілі баразну ўпустую і падсьмейваліся. Сам-жа бачыць, што ня гуляем.

Надвячоркам парабкі наперакор цівуну пакінулі працу і рушылі дадому...

Выпрагаючы коняй мужчыны парашылі сёньня-ж пайсьці да пана па грошы...

Да іх падышоў качагар. Нявысокага росту, хударлявы, бляды, шчокі ўваліўшыся, худыя жылістыя рукі, увесь замазаны мазутаю, ад чаго вочы асабліва блішчэлі—усё гэта рэзка вылучала яго сярод грамады парабкоў, твары якіх ад сіверу мелі буры выгляд, а шарачковая вопратка рабіла іх аднолькавымі.

Парабкі абкружылі яго цесным колам. Яны адчувалі некую блізкасьць да качагара, чакалі ад яго парады, дапамогі.

А ён нібы адгадаў думку парабкоў і пачаў расказваць пра барацьбу рабочых на фабрыках, парабкоў і вясковай беднаты ў маёнтках, няўдачы ў барацьбе і іх прычыны. Качагар заўважыў, што парабкі значна зьмяніліся. Яны не сьпяшаюцца дамоў, а з вялікай зацікаўленасьцю слухаюць яго і самі апавядаюць пра свае сутычкі з панам.

На пары стаенных жарабцоў пад'яжджаў фурман. Качагар, каб ня быць заўважаным, адвітаўся з парабкамі, неўзаметку штурхануў Паўлюка і пашоў да бровару.

Паўлюк здагадаўся, што „нешта ёсьць". Ён затрымаўся ў стайні, нібы папраўляючы загародку.

Вышаў. Азірнуўся. І хуткім крокам рушыў.

Каля чопу яго чакаў качагар. Ён адперазаў дзягу, дастаў скрутак... Паўлюк, хаваючы запазуху, падміргнуў качагару:

— Будуць хлопцы рады, даўно ўжо ў нас ня было гэтае літаратуры...

— Што парашылі мужчыны? Калі пойдзеце па заработак?

— Чакаем самаго пана. Фурман вярнуўся са станцыі, казаў, што заўтра павінен прыехаць. Спуску не дадзем: альбо плата, альбо... забастоўка. Прынамсі такая думка ў большасьці...

— Так, браток, цяпер скрозь вастрэй ставяцца пытаньні. Сёньня бачыў хлопца з Ганудкага маёнтку. Там бастуюць ужо другі дзень...

— Э-э, калі так, дык і мы не адстанем...

З заводу вышаў старшы майстар. Заўважыўшы яго, качагар кіўнуў Паўлюку і той пабрыў нацянькі дадому.

Па дарозе Паўлюк зайшоў да Язэпа. Каля Язэпавай хаты было некалькі чалавек парабкоў, якія гутарылі паміж сабою пра заработак, пра забастоўку.

— Якая забастоўка?—спытаў Паўлюк.

— У Гануце парабкі кінулі працу,—як-бы з зайздрасьцю сказаў Язэп.

— Вясковыя дзяўчаты адтуль прышлі, дык кажуць, што ўсе, як адзін. Нават пастух не пагнаў.

— Трэба даведацца, ці праўда. Мала, што могуць гаварыць дзяўчаты,—папраўляючы абору, адазваўся Антось. Няхай зьбегае Язэп і будзем ведаць. У яго-ж там сваякі.

Язэп не супярэчыў. Накінуўшы лахаміду, ён зайшоў у хату да Паўлюка, той даў яму некалькі адозваў, і Язэп пакрочыў у Гануту.

А назаўтра ледзь золак каля хат батракоў пачуўся гоман. Гэта цівун гнаў арпаваць збожжа для пасеву.

— Ня пойдзем на працу,—пакуль не атрымаем заробку, рашуча адмаўляліся парабкі.

Цівун доўга ўгаварваў, але дарэмна. Ніхто ня рушыў з месца. І пашоў ён да эканома, як мыла зьеўшы.

А парабкі зусім пасьмялелі.

* * *

Прыехаў пан.

Роем заварушыліся парабкі быццам перад бойкай ці навальніцай. Гоман то заціхаў, то ўздымаўся з такой сілаю, здавалася, што на іх напалі разбойнікі, рабуюць маемасьць, забіраюць жанок і дзяцей, а яны гатовы аддаць жыцьцё, але не папусьціцца.

Кабеты займалі не апошняе месца. Кожная лічыла патрэбным перакрычаць суседку ў сваёй крыўдзе.

— Час ужо ісьці па заработак,—некалькі разоў крычаў Паўлюк, але голасу яго ня было чутна.

Нарэшце, некалькі мужчын далучыліся да Паўлюка і грамада парабкоў рушыла да панскага палацу.

— Без заработку лепш не варочайцеся.

— Дзеці пухнуць з голаду,—крычалі жанчыны ўздагон, калі мужыкі адыйшлі ўжо на паўганей ад хат.

Парабкі падыйшлі да ганку палацу і сталі. Далей ня пойдзеш. Трэба чакаць. Выфранчаны лёкай, які прыехаў разам з панам, вышаў на ганак, зрабіў зьневажальную міну і запытаў:

— Каго трэба?

— Пана.

— Пан курыць сыгару і ня мае часу. Што хочаце?—усунуўшы рукі ў кішэні, спацыруючы па ганку, усьміхаўся лёкай.

— Што ён выкручваецца?—пачуліся галасы. Парабкі пераглянуліся. Не да жартаў было ім і гутарыць з лёкаем ня мелі ніякай ахвоты.

Больш за гадзіну прастаялі парабкі. Чакалі, пакуль выдзе пан. І кожная хвіліна павялічвала іх абурэньне. Хоць і не ўпяршыню даводзілася „чакаць пана", аднак, сёньня здавалася, што ён наўмысьля зьдзекуецца над імі.

Нарэшце вышаў пан. Высокага росту, выпешчаны, на твары чырвань. З вясёлаю ўхмылкаю падаўся з ганку да грамады парабкоў. Раптам стаў мяняцца ў твары. Нахмурыў бровы, углядаецца...

У шэрых вопратках, старых салдацкіх шапках стаяць нярухома парабкі. Пан бачыць тыя-ж твары, што ў 1920 годзе перад прыходам Чырвонай арміі паўсталі... падзялілі маёнтак... Губы ў пана задрыжэлі. Недакураная сыгара валіцца з зубоў. Ён хапаецца рукой за крэсла; яно скрыпіць... трашчыць... ножкі распаўзьліся...

— Што, ізноў гэтае быдла бунтуе?—хрыплым голасам прашыпеў да эканома.

Эканом нібы ў знак згоды пацінуў плячыма.

— Няма боязьні нават перад сваім панам, ня скідаюць шапкі, а даўнёй... бывала за вярсту... станавіліся на калені... Бацька ўмеў трымаць людзей у пакоры—слова за словам цадзіў эканом, а хітрыя вочы яго пасьміхаліся.

Пан зморшчыў лоб. Ён зусім ня слухаў эканома, упіваўся вачыма ў грамаду парабкоў, распазнаваў.

Чаму яны так схожы з тымі... у склепе... сьвіст шомпала... уздрыгі скрываўленага цела... маўчаць... ні слова мальбы, жалю... Адвезьлі ў бор... Стрэл... Загадаў закапаць... А на другі дзень атрад паўстанцаў акружыў маёнтак... Гарэла гумно... Кінуў усё багацьце... Уцякалі з эскадронам жандараў... Быў забіт конь...

Ён чуў, што перастае ўладаць сабою. Яго агарнуў страх.

— Што вам трэба?—немым голасам крыкнуў пан.

— Добры дзень пану,—і некалькі шапак паднялося ўгору, але зараз-жа ізноў апынуліся на галовах.

Нібы цэбар вады хто ўзьліў на пана. Ён ужо саскочыў са сходкі, але раптам схамянуўся.

— Чаго прышлі?

— Прышлі да пана па заработак. Эканом ня плаціць, ардынарыі не дае, няма чаго есьці.

— Як гэта, не дае? Я, я ўсё даю: кватэру даю, дровы даю, хлеб даю, грошы даю. Чаго-ж вы больш хочаце?—пан прыняў звычайны выгляд гаспадара-„дабрадзея".

— Але-ж ад каляд не заплочана і ардынарыі за два месяцы не давалі,—заварушылася грамада парабкоў.

— Жонкам, што лета жалі, да гэтага часу ня плочана.

— Усё заплачу, толькі каб вы былі людзьмі,—раставіўшы ногі гаварыў пан.—Ня слухайце бунтаўшчыкоў-бальшавікоў. Мне эканом гава-

рыў, што вы лянуецеся працаваць, бунтуеце, ціўна ня слухаеце. Праганю вон усіх! Што вы мне ласку робіце, ці то? Плачу за работу! Людзі просяцца, каб прыняў, даў кут і кавалак хлеба. І працаваць будуць.

Ён падняў галаву, каб прыкінуць на вока, колькі ў грамадзе парабкоў.

— Што, і ўдовы прышлі?—толькі цяпер заўважыў пан парабчанак, якія стаялі паводдаль ад парабкоў.—Вось бачыце, я ня выкідаю ўдоў з хат. Я—„чалавек цяперашняга часу“, даю работу і прытулак, хто сумленна хоча працаваць,—хваліўся пан, а твар яго расплываўся.

— Але-ж, панок, удовы працуюць як і мужчыны, а плата напалову меншая. А састарэюць—пойдуць жабраваць і памруць пад плотам—адазваўся стары Сымон, які з дню на дзень чакаў, што яго выкінуць.

— А што ў мяне багадзельня, ці што?—уставіўся пан на Сымона.—Мне патрэбны такія людзі, якія могуць працаваць, а вы—гадуйце дзяцей, каб на старасьці кармілі вас.

Абураны пан пашоў у свае пакоі.

На ганку паявіўся эканом з кухаром, які нёс вядро і кошык. Адразу ўся грамада падзьвінулася бліжэй да эканома.

— Ну, вось што, мужчыны,—кажа эканом,—сёньня грошы я ня дам, няма ў пана грошы, атрымаеце іх праз тыдні тры—чатыры. Ардынарыю (заплата збожжам) я сказаў ціўну, каб заўтра пачаў выдаваць. А цяпер па чарцы, падыходзьце!—як-бы прачытаўшы загад скончыў эканом і адвёў вочы ў бок.

— Але дакуль-жа гэта будзе? Пану патрэбны грошы, а нам не патрэбны? Ужо больш за паўгода як злоты быў у хаце... Жонцы, што жала, не заплацілі, дзецям за ўсё лета працы не заплацілі, мне ня плоціце... Дакуль-жа чакаць? Давайце сёньня заробленыя грошы і кончана. Хварэе яна няхай з панскай чаркай. Яна праз бакі вылазіць, а мы, як тыя дурні, за чарку ўсё гатовы аддаць. Няма што, досыць, плацеце! Праўда, мужчыны?

— Праўда, праўда...

— Так...

— Даволі чакаць...—азваліся з грамады.

— А, дык гэта ты, Паўлюк, бунтаўшчык-бальшавік? Гэта ты намаўляеш парабкоў да бунту? Добра... Прыходзь праз гадзіну, атрымаеш рашчот і каб да раньня вызваліў кватэру...

Хвіліна цішы. Эканом падшукваў слоў і набіраў сілы; рукі калаціліся ад злосьці. Ён схапіў конаўку, бразнуў яе аб ганак, памеціўся сходзіць, застанавіўся...

— Вон з маёнтку, бунтаўшчык, бальшавік! Вон, каб тваёй нагі тут ня было. Ты бунтуеш людзей проці закону, супроць Польшчы—ты бальшавіцкі агент! Вон, зараз-жа выносься за браму,—асьцярвянела роў эканом.

Гнеў эканома ўзрастаў. У грамадзе пазіралі адзін на аднаго і скоса на Паўлюка. Усе чакалі, а мо‘ хто заступіцца, мо‘ хто хоць што скажа

ў абарону Паўлюка. Ды як-жа можа быць іначай? Паўлюк сказаў тое, што думалі ўсе. Няўжо ніхто не падтрымае?..

Наўкол было ціха, як у магіле... Паўлюк церабіў невялікую русую бародку; старая салдацкая яшчэ з часоў вайны шапка насунулася на вочы. Ён спадылба акідаў балючым поглядам дакору сваіх таварышоў. Яны вінавата апускалі вочы ў дол, нібы шукалі на зямлі прычыны іх баязьні, прычыны нясьмеласьці і нявольніцкай пакоры.

— Што ты зробіш? Жонка, дзеці ды і кутка нідзе не дастанеш. Альбо запякуць у вастрог...—нібы з-пад зямлі пачуўся голас Мікіты, які заўсёды ўсьміхаўся, хоць было і не да сьмеху.

— Так, жонка, дзеці,—уздыхнуўшы прагаварыла некалькі чалавек.

Гэта нібы ўзбудзіла Паўлюка са сну. Ён ганарліва падняў галаву і на ўвесь голас стаў гаварыць:

— Жонка, дзеці—усе нявольнікі. Досыць! Трэба рваць ланцугі няволі! Што варта цяперашняе жыцьцё?

— А дзе ты дзенешся?—з насьмешкай запытаў цівун.

— Дзе дзенуся? Наймуся да другой п'яўкі. Ці горш ці лепш будзе, ня ведаю.

Словы Паўлюка, як электрычны ток, зрушылі парабкоў і грамада замітусілася, з рашучай настойлівасьцю загаварыла ўся разам:

— Так, плаці грошы...

— Даволі зьдзекаў...

— Чаркай не падкупіш...

— Кожны раз валаводзяць...

— Давай сюды пана...

— Кідайма працу...

— Душыць іх трэба..

Абурэньне грамады ўзрастала. Замітусіліся людзі. Двор ажыў, як ніколі. Здавалася, што грамада кінецца зараз на эканома, пераверне ўвесь палац дагары нагамі. Для літасьці тут ужо ня было месца.

Эканом, убачыўшы, што непераліўкі, уцёк у пакоі, замкнуўшы за сабою дзьверы. Цівун прытуліўся ў кутку, як пабітая сабака, і скоса пазіраў на парабкоў. Кухар паціскаў плячыма і ніяк ня мог зразумець, чаму мужчыны адмовіліся выпіць.

Доўга яшчэ стаяў гоман. Ніхто не хацеў ісьці, але і ня ведалі, што рабіць. Сьціснуўшы кулакі, пагражалі пану. Некаторыя наважыліся параўняць косьці цівуну. Паўлюк стрымаў; вочы яго іскрыліся, ён супакойваў грамаду, хоць быў вельмі здаволен, што ўсе стаяць гарой.

— Пойдзем, мужчыны, у завод, да рабочых, параімся з імі,—сказаў Паўлюк.—Няма чаго чакаць ласкі пад панскім ганкам.

Дамінік і стары Барнась спачатку вагаліся: застацца?—Здрадзіць таварышом па працы? Выклікаць іх нянавісьць да сябе і сваёй сям'і?— Немагчыма. Як-жа глядзець пасьля ў вочы?.. Пайсьці?—Разгнявіць пана? Боязна: выкіне з хаты, пазбавіць працы. Дзе тады дзецца? І ра-

зам з усёю небясьпекаю за заўтрашні дзень адчувалі глыбокую супольнасьць інтарэсаў.

І ніводзін з іх не рашыўся застацца.

Панскі ганак з цівунам і кухарам паволі адплывалі ўсё далей і далей. Дарэмна цівун, пасьмялеўшы, зваў на конаўку сырцу (неачышчанага сьпірту), дарэмна кухар шкадаваў, што прападзе па лусьце хлеба і па паўселядца. Ніхто не вярнуўся.

Дарогай усе хвалілі Паўлюка.

* * *

На заводзе заступала другая зьмена. Некалькі рабочых з качагарам былі на двары і весела спаткалі грамаду-парабкоў.

— Што гэта вы, браткі, такім роем сёньня прышлі?

— Асушыце, як відаць, усе чопы,—пажартаваў качагар.

— Не да гэтага нам,—набліжаліся парабкі і заглушалі адзін аднаго.

— Крывасмокты гэтыя...

— Пакутуй, пакутуй, а як плаціць...

— Бунтарамі абзывае...

— Нацярпеліся, даволі...

— Вастрогам страшыць...

— Ня пойдзем на работу...

— Ды вы ня ўсе разам, няхай хто-небудзь адзін вытлумачыць толкам, у чым справа,—акідаючы прыхільным поглядам грамаду, сказаў качагар, углядаючыся ў расчырванелыя твары парабкоў.

— А справа, як відаць, цікавая,—зазначыў адзін з рабочых.

— Паўлюк, расказвай,—крычалі парабкі, а кожны хацеў сам крычаць, крышыць, ламаць, біць.

Паўлюк насупіў бровы і вылажыў усё, як на талерку.

— Э-э, ды ў вас, браткі, цікавыя рэчы. Малайцы, што адмовіліся выпіць і зьесьці па паўселядца. Гэта добрая рэч, калі сьвядома парывае з старым нявольніцкім звычаем.

— Ну, а што вы думаеце цяпер рабіць?—з бацькаўскай клапотай запытаў качагар.

— Баставаць,—вырвалася з грудзей.

Качагар закашляўся, глыбока ўздыхнуў, акінуў поглядам грамаду парабкоў, вочы пераселі на завод, панскі палац і ахапілі вялікія абшары панскага поля і сенажаці...

Схамянуўся. Вочы гаварылі: усё гэта наша, усё пахне нашай крывёю і потам, а ўзяць яго мы ня ўмеем. А сіла мы... Мы ўсё...

Думка яго цяпер была аб Беластоку. Успаміналіся першыя гады працы на фабрыцы, шэраг забастовак. Кожная з іх ярка выяўляла малюнак зацятай незамірнай барацьбы працы з капіталам... З фабрыкі выкідалі рабочых-рэволюцыянэраў. Уступленьне ў шэрагі комуністычнае

партыі Заходняй Беларусі. Ізноў забастоўкі. Дэманстрацыі. Бойка з паліцыяй. Арышт. Дзікае катаваньне на допыце. Астрог. Фашысцкі суд. Астрог. Галадоўкі. „Воля“, ізноў дэманстрацыі і бойка з паліцыяй. Уцёк з-пад арышту. Барацьба з ненавіснымі яму пэпээсаўцамі і беларускімі нацыянал-фашыстымі. КПЗБ паслала ў раён для наладжваньня сувязі і організацыі ячэек у маёнтках. Паступленьне качагарам. Праца сярод батракоў і вясковай беднаты. Тайныя сходы, нарады.

Усё гэта маланкай прамільгнула ў памяці. Усё жыцьцё запоўнена барацьбой... і бурліла, нібы заклікала:

Сьмялей наперад, перамога за намі.

Успомніліся хвіліны сумніву ў здольнасьці парабкоў і вясковай беднаты змагацца з эксплёататарамі і цяпер рабілася неяк балюча за тыя хвіліны.

Так, яны менш організаваныя, больш цёмныя і адсталыя за фабрычных рабочых, але-ж інтарэсы нашы аднолькавыя, мэта наша адна: скруціць галаву эксплёататарам і пабудаваць новую соцыялістычную грамаду.

Усхваляваныя парабкі сьціскалі кулакі, пагражалі ў бок панскага палацу. Кожны нешта гаварыў, але што—цяжка было разабраць. Яны нібы вырваліся з пятлі, скінулі з плеч увесь цяжар доўгатэрміновай няволі, пачулі сябе людзьмі і няведамая да гэтага часу нянавісьць да ўсіх прыгнятацеляў-эксплёататараў узьнімала, заклікала да рашучай бойкі. Хацелася помсты за зьдзек, за ўсе пакуты. Вось зараз ісьці душыць, рэзаць...

Доўга парабкі гутарылі з рабочымі і ўжо цямнела, калі разыходзіліся па хатах.

Чаму рабочыя лічаць, што забастоўка добры спосаб барацьбы. Ну што гэта за барацьба? Кінуў работу і сядзі дома. Во, каб гумно альбо сьвіран спаліць, пана ці эканома задушыць! Вось гэта адразу відаць. А тут сядзі, чакай, як доўбні, што прыдуць выкідаць з хаты...

* * *

Паўлюк пацерабіў каля паясьніцы і паплёўся разам з парабкамі да хаты.

Яго з плачам спаткала жонка.

— Што ты робіш? Дзяцей хочаш асіраціць і мяне бяз прытулку пакінуць? Дзе-ж я падзенуся? Гэта-ж цівун прыходзіў і загадаў выбірацца з хаты зараз-жа. А што я буду рабіць з кароўкай, дзе яе пастаўлю,— галасіла жонка Паўлюка.—Калі думаў гэтак рабіць, дык начорта было тады жаніцца, дзяцей пладзіць?

Пэўне яшчэ доўга прычытала-б Паўлючыха, каб ня прышоў у хату парабак Антось.

— Што гэта твая баба так рассакаталася? Аж каля аборы чуваць.

— Вядома баба.

— Ня мае слуху, як відаць. Нябось мая гэтак ня раўла-б, зараз адпеpазаў-бы дзягу і так зрэзаў, што да сёмухі мацала-б.

— Яе цівун настрашыў. Прыходзіў з хаты выкідаць рызманы...

— Не... не... я ня вытрываю...—і Паўлючыха схапіла з ложку пось-цілку і пабегла да панскага палацу.

Нясьмела падыходзіла баба. Ціха шаптала „Здровась Мар'я". Калі ўжо ўзышла на ганак, яе агарнуў такі жах, што ўся калацілася, як у трасцы. Хацела ўжо вярнуцца. Толькі намецілася, як на ганку зьявіўся эканом.

З дзікай усьмешкай ён спаткаў яе, вочы яго набеглі крывёю.

— Чаго, быдла, цягаешся каля панскага палацу?

Паўлючыха да ног.

— Панок, пашкадуй, не сіраці дзяцей...

— Маёнтак хачаце адабраць,—скрозь зубы прашыпеў эканом.

Хлыст рассякаючы паветра гуляў па сьпіне Паўлючыхі.

— Пашкадуй, ня губі, енчыла баба і голас яе рабіўся цішэйшым, упалым.

— Выкінуць яе з ганку,—загадаў асьцервянела эканом лёкаю.

Цівун падхапіў зьбітую да няпрытомнасьці кабету за каўнер кашулі, звалок з ганку і кінуў на зямлю.

З рубцамі ад хлыста, з сінцамі ад штуршкоў нагамі, прыдушаная цівуном, з паўгадзіны ляжала самлелаю.

Ачнулася. Усё круцілася... з носа лілася кроў. Устала. Хістаючыся падыйшла да ганку.

— Так... дзед працаваў на пана—яго білі, бацьку і маці білі, мяне б'юць. А за вошта? За нашу цяжкую працу. Паўлюк не вінават. Ну, і помніце, гадаўё, сама перарэжу глотку...

А я яшчэ пацеры гаварыла... вось дурная, што яны тут дапамогуць.

Так меркавала жонка Паўлюка, падыходзячы да хаты.

Паўлюк сядзеў на нарах, падпёршы локцем галаву, і нешта думаў. Антося ўжо ня было. Жонка падышла да Паўлюка, ветліва паглядзела на яго і прыблізіўшыся са сьлязьмі на вачох загаварыла.

— Паўлючок, родненькі, ты не вінават. Пэўне так трэба. Я ня буду табе перашкаджаць, буду дапамагаць, ня злуйся. Можа як-небудзь і выкідаемся, дажывем да лепшых часоў. Ня сумуй.

— Ды я ня сумую, але вось дрэнна, што выкіне з хаты ды не заплоціць. А хлеба ў нас толькі на два дні і ні гроша за душою. Работы нідзе. Ну ты-ж відаць бегала да пана, што ён табе сказаў—усміхаючыся пытаўся Паўлюк.

— Нічога... абсьцябаў бізуном і загадаў цівуну сьцягнуць з ганку.

Паўлюк падскочыў, глянуў на жонку. Толькі цяпер ён заўважыў яе сінцы і акрываўлены твар.

— Дакуль-жа будуць зьдзекавацца над намі? Калі гэтаму настане канец? Калі?

Ён сьціснуў кулакі.

— Эх, ня ўмелі біць паноў! А быў час! Якія-ж мы яшчэ дурныя, цёмныя.

— Супакойся, Паўлючок, лепш скажы, што будзем рабіць, калі выкінуць з хаты. Дзе шукаць прытулку?

— Якое там супакоіцца... Трэба рэзаць, душыць, страляць, вешаць пана, эканома, ксяндза, усіх, усіх, хто жыве чужой працай...

— Не хвалюйся, Паўлючок, сядзь. Ты пэўне нічога ня еў, а я бульбы прыгатавала ды і саладухі яшчэ з конаўку будзе. Садзіся...

Паўлюк ня ўзяўся за яду. Дакучлівая думка сьвідравала галаву: што рабіць, куды дзецца?

— Ну, але трэба ісьці... калі прыдуць выкідаць—не прасіся, ня трэба панскай ласкі. Прыме хто-небудзь з вясковай бедняты на які тыдзень, а там будзе відаць, што далей рабіць... Ну дык трымайся, ні слова ні пікні. Астрогу не мінаваць. Але я нічога не баюся. Рашыўся на ўсё. Дзеці можа з голаду не памруць, аддасі пастушкамі, а сама будзеш якнебудзь кідацца.

Жонка ўздыхнула.

— Так, буду цярпець, а можа як і пражывем. Іншага шляху няма... А ты куды?

— Я-ж у забастовачны камітэт. Толькі маўчы, нікому...

* * *

Сьцямнела. Скрыпяць завадзкія вароты. Людзей у шэрых сярмяжках і лапцёх спатыкаюць рабочыя, замурзаныя дзёгцем і сажай. Праводзяць паміж высокіх штабялёў торфу і ўпускаюць у бакавыя дзьверы заводу—сушылку. Бяз рыпаньня адчыняюцца дзьверы і калі ўжо прышлі апошнія парабкі Гануцкага маёнтку, ціха ляснуў ключ. Рабочы сушылкі застаўся вартаваць на ўсякі выпадак.

— Распранецеся і сядайце бліжэй,—сказаў качагар і сам першы скінуў сваю зашмальцаваную сьвітку.

З рыжаю барадою мужчына гадоў 40, высокі, шырокакостны, расхістаўшыся, вытаркнутыя косьці на плячох, здавалася ледзь утрымлівае скура. Ён цьвёрдым упэўным голасам стаў першым расказваць пра выбух забастоўкі ў Гануцкім маёнтку.

— Мы ўжо ня мелі больш сілы цярпець. Альбо памерці змагаючыся, альбо памерці ад непамерна цяжкай працы і голаду. Мы выбралі першае, жыцьцё нас навучыла, рабочыя дапамагалі арганізавацца і выбраць правідловы шлях, на які заклікала комуністычная партыя. Мы на яго ўзыйшлі і не адступім.

Вочы яго гарэлі, пачынаў хвалявацца, парывістымі рухамі рук стараўся дапаўняць свае словы.

— Нас штодня агітуюць зьдзекі і свавольле паноў, здань галоднай сьмерці. Мы кожны дзень пераконваемся, што толькі самі барацьбою даб'ёмся вызваленьня.

— Цяжкія варункі. Трэба змагацца... Жахлівая нэндза, галота. Беззямельле, беспрацоўе. Голад. Рызманамі прыкрытыя сланяюцца людзі, шукаюць працы-хлеба... Жабруюць. Чаго просяць? У каго? Заплаціць ім за працу? Вярнуць адабранае? Сумленьне крывасмокаў—эксплёататараў спакойнае. У іх ёсьць толькі жывёльны страх—за дзень расплаты. Эх, дзень расплаты!

Так думаў качагар. І гэта думка ўздымала яго. Ён слухаў аб тым, што ўжо добра ведаў, на што паклаў шмат працы, каб узбудзіць, арганізаваць, загартаваць, падрыхтаваць да рашучых боек.

— А якая тут духата, хоць кашулю круці,—выціраючы рукавом пот сказаў Язэп.

— Во яшчэ паніч, прывыкай да ўсяго,—азваўся Паўлюк, хоць у самога душыла грудзі і кружылася ў галаве, і таксама абцёр лоб.

Доўга яшчэ радзіліся парабкі з рабочымі. Было ўжо далёка за поўнач, калі адна за адною пазьнікалі посьтаці ў цемені.

* * *

Гручаць тарантасы, шэпчуць карэты.

Панскі палац зіхаціць у агні.

Гнуцца сталы ад віна, лікёраў, розных страў.

Сёньня пан дае баль. Пазьяжджаліся панічы і паненкі з суседніх маёнткаў. Тут-жа ксёндз, начальнікі паліцыі і дэфэнзывы, войт, асаднік—камэндант стральцоў і іншыя госьці.

— „Яшчэ Польска ня згінэла“...—раве напіўшыся войт—беларускі кулак, а з яго паны сьмяюцца, жартуюць.

Гаспадар, успомніўшы пра парабкоў, бярэ за руку камэнданта паліцыі, кліча эканома. Нарада кароткая.

— Пазваніць, прышлю колькі трэба, паліцыі хопіць,—з ухмылкаю кажа камэндант.

Пан здаволен. Цісьне руку камэнданта, пакідаючы ў ёй „Касьцюшкі“.

— Мы парадак і культуру заўсёды гатовы абараніць ад цёмных хамаў-быдла,—і падбародак камэнданта ўпаўзаў у абвіслую сытую шыю.

Да раньня іграла музыка, чутны былі п'яныя песьні... Паны весяліліся.

* * *

— Не хацелі есьці хлеба... жыць у цёплай хаце... Бунтуеце. Пажывіце на свабодзе пад плотам. Пагаладайце. Прасіцца будзеце. Куды вас прымуць?—зьдекваўся цівун.

Паўлючыха моўчкі зьбірала лахманы, абхутвала дзяцей... Ні слова просьбы... Ні сьлязінкі...

Цівун не ўпяршыню выкідаў парабкоў з хаты. Ён прывык чуць просьбы... плач... і ў гэтым адчуваў асаблівую асалоду... Весела пасьвістваючы ён канчаў сваю працу і быў спакойным. А тут... магільная цішыня... Нават дзеці ня плачуць, хоць іх паднімаюць сонных... Першы раз за ўвесь час службы цівуном ён падумаў: ганебная мая служба,.. што чакае мяне? І нібы мароз прабег па яго сьпіне. Закалаціўся.

Выкінуўшы апошнія манаткі, ён выхапіў ключ, замкнуў дзьверы і кінуў на разьвітаньне:

— Дабранач!

Маўчаньне... Дзіўныя людзі... страшныя...

Парабчанкі суседкі клікалі Паўлючыху да сябе. Кабеты пусьцілі сьлязу:

— Хоць дзетак дай, што яны вінаваты.

— Ніхто не вінават,—перабіла Паўлючыха.—Ні Паўлюк, ні я, ні вы...—Яны...—паказала рукою на палац.

Угаворы суседак не памаглі. Паўлючыха да раньня з дзецьмі прасе-дзела на вуліцы, а раніцою іх прыняў у хату вясковы пастух.

* * *

Ужо тры дні парабкі ня выходзяць на работу. Маёнтак запруджан чорнымі груганамі. Ловяць парабкоў, пад руляй карабінаў вядуць на працу.

Выгналі некалькі пар у поле. Паліцыянты на конях вартуюць пры кожным парабку, падганяючы ў працы. Жоўтыя барозны, коні ў мыле. Ламаюцца плугі, рвуцца пастромкі. Поле пусьцее...

Назаўтра такое-ж паляваньне за парабкамі. Ловяць, гоняць у стайню, а парабкі на гэты раз пасталі каля жолабаў і ні з месца. Як толькі падыйдзе паліцыянт, яны пугаўём пачынаюць дразьніць коняй. Коні брыкаюцца, паліцыянты ня могуць даступіцца.

А ў панскім пакоі чакалі вестак. Камэндант паліцыі сядзеў ня мяккім крэсьле і барабаніў пальцамі па стале. Старшы шпік складаў свае пляны і расказваў апошнія навіны, што ён чуў аб забастоўцы. Пан нэрвова шпацыраваў па пакоях, спыняўся ля вакна, углядаўся. Ён быццам ня чуў, што гаварыў шпік і пра сябе мармытаў:

— Ня відаць дыму, стаіць завод. Час сеяць, а на полі ні жывой душы. І трэба-ж, быдла гэтае так згаварылася, што нават з вёскі галеча ня хоча ісьці на работу... Здаволіць парабкоў?.. Нельга... Яны тады пачуюць моц. Дзе-ж мой гонар... Трэба паказаць, што я гаспадар. Я іх зраблю пакорлівымі... за вярсту будуць скідаць шапку... голадам змару... у вастрогі пазаганяю... пастраляю...

У дзьверы стукнуў паліцыянт. Ляснуўшы абсацамі, адрапартаваў:

— „Жывых нельга выправіць на работу, не здаюцца“.

Камэндант вачыма паказаў на дзьверы. Пан выхапіў рэвольвэр з кішэні, пакруціў яго ў руцэ, паглядзеў абойму.

— Пойдзем,—сказаў пан да камэнданта.

У стайню пан не ўвайшоў, а ўскочыў. Коні грызуць жолабы, бразгаюць ланцугі. Паліцэйскія з вінтоўкамі туляюцца поўз коняй. Парабкі—хто стаіць, а хто сядзіць у жолабе ці на жолабе.

Пан калаціўся ад злосьці. Ён загадаў паліцыі ўзяць хоць аднаго парабка. Паліцэйскія ціскаючыся сталі падыходзіць, а коні з абодвух бакоў дружна брыкалі. Здавалася, што яны былі ў саюзе з парабкамі супроць гаспадара-эксплёататара.

— Што рабіць,—меркаваў пан, выпучыўшы вочы на паліцэйскіх, якія ўцякалі ад конскіх капытоў.—Страляць? Каля стайні, бач, грамада рабочых, могуць кінуцца... бараніць... Уласнае жыцьцё ў небясьпецы...

— Выходзьце з маёй стайні, бунтаўшчыкі,—зароў пан ва ўвесь голас.

— Адпраў паліцыю з маёнтку—мы выдзем,—з розных канцоў стайні адказалі парабкі.

— Мы бастуем, а не бунтуем,—крычалі з грамады рабочыя. Нас тэрорам ня зломіш.

Паліцэйскія нерашуча паглядалі на пана і нібы гаварылі: „Справіцца з імі цяжка“.

Пан падыйшоў да камэнданта паліцыі і загадаў яму замкнуць стайню з парабкамі і сачыць, каб ніхто ня ўцёк.

— Змару голадам—згодзяцца. А не...

Атрад паліцэйскіх вышаў са стайні і абкружыў яе з усіх бакоў. Камэндант паліцыі намеціў, дзе паставіць кулямёты...

* * *

Надыходзіла ноч. Качагар раіўся з рабочымі... Вылучылі варту.

Парабкі, замкнутыя ў стайні, сьцягвалі жэрдкі, каб падважыць дзьверы. Яны маўчалі. Кожны адчуваў, што блізіцца час пагібелі. Надзея толькі на рабочых...

— І як гэта здарылася, што мы самі сябе запёрлі ў пастку,—ціха азваўся Язэп.

Яму ніхто не адказаў. Кожнага грызла думка: што будзе праз гадзіну, праз хвіліну.

— Вароты можна скінуць,—шаптаў Сымон,—з таго боку, дзе павець...

Парабкі абгледзелі, павесялелі.

— Тут высадзім...

Пад сьцяной капаліся ўтрох.

— Добра, што хоць сахор ёсьць,—казаў маладзейшы з іх,—рукамі не далі-б рады.

— Папрабуй, можа ўжо вылязеш? Лёх ёсьць.

У поўнач праз лёх пыпаўз чалавек. Каля колаў і плугоў ён дапоўз да плоту і прапаў у цемры, стайня ўжо далёка. Ня чутно гутаркі паліцэйскіх.

— Стой,—і моцная рука схапіла яго за каўнер.

Ён схапіўся:

— Жывым ня здамся.

Чалавек ціха засьмяяўся і ўзяў яго за руку.

— Язэпка, гэта ты?

— Я,—зьдзіўлена адказаў Язэп, пазнаўшы голас качагара.

Язэп у двух словах перадаў, што робіцца ў стайні, а качагар—што на волі.

— Ведаеш, братка, жар назад, нельга заставацца тут, бо там ня будуць нічога ведаць, ды і цябе яны могуць западозрыць у чым дрэнным, а ты-ж комсамолец. Будзь, браток, з усёй грамадой да канца.

— Дык-жа ня думаў уцякаць...—Я і сам думаў вярнуцца,—пакрыўджана адказаў Язэп... Я толькі даведацца...

Качагар сказаў умоўны знак, калі павінны высадзіць дзьверы.

Язэп поўз да стайні... Ён ужо быў каля самага лёху, калі пачуў, што набліжаюцца паліцэйскія. Яны спыніліся, дастаюць папяросу. Сэрца Язэпа перастала біцца. Заўважаць і ўсё прапала.

— Ня маю сярнічак.

— І я ня маю,—адазваўся другі паліцыянт, і яны накіраваліся да вугла, дзе стаялі вартаўнікі каля пулямёту.

Язэп пралез праз лёх. Яго падхапіў Антось, які не адыходзіў ад сьцяны з таго моманту, як Язэп выбраўся адтуль.

— Язэпка, ну што-ж ты даведаўся. Як рабочыя,—крычаў ён.

Язэп зацiснуў яму рот. Грамада парабкоў абкружыла Язэпа і ён расказаў аб усім, што яму перадаў качагар.

— З рабочымі не прападзем,—важна зазначыў Антось...

* * *

Па вёсках пайшлі чуткі, што пан маніцца спаліць стайню з парабкамі. Заблішчэлі косы, сахоры. Бедната ўзбройвалася.

Ад усходу сонца зьбіралася грамада. Паліцыя прабавала загарадзіць дарогу ў маёнтак, але грамада расла. Новыя сотні падыходзілі з іншых вёсак... націск рабіўся большым і нарэшце паліцэйскія прымушаны былі адступіць.

Рабочыя спаткалі двухтысячную грамаду вясковай бедноты баявымі рэволюцыйнымі сьпевамі.

* * *

Старая Сымоніха выйшла з хаты. Вочы жмурыліся і выціскалі сьлязу за сьлязою. Яна абціралася падалом, застанавіўшыся ў нейкім зьдзіўленьні ..

„Дзе я бачыла... Калі гэта было?..“ капалася ў памяці старая... Двор мітусіцца ад людзей рознага ўзросту мужчын і кабет... усе сьпяшаюцца...

крычаць... „Так, бачыла, бачыла... Скінулі цара... Вясковыя мужыкі з вінтоўкамі ў салдацкіх вопратках разьбівалі вайсковыя склады... Паны ўцякалі... Ох, як-жа добра тады жылося... Няўжо і цяпер скінулі?.. Пэўне скінулі... прышла нарэшце пара і на польскага цара... А кос, кос. У пана многа касцоў, але гэтулькі ня бачыла, як жыву... Косы, сахоры... усё перамяшалася... Што гэта чырвонае? Ці не ад сонца ў ваччу? Не... не... чырвонае палатно... а як-жа высока над галовамі...“

Сымоніха сабрала ўсе сілы, каб і самой прыстаць да вялікага натоўпу. Яна забылася, што зьбіралася зайсьці да Антосіхі даведацца пра старога. Адчувала, што ўся грамада зраслася, зьлілася ў адзін вялізарны ком і баялася застацца самою...

„Ай-яй-яй, во людзей! Няма канца... І яшчэ ідуць і ідуць. Што яны пяюць? Чаму так хочацца і мне пець, нібы я памаладзэла“,—думала Сымоніха.

Яна ўбачыла Рыгорыху. Пасмы валасоў выбіваліся ў яе з-пад старой хусткі, расчырванелая.

— Б‘юць паноў,—зьвярнулася Рыгорыха да Сымоніхі.

— Дзе?

— Усюды б‘юць, у Гануцкім маёнтку б‘юць у... мястэчку б‘юць скрозь... скрозь...

Рыгорыха была задаволена, што яна шмат ведае і працягвала далей:

— Сотні... тысячы... мільёны... мільёны сотняў з косамі, сякерамі... шась... шась!.. і ніводнага пана.

— Як-бы гэта і мне старой даступіцца... Зарэзала-б сярпом... гадзюку... а пасьля...

У натоўпе засьмяяліся. Кабеты аглянуліся...

— Не, цёткі, яшчэ ня скрозь паўсталі мільёны... Паўстануць, тагды сапраўды будзе... Шась!.. усім паном,—сказаў высокі мужчына.

Натаўп накіраваўся да стайні. Здавалася, што гатовы кінуцца з голымі рукамі на кулямёты...

Паліцэйскія нэрвова азіраліся на бакі... у іх вачох быў страх перад стыхійнай сілай грамады, хоць і бязбройнай... Чулі сябе слабымі, няпэўнымі, паглядалі бездапаможна адзін на аднаго, на вінтоўкі, на кулямёты. Гэта ня выратуе... там сіла... а мы...

І ў шэрагах паліцэйскіх нарастала нерашучасьць.

Пільнае вока качагара ня ўпусьціла гэтага моманту:

— Наперад, за мной...

Яго словы заглушыў моцны стук высаджаных дзьвярэй.

— Ура!—наступаючы на стайню крычыць грамада.

— Ура!—адзываюцца парабкі, выходзячы з стайні.

Паліцыянты так перапалохаліся, што стрэліць ніводзін не пасьмеў. Вінтоўкі выбівалі з іх рук. Толькі некалькі паліцыянтаў пасьпела ўцячы.

Маладыя хлопцы, адабраўшы вінтоўкі і кулямёты, выцялі некалькіх паліцыянтаў па твары.

— Не чапаць,—крыкнуў качагар.—Не яны галоўныя ворагі.

Хлопцы пакасіліся на качагара, але паслухалі.

Пажоўклыя, з пасохлымі губамі і разам з тым энэргічныя парабкі кідаюцца ў абдымкі. Да іх падбягаюць дзеці, жонкі, таварышы. Радасьць, сьмех, сьлёзы.

Качагар ускочыў на кары. Ён стаяў нібы выліты... Васковы твар. Паднімае руку ўгару.

— Ура!—вырываецца з грамады.

І з тысячы грудзей узьнімаецца:

„Паўстань, хто з голаду век пух...“ Яно моцным водгульлем адбіваецца на заводзе і нясецца да хат парабкоў... да вёсак.

— Першая перамога ёсьць,—кажа качагар.—Мы вырвалі нашых братоў з жудасных мук пагібелі... Але вораг жыве... заўтра, пазаўтра многіх чакае расправа... Наш баявы саюз...

— Пакончыць з душагубамі,—зьлітым комам галасоў гучэў натоўп. Падняліся ўверх косы, сахоры.

— Надыходзіць час, мы пакончым. Паўстануць тысячы, мільёны...

Магутнае „ура“ заглушыла словы качагара і грамада з рэволюцыйнымі сьпевамі накіравалася да заводу.

* * *

А ў панскіх пакоях увіваецца чорная гадзіна... Пан падышоў да камэнданта паліцыі і ўпарта ўставіўся яму ў вочы. Глыбокія зморшчыкі прарэзалі яго лоб.

— Нічорта ня варта паліцыя. Куча баб голымі рукамі адабрала зброю...

— Але...

Пан перабівае:

— Заставацца бязьдзейным нельга. Загадаць набіць вінтоўкі, падрыхтаваць кулямёты... гранаты.

— Я раю...

— Я ведаю,—з націскам гаворыць пан,—што вы раіце ўцякаць, напасьці ноччу... Мне гэтага мала... Гэта вы робіце штодня, ды ці-ж гэта памагае? Галыцьба бунтуецца ў горадзе... бунтуецца ў маёнтках...

— Што-ж рабіць?

Пан узяў камэнданта за руку, сьціснуў зубы і прашыпеў:

— Даць некалькі залпаў у натоўп... Адступіць да мястэчка... тэлеграфаваць... паўсталі супроць Польшчы... разброілі паліцыю бальшавікі.

— Зразумеў,—сказаў камэндант, насупіўшы бровы.—Даю загад... і схапіўшы шапку вышаў з палацу.

* * *

Парабкі заўважылі, што набліжаецца паліцыя, і стаялі жалезнай сьцяной.

Залп!—сьцяна грамады закалыхалася, валяцца людзі... крык... енк... стогн...

Яшчэ залп!

Але на гэты раз з грамады быў адказны стрэл з адабраных кулямётаў і вінтовак.

Сярод парабкоў было некалькі былых чырвонаармейцаў, якія „на ўсякі выпадак“ таксама падрыхтаваліся і занялі добрыя позыцыі.

Адказны стрэл быў нагэтулькі ўдалым, што ў шэрагах паліцыі параненыя кідалі вінтоўкі... Гэта выклікала поўную дэмаралізацыю і, адстрэльваючыся, хоць за імі ніхто ня гнаўся, паліцэйскія ўцякалі да фурманак...

Доўга яшчэ чутны былі стрэлы паліцыі... І паволі на кругавідзе зьнікалі чорныя хмары...

Абураная грамада рушыла да палацу... там было пуста...

— Ламаць... паліць... зьнішчыць гняздо гадзюкі...

— Ня ў гэтым наша моц... Зьнітаванасьць, сьвядомасьць—вось парука перамогі,—чутны быў голас качагара.

* * *

Вечарэла... Утомленыя дэмонстранты ледзьве трымаліся на нагах і нібы само па сабе вылівалася агульнае жаданьне адпачыць. Невялікімі атрадамі косы і сахоры разыходзіліся... Навакол пусьцела і як перад гураганам наступала жудасная ціша...

Качагар быў каля параненага Язэпа. Ён прадчуваў, што ўночы будзе навальніца...

Гаварыў-жа грамадзе... а яны ні слова... нібы ўсе ведалі... чакалі... Былі нават нездаволены, што пра гэта ўспомніў.

Прамільгнула думка, што Язэпа трэба схаваць... Знойдуць—сьмерць. А можа ня знойдуць?.. Будзе жыць... змагацца...

Доўга не разважаючы качагар узваліў яго на плечы і паімчаў да штабялёў торфу. Ён выбраў гладчэйшае месца паміж штабялёў, падаслаў вопратку і ўлажыў Язэпа...

Язэп ціха стагнаў... засынаў...

Качагар яшчэ раз схадзіў дахаты... Вярнуўся са жбанам вады і старой ватоўкай, каб абхінуць Язэпа... Прысеў... Задрамаў...

Нібы з разьдзёртых грудзей пачуў крык... усхапіўся...

Звон ланцугоў, скаваных па руках і нагах рабочых, парабкоў, беднаты, іх жонак і дзяцей. Стогнуць скатаваныя, паняволеныя.

Стрэлы. Язэп сядзеў выпучыўшы вочы... Пачалася бойка... Ідзем, ідзем... рвуцца да бою.

— Я паклічу,—шэпча качагар. Сам пашоў, валіцца на зямлю... гарачая кроў... Прабуе сілы ўстаць.

Падыходзіць сланяючыся Язэп. Ён сам з сабою гаворыць.

— Няма зор, няма месяца. Усё патанула ў крывавым акіяне... а белы арол купаецца ў крыві... кіпцюрамі хапае новыя ахвяры... крыло абліплае крывёю паднімаецца... Узьлятае... Не... Хапае моцная мазольная рука... топіць... зьнішчае...

Днее...

На ўсходзе віднецца зорка... Качагар падняў вочы на завод. Ён убачыў чырвоны сьцяг...

— Уставай, брат, час ісьці ў рашучы бой...

## ЭСКІЗЫ З ОРГАНІЗАЦЫІ КОЛГАСУ

**М. Хведаровіч**

### І. РАБОЧАЯ БРЫГАДА Ў ДАРОЗЕ

Чорная ноч. Ні сяла, ні двара...
Чорт яго ведае, якая пара!?
Што ні дарога—ухабы, карчы,
І ноч!!?

А ні гука, тава́рышчы, ў начы.
Едзем. Ізноў перакрыж дарог.
Зьбіліся. Зблудзілі ў „казіны рог“
І ня вылезем, тава́рышы, дальбог.
Ні сьнег, і ня дождж—
Ліхалецьце-імгла...

Як-жа, дарагія, дабрацца да сяла?
— Гані праз ухабы,
Праз ямы—
Імчы-ж!
Гані, хай цямнее ноч.
Хай ў полі надрыўна
Крычыць скавыш
І ворагам кожны корч.
А там...
У тумане блішчаць агні,
Няйначай галодны воўк...
З-за хмары выплыла
Крывавая зара,
Швартуючы проста
На сасновы лясок.
А коні:
цок, цок,
цок, цок...
цок, цок...
І глуха асядаў туман.

І ўзьведзен нагана
Халодны курок,
Ня сьпіць баявы наган.
Хто ведае ціхую сьпячку дарог
І позьняе ночы сон,
Той ведае цёплую радасьць вакон,
Як вабіць дарожных агонь.
А коні нястрымна—
Па вуліцы сяла...
Дарожная мгла.
А колькі цяпла!
Прыехалі, тава́рышы,
Злазь!!

II. ОРГАНІЗАЦЫЙНЫ СХОД

Мора галоў,
А такая цішыня...
Голасна гаворыць старшыня...
— Дакуль-жа мы будзем
Ісьці ў нікуды??
На полі пырэй,
Ды мох.
На нівах рудых
Пралеглі сьляды
Прадзедаўскіх трухлявых сох.
І вечная беднасьць
Вартуе парог
Сялянскіх пахілых хат.
І скруха-нядоля
у рызманох,
І ворагам брату-брат.
Якая-ж карысьць
Жыцьцё марнаваць,
Клясьці, праклінаць свой лёс!
На вузкіх палосках,—
Пырэй-трава,
А ў хаце—голад-госьць.

Галасы: Сёньня сьвечкі,
Заўтра сьвечкі,
Зьлезеш з печкі—
Голы плечкі.

Мы ідзем да комуны
І гэты паход,

Праз беднасьць,
Праз бойкі, агонь.
Машыны магутнай
Вы чуеце ход!!
То рушыць сталёвы конь.

Галасы: Гэтая каняка
Ня есьць аўса.
Арэ-ж—адна краса:
Шырока і мякка.

Жабрацтву, нядолі
Рашучы бой,
І мэта адзіна ў нас.
Тава́рышы!

Па багох,
Па кулакох.
За колгас,
Час!!

Галасы: Зьбяром ўсе палоскі
Ў адзін паясок.
І дасьць той кусок
Ядраны каласок.

Гарачай размовай падняўся гуд
Магутным чарпануў крылом.
Спрадвечную нядолю,
Сялянскую тугу
Пашло штурмаваць сяло.
Па кожнаму.
Па іхнаму,
Па слову—
І ў раз
Поэза выходзіць, з поэз.
І покуль наранак абудзілася зара,
Бабахнуў ў вакно абрэз.
Клубамі разьвеяўся прагорклы дым,
Пракіслы махорачны чад...
Забілі?!?!
— Папалі кулакі ў нікуды.
І сходам старшыню качаць.

Галасы: Злы кулак,
Страляе з-за вугла.
Ганеце кулака
З нашага сяла!

І пяць азьвярэлых злавілі кулакоў
На сход прывялі ўсіх пяць.
І тут-жа парашылі прасіць Выканком
Усіх пецярых расстраляць.
І тут-жа:
— Зьнімеце з царквы крыжы,
І вобземлю старое—
Б-р-а-а-з-ь!
І тут-жа—
Агульна парышылі жыць.
І тут-жа ўступілі ў колгас.
Няхай кулакі
Абвясьцілі бой,
З абрэзам ідуць на нас.

Тава́рышы. Агонь!!
Па кулакох,
Па багох...
За трактар,
За колгас!

3/І 1930 г.
г. Менск

# У ПАЎСТАНЦАЎ

(*Жывыя кавалкі з жыцьця жывых людзей*)

**М. Нікановіч**

Босымі пройдзем,—але перааможам
(так сказаў адзін з паўстанцаў)

*26 студзеня 30 году. Менск.*

„Гэта было ня сёньня і ня ўчора. Гэта было дзесяць дзён таму назад.

Пятнаццаць чалавек белаппаўцаў вылучана праўленьнем БелАПП'у і Белкалгассаюзам для паездкі ў колгасы—

з мэтай азнаямленьня і апісаньня ў мастацкіх нарысах...—

так, між іншым, азначылася ў кожнага з нас у пасьведчаньні.

Я еду ў Слуцкі раён. Акрамя наяўнасьці нараджэньня новых, яшчэ зялёных колгасаў,—там цяпер, як і ўсюды, па ўсёй Беларусі: жорсткая клясавая барацьба. Так, барацьба! Бо я ніколі не магу ўявіць і не ўяўляю, каб загнаны воўк на аблаве спакойна, як ягнё, аддаваў сябе ў рукі паляўнічых.

Мне цікава ўбачыць усё гэта сваімі вачыма.

Дзесяць дзён як вылучылі. Ідуць дні, а рашучасьці няма, бо...

— ...колгасны рух для мяне нешта (праўда) незнаёмае, новае, цікавае і таму мо' захапляючае...—Вёска дваццаць восьмага году выпхнула мяне ў горад, калі сама яшчэ толькі пробавала пышна расьцвітаць сытымі хутарамі, пасёлкамі. Горад сустрэў мяне лесам рыштаваньняў, да фантазіі складаным і аграмадным будаўніцтвам, музыкай гудкоў і сірэн.

І калі тая вёска пераходзіла на шматпалёўку—гэта была ўжо чорт ведае якая аграрная і палітычная рэволюцыя!

Тады ішлі абрэзкі. Было вялізарнае нездавальненьне з аднаго боку—бедната—і *завугольная* (знарок падкрэсьліваю завугольная—бо на розных сходках, на вуліцах, у коопэрацыі плакалі), завугольная радасьць другіх—кулакі.

І быў тады на вёсцы суцэльны кавардак.

Сёньня-ж—суцэльная колектывізацыя!

І шмат радасьці. Еду на вёску. А вёска мяне сустрэне зусім іншымі абнімкамі, зірне зусім другімі, новымі вачыма... Я не спазнаю яе. Не спазнаю тую вёску, якую пакінуў у дваццаць восьмым...

Тая вёска памёрла. Ае няма.

„Як сон маркотны, нежаданы
Сыходзіш вёска з яснай явы...“
Заўтра я стану перад *новым, сапраўдным савецкім колгасам*

---

У кнігарні накупіў літаратуры па колгаснаму руху. Кожны дзень шмат чытаю па гэтаму пытаньню. Да слова:—цяпер газэты замяняюць у мяне самыя найцікавейшыя апавяданьні, аповесьці і романы самых найлепшых пісьменьнікаў.

Тое, што цяпер адбываецца на вёсцы—гэта ажыцьцяўленьне фантазіі вялікіх ідэй вялікіх людзей.

---

Але усёж-ткі заўтра. Ноч у вагоне. Раніцой у Слуцку і, магчыма, к вечару—у колгасе.

---

*27 студзеня 30 год.* (Калі прытрымлівацца точна гадзіньніка, дык ужо ня дваццаць сёмае, а дваццаць восьмае).

Ноч. Туман і шарон. На станцыі, за прамёрзлымі дзьвярыма і за бязьлюдным пэронам матавым бляскам адліваюцца рэйкі.

Чыгуначная нэрвовасьць. Бязладная мітусяніна. Лёгкія пад бакі штуршкі і, вагон цёплы і напаўзмрочны. У ліхтары над дзьвярыма канчар сьвечкі. Таемна па сьценах поўзаюць цені. Ценьмі поўзаюць і сноўдаюцца па вагоне постаці. Адтуль, з двара, яны прынесьлі востры пах хлеба і сала ў замусьленай торбе. Людзі глуха бразгаюць лаўкамі. Сьпяшаюцца. А цені сьмешна скачуць, крывяцца на сьценах нібы, выконваюць вар‘яцкі Ghavbstovn.

Паволі супакойваюцца. А ў вакно—

ноч, мароз, касматы шарон, прыгожымі рассыпчатымі зорамі станцыённыя агні, цягучая дрэма...

Гудок.

Мілыя, добрыя твары. Любыя вочы... Гэта за вакном. Гэта асталася там на пэроне, у Менску, у сталіцы...

А тут каля мяне, пад мерны грукат кол, усплывае ціхая гутарка:

— ...а ёй ня быць аграномам!.. Падумаеш?!.. Там трэба і за гной узяцца і ў зямлі пакэрпацца... А ў яе мінюкур!.. Гэ-гэ-га-а-а-а...

— Добра ка‘аж!..—мяккім барытонам уторыць яму другі голас. Гэты голас зьліваецца з рэвам паравозу.—Мінюкур гэты самы... На мордзе пудра... А бачыў, ты Андрэй Іванавіч, як у яе гэтай самай, агранома, пазногці блішчаць?.. Бачыў, як адгаблявала іх?

— Дык я-ж пра што і гавару, вось чудак!..

Станцыя. Цягнік таргануўся і заляскаў на стрэлках. Неяк само сабою ўтапілася гутарка. Мігнуліся апошнія станцыённыя агні.

Тады ізноў, ізноў як і тады паплыла ў махорачным густым дыму гутарка— —

— колектыў,

— колектывізацыя,

— колгас,

— рэконструкцыя сельскай гаспадаркі...

Перамешваюцца галасы: Чмялі на сенажаці. Зьбіваюцца гутаркі і, насоўваецца, мякка і павольна абнімае, а потым прыемна-салодка закалыхвае цяжкая дрэма.

---

Раніцаю—дваццаць восьмага студзеня—тое-ж. Толькі яшчэ да гутаркі дамяшаўся неадчэпны амічны пах...

* * *

...Слуцак...

Між аблыселых, абясьнежаных палёў ублытаўся ён садамі. Горад. Раён. Вуліца (адзіная людная і шырокая), замошчана буйным каменьнем. Няспынны рух. У цэнтры—двухпавярховы жоўты дом. Унізе сталоўка (полудзень за 45 кап. і галодным выйдзеш ды яшчэ ў прыдачу... але што казаць...) На другім паверсе—райком КП(б)Б і Комсамолу.

А там гутаркі:

— колектыў...

— колгас...

І сёньня-ж сакратар райкому т. Казачок дакляраваў мяне даставіць у колгас. Колгас нядаўна організаваны, але ў будучыне (па яго словах) з вялікімі пэрспэктывамі.

Выеду толькі ў тры гадзіны. Цяпер толькі адзінаццаць.

---

Няўрымсьціцца, несядзіцца мне. Хочацца быць ужо там, у колгасе. Галоўнае.

— першы раз у сваім жыцьці ўбачу я сваімі вачыма сапраўдны, жывы (ня кніжны) колгас.

Мо' затым столькі і хваляваньня, думак, жаданьняў!

Іду аглядаць Слуцак. Кнігарня. У вітрыне чатыры—пяць кніжок на беларускай мове. Заходжу. Беларускага аддзелу і ў паміне няма, а кнігарня БДВ!.. Высьвятляецца, што ўсе беларускія кніжкі недзе ў хаотычным беспарадку звалены пад прылаўкам... Прыходзіць дзядзька купіць свайму дзіцяці кніжачку. Яму загадчык кнігарні з ахвотай валіць на прылавак расейскую кніжку.

— А вось кніжкі Маўра ў вас ёсьць?—пытаю.

— Гэта што?..—зьдзіўлена таропіць ня мяне свае вочы.—Беларускія?..

— ?!

— Зараз!—і разам з пылам і сьмецьцем выцягае: запэцканы ботамі нумар „Маладняка“ за 1927 г., „Качачку-цацачку“—Бядулі, „Пекла“ Маўра і з абурэньнем паказвае на цэны.

— Гэта-ж, самі бачыце,—такія цэны, такія цэны-ы! Хто-ж гэта іх будзе купляць?! Другая справа—расійскія!—і ўзноў з прыкашчыцкай гатоўнасьцю падсунуў дзядзьку дзіцячую расійскую кніжачку.

Аднак дзядзька бярэ з яго рук беларускую кніжку.

---

Базар. На вазох амаль... але што там вазы?! Пахне конскім потам і гноем. Кучкамі згрудзіліся сяляне. І усюды адна і тая-ж гутарка:

— ...лупі цяпер сукінага сына пугаўём цераз пераносіцу!.. Няхай ідзе ў колгас і там есь!.. Даволі ўжо бацькаўскага хлеба наеўся... Агорк бацькаў хлеб...

— набрахаў на сваю галаву...

У другой:

— Калі падумаеш, ды яшчэ і абмяркуеш—дык ня дзе ты і дзенясса—пойдзеш, аж чэрці абліжуць!..

— дык яно што і гаварыць!

Падыходжу. Глядзяць у зямлю. Стары дзядзька чухае пугаўём бараду і з абыякасьцю адвярнуўся ад мяне. Гаворка абарвалася. Наёмка.

Я адыходжу пакрыўджаны і як-бы зьняважаны. Калі я адыходзіўся—ўзноў падымаецца гутарка і ўзноў на тую-ж тэму.

---

У райкоме Комсамолу.

— Як у вас справа з трохмесячнікам?

— Якім?..

— А беларускай культуры?

— Нічога няма!

— Як няма?

— Ну вядома! Яшчэ нічога не пачыналі...—і калі ўбачылі мае зьдзіўленыя вочы, адзначылі:—што мы?.. Яшчэ і сам Бабруйскі акругком нічога не рабіў па гэтаму пытаньню!.. Калі што будзе, дык мо' на днях, а то і раней!..

Ну, што вы будзеце гаварыць пасьля гэтага?.. Ня будзеш гаварыць а толькі падумаеш:

— Тут яшчэ нічога не пачыналі рабіць, а па некаторых акругах ужо маюцца аграмадныя дасягненьні. Там ужо былі наладжаны цэлыя шэрагі выступленьняў беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў, організаваны багатыя бібліотэкі на прадпрыемствах, пашла цэлая ломка старога быту... Сёньня пракладаюць дарогу вялікаму **заўтра**...

---

Між іншым, я цьвёрда ўпэўнены, што вясковыя ячэйкі на мясцох нешта робяць. І зроблена... Нездарма-ж комсамольскія ячэйкі ў глухіх куткох раёну станавіліся на чале колгаснага руху і саматугам, з вялізарнымі цяжкасьцямі, без падмог—утваралі колгасы.—Узяць хаця-бы вёску Бязьвярховічы Івана-Агародніцкага сельсавету. (Там я буду і апішу падрабязна).

Дык як-жа можна паверыць, каб комсамольскія ячэйкі нічога не зрабілі па трохмесячніку?..

Газэта—сотая, мо' барджэй, тысячная частка ад тэй паводкі, навальніцы, урагану, які носіць назву колгасны рух, рэконструкцыя сельскае гаспадаркі.

---

Вакол сэкратарскага стала райкома партыі ні то каб нарада, а проста так вось сабраліся партыйцы больш адказныя і менш адказныя каб падзяліцца ўражаньнямі, прачуць, запытаць... Тут-жа і старшыня РВК.

Цугам ідуць у габінэт сяляне.

— Табе што?—пытае старшыня.

— Падпішэце пасьведчаньне. Паеду пагляджу колгас і потым будзем рабіць свой...

— Ды рабі бяз сугледзін! Што там яшчэ і глядзець. Уступай ды працуй!..—гаворыць старшыня і хмурыць чорныя бровы над чорнымі, што ноч, вачыма.

— Не!..—не здаецца селянін, складае акуратна паперку, хавае за пазуху і ўсьміхаецца скэптычна аднымі толькі вачыма. У яго вачох відаць адвечная сялянская гіронія над усім новым, недаверлівасьць, закаранелая прывычка дробнага ўласьніка...—Не!.. Сам сваімі вачыма пагляджу. Тады...—і насунуў шапку.

За ім другі. Кажух. Каўнер—паўмэтра.

— Ну?!—зьвярнуўся да кажуха старшыня і аганёк загуляў у яго вуглях. Усьміхнуўся.

— Паклёп... Лічаць за кулака.

— Так! І добра робяць. Ты індывідуальна...

— Я-ж хачу ў колгас...

— Ня месца табе ў колгасе... Такіх мы ня прымаем. У цябе 16 гэктараў на 2 душы.

— Ёсьць і маці.

— Ролі ня грае!

Праглынулі кажуха дзьверы.

А далей—з аднымі толькі пытаньнямі:

— як-бы ў колгас?

— як пачаць організаваць? З чаго?..

І так кожны дзень, кожную гадзіну, кожную хвіліну.

Толькі а пятай гадзіне мы выяжджаем у колгас „Селянін", Цараўскага сельсавету. Гэта колішні маёнтак—Навадвор'е. Ад Слуцка ён у адлегласьці васьмі кілёмэтраў. Прыехалі скора.

Ужо зусім было цёмна, калі мы ўзьехалі на вялізны дзядзінец і ўткнуліся ў белы каменны будынак з аграмаднымі, ва ўсю сьцяну, вокнамі. Напамінае оранжэрэю. За густымі кустарнікамі распаўзьліся аборы, хлявы, сьвінарнікі. На вотшыбе блішчаць агні. Гараць лямпы.

Недзе за хлявамі, у глыбокім яры брэшуць сабакі. Адзін густым басам, другі—ценка. І гэты брэх вельмі-ж напамінае званы.

Між чорных дзьвярэй начы на захадзе зашчаміўся язык зары.

Ледзь у цёмным калідоры знайшлі дзьверы ў пакой старшыні Праўленьня. Уваходзім. Пакой. Рыжавусы, чырвонашчокі, з блакітнымі, як прарэзанымі вачыма мужчына нешта ладзіць каля дзіцяці—дзяўчынкі. Гарыць лямпа. На ўслоне, каля ложку прадзе ўжо немаладая жанчына. Яна сухая, з ўпалымі вачыма, тып *беларускай вясковай жанчыны,* але яшчэ *не колгасьніцы.*

> Стыль тыпізацыі. Я ня ведаю чаму так, але пэўныя абставіны і рамкі жыцьця і работы выпрацоўваюць адпаведны тып чалавека. Я вам заўсёды, амаль без памылкі пакажу з аграмаднай чарады разнапёрых людзей: вясковага ці мястэчковага настаўніка, фэльчара, старшыню сельсавета, сакратара райкома, старшыню РВК...
>
> Тып колгасьніцы ў нас ёсьць, ужо выпрацаваўся. У тых колгасах, якія праіснавалі некалькі гадоў—жанчына зусім адменна ад вясковай гаспадыні. Выраз твару, вачэй, уся постаць, нават ужо што, а і гаворка (у сэнсе багацьця слоў, мовы) і песьні—зусім іншыя. І вясковыя жанчыны на яе глядзяць як на нешта, новае, перароджанае і адначасна зайздроснае. Мо' таму, калі даводзіцца ў свабодныя ад работ хвіліны завесьці вясковым жанчынам свае заўсягдашнія гутаркі, дык сольлю ў нішчымную страву іных гутарак сыплюцца такія выразы:
>
> — ... раздабрэлі на ліха ім на *савецкіх* харчах!.. Як цямушкі парабіліся...
>
> — Ты вось такой ня будзеш, калі ня ведаеш ні дня, ні ночы ад работы.
>
> — ... калі сала толькі да пятроўкі...
>
> — ... Ага! Калі дзяцьмі абсыпаліся, як бобам...

... Вось і ў гэтай кабеціны нешта такое асталося яшчэ ад старога. Не змагла яшчэ скінуць з сябе тэй шалупаіны ў якой маці нарадзіла. Шалупаіна гэта сыйдзе сама па сябе. Але гэта адбудзецца толькі тады, калі рэлігія, няпісьменнасьць, адвечная коснасьць, сялянская ідэолёгія і *верацяно* адамруць, зьнікнуць...

> Яна прадзе яшчэ *на верацяно.* Падумайце, які гэта сёньня жах: *верацяно*! Верацяно ў свой час апявалася сотні разоў поэтамі і беларускімі, і расійскімі, і украінскімі; аб ім складзена і пяецца, і

ня толькі па глухіх кутках вёскі,—шмат песень. Аднак я *сёньня* ненавіджу верацяно. Верацяно, каса, серп, цэп, газьнічка і лучына...— нашае *сёньня*... ды што там!.. Даўно пара закаваць іх у ланцугі заўтра і ўрачыста паставіць у этнографічным аддзеле Менскага Беларускага музэю.

Мы на кватэры ў старшыні колгасу Андрэя Новікава. Кватэра-пакой і ня дужа што вялікі. Жыве тут 5 душ: ён сам з жонкаю, двое дзяцей і дзядуля—цесьць.

Прыходзіць сакратар комсамольскай ячэйкі Гур Сак. Не паспеў я і распрануцца, як адзін з нашых спадарожнікаў сказаў Новікаву і Гуру хто я і зачым да іх...

З дарогі холадна і я сьцепваюся і прабую як-небудзь сагрэцца. Мае спадарожнікі паехалі далей—на раскулачваньне ў суседнюю вёску. За імі прыглынулі дзьверы і сакратара ячэйкі.

Цяжкім крэктом зьлез з печы сухенькі і маленькі з ледзь сівеючай бародкой, дзед. Шмарганул па сьлязьлівых вачох чорнымі, заскарузлымі пальцамі і моўчкі ўсьпёрся на стол. Прыціхлі дзеці. Жанчына прыставіла к куфру прасьніцу і мятнулася к печы.

Разам з сажаю ночы прэцца цераз вокны прыгожымі заморскімі кветкамі люты мароз. Пробуе падымацца вецер.

— Вельмі-ж люта на дварэ!..—парывае маўчанку Андрэй, паціpae рукі і заціскаецца за стол. Распачынаецца гутарка.

— А як даўно вы тут аселі?...—пытаю.

Калі людзі цясьней зблізжаюцца, знаёмяцца—тады і другія пытаньні ўзьнікаюць.

Андрэй рады. Гэта-ж такое пытаньне, на якое можна гаварыць цэлую гадзіну, дзьве, чатыры, нават, калі на тое пойдзе,—цалюткую ноч!

Жанчына рыхтуе вячэру. На патэльні скварыцца сала. Прыемны востры пах сінім дымком разыйшоўся па хаце... Андрэй жмурыць вочы, гладзіць здаравеннай даланёй прыгожы саматканы абрус і ціха цякуць словы. Ён пераскаквае з аднаго факту на другі, блытае даты, паўтараецца, аднак мне ясна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жывыя казкі.

Звычайная рэчаіснасьць, звычайная сапраўднасьць, а ня верыцца,— думаеш, што казка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тут раней, яшчэ да рэволюцыі, на тым месцы дзе цяпер колгас „Селянін“—быў маёнтак—Новадвор‘е. Арандаваў яго некі дробны панок Скроцкі.

У вялікія крывавыя бунты рэволюцыі ён ціха і спакойна зматаў трохі сваю павуціну і жыў аж да 20 году. Генэральны наступ з-за Бярозы. І выпаўз павук аж у Варшаву.

Асталіся батракі. Карысталіся і памаленьку распрадавалі будынкі. Цераз некаторы час на плошчы 30 дзесяцін быў закладзены агранамічны садова-агародны вучастак, а рэшта... Рэшта на прырэзкі. І выходзіла:— тыя-ж штаны, толькі гашнікам назад.

А ў кілёмэтрах двух ад „Новадвор'я"—вёска Цараўка... У Цараўцы— Андрэй Новікаў. Пасьля шасьцігадовага змаганьня на фронце грамадзянскай вайны—ён пераходзіць на другі фронт... І тут упартае штодзеннае змаганьне за колектыў, за комуну... Сьмяяліся з яго на вёсцы, кпілі, потым пальцамі паказвалі, касавурыліся, а потым... пагражалі, кулакамі махалі.

А скажэце, хто гэта такі знойдзецца волат-асілак, каб змог стрымаць, затрымаць, паставіць гаць тэй паводцы, якая імпэтным струменем палілася, рынулася *новым, сьветлым, колгасным* на трохполку, на дробнаўласьніцкае, на ўсё старое?!

— Скажэце, хто такі сьмелы аб'явіцца?!.

І паводка прарвала пракаветачныя трухлявыя гаці.

Вясна. 1 мая 1928 года. Узбунтавалася Цараўка. Вышаў першы бунтар—Андрэй Новікаў. Не з сякераю, ня з вінтоўкаю і ня туляўся ён па цёмных у дзень беларускіх пушчах. Вышаў толькі з прапановай, настойлівасьцю, з энэргіяй, як крэмэнь...

— Хлопцы, мужчыны! Бедната! Організуем колгас! Падымем тое дарагое, што сёньня топчам нагамі...

Ёсьць-жа на вёсцы бальшавікі-паўстанцы. Ці-ж іх застрашыш абрэзамі?—Ніколі!

Шэсьць гаспадароў з рашучасьцю, з нейкім ліхаманкавым агнём уваччу, з гонарам вышлі, аддзяліліся ад шэрай грамады сялян—і сталі за Андрэевай сьпіною. У гэтых сьмелых і дзіўных людзей на нагах былі лазовыя растаптаныя лапці. Скрозь дзіравыя лахманы на плячах сьвеціцца вузкая костка. Гусіная скура. Не сагрэе іх сонца. Да іхных кален туляцца мурзатыя і абадраныя дзеці.—Пасінелыя вусны. З гэтых вуснаў ніколі ня сыходзіць слова—„хлеба"—нібы яны нічога другога і ня ведаюць акрамя гэтага праклятага слова.

— Андрэй!..—сказалі мужчыны.—Андрэй!.. Ты чалавек бывалы і разумны. Ты ведаеш, што робіш і ты нас не загубіш. Мы табе верымо. Мы жадны кавалачку хлеба. Паглядзі на нашых дзяцей...

А дзеці:

— тата, хлеба!..

— ... скарыначку...

Андрэй зірнуў на колгасьнікаў, зірнуў на тую лаву людзей, якая была *супроць іх,* зірнуў на дзяцей...

Самі здагадайцеся, што ён тады адчуў, пераджыў, пастанавіў.

Ён заўжды спакойны, ціхі, але настойлівы. Спакойна і сказаў:

— Нічога! За работу!

... Галыцьба. Паўстала галыцьба!

З усёй вёскі сем гаспадароў—33 душы—узяліся за ломку жыцьця. А ці-ж гэта лёгкая праца, калі супроць цябе блізкі сусед-сябра, родны брат, бацька?! Але рэволюцыйная закалка!..

Па вёсках шэпты, плёткі, брудныя і агідныя лаянкі, крывавыя пагрозы... Зьмяіным шэптам чуткі:

— ... пойдзеш у комуну—з голаду здохнеш! З аднаго катла давядзецца есьці. Так штө, калі пры рабоце, дык і шлындаў не пацягнеш.

— ... разам усе сьпяць... Пад аднэй коўдрай... Там жонка не за жонку... Дык дзе іх там разьбярэш ўпоцемку, ці гэта твая жонка, ці не твая...

У часе імшы ў цараўскай царкве поп вышаў к натоўпу і ўрачыста паведаміў:

— Вось толькі што, прыгатаўляючы дары—бачыў у чашы багародзіцу... Гэта знаменіе божае... Малецеся, людзі добрыя—апошні настаў час.

Даволі было аднэй гадзіны, каб узварухнулася раптам уся вёска.

— Поп бачыў у чашы багародзіцу...

— Сканчэньне сьвету...

— Усё гэта—Андрэй... Ён...

І калі нават вясковым комсамольцам даводзілася гутарыць з папом адносна „відзеньня"—ён не адмовіўся ад таго, што гаварыў у царкве. Комсамольцы наладзілі антырэлігійны дыспут і толькі тады... Разьбіліся погляды ў сялян на рэлігію, але і разьбілася сама вёска.

Андрэй упарты, Андрэй, як крэмень. Ці-ж могуць яго зламаць такія чуткі?

Займаюць Новадвор'е і ўтвараюць колгас „Селянін". Абрабляюць 30 дзесяцін былое панскае зямлі, ды тэй, што адышла ім у спадчыну ад дзядоў і прадзедаў,—столькі-ж. Вясковая зямля ў шырокіх межах ды ў вузенькіх палосках. Пачалі абагульваць маемасьць і жывёлу. Абагулілі нават платы. Іначай і быць не магло. Адкуль-жа тое багацьце ў галыцьбы?! Сьмех адзін—трое сьвіней, шэсьць кароў, ды тройка коней з ломанымі плугамі. А ў баб—пустыя куфры (гэта прыданае), верацяно і чапяла.

А ў Новадвор'і з будынкаў адзін дом на 6 пакояў (дзед-стагодні) ды абора бяз крышы. Вось што дасталося колгасу. Да і то ўсю вясну ў доме стаялі дапрызыўнікі, займалі яго.

Не шанцавала паўстанцам бунтарам. Як у прыказцы тэй:—Пачыё ты, воўча, ідзеш?—„Па сірочае!". Выехаў Андрэй—паркай коняй араць агарод, а дыпрызыўнік рады, што першы раз трымае вінтоўку ў руках і нават можа стрэліць. І выстраліла варона па вароне. У запражцы маладая кабыліца. А коштам яна рублёў трыста, ня менш. Рванулі коні, вырвалі з дзябёлых рук параконны плуг і, пашлі гуляць. Плуг адарваўся, каромыслы задубасілі па каленках. Шалеюць коні. Паркан. Коні цераз

паркан. Кабыліца завісла грудзьмі на штакеціне, потым заламала і яшчэ, з гарачкі, прабегла паўкілёмэтра. Па струменю крыві і знайшлі яе ў яры. Здохла. Узрадваліся плеткары і ворагі колгасу.

— А-а-а-а, гэта ім бог так даў!..

— Пакараў бязбожнікаў:

А другія:

— Дармо—зараз разьбягуцца, як рудыя мышы...

А колгасьнікі і ня думалі разьбягацца. Пачалі прадаваць свае будынкі, якія ўжо там былі, а грошы—на агульнае. Закупілі тры каровы ды трыста пудоў насеннай бульбы. Крэдыту ня бралі. А што калі ды ня выплаціш?.. Узяць то ня штука, але як аддаць?! Абагулілі жывёлу, ды купленая, і глядзіш ужо маюць дзевяць кароў дойных і тры цялушкі. Заклалі таварны агарод. Агарод гэты даў увосень 1500 рублёў. І аднаго толькі чыстага прыбытку колгас мае тысячу рублёў. Агледзілі сад. Увосень сад дае вялікі прыбытак. Цяжка з будынкамі. Бяруць і перавозяць сюды з вёскі Цараўкі гумно свайго колгасьніка (яно будзе сенавалам) і зрабілі, пакуль што, сьвіран. Увесь прыбытак ад саду пашоў на сьвіран і... акрамя сваёй працы.

Да новага ўраджаю ніхто з колгаснага фонду для свайго пражыцьця ня браў аніводнага зерняці. Мо' трохі і недаядалі, мо' капуста ў іх была і нішчымная, але затое рос, узмацняўся колгас.

І толькі з жніўня месяца пачынаецца аплата працы. Кожная працаздольная адзінка атрымлівае ў месяц восем рублёў, стары і падлётак—чатыры рублі і дзіця—два рублі.

Мо' думаеце былі скаргі, протэсты? Хіба-ж знойдзецца такі, што будзе протэставаць супроць сябе?!.

Увосень ужо колгас мае тысяча семсот рублёў чыстага прыбытку і ўвесь прыбытак пашоў на пабудову жыльлёвых памяшканьняў. Пабудавалі яшчэ два сьвінарнікі.

І гэта зрабілі за год семнаццаць пар рабочых рук...

А ў дваццаць дзевятым годзе закладаюць агарод на тры гектары. Летась агарод дае 600 пудоў ураджаю, а сёлета—роўна ў два разы больш. Летась заклалі малады сад на плошчы двух з паловай гектараў, а сёлета да гэтае плошчы яшчэ дабавілі, дасадзілі маладняку на 3,5 гэктара. Ёсьць у колгасе стары, але вялізны сад. Сад патрабуе добрай папраўкі і толькі тады можа даць якую-небудзь карысьць.

З вясны колгасьнікі зноў узяліся за работу, за будаўніцтва. Пабудавалі аграмадны хлеў пад вазоўню ды яшчэ адзін сьвінарнік. Будавалі, зразумела самі і на ўсё гэта затрацілі толькі паўсотні рублёў. Перакрылі дахі. І як у добрай ужо комуне сьвежымі саламянымі дахамі адліваюцца на сонцы хлявы, цешыць вока бляшаны пафарбаваны дах на доме, дзе жывуць зараз колгасьнікі. Стараюцца людзі, выбіваюцца з сіл, але хочуць, хочуць падняць гаспадарку, свой дабрабыт.

Патрэбен і вунь як патрэбен для іх крэдыт на жывёлу—аднак усё яшчэ баяцца... Разводзяць сваё колгаснае. Вясною колгас ужо мае паўкапы штук сьвіней. Дзесятак контрактуюць, дзесятак на ежу, рэшта—маткі—на прыплод.

Пасьля таго няшчаснага здарэньня, калі прабілася на частакол кабыліца—колгас выскрабае, зьбірае так-сяк сродкі і купляе каня за 360 руб. Папаўняюць утрачанае. Абмяркоўваюць свае капейкі, там-сям уразаюць свой небагаты бюджэт і набываюць для злучнага пункту быка швэйцарскай пароды. Ведалі мужчыны, ведалі з сваёй сялянскай практыкі, што гэта штука ня дурная. І бык апраўдаў сябе; ён даў колгасу больш таго, чым сам каштуе. К вясьне 29 году ён быў для колгасу ўжо дармавы.

У мінулым годзе дзяржава дала ім у крэдыт: жняярку, плянэт для поліва град, малатарню, арфу, сартоўку. Прыбываюць сродкі вытворчасьці, машыны, а зямлі не расьцягнеш, зямля яшчэ ў моцных рамках—межах. Зямля—гэта не гумуляст. Няма як колгасьнікам разгарнуцца. Якое-ж тут можа быць разгарненьне, калі пры колгасе зямлі вомбаль, а вясковая, ад спадчыны,—за чатыры кілёмэтры ад колгасу і цераспалосіца. Ды як-жа ж улічыць яравы клін, а разам з гэтым, як весьці бухгальтэрыю? Проста немагчыма.

Кожны дзень, кожны месяц у пастаяннай суладнай рабоце загартоўвае колгасьнікаў-паўстанцаў. Яны працуюць—як кажа ваколічнае насельніцтва—як чорны вол.

> А бядняк любіць працу і гэтую-ж працу праклінае. З матчыных грудзей усмактаў ён гэтую нязьменную да яе любасьць.
>
> Лёс, пракаветачны лёс. Налажыў яму ад нараджэньня гэты крыж і яшчэ з сьляпога маленства ўзьненавідзіў ён гэты пракляты крыж.
>
> Жніва, касавіца, праца ў лесе, на сплаве, на плытох.—О, як прыгожа выглядаеш ты гэтая праца і як ты агідная, ненавісная нялюбая, цяжкая, рабская!..
>
> ...Рукі—старонкі шматгадовай, шматсомнай кнігі. Кожны дзень цяжкая праца чытала па іх гісторыю роду чалавецкага, чытала пры сьвечках жорсткага ўціску, нечалавечых адносін і палажылі на далонях свае пячаці—грубую кару капель воску—мазалёў. Пагоня за кавалкам хлеба, штогоднія і рэгулярныя недароды, вымачкі, падзелы, *межы,*—беспары састарылі бедняка, прыгнулі ніэка да зямлі, увагналі ў грудзі ўдушша, на вочы пастлалі туманы-бельмы.
>
> Цяжка жылося, што ні кажы!

І кідаюцца зараз бednякі, шукаюць выйсьця. Прыгожым маяком маніць іх да сябе колгас сытнай і здаровай ежай, сьветлым чалавечым, *чалавечым* жыцьцём, машынай... І разам з тым, недзе ў іх за плячыма, усмактаная з матчыных грудзей, ад дзядоў і прадзедаў,—апаска перад усім новым, нязьведаным, незразумелым для іх.

Ї вось гэта апошняе, самае што ні на ёсьць і цяжкое, гіблае, апасьлізае ў сёняшнім будаўніцтве, у сёняшняй рашучай ломцы жыцьця.

Але-ж ёсьць прыказка: сіла і салому ломіць. Сіла ўсьведамленьня новага, карыснага, на сёняшні дзень неабходнага ломіць тое, што ўвайшло ўжо ў звычай, глыбока ўкаранілася ў падсьвядомае.

Так і тут.

Недалёчка ад колгасу „Селянін"—у поўкілёмэтра—вёска Цараўскія Агароднікі. Вясковая бедната з Агароднікаў часта, бывала, у нядзелю, калі ня было чаго рабіць, бо ня было чаго рабіць,—ішлі глядзець на „паўстанцаў". Бабы хрысьціліся і адыходзілі далей ад іх, а мужчыны пэхкалі люлькі, смакталі згрызеныя ўшчэнт цыбукі, моўчкі цвыркалі скрозь зубы на сьвежыя скібы сёньня ўзаранага і ўваходзілі ў гутарк.

Ламаўся лёд нерашучасьці і тупой апаскі. А хто яго падлічыць колькі разоў зварачвалася агародніцкая бедната да таго-ж Новікава і да іншых колгасьнікаў за дапамогай значнай і нязначнай, і за вялікай, і за малой..і

— Ї вечарамі, пры захадзе сонца, падсушваючы на прызьбе мокрыя ад поту суравыя кашулі, доўга гаманілі беднякі... А гаварылі... ды, я думаю, самі ведаеце аб чым...

А вячэраць—наўрад ці была ў каго з іх зацірка на вячэру.

Жнівень зрабіў пералом.

Сем сям'яў—трыццаць дзьве душы—прышлі да Новікава.

— Прымай нас і давай работу!

Прывялі з сабою пяць кароў ды тройку коняй.

Ї ўзяліся людзі—мурашкі за пабудову ў першую чаргу свайго мурашніка. Пабудавалі чатыры хаты. У некаторых хатах нават не паклалі і падлогі—падасьпела восень. Ня важна! Важна тое, што ёсьць гняздо, ёсьць месца, ёсьць кватэра, тады як некаторыя беднякі ў свой час на вёсцы жылі амаль пад адкрытым небам. Патрэбны былі кватэры для новых паўстанцаў. Трэба было ламаць галаву, каб як трохі выкраіўшы з пляну цэлага шэрагу патрэбных будынкаў, выкраіць сякую такую хаціну. Ї гэта толькі для трыццаці дзьвюх душ, для сямі сем'яў.

А на вясну трыццатага году колгас будзе ўжо мець цэлых сто сем'яў. Гэта факт, гэта аксыёма.

Ї колгас аб гэтым падумаў. Ён ужо загадзя падрыхтаваў паўтары сотні брусоў на новы дом, каб пасьля не ламаць галавы як разьмясьціць людзей.

---

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... А-а-а-й-й-і-і-і, ты!.. Адчапіся, не цьвялі яе!..—нэрвова крыкнула маці. Дзеці на хвіліну змоўклі. Хлопчык як-бы з перапуду ўскочыў на ложак, а маленькая дзяўчынка прыціснулася да бацькаўскіх кален. Шурпатаю далонёю Андрэй пачаў гладзіць яе бялявую галоўку.

— ...Вячэрайце, вячэрайце ўжо...—кінула нам гаспадыня і паставіла на сьнежным,—такой бялізны,—у дымку тканым абрусе міску добра

засквараной капусты, талерку мяса, тварог са сьмятанаю і аўсяны кісель з малаком.

Даводзілася мне і раней часта бываць на вёсцы. Ведаю я добра і серадняка. І наўрад, ці даводзілася калі так добра, так сытна есьці ў яго, як у колгасьніка? Не!

За дзьвярыма гоман, сьмех і тупат. Увальваецца разам з марозным парам чарада моладзі: хлапцы і дзяўчаты. Усе комсамольцы. Яны ўжо ведаюць хто я такі і з нейкай цікавасьцю аглядаюць мяне. Адразу-ж падзяляюцца ўражаньнямі аб прачытанай беларускай літаратуры. Гавораць пра „Золак“, пра творчасьць Цішкі Гартнага, пра яго вывіхі, пра „Сьцежкі-дарожкі“, „У іхным доме“. Аднаму дзяцюку не падабаецца апавяданьне М. Зарэцкага—„Цішка Бабыль“.

Ён мне кажа:

— Нейкая бездапаможнасьць ягонага героя—Цішкі. Інвалід. Герой грамадзянскай вайны. Думае рабіць колгас і нічога з гэтага ў яго ня выходзіць. Ды гэта-ж паклёп на колектывізацыю.

Другі:

— У нас адна бяда—няма беларускай бэлетрыстыкі. На мастацкую літаратуру ў нас страшэнны голад. Акрамя сельска-гаспадарчай літаратуры ў нас няма ніводнай кніжкі з мастацкай прозы...

І праўда, калі я пачаў пералічаць творы, што нядаўна вышлі—яны проста зьдзівіліся.

Як відаць на гэтым фронце ўсё ідзе саматугам, без аніч'ёй дапамогі (галоўнае—райкому КСМ).

Так-жа сама саматугам організоўваюцца пастаноўкі мясцовага драмгуртка. Няма аніводнай сучаснай п'есы. Кажуць мне, што ставяць п'есу „Калісь“ і інш. да яе падобныя.

Узноў-ткі—чамусьці непацікавіліся, не паклапаціліся, не пагледзелі, якім культурным жыцьцём жыве гэтая колгасная моладзь, якую мастацкую кніжку (ня кажучы ўжо аб сельска-гаспадарчай) мае на сёняшні дзень колгас, якую п'есу.

І побач з гэтым паўстае ў мяне ўжо другое пытаньне.

— Перад нашымі пісьменьнікамі, асабліва БелАПП'аўцамі, зараз паўстае ўва ўсю сваю веліч абавязак, грамадзкі абавязак: даць цэлы шэраг п'ес ня толькі для Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, але і для вясковых аматарскіх тэатраў на тэму *нашага сёньня*. Колгасны рух, клясавая барацьба на вёсцы, раскулачваньне, соцыялістычнае будаўніцтва...

Колькі ўдзячных тэм!

А мы шукаем днём з агнём тэм на сучаснае, пробуем пісаць п'есы і толькі з тым разьлікам, каб была прынята Беларускім Дзяржаўным Тэатрам, баімося выпусьціць такую, каб пашла сёньня на колгасную сцэну. А там—галадоўля! Задыхаюцца хлопцы ў старым рэпэртуары, як рыба ў мутнай вадзе.

Гэта-ж адзін толькі сьмех (калі бліжэй прыгледзіцца), што толькі цяпер ні ставіцца на сцэнах!

Так, напрыклад, у Слуцку разьвешаны афішы такога зьместу:

Коллективом русской оперы
под управлением *Артемьева*

БУДЕТ ПОСТАВЛЕН

ФАУСТ

Начало в 8 с пол. ч. веч. и т. д.

Уявеце толькі сабе: „Фаўст“ на слуцкай сцэне! Ну, але мне казалі, што акрамя „Фауста“ ідуць і даволі часта опэры: „Евгений Онегин“, „Демон“ (?)...

---

Павячэралі. Комсамольцы кажуць, што ў Агародніках сёньня сходка: некалькі чалавек запісалася ў колгас і на сёняшняй сходцы стаіць пытаньне, каб ужо заўтра і абагуліць усю жывёлу.

Андрэй зьбіраецца на сходку. Андрэй—увесь колектывізацыя. Яго нельга іначэй і ўявіць. Кажуць, што Андрэй ужо даўно, як толькі зьвярнуўся з Чырвонай арміі, дык толькі і жыў і сьніў што аб колектыве.

Колектыў—гэта яго мары, думкі, жаданьні, імкненьні...

Моладзь мяне покуль што затрымлівае: распытвае аб менскім жыцьці.

Выносім пастанову каб схадзіць на сходку.

Цэлай чарадою ідзем у Агароднікі. Новікаў пашоў за нас раней. Без яго не адна сходка не праходзіць: ён першы прыходзіць і апошні адходзіць. На сходку бедната запрашае Андрэя. Андрэй набыў куды большы (калі ня выключны) аўторытэт за старшыню сельсавету.

Ноч марозная, ціхая і цёмная. Калі ідзеш па незнаёмых сьцежках—яна здаецца яшчэ больш цямнейшай. Я іду з атрадам комсамольцаў цераз прысады вялізнага колгаснага саду. Яны наперабой расказываюць мне аб гісторыі колгасу, аб тых спрэчках, аб той вайне, якую давялося ім вытрымаць перад бацькамі.

— Як у організацыі колгасу, так-жа ж і цяпер мы адыгралі і адыгрываем вядомую ролю. Мы проста падпольна зьбіраліся, каб абгаварыць некаторыя пытаньні аб колгасе і ўцягнуць туды нашых бацькоў...

Вясёлы і звонкі голас расказвае нам і перасыпае жартамі, колькі трэба было папсаваць гэтаму хлапцу здароўя, каб уцягнуць у колгас свайго бацьку. Бацька кідаўся, вылузваўся з сынавых рук, але нарэшце сказаў:

— Ну чорт з ім... Іду ў колгас... Але глядзі-і-ы... калі што якое—спачатку твая галава, а потым—мая!..

Нечы малады задзёрысты голас:

— Ведаеце што, мы-ж па начох зьбіраліся ў восецях, каб толькі абгаварыць гэтае пытаньне аб колгасе, каб як-небудзь запісацца ў яго... Іншых загітаваць...

— ...вайна цэлая была з бацькамі...

— ... паверыце?..—кажа нам сакратар комсамольскай ячэйкі Сак Гур—паверыце, я так пачаў націскаць на бацькоў, што бацька мой круціўся, круціўся ды і радачкі мала. Лаяўся, пагражаў, а потым узяў сякеру і сыйшоў з дому... Я думаў, што ўжо і ня зьвернецца, ажно гляджу—прыходзіць... Ну думаю, што-ж ён мне цяпер скажа?.. А ён доўга маўчаў, а потым і кажа:—Ну, сынок, як-та кажацца: тваё права—твая воля, рабі, што хочаш... я—дык у старане... Але... у выпадку чаго глядзі-і-і... Гля-дзі-і-і-і...

---

Моладзь гарыць. Моладзь жыве і хварэе колгаснымі радасьцямі і недахопамі. Колгас—яе гонар. І як жорстка яна ставіцца да таго комсамольца ці партыйца, які пробуе парушыць партыйную этыку...

— Ты ведаеш?...—гаворыць адзін з комсамольцаў свайму сакратару Гуру, і таемна дадае:—Наш старшыня сельсавету хоць і партыец, аднак парушае ўсякія правілы. Мы праводзім сходку па колектывізацыі, а ён з „лішэнкай“ (бацька пазбаўлены права голасу) падручку па вуліцы гуляе... Я думаю аб гэтым варта паставіць пытаньне.

— Кінь ты!..—жартуе адзін з іх.—Гэта ты на яго ўзьеўся, што адрэзаў цябе ад дзяўчыны?!

— Ды не... Я ня тое...

— Тое!..—і ўсе рагочуць.

Нехта падае:

— А-а-й, што і казаць: наш старшыня вельмі-ж ужо бабнік... Ці-ж вам усім не вядома, што па міласьці яго не раскулачылі Андрэя Кохана з Агароднікаў... А чаму?.. Бо за дачкой яго аж расьпяразваецца... А ў Кохана—18 дзесяцін на 6 душ, ды насеннай ссуды далі яму 27 пудоў... Што-ж гэта значыць?! Аддаў ён і зараз толькі пасьміхоўваецца... А раскулачылі Поцэкайліка Рыгора... Хто-ж з іх мацнейшы—Андрэй ці Рыгор...

— Ну, зразумела, Андрэй...

— Дык што-ж гэта такое?!

Маўчанка. Пад нагамі хруст тонкай ледзяной кары.

Хлопцы вытрыманыя. Такія на вудачку каханьня не пападаюцца...

...Я не магу разабраць і нават назваць сёньня па прозьвішчу, каторы з іх мне аб усім гэтым гаварыў. Яны ўсе зьліліся ў аднаго чалавека, у адну думку, ідэю, імкненьне...

---

Мёрзлыя праслы. За цёмнымі, як здані, гумнамі ядрана брэшуць сабакі. Недалужна чырвонымі вачыма міргаюць размалёваныя марозам вокны. Мы на вуліцы.

Сёньня сходка адбываецца ў хаце аднаго бедняка—члена сельсавету. Катух, а ня хата. Дзевяць квадратных крокаў, але хата, відаць, пабуда-

вана толькі нядаўна. Поўна людзей, а ўсіх чалавек пятнаццаць—ня больш. У хаце, што б'е адразу ў вочы, дык гэта покуць абразоў у рамках вышываных рушнікоў, ложак засланы нейкай ружовай дзяругаю ды каля ложка два мяшкі са збожжам.

На пяколку мурзатая, у змаршчакох маладая кабеціна. Прадзе на верацяно. Дапатопны струмант. Каля яе, на прымурку—жаночыя галёшы. У гаспадара-ж на нагах—лапці. Звычайныя беларускія, мо' яшчэ і лазовыя лапці, а на прымурку звычайныя, савецкага вырабу, атрыманыя па кніжцы з ЦРК—жаночыя галёшы. Сёньня-ж прадзе яна босая. Галёшы-ж надзяе мусіць толькі куды на кірмаш ды ў сьвята, і то абыходзіць лужыны і гразь...

Ударная брыгада праводзіць сходку. Абагульваньне жывёлы—пытаньне, якое ўсіх нэрвуе, непакоіць...

Частка згаджаецца. Частка—жанчыны—ні прыступу.

— Будуць людзі ісьці—тады і я...

А каля яе сядзіць муж і моўчкі курыць. Ні за, ні супроць.

— Дык-жа ж людзі ідуць... Чаго-ж вам больш?..

— Ну, дык я пасьля.

— Калі-ж гэта будзе пасьля?.. Заўтра трэ' ўжо і абагульваць.

— А-а-а-а, во брыда прыстала!.. Як усенькую восень сядзела без малака з дзецьмі, дык ніхто мяне ня бачыў, а цяпер, дзякаваць богу, як кароўка мая ацялілася—убачылі!.. Я потым!..

Другая жанчына, трохі лепш ад усіх апранутая, у валёнках і галёшах, з вялізнай хустай на плячох, ужо выбіраецца ад абагульваньня ў „Расею". Там кажа—буду служыць з сваім мужыком на чыгунцы і знаць нічога не хачу...

— ...Ну, а як ты, дзядзька?..—пытаюць у гаспадара.

Гаспадар маўчыць. Маўчаць у запечку і тараканы.

— Га-а!.. Няхай ён сабе ідзе у колгас хоць і сягоньня...—раптам і зусім нечакана сарваўся з пяколку сварлівы бабскі голас.—Няхай ідзе куды хоча, а я з дзецьмі астаюся. Дзякаваць богу прычакала багацьця, толькі што жыць—дык трэба ўжо барджэй і ў колгас?! Няхай мужык ідзе, а я астаюся... (Пры боку галёшы, на дварэ пад адкрытым небам здохлая кабыла, і каля ложку два мяшкі збожжа).

Дагаварыцца з жанчынамі так і не давялося.

Рыпнулі дзьверы і ў душную хату ўваліліся: сьвежае паветра, марозная пара і дзьве лапатніцы-жанчыны. Усе абярнуліся.

— А-а-а, вот і цёткі!.. Ну, а як вы ў колгас?..

— Ды ніяк!.. Хто хоча няхай ідзе, а мы пачакаема.

— А мо' вы, цёткі, баіцеся, што харчоў у вас вобмаль?..

— Ды не!..

— А што?..

— Нічога... Аат!..

— Што ат?.. Калі што незразумела, то лепш запытайцеся.

— Няма аб чым пытаць!..

Андрэй Новікаў пад абразамі на покуце ў новым „кулацкім“ кажуху. Твар сыты, здаволены. Блакітныя вочы схаваліся ў ціхай насьмешцы. Андрэй зусім спакойны. Бярэ слова і з мяккім гумарам гаворыць аб тым, што колгас беднату прыме хоць-бы ў яе за душою былі адны толькі лапці... Калі-ж ёсьць і жывёла—няхай абагульняюць, заўтра колгас дае і харчы.

Нічога не дапамагае.

Некаторыя мужчыны па некалькі разоў выходзяць на двор „параіцца“. Некаторыя варочаюцца ў хату і зноў моўчкі кураць, а некаторыя... некаторыя ідуць да некага „параіцца“...

Разыходзімся.

— ...сёньня толькі і толькі сёньня можна і ёсьць магчымасьць у наяўнасьці ўгледзіць плады культурнай работы сярод жанчын. І відаць, што аніякай, нават і элемэнтарнай работы—не вялося.

Ці ўсьведамляліся гэтыя жанчыны самі-па-сабе, ці праводзіліся сходкі дэлегатак, якую тут хто вёў сярод іх работу—невядома. Адно, што факты гавораць самі за сябе:

— жанчына са сваёй псыхолёгіяй такая-ж, якой была дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў таму назад. (Дзесяць *нашых гадоў*—стагодзьдзе).

---

...І толькі калі разыходзіліся, што называецца, на шапачны разбор, зьявіўся старшыня сельсавету. І ад гэтага справа ні на крок не зьмянілася. Ці то ён быў, ці не. Нейкае такое асталося ўражаньне, што сельсавет—у даным выпадку—як адміністрацыйная адзінка, пляцецца ў хвасьце, плыве ззаду колгаснага струменю... Верхаводзяць, накіроўваюць куды належыць і як сьлед гэты струмень—Новікавы. Так, так—Нові-і-ка-а-а-в-ы-ы!..

Гэта сьцьвярджаюць і мясцовая комсамольская ячэйка і факты.

---

Вышлі з хлопцамі з катуха. Балючая цемень і жорсткі марозны вецер. На лёд лягла тонкая пацяруха маладога сьнегу. Ап'янелі боты. Мы сунемся (хутчэй за ўсё—коўзаемся) па вуліцы цёмнай, фантастычна-расплыўчатай масай і гутарым. Вярней будзе: і ня гутарым, а стараемся перакрычаць адзін аднаго, давесьці, упэўніць... Цішыня цемнаты глушыць нашы галасы і яны самі-сабой пераходзяць у шэпт...

Гутаркі, тэма гутаркі, усё аб адным і тым-жа:

— аб колектывізацыі...

— аб раскулачваньні...

Хлопцы мяне падмываюць зайсьці на зборню. На Случчыне такі парадак: у кастрычніку месяцы кожнага году зьбіраюцца ўсе маладыя вясковыя дзяўчаты, абіраюць дзе-небудзь добрую хату, дзе малая сям'я і больш чысьцейшая, кожная з дзяўчат плоціць гаспадару ці гаспадын

па рублю і, хата на вячоркі закантрактавана на цэлую зіму, на цэлы бюджэтны год...

Кожны вечар зьбіраюцца сюды дзяўчаты з прасьніцамі, прадуць, пяюць песьні, час-ад-часу наладжваюць і вечарынкі з музыкамі.

І кожны вечар тут прападае цэлая чарада і ня толькі хлапцоў, але і жанатых мужчын. Хлопцы ўвіхаюцца каля дзяўчат, жартуюць з імі, скубануць жменю кудзелі з прасьніцы, зловіць верацяно, а мужчыны ў кутку цягнуць свае доўгія, няскончаныя гутаркі і, кураць...

Сьвятло гарыць, цёпла, людна—дзе лепшае знойдзеш месца для гаворак?!.

У літаратуры нашай амаль-што нідзе ніхто так яскрава, дакладна і праўдзіва не апісаў гэтыя зборні, як Цішка Гартны.

Між іншым і тут—верацёны. Кажуць, што прасьці на калаўротах нашыя (слуцкія) дзяўчаты ня могуць. А прасьці верацёнамі выгадней і лепш таму, што якасьць нітак куды лепшая, ад тых прапушчаных цераз шпулю калаўрота.

Затое, якія прыгожыя і мілыя песьні пяюцца дзяўчатамі. Якая цудоўная мэлёдыя, словы, наогул зьмест песьні!

На зборні пелі песьню. Хлопцы ў гэты час закідалі мяне ўсялякімі пытаньнямі. Запомніць зьмест песьні, улавіць словы—я аніяк ня мог.

Але каб чулі вы, якая гэта была песьня!

> Гэта вясна...
>
> Гэта сонца радасьці жыцьцёвай і нязьведанай дзявочай тугі...
>
> Гэта—я думаў,—рассыпаліся сонечныя сьлёзы закаханай дзяўчыны, гэта нязьведанае шчасьце сьветазарных далячынь і глыбіні пачуцьцяў.

За вакном рахмана тулілася да мёрзлых вакон маўклівая ноч. Шчыльным колам да сівабародых прасьніц схіліліся дзяўчаты. Прывычна і рупліва бегаюць рукі.

Пяюць дзяўчаты.

А мне ў той час вельмі-ж хацелася, каб гэтыя песьні паслухалі некаторыя „патэнтованыя“ сьпявачкі нашых Дзяржаўных тэатраў, нашых музтэхнікумаў...

З усёй зборні выдзялялася адна. Гэта Аксеня Махлай з вёскі Цараўская Агароднікі, Цараўскага сельсавету.

Голас яе—нешта надзвычайнае.

Ах, каб гэта было каму зьвярнуць на яе ўвагу, а ўвагу на яе зьвярнуць трэба!

---

Позьняя ноч. На куросаньні прапеў тройчы певень. Сон на голых лаўках у вагоне, мароз у дарозе—хочацца сагрэцца і заснуць моцна, моцна... Дрэма стомлівае, абнядужвае.

Мы ідзем у колгас. Разьбітымі званамі звоняць сабачыя галасы. Комсамольцы захутваюцца ў кажухі і ў цемнаце шукаюць сьцежкі.

У галаве шмат думак, шмат сырога, яшчэ неаформленага матэрыялу, шмат прыгожых пачуцьцяў.

Перад намі чарнее сьцяна.

— Што гэта?

— Ды ці-ж не спазналі?.. Гэта-ж наш сад. Ён, праўда, стары, але ўсяго зараз у нас саду 8 гектараў... Тут ёсьць нават сажалкі... А ў іх рыба.

— Ці ловіце?

— Што, рыбу?

— Ага!

— Ды не! Праўду сказаць няма калі, няма ахвотнікаў ды яшчэ і няма чым...

— Андрэй-жа...—нехта кінуў за плячыма.

— Ну, праўда, Андрэй венцяры ставіць у рацэ. Гэта-ж вось тут, ото-ж о‘... о‘... і рака за садам...

Ноччу, зразумела, я нічога ня мог убачыць, але назаўтрае, калі вышаў аглядаць багацьце колгасу—мяне гэта рака зацікавіла.

Увесь колгас стаіць на левым і крутым беразе ракі Случы. Апошняя хата ластаўчыным гняздом глядзіць у срэбныя хвалі рэчкі. За рэчкай—паплавы і паплавы.

— А ў нас тут улетку надзвычай прыгожа. Сюды, і раней улетку і вясной зьяжджалася шмат народу—на дачу. Вось прыедзьце, тады падзівіцеся!

І сапраўды,—тут нават і ўзімку было прыгожа.

Скрозь абмёрзлае гольле саду мігнуліся агні. Мы прышлі.

Андрэй ужо распрануўся, але яшчэ ня сьпіць. Жонка ўвіхаецца каля печы, дзед сядзіць на печы і ў задум‘і чэша сівавата-русую бараду. Зьвесілася на чорны ад зморшчакоў лоб кучма валасоў. Нешта моцнае думае.

Вакол стала—комсамолія. Ня хочацца спаць.

Дастаю кніжачку Ўл. Паскрэбкі „Трактар будзіць раньне“, і пачынаю чытаць.

Сунецца з печы дзед, Андрэй устае і ўсьпіраецца ў аднэй бялізьне цераз сьпінку ложка і слухае. Ён уважліва ловіць кожнае слова. Час-ад-часу вырываецца ў яго само-сабою:

— Малайчына, Мікола... цікаўны быў мужык!..

Слухаюць комсамольцы, слухае жонка Новікава, слухае і дзед. Яго бародка клінам убілася ў жылісты кулак. Валасы раскудлачыліся. Старасьць выцягнула на яго шыі чорныя і вялізныя жылы... Курыць.

— ...а скажэце мне...—раптам перабівае ён нас...—Як нам будзе старым...

Усе абярнуліся.

— А што, вам тут дрэнна?

— Ды не!.. Але як пабольшае колгас?!—І няёмка затупаў на адным месцы.

Усе ўсьміхнуліся. Пачалі тлумачыць. Дзед здаволены, накульгавае на адну нагу, як качка, і раскарэкай павольна грабецца на печ. Аднекуль дастае вузельчык, разьвязвае яго і сыпле ў рот парашок ды запівае вадою...

Дзед у маладосьці мусіць падарваўся і яго цяпер часта пачынае мучыць жывот.

Сьпяць дзеці. Гаспадыня рыхтуе для мяне пасьцель. Зусім позна. Але кніжку даслухалі да канца.

— Добрая кніжка... Вот добра апісана...

— Але і жыцьцё добрае людзі наладзілі...

— ...наладзім і мы такое...—скрозь вусы санліва бурчыць Андрэй.

Разыходзяцца. Гур дакляруе заўтра прысьці раніцою і агледзіць разам усю маемасьць і ўсё багацьце колгасу...

На марозе гараць цудоўнымі самацьветамі зоры. Колгас затануў ў вязкай цемнаце.

Сон.

*Канец будзе.*

# ЗАМЕЖНАЯ ПОЛІТЫКА ПОЛЬСКАГА ФАШЫЗМУ

**М. Васьлянскі**

Шалёная анты-савецкая кампанія, што вядзецца ў сучасны момант ва ўсіх капіталістычных дзяржавах, кампанія, якая аб'яднала ў цкаваньні Савецкага Саюзу цёмныя сілы ўсіх відаў і адценьняў—ад рымскага папы да рабінаў і папоў усіх краёў і нацый,—гэтая кампанія, суправаджаемая дзікім выцьцём сусьветнай буржуазнай прэсы, зьяўляецца сымптомам небясьпекі новай узброенай інтэрвэнцыі, небясьпекі, якая што раз у большай меры конкрэтызуецца і пагражае нашаму Саюзу. Ў гэтых умовах наша ўвага завастраецца на замежнай політыцы капіталістычных краёў, якія рыхтуюць гэтую ўзброеную інтэрвэнцыю, у прыватнасьці-ж, на політыцы такіх краёў, як Польшча, якая ў выпадку рэалізацыі ідэі „крыжовага паходу" адыграе бязумоўна ролю авангарду сусьветнай буржуазіі.

Калі-б мы паспрабавалі даць рэтроспэктыўны аналіз замежнай політыкі Польшчы за час з моманту заключэньня Рыскае ўмовы да сучаснага моманту, то нам трэба было-б падзяліць яе на 2 этапы. Першы: прыблізна да канца 1925 г.; другі: з пачатку 1926 г. да гэтага часу. Пэўнай мяжой зьяўляецца ў даным выпадку момант заключэньня лёкарнскіх дагавароў восеньню 1925 г.

Як вядома, да гэтага часу замежная політыка Польшчы базавалася на пастановах Вэрсальскага дагавору і на непарушнасьці гэтага трактату, а таксама на сыстэме ваенных саюзаў, сярод якіх дамінуючым быў ваенны саюз з Францыяй.

Ваенны саюз з Францыяй гарантаваў Польшчы непарушнасьць яе заходняй граніцы. На падставе гэтата саюзу Францыя абавязана ў выпадку нападу ці нават спробы нападу на Польшчу з боку Нямеччыны, безадкладна прыступіць да ваенных опэрацый, накіраваных супроць Нямеччыны. Такія-ж абавязацельствы ўзяла на сябе Польшча ў адносінах да Францыі.

З другога боку сыстэма франка-польска-румынскіх саюзаў узмацняла позыцыю польскай буржуазіі на ўсходняй граніцы польскае дзяржавы.

Заключэньне лёкарнскіх дагавароў унесла дысонанс у гармонію польска-францускіх адносін. У сілу зьбегу акалічнасьцяй агульнага політычнага і, у прыватнасьці, экономічнага характару (на аналізе якіх мы тут ня будзем спыняцца), Францыя з цягам часу пачала праяўляць імкненьне да зжыцьця сваіх супярэчнасьцяй з Нямеччынай.

Гэтае імкненьне знайшло свой першы выраз у заключэньні Лёкарнскіх дагавораў. У дагаворы, заключаным увосень 1925 г. між дзяржавамі Антанты з аднаго боку і Нямеччынай з другога,—гэтая апошняя афіцыйна адмовілася ад усякай думкі аб рэвізіі сваёй мяжы з Францыяй, г. зн.: яна адмовілася ад сваіх намаганьняў на Эльзас і Лётарынгію, якія былі далучаны на падставе пастаноў Вэрсальскага дагавору да Францыі. Непарушнасьць усходняй мяжы Францыі (рэйнскай мяжы) гарантуецца ў Лёкарнскім дагаворы таксама Англіяй, якая абавязваецца выступіць з зброяй у руках супроць Нямеччыны, калі яна парушыць тэрыторыяльны статут заходняй Эўропы.

Высілкі польскага міністра замежных спраў Скшынскага, які спрабаваў у Лёкарно дабіцца такой-жа гарантыі для заходняй мяжы Польшчы (гутарка ідзе аб Верхняй Сылезіі і аб так званым Данцыгскім калідоры) не дасягнулі посьпеху, у выніку катэгарычнае адмовы Англіі гарантаваць непарушнасьць польскіх межаў, а таксама ў выніку досыць індыфэрэнтных адносін Францыі да тагочасных польскіх патрабаваньняў.

У Лёкарно польска-францускаму саюзу быў нанесены рашучы ўдар: было вырвана яго анты-нямецкае джала. Адна з пастаноў гэтага дагавору гаворыць, што ваеннае выступленьне Антанты ў цэлым, ці паасобных дзяржаў Антанты супроць Нямеччыны, можа мець месца толькі на падставе спэцыяльнае пастановы Рады Лігі Нацый. Выходзіць такі малюнак: калі, напрыклад, паміж Нямеччынай і Польшчай пачнецца вайна, то Францыя ня мае права выканаць пастаноў свайго ваеннага дагавору з Польшчай і аказаць ёй дапамогу, але яна абавязана дачакацца пастановы Рады Лігі Нацый, якая выкажа сваю думку аб тым, якая з ваюючых старон правая і якая—вінаватая, хто зьяўляецца нападаючым і хто—ахвярай нападу і, нарэшце, якія санкцыі трэба ўжыць да нападаючага.

Такім чынам, мы бачым, што Лёкарно зьяўляецца паваротным пунктам ва франка-польскіх адносінах, што вызначалі да гэтага часу характар польскай замежнай політыкі ў цэлым. Ня трэба, аднак, з гэтага рабіць вывад, што польска-францускі саюз на ўсе 100% пазбаўлены свайго значэньня: калі ён страціў сваё анты-нямецкае джала, то ён, зразумела, не пазбавіўся свайго значэньня ва ўсходняй політыцы Польшчы, у прыватнасьці-ж у політыцы Польшчы ў дачыненьні да Савецкага Саюзу. Аднак-жа адзін той факт, што Лёкарнскі дагавор пакінуў адкрытым (са згоды Францыі) пытаньне аб заходніх межах Польшчы і што саюз з Францыяй пазбавіўся свайго анты-нямецкага значэньня, было выстарчальным для таго, каб карэнным чынам зьмяніць міжнародную сытуацыю Польшчы і каб прымусіць яе ажывіць дзейнасьць у пошуках новых політычных арыентацый.

Аб тым, наколькі зьмянілася міжнароднае становішча Польшчы пасьля Лёкарнскіх дагавароў, сьведчыць той факт, што пасьля 1925 г. у Нямеччыне адкрыта пачало абгаварвацца пытаньне аб адабраньні ад Поль-

шчы Верхняй Сылезіі і Данцыгскага калідору, што ня толькі не спаткала адпору ў Францыі, але наадварот: выдатныя палітычныя дзеячы Францыі нядвусэнсоўна намякаюць на пажаданасьць ліквідацыі польска-нямецкіх супярэчнасьцяй у імя яшчэ большага франка-нямецкага збліжэньня. Некалькі месяцаў таму вялікую сэнсацыю ў міжнародных палітычных колах выклікаў факт сакрэтных перагавораў, якія мелі месца паміж прадстаўнiком правых француcкіх сфэр Рэйна і нямецкім фашыстым Рэхбэргам, тэмай якіх былі ўмовы згоды Францыі на рэвізію польскай граніцы на карысьць Нямеччыны.

Калі Брыяну нядаўна было зададзена пытаньне, што зробіць француcкі ўрад у выпадку нападу Нямеччыны на Польшчу—Брыян адказаў прыблізна наступнае: „Мы ўжывем усякія высілкі да таго, каб да гэтага справа не дайшла. Між іншым такая магчымасьць зьяўляецца мала верагоднай“. Але Брыян ні словам не спамянуў аб пастановах франка-польскага саюзу. Аб крытычнай фазе польска-француcкага саюзу сьведчыць таксама досыць вялікая дыскусія, якая ў апошні час па гэтаму пытаньню адбывалася ў француcкім парлямэнце і яе водгук у Польшчы.

З другога боку Нямеччына, адмовіўшыся ў Лёкарно ад ідэі ўзброенага нападу на Польшчу, падкрэсьлівае заўсёды свае імкненьні да „мірнага“ перагляду сваёй граніцы з Польшчай на падставе § 19 Статуту Лігі Нацый, які гаворыць, што „плёнум Лігі мае права прапанаваць членам Лігі пераглядзець дагаворы, якія сталі няпрыдатнымі“. Нямеччына спадзяецца, што з цягам часу Польшча можа аказацца ў нагэтулькі цяжкім становішчы, што можна будзе вымагчы яе згоду на „мірную“ рэвізію яе межаў.

У гэтых умовах няма нічога дзіўнага ў тым, што імкненьне да карэннай пераарыентыроўкі польскай замежнай палітыкі пачалося даўно, амаль безадкладна пасьля заключэньня Лёкарнскіх дагавароў. Ужо тады—увосень 1925 г. з шэрагам артыкулаў у друку выступіў вядомы польскі палітык і журналісты праф. Стронскі. Ён паказаў на тое, што Лёкарно абясцэніла саюз з Францыяй і паставіла пад пагрозу заходнія граніцы Польшчы, якія да таго часу лічыліся бясспрэчнымі. У далейшым, па меры што раз большага зьбліжэньня паміж Францыяй і Нямеччынай галасы на карысьць перагляду польскай замежнай палітыкі павялічыліся і прывялі да ўзмацненьня актыўнасьці польскай дыплёматыі, якая спрабавала выбрацца з надзвычайна цяжкага становішча.

Пасьля майскага перавароту пачынаецца пэрыод зьбліжэньня Польшчы з Англіяй. У свой час у Варшаве былі пашыраны ўпартыя чуткі аб ролі, якую ў гэтым пераваропе адыграў тагочасны ангельскі пасланьнік у Польшчы Макс-Мюльлер. У кнізе аб пілсудчыках, выдадзенай анонімным польскім аўтарам (здаецца эндэкам) за некалькі тыдняў да майскага перавароту проста такі паказвалася на тое, што адзін з лідэраў пілсудчыкаў і ініцыятараў майскага перавароту палкоўнік Славэк дзейнічае ў розных палітычных колах, маючы ў сваім распараджэньні вялікія

сумы ў англа-фунтох. Кніга гэтая зьявілася пад загалоўкам: „Рызыканты“ (па польску: „Ryzykańci“), наколькі гэтая вэрсія адпавядае сапраўднасьці—высьвятліць немагчыма. Вядомым зьяўляецца толькі факт, што зараз-жа пасьля перавароту гэтая кніга была конфіскавана і забаронена да продажу.

Некаторыя акалічнасьці сьведчаць, аднак, аб верагоднасьці гэтай вэрсіі. Вядома, напрыклад, што памянёны Макс-Мюльлер пасьля перавароту стаў частым госьцем Бэльвэдэру (рэзыдэнцыі Пілсудзкага) і міністэрства замежных спраў. Вялікую сэнсацыю ў свой час выклікаў наступны інцыдэнт: зьявіўшыся ў адзін дзень у міністэрства замежных спраў і спаткаўшы ў габінэце Залескага Макс-Мюльлера, Пілсудзкі прапанаваў Залескаму выйсьці ў суседні пакой, бо ў яго будзе сакрэтная гутарка з ангельскім пасланьнікам. Гэты інцыдэнт быў агалошаны аднэй з газэт і ён зрабіў надзвычайнае ўражаньне. Адначасна сталым госьцем у польскім генэральным штабе стаў ангельскі ваенны аташэ ў Варшаве палкоўнік Кляйтон. За ўвесь час існаваньня ў Англіі консэрватыўнага ўраду Балдуіна за кулісамі вяліся нейкія патаемныя перагаворы. Характэрным зьяўляецца факт вядомага паралелізму польскай і ангельскай палітыкі ў гэты пэрыод. Досыць супаставіць такія факты, як паездка Залескага ў Італію і спатканьне Чэмбэрлена з Мусоліні, як заігрываньне Польшчы з Вэнгрыяй і дзейнасьць лёрда Ротэрміра ў гэтай краіне, каб гэты паралелізм стаў досыць ясным.

Адным з прызнакаў актыўнасьці польскай дыплёматыі і яе пераарыентыроўкі была спроба зьбліжэньня з Італіяй, якая выразілася ў паездцы Залескага ў Рым вясною 1927 г. Гэты візыт зрабіў вельмі няспрыяючае ўражаньне ў Парыжы, дзе ён расцэньваўся, як антыфранцуская дэмонстрацыя [1]).

У працягу 1928 і ў пачатку 1929 г. мелі месца дэмонстрацыі „польска-вэнгэрскай дружбы“, якія выклікалі незадаволеньне, незапакоеньне ў Румыніі. Адбыўся памен візытамі польскага і вэнгэрскага міністраў замежных спраў у Варшаве і ў Будапэшце.

Да гэтага часу Польшча ўпарта імкнецца да ўрэгуляваньня сваіх адносін з Нямеччынай і да ліквідацыі мытнай вайны, якая выбухнула ў чэрвені 1925 г. Ня гледзячы на тое, што польска-нямецкія перагаворы заўсёды сабатаваліся нямецкай дэлегацыяй, што гэтыя перагаворы шмат разоў зрываліся Нямеччынай па ўсякага роду прычынах, польская старана, ня гледзячы на сваю датклівасьць у пытаньнях прэстыжу, заўсёды выступае, як ініцыятар аднаўленьня перагавораў. Паказальным гэты факт зьяўляецца таму, што відавочна не адны толькі экономічныя меркаваньні кіруюць тактыкай Польшчы ў адносінах Нямеччыны. Паводле даных з польскіх крыніц, таваразварот паміж абедзьвюма краінамі, ня гледзячы

[1]) Зусім магчыма, што паездка Залескага была свайго роду дывэрсыяй, якая мела на мэце быць для Францыі перасьцярогай супроць ігнораваньня інтарэсаў Польшчы пры ажыцьцяўленьні Францыяй яе імкненьня да зьбліжэньня з Нямеччынай.

на мытную вайну дасягнуў узроўню першай паловы 1925 г. Гэтую акалічнасьць канстатуе між іншым таксама дырэктар саюзу польскіх прамыслоўцаў Вяржбіцкі ў выдадзенай каля месяцу таму брошуры аб польска-нямецкім гандлёвым дагаворы. Значыцца: у разьлік уваходзяць ня толькі эканамічныя, але таксама, галоўным чынам, палітычныя меркаваньні. Пасьля прыходу да ўлады ў Нямеччыне ўраду Мюльлера пэрспэктывы польска-нямецкай згоды палепшыліся. У асаблівасьці цяпер, калі з пасады старшыні нямецкай дэлегацыі зволены прадстаўнік аграрыяў і супраціўнік згоды з Польшчай Гэрмас, пасаду якога заняў прыхільнік гэтае згоды нямецкі пасланьнік у Варшаве соцыял-дэмократ Раўшэр, шансы заключэньня дагавору значна ўзрасьлі. Да гэтага часу ў выніку перагавораў, якія адбываліся паміж Польшчай і Нямеччынай дасягнута згода па цэлым шэрагу пытаньняў. Прынцыпова даўно ўжо ўзгоднена пытаньне аб праве ўезду і пражываньня ў Польшчы нямецкіх грамадзян; заключаны часовы дагавор аб гандлі лесам, нарэшце, у канцы кастрычніка 1929 г. была заключана польска-нямецкая так званая „ліквідацыйная“ згода, у якой абедзьве стараны адмовіліся ад узаемных грашовых прэтэнзій. Ня лішнім будзе адзначыць таксама факты згоды паміж нямецкімі і польскімі гандлярамі збожжа па пытаньні аб экспорце жыта ў скандынаўскія краіны. Трэба адначасна падкрэсьліць, што ў апошні час (пасьля ўходу Гэрмэса) Нямеччына стала значна больш схільнай да компромісу з Польшчай і што ў „ліквідацыйнай“ згодзе яна зрабіла Польшчы цэлы шэраг буйных фінансавых уступак. Мяркуючы па паведамленьнях з Гаагі і Жэнэвы, паміж дэлегатамі абедзьвюх краін вяліся інтэнсыўныя перагаворы; пасьля якіх трэба ў хуткім часе чакаць чарговага аднаўленьня гандлёвых перагавораў [1]).

Узмоцненую дзейнасьць разьвіла Польшча таксама ў Прыбалтыцы. Вялікі націск быў зроблены Польшчай на Літву. У канцы 1927 г. на пасяджэньні Лігі Нацый у Жэнэву накіраваўся „асабіста“ Пілсудзкі і пры садзейнічаньні прадстаўнікоў заходніх дзяржаў прымусіў Вольдэмараса прызнаць, што Літва наўпрэкі яго ранейшым заявам не знаходзіцца ў стане вайны з Польшчай. Адначасна было прынцыпова вырашана пытаньне аб аднаўленьні паміж Літвой і Польшчай чыгуначных, рачных і паштова-тэлеграфных зносін, што аднак, „не прадрашае спрэчных пытаньняў, якія маюцца паміж абедзьвюма краінамі“, г. зн.: ня прадрашае спрэчнага пытаньня прыналежнасьці Віленшчыны да аднэй ці другой дзяржавы. Пасьледаваўшыя, аднак, пасьля гэтага перагаворы ў Кёнігсбэрзе ня далі становучых вынікаў. У сучасны момант гэтае пытаньне зноў узмоцнена зондуецца Польшчай. Пашыраюцца чуткі аб аднаўленьні ў бліжэйшым часе зносін па Лібава-Роменскай чыгунцы, якая ў значнай сваёй частцы перасякае Літоўскую тэрыторыю. Латвія

[1]) Пасьля напісаньня гэтага артыкулу 18 сакавіка паміж Нямеччынай і Польшчай падпісана гандлёвая ўмова.

быццам мае намер у зьвязку з гэтым стварыць вольную зону ў Лібаўскім порце і арганізаваць прадстаўніцтва вольнай зоны ў Вільні. Пытаньне аднаўленьня чыгуначных зносін паміж Польшчай і Літвой было, як быццам, таксама тэмай перагавораў у часе спатканьня Залескага з Заўнісам, якое днямі мела месца ў Жэнэве.

Значна больш яшчэ ўзмоцненай была актыўнасьць Польшчы ў Латвіі і Эстоніі. Пасьля памятнай усім славутай паездкі Янікоўскага ў прыбалтыцкія краіны, адбыўся цэлы шэраг іншых узаемных візытаў больш ці менш выдатных палітыкаў, ваенных, гаспадарнікаў і журналістых. Асаблівую папулярнасьць у лягеры польскага фашызму набылі такія палітыкі, як міністар Балодыс у Латвіі і генэрал Лайдонэр у Эстоніі. Падарожжы палітычных і ваенных комівояжэраў з Польшчы ў Латвію і Эстонію і наадварот павялічыліся і набылі хранічны характар. Няма месяца, каб у адну з гэтых дзьвюх краін ня прыяжджаў які-небудзь польскі палітык, экскурсія палітыкаў, генэрал ці афіцэрская экскурсія. У пачатку лістападу 1929 г. чарговы візыт урадам гэтых краін зрабіў добра вядомы беларускаму чытачу начальнік усходняга дэпартамэнту польскага міністэрства замежных спраў Галуўка. Асабліва цесная сувязь паміж ваеншчынай прыбалтыцкіх краін і Польшчы. Крытычным быў для Польшчы ў яе ўзаемаадносінах з Латвіяй і Эстоніяй момант падпісаньня маскоўскага пратаколу аб дачасным увядзеньні ў жыцьцё пакту Кэлёга. Усім нам памятна сьвістапляска, якая ўзьнялася тады наўкола мірнае прапановы савецкага ўраду, арганізаваная Польшчай пры ўзмоцненай падтрымцы яе заходніх гаспадароў. Нядаўна мы мелі справу з новай польска-балтыцкай дэмонстрацыяй, якая выразілася ў паездцы начальніка Эстонскае дзяржавы Штрандмана ў Варшаву.

Для таго, каб расшыфраваць усе гэтыя ходы польскай дыплёматыі і прывесьці іх да агульнага паказальніка, нам прыдзецца коратка спыніцца на экономічнай структуры сучаснай Польшчы і на яе экономічных пэрспэктывах, бо толькі гэтыя фактары абумоўліваюць той ці іншы кірунак замежнай палітыкі данае дзяржавы.

Як вядома, сучасная Польшча не зьяўляецца монолітным экономічным організмам. Мэханічнае злучэньне трох паасобных провінцый, трох дзяржаў, якія былі падзелены ў свой час мытнымі бар'ерамі ў працягу многіх дзесяткаў год, не даюць яшчэ ў сваім выніку монолітнага экономічнага організму. Шляхам такога злучэньня можна стварыць толькі штучны конглёмэрат. Такім конглёмэратам у значнай ступені бязумоўна зьяўляецца сучасная Польшча. Тры яе складаныя провінцыі да гэтага часу ня злучыліся яшчэ ў адзіны гаспадарчы організм і да гэтага часу пераважна захавалі свае процілеглыя экономічныя орыентацыі.

Возьмем для прыкладу далучаную да Польшчы Верхнюю Сылезію: ня гледзячы на дзесяцігадовае сужыцьцё з Польшчай яна да гэтага часу не зраслася з польскай гаспадаркай; верхня-сылескі вугаль не знаходзіць ужытку ў Польшчы і ён ня стымулюе экономічнага росту

Польшчы як такі; прыходзіцца збываць яго за межы за абы якую цану пры дапамозе самага вялікага дэмпінгу, які прыносіць польскай дзяржаве вялізарныя страты. Ва ўмовах нормальнай кон'юнктуры верхня-сылеская мэталюргія (за выключэньнем каляровых мэталяў) знаходзіцца ў заняпадзе і вытварае непараўнальна менш, як да вайны. Верхняй Сылезіі патрэбен яе даваенны рынак; патрэбна Нямеччына. Нямецкі рынак патрэбен таксама для высока разьвітага земляробства Пазнані, з якім яно зраслося да вайны.

З другога боку для апрацоўчай прамысловасьці Польшчы патрэбны „усходнія рынкі", конкрэтна кажучы: рынкі нашага Савецкага Саюзу. Польская апрацоўчая прамысловасьць пасьпяхова разьвівалася да вайны ў значнай ступені дзякуючы таму, што пераважаючая частка сучаснай Польшчы ўваходзіла ў склад б. Расійскай імпэрыі.

Да гэтага часу польская прамысловасьць часткова компэнсавала свой адрыў ад натуральных рынкаў збыту, карыстаючыся выпадковымі кон'юнктурамі. Гэтым ня зусім правільным выражэньнем мы карыстаемся для зазначэньня становішча, якое стварылася ў Польшчы ў пэрыод інфляцыі, якая стымулявала нездаровы рост продукцыі, зусім таксама, як цяжкую хваробу чалавечага організму, стымулюе рост тэмпэратуры і паскарэньне тэмпу пульса. Такой „выпадковай кон'юнктурай" была таксама абстаноўка, якая стварылася дзякуючы ангельскай вугольнай забастоўцы ў 1926 г. Польшча скарыстала тады гэтую спрыяючую кон'юнктуру, прадала па высокіх цэнах за граніцу буйныя партыі вугаля і добра на гэтым зарабіла. Гэта адбілася таксама на прыбытках казны. Маючы буйныя бюджэтныя лішкі, урад Пілсудзкага выдаў іх галоўным чынам на ўзброеньне і на ўзмоцненае забесьпячэньне польскай арміі ваеннымі прыпасамі. Такім чынам узьнікла славутая справа з бюджэтнымі перавыдаткамі ў 1927/28 бюдж. годзе ў суме 600 мільёнаў злотых. Ваенныя заказы стварылі новы пэрыод „росквіту" і такім чынам былі дасягнуты рэкордныя лічбы вытворчасьці ў 1928 г. Польскі ўрад памыліўся тады ў адным: пасьля атрыманьня „стабілізацыйнае" пазыкі ад амэрыканцаў у канцы 1927 г., ён чакаў, што гэтая пазыка адчыніць перад ім касы амэрыканскіх банкіраў і што з амэрыканскага неба пачне на Польшчу падаць залаты дождж новых пазык. І таму то ён палічыў магчымым ўспрыснуць польскай дзяржаве ўзбуджальны сродак у форме ваенных заказаў. Аднак, аказалася, што амэрыканцы, маючыя зусім, відавочна, у дачыненьні да Польшчы свае ўласныя далёка не альтруістычныя меркаваньні, ня толькі ня далі ёй новых пазык, але, забясьпечыўшы сабе ў стабілізацыйным пляне монополію на пастаўку Польшчы капіталу з-заграніцы, перашкаджаюць атрыманьню Польшчай пазык з іншых крыніц. У гэтых умовах, у канцы 1928 г. калі „ўзбуджальны сродак" перастаў дзейнічаць, Польшча зноў уступіла ў паласу надзвычайна вострага крызісу, які яна цяпер перажывае. Зразумела, паўплывала ў даным выпадку таксама міжнародная кон'юнктура і процэс загніваньня капіталістычнай

„стабілізацыі“ ў цэлым. Бясспрэчным зьяўляецца, аднак, факт, што польскі крызіс мае галоўным чынам сваёй прычынай акалічнасьці структурнае ўласьцівасьці.

За ўвесь час свайго—„незалежнага“ існаваньня капіталістычная Польшча мела ўсяго два моманты экономічнага ўздыму: пэрыод інфляцыі ў 1927/28 г. Усе астатнія гады—гэта пэрыоды крызісаў. Зразумела, аб „пэрманэнтным крызісе“ нам, як марксыстым, ня прыходзіцца гаварыць. Мы можам, аднак, канстатаваць, што пры нормальнай кон'юнктуры крывая, якая паказвае разьвіцьцё польскай экономікі, выяўляецца ў выглядзе хваль значна ніжэй горызонтальнай лініі, паказваючай даваенны ўзровень польскае гаспадаркі.

І тут мы падходзім блізка да пытаньня аб экономічных пэрспэктывах Польшчы. Капіталістычная Польшча вымушана шукаць для сваёй продукцыі рынкі збыту, і яна іх сапраўды шукае. Калі цэлыя галіны цяжкой індустрыі, а таксама земляробства орыентуюцца на Захад—г. зн. на Нямеччыну, то польскі ўрад, не гледзячы на небясьпеку, якая пагражае польскім граніцам з боку Нямеччыны, імкнецца дабіцца з ёй згоды. Зразумела, гэтыя высілкі маюць не адны толькі экономічныя падставы. Прымірэньне з Нямеччыной патрэбна Польшчы яшчэ больш для пасьпяховасьці яе політыкі „дальняга прыцэлу“. Бясспрэчным, аднак, зьяўляецца факт, што экономічныя прычыны граюць тут роўным чынам не малаважную ролю.

З другога боку інтарэсы асноўнай часткі апрацоўчай (і ня аднэй толькі апрацоўчай) прамысловасьці штурхаюць Польшчу ва ўсходнім кірунку—у кірунку Савецкага Саюзу.

Наўпрэкі досыць пашыранай думцы, Польшча ня можа здаволіцца роляй харчовай і сыравіннай базы Нямеччыны. Несельніцтва Польшчы шпарка расьце. Прырост насельніцтва ў 1928 г. раўнаўся 480 тысячам душ. Эміграцыя за межы амаль спынена: Злучаныя Штаты—гэты вялізарнейшы рэзэрвуар, куды адыходзіў да вайны лішак насельніцтва Эўропы,—цяпер шчыльна зачынены. У гэтых умовах Польшча ў стане экспортаваць за межы, галоўным чынам, у Францыю і Паўднёвую Амэрыку ўсяго некалькі дзесяткоў тысяч эмігрантаў у год. Каля 400 тысяч маладых людзей падрастае штогодна ў Польшчы. Для іх трэба знайсьці работу і заработак. Асабліва значны прырост насельніцтва ў вёсцы, у якой становіцца ўсё цясьней і цясьней. Як паказана вышэй, эміграваць за межы не прадстаўляецца магчымасьці. Польская прамысловасьць, якая знаходзіцца ў асабліва дрэнным стане, ня можа даць работу нават наяўным кадрам прамысловага пролетарыяту; такім спосабам эміграцыя ў горад роўным чынам немагчыма. У гэтых умовах у польскай вёсцы зьбіраецца вельмі небясьпечны выбуховы матэрыял. Адзіным выйсьцем з гэтага цяжкога становішча можа толькі быць індустрыялізацыя на базе замежнай гандлёвай экспансыі. І тут мы зноў такі падыходзім шчыльна да проблемы „ўсходніх рынкаў“.

У гэтай абстаноўцы, здавалася-бы, Польшча і па экономічных і па політычных меркаваньнях павінна была-б імкнуцца да зьбліжэньня з СССР. Міжнароднае яе становішча мы ахарактарызавалі вышэй: зводзіцца яно да ўзмацненьня небясьпекі, якая пагражае польскім граніцам з боку Нямеччыны пры адначасным ахалоджаньні польска-францускіх адносін. Экономічнае-жа становішча зноў такі штурхае Польшчу ў кірунку СССР.

Але пра гандлёвы дагавор і наогул аб якой-небудзь згодзе з СССР у Польшчы нічога ня чуваць. Аб гэтым ніхто амаль не гаворыць, пра гэта ніхто ня піша.

Прыходзіцца констатаваць, што польская буржуазія ў цэлым ня мае намеру заключыць гандлёвы дагавор з СССР, зусім таксама, як яна ўхіляецца ад усякае політычнае згоды. Польскія экономістыя разважаюць прыблізна наступным чынам. Гандлёвы дагавор, калі ён будзе заключаны з СССР, палегчыць бязумоўна савецкі экспорт у Польшчу. Але гэткі дагавор пры наяўнасьці монополіі замежнага гандлю ў СССР, ні ў якім выпадку не забясьпечыць экспорту польскіх тавараў на савецкія рынкі. Нават калі-б Польшчы і ўдалося ў першыя гады пасьля заключэньня дагавору разьвіць жвавую экспортную дзейнасьць і калі-б у сувязі з гэтым яна разгарнула сваю вытворчасьць і ўвабрала новыя дзесяткі тысяч рабочых у прамысловыя прадпрыемствы, то і ў гэтым выпадку ня было-б ніякай гарантыі, што Савецкі ўрад, як монопольны (на тэрыторыі СССР) пакупнік польскіх тавараў у адзін добры дзень ня спыніць раптоўна пакупку гэтых тавараў. Якое будзе тады становішча Польшчы— пытаюць польскія экономістыя; куды мы падзенем тады нашу продукцыю і як мы справімся ў гэтым выпадку з раптоўным экономічным крызісам і вялізарнай арміяй беспрацоўных.

Адначасна панічны страх наводзіць на польскую буржуазію індустрыялізацыя СССР і пасьпяховая рэалізацыя нашай пяцігодкі. Яна бачыць растучую экономічную магутнасьць СССР і яна баіцца, што яна раз назаўсёды пазбавіцца сваіх надзей на савецкі рынак.

Мы ня маем намеру тут полемізаваць з пунктам гледжаньня польскіх політыкаў і экономістых, якія зьяўляюцца супраціўнікамі гандлёвае ўмовы Польшчы і СССР. Мы толькі адзначым, што СССР заключыў цэлы шэраг гандлёвых умоў з капіталістычнымі краінамі, як Нямеччына, Італія, Латвія, Эстонія і г. д.

Але, калі польская буржуазія адмаўляецца ад гандлёвага дагавору з СССР, то гэта ні ў якім разе не азначае, што яна наогул адмаўляецца ад савецкіх рынкаў. Нам ня трэба забываць урокі гісторыі. Мы павінны памятаць аб тым, што ў недалёкім мінулым польскія буржуазныя політыкі, якія знаходзяцца цяпер у ўлады, спрабавалі прабіцца на ўсходнія рынкі пад выглядам імкненьня да ажыцьцяўленьня „ідэі“ фэдэрацыйнай Польшчы. Ужо ў 1920 г. польская буржуазная дзяржава, якая ледзь толькі сформавалася, дзеля адшуканьня рынкаў збыту, організуе славуты паход на Кіеў у саюзе з белагвардзейцамі рознай афарбоўкі і самага розна-

стайнага кірунку. Ня гледзячы на ганебны правал гэтага замыслу ў 1920 г. фэдэрацыйная програма, аўтарам якой зьяўляецца Пілсудзкі і колы польскага фашызму, якім ён кіруе, ня была здадзена ў архіў і засталася пуцяводнай зоркай для вялікай часткі польскай буржуазіі і абшарнікаў. Пасьля майскага перавароту, калі дыктатура перашла ў рукі Пілсудзкага і яго прыхільнікаў, польская дыплёматыя пачала пасьлядоўна, крок за крокам, імкнуцца да яе ажыцьцяўленьня.

Ажыцьцяўленьне фэдэрацыйнай програмы без вайны з СССР нямысьліма. Польшча не чакае, зразумела, што Савецкая Беларусь і Савецкая Украіна самі палезуць пад ярмо польскага імпэрыялізму. Але адначасова прыхільнікі фэдэралізму добра ўяўляюць сабе тое,—што Польшча ня можа весьці самастойна вайну з СССР: яна здолее толькі адыграць ролю авангарда ў міжнароднай ваеннай інтэрвэнцыі ў Савецкім Саюзе, і таму ўсе высылкі польскай дыплёматыі накірованы да падрыхтоўкі палітычных умоў, якія спрыяюць узьнікненьню антысавецкага блёку. Гэтым тлумачыцца яе ўзмоцненая актыўнасьць у Прыбалтыцы. Яе спробы згаварыцца з Нямеччынай, заігрываньне з Італіяй і Вэнгрыяй, і нарэшце захаваньне яе ваеннага саюзу з Францыяй, абясцэненага з пункту гледжаньня непарушнасьці яе заходніх граніц; гэты саюз Польшчы прыходзіцца да таго яшчэ дорага аплачваць узмоцненым імпортам і спажываньнем францускіх тавараў.

Кіруючыся гэтай палітыкай „дальняга прыцэлу“ Польшча ў 1926 г. адкінула прапановы савецкага ўраду аб заключэньні дагавору аб ненападзе, паставіўшы тады ўмовы, прыняцьце якіх супярэчыла сэнсу мірнае пропозыцыі нашага ўраду.

Польшча ня толькі сама адмовілася падпісаць дагавор аб ненападзе, але шляхам рознастайных інтрыг імкнулася ўстрымаць ад гэтага таксама іншыя дзяржавы. Калі ў свой час Латвія парафіравала пакт аб ненападзе на СССР, у польскім друку ўзьнялося жорсткае зацятае выцьцё, у ход была пушчана ўся складаная сыстэма інтрыг, закулісных перагавораў і націску абы толькі перашкодзіць ажыцьцяўленьню гэтага дагавору.

Усё гэта лішні раз даводзіць, што Польшча ня хоча быць зьвязана дагаворам аб ненападзе, каб пакінуць за сабой свабоду падрыхтоўкі вайны з СССР. Для гэтага Польшчы патрэбна сувязь з балтыцкімі дзяржавамі. Літва, варожая Польшчы, магла-б быць зьвяном у польска-балтыцкім ланцузе, і вось польская дыплёматыя ўсімі даступнымі сродкамі імкнецца ўключыць гэтую краіну ў блёк антысавецкіх краін. Калі літоўскае пытаньне польская дыплёматыя лічыць для сябе злабадзённым, то ў першую чаргу выходзячы з пункту гледжаньня сваёй антысавецкай палітыкі.

Зусім таксама ўзмоцненае імкненьне да згоды з Нямеччынай выклікана не адным і толькі экономічнымі меркаваньнямі. Польшча, вядучы сваю антысавецкую палітыку, турбуецца аб забесьпячэньні свайго тылу; яна добра разумее, што бяз ліквідацыі свайго конфлікту з Нямеччынай,

а таксама бяз уключэньня Нямеччыны ў склад агульна-капіталістычнага антысавецкага блёку, узброеная інтэрвэвцыя ў СССР немагчыма. І таму яна вельмі слаба протэставала супроць франка-нямецкага зьбліжэньня, але сама за любую цану гатова дагаварыцца з Нямеччынай.

Польска-вэнгэрскія комбінацыі былі выкліканы жаданьнем Польшчы забясьпечыць тыл яе саюзьніцы Румыніі. Ня трэба быць ваенным спэцыялістым, каб, глянуўшы на географічную карту, канстатаваць, што з пункту гледжаньня польска-румынскага ваеннага саюзу, накірованага супроць СССР, польска-румынская граніца зьяўляецца нявыстарчальна доўгай, так што гэты адцінак фронту, які мяркуецца, быў-бы ў выпадку вайны найбольш небясьпечным. Апрача таго чыгуначныя зносіны паміж Польшчай і Румыніяй зьяўляюцца нявыстарчальнымі. Існуючая адзіная і да таго ж аднакаляёвая чыгуначная лінія можа быць у часе вайны лёгка перарвана магчымым супраціўнікам, што можа прывесьці да таго, што сувязь паміж ваеннымі саюзьнікамі будзе прыпынена. І таму адным з галоўных клопатаў польскай дыплёматыі побач з забесьпячэньнем тылу Румыніі з боку Вэнгрыі, зьяўляецца наладжваньне транзытных чыгуначных зносін з Польшчай праз Чэха-Славаччыну і Вэнгрыю ў Румынію. Кожны, хто ўважліва сачыў за разьвіцьцём польска-румынскіх адносін у працягу апошніх год, мог заўважыць, што пытаньне чыгуначных зносін было цэнтральнай проблемай перагавораў паміж абедзьвюма дзяржавамі, прычым неаднакроць мелі месца чыгуначныя перагаворы пры ўдзеле Чэха-Славаччыны і Вэнгрыі. У сувязі з польска-вэнгэрскім зьбліжэньчем у мінулым годзе пашыраліся ўпартыя чуткі аб тым, што Польшча імкнецца да прымірэньня Вэнгрыі з Румыніяй за кошт Чэха-Славаччыны, ад якой мяркуецца ў будучым адабраць Славакію і Прыкарпацкую Русь і далучыць іх да Вэнгрыі, такім чынам быў-бы забясьпечаны тыл Румыніі і былі-бы таксама забясьпечаны чыгуначныя зносіны ў выпадку вайны з СССР. Гэтыя чуткі засталіся аднак неправеранымі.

Адначасна з падрыхтоўкай міжнароднай глебы для ўзброенай інтэрвэнцыі супроць СССР, Польшча ў сваёй унутранай політыцы кіруецца гэтай-жа мэтай. Уся соцыяльная політыка польскага фашызму, адносіны да нацменшасьцяй, жорсткіх рэпрэсій, прасьледваньне рабочае клясы, насаджэньне афіцэрства ў дзяржаўны апарат, узмоцненае ўзброеньне і г. д. усё гэта шчыльна ўвязваецца з падрыхтоўкай вайны супроць СССР. Мы ня можам і мы не павінны забываць, што іменна ў апошнія гады (пасьля майскага перавароту) у Польшчы былі зроблены тэрорыстычныя напады на савецкіх прадстаўнікоў. Пасьля геройскай сьмерці тав. Войкава мелі месца такія факты, як няўдалы замах Трайковіча на Паўнамоцнае Прадстаўніцтва ў Варшаве, як стрэл Вайцэхоўскага і г. д. Усе белагвардзейскія тэрорыстыя былі залічаны пасьля польскім друкам амаль ня ўлік польскіх сьвятых.

Нам нельга таксама забываць пра тое, што дзікае цкаваньне Савецкага Саюзу і яго прадстаўнікоў у польскім друку за апошнія гады,—

гэта ёсьць нішто іншае, як сьвядомая і плянамерная моральная мобілізацыя польскага фашызму супроць СССР. Працай гэтай кіруюць малайцы з Другога (разьведвальнага) Аддзелу Генштабу, якія дзейнічаюць досыць часта побач з рускімі белагвардзейцамі. На якія грошы выдаецца ў Варшаве белагвардзейская газэта „За Свабоду“—пра гэта (як кажуць па польску) „вераб'і на дахох сьвяргочуць“. Шмат цікавага можна было расказаць роўным чынам аб узаемаадносінах паміж Другім Аддзелам Генштабу і славутым тэлеграфным агэнцтвам АТЭ, якое спэцыялізуецца ў антысавецкім цкаваньні, а таксама аб адносінах, якія мае гэтая паважаная ўстанова да бела-эмігранцкага агэнцтва „Руспрэс“. У гэтых умовах беларускаму чытачу не павінен здавацца дзіўным факт, што яшчэ ў 1927 г. ганаровым членам польскага клюбу паляўнічых, які аб'яднае ўплывовых політыкаў з абкружэньня Пілсудзкага, быў ніхто іншы, як... „яго імпэратарская вялікасьць, вялікі князь Мікалай Мікалаевіч“. Гэта не анэкдот, а самы сапраўдны факт.

Адначасна ўплывовыя польскія політыкі лічаць магчымым якшацца з белагвардзейцамі розных „прыгнечаных“ нацый. Буржуазная і абшарніцкая Польшча бесцарамонна ўціскаючая і эксплёатуючая мільённыя масы украінскіх і беларускіх сялян, кроўю і жалезам выкараняючая ўсякую „крамолу“ і бунт зьняволеных народаў, гэтая самая Польшча, бачыце, пралівае кракадзілавыя сьлёзы над „горкім“ лёсам Грузіі, Украіны і нават Туркестану, якія „пакутуюць над ігам Масквы“. Забылі ўжо відавочна, натхненцы паходу на Кіеў пра ўрок, які далі ім украінскія і беларускія масы ў 1920 г.

* * *

Констатуючы рост агрэсыўнасьці польскага фашызму і яго імкненьне стаць авангардам капіталу, які рыхтуецца да нападу на СССР, нам ня трэба, аднак, забываць аб нашых прыяцелях і саюзьніках па той бок граніцы. Нашымі шчырымі прыяцелямі і саюзьнікамі зьяўляюцца працоўныя масы польскай дзяржавы: польскі пролетарыят, бядняцкае сялянства і працоўныя Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны.

Калі ў 1920 г. польскі рабочы, мобілізаваны на вайну з савецкімі рэспублікамі, пераважна яшчэ ня быў усьвядомлены і ня знаў за што і супроць каго ён змагаецца, то ў сучасны момант ён усё ясьней уяўляе сабе, хто яго прыяцель і хто яго вораг. І гэта ня толькі адны словы—гэта рэальная, конкрэтная рэчаіснасьць.

Ужо ў 1927 г., калі забіты здрадніцкай куляй белагвардзейца, загінуў на варшаўскім вакзале наш Паўнамоцны Прадстаўнік тав. Войкаў, хваля абурэньня ўскалыхнула варшаўскіх рабочых. Праз залы нашага Паўнамоцнага Прадстаўніцтва ў працягу трох дзён прашло каля 60 тысяч чалавек пераважна фабрычных рабочых, якія зьяўляліся проста з заводаў і фабрык. Звыш 50 вянкоў усклалі варшаўскія рабочыя на труну

т. Войкава. Самым чульлівым быў бедны жасьцяны вянок з ручным надпісам, зробленым мелам на чырвонай істужцы, прысланы... беспрацоўнымі з Жырардава. Гэта была магутная дэманстрацыя солідарнасьці з Савецкім Саюзам. Польскія рабочыя ўжо тады добра ўсьвядомілі, што іх сапраўднай бацькаўшчынай зьяўляецца Савецкі Саюз. Цяпер справа ўжо даходзіць да таго, што ППСаўцы, ня гледзячы на сваю зьвярыную ненавісьць да Савецкага Саюзу, часта не адважваюцца выступаць на ўласных мітынгах супроць СССР, баючыся адпору з боку нават тых рабочых, якія знаходзяцца яшчэ да гэтага часу пад іх уплывам.

І калі польскія фашыстыя, гэтыя жандары Эўропы, забыўшы пра ўрокі 1920 г., уздумаюць у другі раз выступіць у ролі абаронцаў „хрысьціянскай цывілізацыі", у ролі авангарду „крыжовага паходу", то падзеі бязумоўна набудуць нечаканы для іх характар. Бо польскія рабочыя і працоўныя зьняволеных народаў ведаюць ужо цяпер, што толькі бязьлітаснай і жорсткай барацьбой з фашызмам і буржуазіяй яны зьніштожаць капіталістычны гнёт і эксплёатацыю і здабудуць сабе соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

# ПРА НОВУЮ РЭФОРМУ КРЭДЫТУ

**М. Карклін**

„Адзіны буйнейшы з буйнейшых Дзяржаўны Банк з аддзяленьнямі ў кожнай валасьці, пры кожнай фабрыцы—гэта ўжо дзевяць дзесятых соцыялістычнага апарату. Гэта агульнадзяржаўнае рахункаводзтва, агульнадзяржаўны вучот вытворчасьці разьмеркаваньня продуктаў, гэта, так сказаць, нешта накшталт касьцяку соцыялістычнага грамадзтва".

(Ленін. Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу. Лістапад 1917 г.).

Уся савецкая краіна стаіць перад грандыёзнай работай па ажыцьцяўленьні крэдытовай рэформы, далейшай трансформацыі крэдытовай сыстэмы і пературэньня яе, дзякуючы гэтаму, у яшчэ лепшую прыладу соцыялістычнага будаўніцтва.

Нясупыннае разьвіцьцё індустрыялізацыі краіны, узмацненьне соцыялістычных асноў у народнай гаспадарцы, вынікі, што дасягнуты ў галіне плянаваньня народнае гаспадаркі і ў прыватнасьці крэдыту і грашовага звароту—усё гэта дае магчымасьць ня толькі ажыцьцяўляць высокія тэмпы росту народнае гаспадаркі, праводзіць іх плянавым парадкам у жыцьцё, як мінімальнае патрабаваньне, але і выставіць шэраг організацыйных патрабаваньняў па паляпшэньні савецкага апарату і ажыцьцяўленьні карэннай рэформы крэдыту.

У дэкрэце ад 30 студзеня 1930 г. сказана, што „існуючая да гэтага часу сыстэма выдачы тавараў у крэдыт у аграмаджаным сэктары, якая прыводзіла да ўскладненьня шляхоў праходжаньня крэдыту і да затрудненьняў пры яго плянаваньні, павінна быць ліквідавана і заменена выключна банкаўскім крэдытаваньнем. Само банкаўскае крэдытаваньне павінна быць організавана такім чынам, каб прадпрыемствы і організацыі, што маюць патрэбу ў крэдыце, атрымоўвалі яго, мінаючы пасрэдныя зьвеньні".

Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што праведзеная ўжо ў 1927 і 1928 гг. рэорганізацыя крэдытовай сыстэмы (ліквідацыя Прамбанку і інш. банкаў і перадачы функцый Дзяржбанку) па сваіх выніках дае падставу зрабіць далейшыя крокі да згрупаваньня кароткатэрміновага крэдытаваньня ў Дзяржаўным Банку, бо дыялектыка нашай крэдытовай

сыстэмы была і зьяўляецца непарыўнай складанай часткай разьвіцьця ўсяе савецкае гаспадаркі. Уся крэдытовая сыстэма і самы крэдыт, які выдаецца кліентам, калі ўзяць яго ў цэлым, ніколі не зьяўляецца самодаўлеючым і вырашаючым самастойным дзеяньнем, якое імкнулася праводзіць сваім шляхам наша будаўніцтва, а, наадварот, быў непарыўна зьвязаны з усёй сыстэмай росту нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Наша крэдытовая сыстэма не зьяўлялася фактарам, які замаруджваў разьвіцьцё, а, наадварот, зьяўлялася фактарам, які садзейнічаў разьвіцьцю, граў актыўную ролю ва ўзьняцьці вытворчых сіл краіны, дзякуючы чаму і зараз уся праца наўкола крэдытовай рэформы і вынікі, што чакаюцца ад гэтай рэформы, павінны даць нам яшчэ большую магчымасьць узьняцьця тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва і плянавай дысцыпліны пры выкананьні ўстаноўленых плянаў і плянавых заданьняў.

Адсюль і патрабаваньне адмовы ад так званага банкаўскага „кручкатворства“ і пераходу на просты экономічны разрахунак і падлік, з улічэньнем, зразумела, клясавай лініі пролетарскае дзяржавы. Наўкола ўсяго гэтага павінна быць мобілізавана ўвага ня толькі Дзяржбанку і тых кадраў працаўнікоў, што працуюць у філіялах нашай крэдытовай сыстэмы, але і ўсёй савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу рабочых з заводаў і батрацка-бядняцкай часткі вёскі—колгасаў.

Лёгічна цяпер выплывае няўхільнасьць зьмены ўсёй сыстэмы работы Дзяржбанку. Праца Дзяржбанку павінна больш наблізіцца да вытворчасьці і звароту. Опэрацыйная праца Банку, дзякуючы гэтаму, значна дэцэнтралізуецца і пераносіцца на нізавыя зьвеньні пры непаслабленьні цэнтральнай кіруючай крэдытова-плянавай работы Праўленьня Дзяржаўнага Банку. Тыя шкодныя ўзаемаадносіны паміж банкам і кліентурай, якія часам зьяўляліся фактарам, што замаруджваў працу, і не давалі магчымасьці глыбокага вывучэньня процэсаў вытворчасьці з боку банкаўскіх філіялаў, павінны цяпер зусім адпасьці, улічваючы, што банк—філіялы цяпер не зьяўляюцца „стараною“, на якую часам наша прамысловасьць, коопэрацыя, гандаль і іншыя організацыі глядзелі варожа. Яны ўсе павінны цяпер у іх (банках) бачыць актыўнага памочніка і сыгналізатара як слабых, так і моцных бакоў нашай працы.

Узаемаадносіны Дзяржбанку з прамысловасьцю павінны будавацца цяпер, выходзячы з асноў новай крэдытовай рэформы і рэорганізацыі кіраўніцтва прамысловасьцю, г. зн. узаемная работа павінна ахапіць наступныя асноўныя прынцыповыя палажэньні: паляпшэньне мэтодаў плянавай работы крэдытовай сыстэмы і ўзмацненьне яе ролі як фактару, што ўнядрае плянавыя асновы ў народную гаспадарку, наймагчымае, пашырэньне і паглыбленьне гаспадарчага разрахунку на вытворчасьці, рацыяналізацыю каротка-тэрміновага крэдытаваньня народнае гаспадаркі, ператварэньне, нарэшце, Дзяржбанку ў разьліковы цэнтр усяе народнае гаспадаркі, скарыстаньне Дзяржбанку ў якасьці сыгналізатара адхіленьняў у вытворчасьці ад колькасных і якасных заданьняў пляну, пры чым

вытворчым прадпрыемствам пры выкананьні ўстаноўленых для іх якасных і колькасных заданьняў пляну ставяцца ўмовы, якія забясьпечваюць ім бесьперабойнае атрыманьне ўсіх патрэбных для звароту сродкаў (як за кошт прадастаўленьня ім уласных зваротных сродкаў, так і за кошт знадворных крыніц, крэдыту Дзяржбанку і фінансаваньня з бюджэту і БДК). Усё гэта павінна даць магчымасьць нашым прадпрыемствам згрупаваць усю сваю ўвагу на непасрэдных пытаньнях вытворчасьці.

Усё гэта кажа аб тым, што тыя моманты, якія вызначаны, як асноўныя зьвязваючыя інтарэсы вытворчасьці і банкаўскай сыстэмы, павінны даць магчымасьць дырэктаром нашых прадпрыемстваў і Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі не займацца вэксалямі, як гэта зараз мела месца, калі досыць часта прыходзіцца цэлыя гадзіны і дні марнаваць на перагаворы, каб той ці іншы трэст не папаў пад протэст натарыяльнай канторы. Усё гэта цяпер павінна адпасьці. Задача новай крэдытовай рэформы заключаецца ў тым, каб не формальна, а на справе дабіцца такога становішча, калі нашы прамысловыя прадпрыемствы, пераходзячы на гаспадарчы разрахунак, маглі-б сапраўды цэнтр сваёй работы, цэнтр свае ўвагі накіраваць на пытаньні выкананьня вытворчых лімітаў, бяз якіх немагчыма мець таксама здаровага банкаўскага крэдытаваньня.

Сыстэма крэдытаваньня і разьлікаў прамысловасьці павінна быць пабудавана такім чынам, каб адхіленьні ад устаноўленага плянам сальдо па контокорэнтнаму рахунку прадпрыемства з улічэньнем даных аб выкананьні ім якасных заданьняў па вытворчай програме давалі-б Банку магчымасьць сыгналізаваць аб невыкананьні прадпрыемствам якасных заданьняў пляну (сабекошт і мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў), бо банк дае прадпрыемству сродкі ў межах ліміту, які вызначаецца аб'яднаньнем на аснове зацьверджанага ім прамфінпляну прадпрыемства. Ліміт па адзінаму рахунку прадпрыемства (контокорэнту) можа выражацца толькі ці ў максымальным дэбэтовым сальдо (папаўненьні зваротных сродкаў прадпрыемства за кошт банкаўскага крэдыту) ці ў мінімальным крэдытовым сальдо (адабраньне банкам сродкаў у прадпрыемства).

Зразумела, у практычнай працы магчымы і нават няўхільныя пры вялізарных тэмпах нашае народнае гаспадаркі пэўныя адхіленьні ўнутры кварталу, але ўсё гэта павінна прадугледжвацца спэцыяльнымі дагаварамі Банку з аб'яднаньнем, пры чым усякія адхіленьні, не прадугледжаныя дагаварамі, павінны быць самым жорсткім чынам праналізаваны і павінны быць знойдзены такія шляхі вырашэньня гэтага пытаньня, якія далі-б магчымасьць усё-ткі ў пэўным адцінку часу выканаць вызначаныя дырэктывамі ліміты.

З 1 красавіка крэдытовая рэформа павінна быць цалкам падрыхтавана да таго, каб магчыма было безбалюча ажыцьцявіць гэтае грандыёзнае заданьне, вызначанае ўрадам.

Возьмем хоць-бы працу, зьвязаную з опэрацыямі спажывецкай коопэрацыі. З 1-га красавіка крэдытовыя адносіны паміж паасобнымі

зьвеньнямі сыстэмы спажывецкай коопэрацыі (сельскае спажыв. т-ва, гарадзк. спажыв. т-ва, раённае спажыв. т-ва, ЦРК, Трансп. спажыв. т-ва, акрсаюзы, аблсаюзы, крайсаюзы, рэспубліканскія саюзы і Цэнтрасаюз СССР), а таксама і крэдытовыя адносіны паміж сыстэмай спажывецкай коопэрацыі, з аднаго боку, і прамысловасьцю і іншымі галінамі народнае гаспадаркі—з другога боку—ліквідуюцца. Усе крэдытова-разьліковыя опэрацыі, як паміж паасобнымі крэдытовымі коопэрацыйнымі організацыямі ўнутры сыстэмы, а таксама і паміж сыстэмай спажывецкай коопэрацыі і прамысловасьцю і іншымі галінамі народнае гаспадаркі, праводзяцца праз Дзяржбанк. Солё-вэксальная эмісія ўсіх зьвеньняў спажывецкай коопэрацыі ліквідуецца. Выдача вэксалёў паасобнымі коопэрацыйнымі організацыямі дапускаецца толькі ў паасобных, узгодненых з Дзяржбанкам, выпадках (вэксалі па замежных опэрацыях).

Але, ня гледзячы на тое, што асноўныя палажэньні ясна вызначаюць узаемаадносіны сыстэмы спажывецкай коопэрацыі з Дзяржбанкам, усё-ж мы павінны быць у гэтым пытаньні максымальна асьцярожнымі, бо вялізарная сетка сыстэмы спажывецкай коопэрацыі не заўсёды знаходзіцца ў межах уплыву нашага плянаваньня і тут магчымы парушэньні ліміту і гандлёва-фінансавага пляну паасобнымі коопэрацыйнымі організацыямі. Гэта мы бачым з усёй яснасьцю, з тых цяжкасьцяй, якія цяпер мае спажывецкая сыстэма, дзякуючы крэдытоваму прарыву, заснаванаму на факце парушэньня прамфінпляну і гандлёвага пляну. У такіх выпадках ясна, што філіялам Дзяржбанку прыдзецца ўжываць належныя меры, як: высьвятляць характар і прычыны прарыву, які ўтварыўся, вызначыць сумесна з коопэрацыйнымі організацыямі мерапрыемствы да хутчэйшага пакрываньня гэтага прарыву. У тых выпадках, калі прарыў мае не часовы характар і організацыі ня ўжылі патрэбных мер да пакрыцьця яго, філіял Дзяржбанку спыняе аплату плацёжных даручэньняў організацыі, паведамляючы вышэйстаячаму філіялу Дзяржбанку і коопэрацыйнаму зьвяну пра парушэньне ліміту з мэтаю прыняцьця ім патрэбных мер, дапускаючы, што ў паасобных выпадках, праз вышэйстаячую організацыю, Дзяржбанк можа ўжыць меры да спыненьня адгрузкі тавару ў адрас данай організацыі, а калі патрабуецца, то ўжываць і іншыя меры, выходзячы з мясцовых умоў і прыцягваючы ў такіх выпадках мясцовыя організацыі, як: Саўнаркомы, выканкомы і інш.

Ня менш яснымі павінны быць і асноўныя палажэньні таксама ў галіне мэтодаў крэдытовага плянаваньня саматужна-прамысловай коопэрацыі, бо тут нашай агульнай мэтай зьяўляецца—дабіцца такога становішча, каб банкаўскі крэдыт быў цясьнейшым чынам зьвязаны з ступеньню ўдзелу ўласных сродкаў сыстэмы прамкоопэрацыі ў вытворчасьці тавараў. Праўда, у паасобных промыслах, якія выкліканы да жыцьця і значэньне якіх узмацняецца прынятымі тэмпамі індустрыялізацыі, як: вытворчасьць будаўнічых матэрыялаў, лесахэмічная вытворчасьць і некаторыя інш., а таксама вытворчасьць тавараў для экспорту, разьмер бан-

каўскага крэдыту можа быць даведзены ў паасобных выпадках да 100% патрэбных сродкаў. У астатніх-жа промыслах разьмеры ўдзелу ўласных сродкаў павінны дыфэрэнцыравацца ў залежнасьці ад раённых і соцыяльна-экономічных асаблівасьцяй кожнага данага промыслу, прычым пры складаньні заключэньняў па промфінплянах прамкоопэрацыі і пры складаньні крэдытплянаў для ўстанаўленьня долі ўдзелу ўласных сродкаў прамкоопэрацыі ў вытворчасьці тавараў філіялам трэба выходзіць з соцыяльнага складу арцеляй, што працуюць у даным промысьле і аб'яднаных прамсаюзам; месца і ролі данага промыслу ў агульнай сыстэме народнае гаспадаркі; працаёмкасьці; узроўню выпрацоўкі коопэраваных саматужнікаў у даным промысьле; узроўню аграмаджаньня вытворчасьці і працы; дысцыпліны, сувязі і ўзаемадносін кожнай арцелі і промысла ў цэлым і ў аграмаджаным сэктары; характару промысла з пункту гледжаньня сыравіннай базы (дэфіцытная і недэфіцытная сыравіна); сэзоннасьці забесьпячэньня і вытворчасьці, роду тавараў, а таксама хуткасьці капіталазвароту.

Што датычыцца сельска-гаспадарчай коопэрацыі, то позыцыя новай крэдытовай рэформы патрабуе, каб філіялы і ўся сыстэма Дзяржбанку ў цэлым былі зьвязаны ў сваёй практычнай штодзеннай працы з сельска-гаспадарчай коопэрацыяй; трэба весьці сыстэматычную барацьбу за ўпарадкаваньне фінансавае гаспадаркі сельска-гаспадарчай коопэрацыі, за хутчэйшае ўнядрэньне ў яе работы плянавых асноў і тым самым за стварэньне ўмоў для канчатковага пераходу сельска-гаспадарчай коопэрацыі на сыстэму крэдытаваньня аднолькавую з усімі іншымі галінамі народнае гаспадаркі. З усяго гэтага вынікае, што парадак крэдытаваньня сельска-гаспадарчай коопэрацыі будзе адрозьнівацца ад прынятага па ўсіх іншых галінах народнае гаспадаркі і зьяўляецца часовым. Гэты парадак можа быць захаваны толькі да таго моманту, калі організацыйнае становішча крэдытуемых Дзяржбанкам зьвеньняў сельска-гаспадарчай коопэрацыі дазволіць ужыць да іх поўнасьцю прынцып крэдытаваньня па прамысловаму ці гандлёва-фінансаваму пляну на аснове абязьлічанага крэдытовага ліміту па адзінаму контокорэнту.

З організацыямі Колгасна-Коопэрацыйнага Банку наша праца ў сельска-гаспадарчых раёнах праходзіць у асноўным праз крэдытовыя таварыствы на аснове корэспондэнцкага дагавору.

Праўда, у раёнах поўнай колектывізацыі нізавая банкаўская сетка павінна відазьмяніцца ў параўнаньні з тэй, якая існуе цяпер у гэтых раёнах. Тут галоўнейшае месца ў асноўным павінен будзе заняць філіял Дзяржбанку з прыстасаваньнем усёй той дысцыпліны, якая праводзіцца пры выдачы кароткатэрміновага крэдыту праз сыстэму Дзяржаўнага Банку.

Усё гэта з усёй дакладнасьцю павінна падкрэсьліваць, што банкаўская работа карэнным чынам зьмяняецца і ідзе па лініі не формальнай, а ўнядрае свой уплыў па сутнасьці ў процэсы разьвіцьця народнае гаспадаркі, прычым работа Дзяржбанку зьмяняецца ня толькі ў тых адно-

сінах, што таварны крэдыт і выдача крэдыту ўнутры аграмаджанага сэктару поўнасьцю спыняецца і замяняецца выключна банкаўскім крэдытаваньнем, але ў тых адносінах, што сапраўды ўся праца крэдытовае сыстэмы ставіцца на ясную матэрыяльную базу, патрабуючую не паслабленьня крэдытова-банкаўскае дысцыпліны, а, наадварот, захаваньня яе з яшчэ большай дакладнасьцю і яснасьцю.

Банкаўская крэдытовая і плянавая праца павінна, з аднаго боку, больш глыбока вывучыць пытаньне па сутнасьці, а з другога боку, ня можа, дзякуючы ўстаноўленай сыстэме і тэхніцы работы, адмовіцца ад некаторай аўтоматычнасьці, якая павінна абавязкова сваячасова сыгналізаваць аб прычынах магчымых прарываў.

А парушэньне плянавага крэдытовага ліміту можа адбыцца тады, калі прадпрыемства здала продукцыі менш, чымся гэта павінна было быць зроблена паводле заданьня і тады, калі фактычны сабекошт быў вышэй плянавай разьліковай цаны, і нарэшце, калі фактычныя матэрыяльныя рэшткі (гатовыя тавары, апал, поўфабрыкаты і г. д.) засталіся ў большым ліку, чымся павінна было быць паводле плянавых меркаваньняў. Ва ўсіх гэтых выпадках адбываецца парушэньне пляну з боку вытворчага прадпрыемства, і ўся адказнасьць з усімі вынікамі цалкам ускладаецца на прадпрыемства і яно ў самым сябе павінна знайсьці сродкі да выпраўленьня становішча прарыву, які стварыўся.

Пры ўсіх падобных палажэньнях адным з вырашаючых момантаў ці мярылам для Дзяржбанку павінна служыць плянава разьліковая цана. Гэтую разьліковую цану прадпрыемства будзе мець не ад Дзяржбанку, а ад вытворчага аб'яднаньня. Сама разьліковая цана ўстанаўляецца ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі па сабекошту. Устанаўленьне разьліковай цаны па кожнаму прадпрыемству індывідуальна, як у гадавым разрэзе, так і па-квартальна, а. быць можа, у далейшым пры ўдакладненьні мэтодаў вытворчага кіраваньня і штомесячна, ёсьць задача таго органу, які кіруе даным прадпрыемствам. Дзяржбанк-жа прымае толькі разьліковую цану да выкананьня для правядзеньня разьлікаў з прадпрыемствам у адпаведнасьці са здадзенай ім пакупніку продукцыяй.

З гэтага мы бачым, што па ўсіх лініях новая крэдытовая рэформа патрабуе значных зьмен узаемаадносін Дзяржаўнага Банку з вытворчымі організацыямі і цесна зьвязвае сваю ўзаемную працу з выкананьнем лімітных заданьняў.

Нарэшце, ажыцьцяўленьне крэдытовай рэформы павінна даць значныя вынікі і ў справе павялічэньня безграшовых зваротаў у агульным працэсе звароту грошай, што ня можа ня выклікаць скарачэньня ўсёй грашовай масы ў краіне і ў гаспадарцы, што ў сваю чаргу дасьць магчымасьць скарачаць патрэбнасьць у эмісіі. Грошы ўсё больш і больш будуць набываць характар разьліковых знакаў, набліжаючыся ўсё ў большай меры па свайму зьместу да працоўных знакаў. Прычым, з усёй дакладнасьцю і яснасьцю крэдытовая рэформа патрабуе як узмацненьня

і паглыбленьня гаспадарчага разьліку на вытворчасьці і ў галіне разьмеркаваньня, так і набліжэньня таго часу, калі сапраўды магчыма будзе стварыць адзіны фінансавы плян гаспадаркі і ператварыць самую крэдытовую сыстэму ў разьліковы апарат усяго аграмаджанага сэктару, у цэнтральную бухгальтэрыю комуністычнага грамадзтва, як аб гэтым вызначана ў програме партыі.

> „Радыкальная зьмена і спрашчэньне банкаўскіх опэрацый шляхам ператварэньня банкавага апарату ў апарат аднастайнага вучоту і агульнага рахункаводзтва Савецкай Рэспублікі. Па меры організацыі плянамернае аграмаджанае гаспадаркі гэта прывядзе да зьнішчэньня банку і ператварэньня яго ў цэнтральную бухгальтэрыю комуністычнага грамадзтва“.
>
> *(З програмы і статуту ЎсеКП(б).*

Таму тыя задачы, якія тут коратка пералічаны, і якія патрабуюць сур'ёзнае ўвагі з боку ўсёй організацыі, усёй савецкай грамадзкасьці, па свайму аб'ёму яны зьяўляюцца задачамі, якія стаяць ня толькі перад усёй сыстэмай Дзяржаўнага Банку і тых кадраў, на якія ўскладзена падрыхтоўка да опэрацыйнага правядзеньня рэформы, але задачамі, якія значна шырэй кранаюць усіх. Мы павінны з усёй цьвёрдасьцю сказаць, што гэтыя задачы могуць быць ажыцьцяўлены толькі тады, калі наўкола момантаў крэдытовай рэформы (агульных і прыватных) будзе мобілізавана ўвага ўсяе рабочае клясы, усёй партыі і савецкай грамадзкасьці.

# МОВА І КЛЯСАВАЯ БАРАЦЬБА

## Проф. С. Вольфсон

Усякая рэволюцыя вядзе да буйнейшых узрухаў у галіне мовы. Зьмены мовы, адпавядаючыя пэўным рэволюцыйным эпохам адбіваюць сабой перастаноўку клясавых сіл і пераход грамадзкае гегемоніі ад аднэй клясы да другой.

У час Вялікай Францускай Рэволюцыі наўкола мовы адыграліся сапраўдныя клясавыя сутычкі, пры якіх ідучая да ўлады буржуазія напала на слоўнік дваранства, выціскаючы з яго элемэнты „арыстократызму", „адменнасьці", „напышлівасьці", „далікатнасьці", робячы яго „дэмократычным", „грубаватым", „лапідарным", „фамільярным".

Тая акалічнасьць, што наўкола пытаньняў мовы ў кожную рэволюцыйную эпоху адбываюцца зацятыя клясавыя сутычкі, што проблема мовы робіцца пад час арэнай напруджанай клясавай бойкі, не ўяўляе нічога дзіўнага ці загадковага. Мова—зьявішча наскрозь соцыяльнае. „Карэньні чалавецкае мовы не на нябёсах і ня ў пекле, але і не ў акаляючай прыродзе, а ў самым чалавеку, аднак, ня ў індывідуальна-фізычнай яго прыродзе, нават ня ў горле, як і ня ў крыві яго, не ў індывідуальным яго быцьці, а ў колектыве, у гаспадарчым згрупаваньні чалавецкіх мас, у працы над стварэньнем агульнай матэрыяльнай базы" (Марр). Мова ня можа быць зразумелай, калі ня будзе зьвернута ўвага на яе соцыяльны характар",—кажа вядомы мовазнаўца Мэйэ.

Больш конкрэтны Каўцкі: „Разьвіцьцё мовы зусім нельга зразумець без разьвіцьця вытворчасьці". Калі так, калі мова—продукт грамадзкага жыцьця, калі яна выводнае ад соцыяльнасьці, значыць, яна адбівае ў сабе структуру гэтай соцыяльнасьці, прыстасавальна да гістарычнага пэрыоду існаваньня чалавецкага грамадзтва, гэта значыць яе *клясавасьці*.

Бухарын адзначае: „...клясавы групавы профэсыянальны падзел грамадзтва накладае сваю пячатку і на мову. Усякі ведае, што мова „гарадзкіх" значна адрозьніваецца ад мовы „вяскоўцаў", літаратурная ад „простанароднае". Часам гэтая розьніца дасягае такой ступені, што людзі літаральна не разумеюць адзін другога. У шэрагу краін існуюць простанародныя „дыялекты", мала зразумелыя „адукаваным і заможным". Гэткі клясавы падзел мовы"...

Моўныя водападзелы ўнутры клясавага грамадзтва ніколі ня зьнікаюць. У эпохі, калі „крот клясавай барацьбы" рые ў глыбіні соцыяль-

ных нетраў, гэтыя водападзелы служаць аднымі з шматлікіх перагародак, за дапамогаю якіх пануючыя клясы ізолююцца ад ніжэй ляжачых соцыяльных пластоў. Адны і тыя-ж словы набываюць у нацыянальнай мове рознае значэньне ў залежнасьці ад панаваньня ў гэтай нацыянальнасьці тых ці іншых клясавых груповак. У сваёй працы „Мова і грамадзтва“ тав. Эршор прыводзіць цікавыя прыклады таго, як у залежнасьці ад зьмены клясавых адносін у данай краіне зьмяняўся сэнс розных слоў. Такія напрыклад: рускае „подлый“, спачатку значыла „з прыгоннага стану“; францускае „vilain“, калісьці азначала „вясковы“; нямецкае „Tölpel“, меўшае тое значэньне і г. д. Усе гэтыя словы ў свой час служылі для зазначэньня належнасьці да ніжэйшага стану. З цягам часу яны набылі характар зьневажальных, дрэнных слоў...

Мова гэта ня толькі вопратка, па якой сустракаюць, гэта ня толькі клясавы гэрб, мова—гэта каставая броня. За дапамогаю гэтай броні пануючыя клясы імкнуцца, з аднаго боку, монополізаваць у сваіх руках навуковыя веды, з другога боку, захаваць сябе ад змычкі з клясава-чужым элемэнтам. Форма пабудаваньня мовы, яе агульны тонус, яе стыль, слоўнік мовы, яе фонэтычны склад—усё гэта ня толькі адбівае вытворчы твар данай соцыяльнай групы, але служыць і сродкам пашырэньня яе клясавага ўплыву; фактарам яе клясавай экспансіі. Апошняя акалічнасьць асабліва дае адчуваць сябе ў эпохі абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй. У такія пэрыоды мова становіцца аднэй з прылад клясавага наступленьня. Кляса—прэтэндэнт на грамадзкую гегемонію, маладая рэволюцыйная кляса стварае *сваю* мову, яна афарбоўвае яе ў пэўныя клясава-эмоцыяльныя тоны, яна надае сваёй мове наўмысьля абвостраныя формы, што колюць, рэжуць, б'юць. Яна насычае яе нэолёгізмамі, роджанымі патрэбнасьцю палітычнага дня, яна наўмысьля, часам, грубаватай бравурнасьцю адкідвае філёлёгічныя каноны, устаноўленыя тымі клясамі, з якімі яна ўступае ў гістарычную сутычку, руйнуе моўную традыцыю эпох, што ўстанавіліся. Кляса-ж рэакцыянэр, кляса зыходзячая з гістарычнай арэны, імкнецца максымальна процідзейнічаць гэтай варожай ёй стыхіі. Яна імкнецца законсэрваваць архаізмы мовы, яна абураецца блюзьнерскімі замахамі някультурнага, неадукаванага „натоўпу“ на сьвяшчэнныя прынцыпы моўнай традыцыі. Яна выкрывае „процінатуральнасьць“ і „ненавуковасьць“ новых моўных утварэньняў, выходзячых ад клясы рэволюцыянэра. Яна зло бурчыць, з прычыны вар'яцкіх новатвораў, што ўносяцца ў мову барбарамі, ідучымі ёй на гістарычную зьмену. Яна абураецца з прычыны псаваньня мовы няпісьменнымі невукамі, „няўмытай чэрнью“ і выкідвае над сваімі філёлёгічнымі цытадэлямі баявы сьцяг пурызму—сьвяшчэнай, непарушнай, непахільнай, законсэрваванай чыстаты мовы гістарычна вырачаных кляс.

Такога роду сутычкі наўкола пытаньня мовы маюць месца ў пэрыоды абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй. Не падлягае сумненьню, што як філёлёгічнымі новатарамі, так і філёлёгічнымі консэрватарамі, кіруе—

часам усьвядомлены, а часам і не ўсьвядомлены—клясавы інтэрас. Гэты інтэрас уладарна дыктуе адным пахістаць лінгвістычныя „устоі“, другім ахоўваць іх...

Моц лінгвістычнай, як і ўсякай традыцыі, зразумела, вялікая. Улада прывычкі да інэрцыі, зразумела дае сябе адчуваць і ў галіне мовы. Але было-б памылкай ва ўсіх гэтых палкіх протэстах супроць „рэжучага вуха—псаваньня мовы“ бачыць вынік аднэй толькі звычкі і, такім чынам, праглядзець клясавую істоту пурызму, ігнараваць яго палітычную абумоўленасьць.

„Барацьба стыляй і густаў, барацьба культур у мове нагэтулькі ж няўхільна, як яна няўхільна ў літаратуры і мастацтве“,—кажа Вінакур. „Але таксама, як новая школа ў мастацтве выціскае старую не таму, што законы, якімі яна кіруецца, зьяўляюцца больш правільнымі, і не таму, што яна разумее мастацтва лепш папярэдняй школы, і ў барацьбе лінгвістычных густаў вырашаюць не граматычныя аргумэнты, і не навуковыя доказы, а акаляючыя ўмовы, той ці іншы уклад культуры... Калі пурызм будуецца ідэолёгічна, а не эмоцыянальна, яго ідэолёгія базуецца не на веданьні мовы і не на сьвядомым замілаваньні да мовы, як да такой. База такога пурызму—гэта заўсёды ці коснасьць, упартасьць традыцый, ці, нажаль, часьцей за ўсё, палітыка“ [1]).

Калі замяніць некалькі няясную тэрмінолёгію Вінакура больш выразнымі соцыялёгічнымі найменаваньнямі, гэта будзе значыць, што пурызм клясава абумоўлены, што ён уяўляе сабой адну з праяў клясавай барацьбы на лінгвістычнай глебе.

Вялікая Француская Рэволюцыя дае яскравыя прыклады таго, як адбываецца барацьба кляс у галіне мовы.

Дзяржавін, аўтар каштоўнага артыкулу „Барацьба кляс і партый у мове Вялікай Францускай Рэволюцыі“, кажа:

„Мова францускай Рэволюцыі цесна і непасрэдна зьвязана з соцыяльнай клясавай барацьбой эпохі. Яна зьяўляецца ня толькі яе рэфлектарам, але і яе баявой зброяй. Ці падыходзім мы да пытаньня аб адносасьці шэрагу тэрмінаў, ці сутыкаемся мы з фактамі адміраньня слоў ці іх нараджэньня,—мы ўсюды... з большай ці меншай яснасьцю адчуваем стаячыя за ўсім гэтым пэўныя клясавыя інтарэсы, стымулюючыя ўсю гэтую барацьбу соцыяльных сіл. Эпоха рэволюцыі ў гісторыі францускае мовы зьяўляецца эпохай найвялікшай пераацэнкі каштоўнасьцяй. Разам з тым яна зьяўляецца эпохай зазначэньня, эпохай буры і націску мовы маладой буржуазіі, што прабівала сабе шлях у XIX ст., на які яна ўступала змагаючыся за сваю соцыяльную гегемонію, між іншым, і сродкамі сваёй мовы, то поўнай узвышанага рэволюцыйнага патосу, то зьнішчальнай іроніі, то ажыцьцяўляўшай ідэал тэхнічна-дакладнае

[1]) Г. Вінокур, „Культура языка“, выд. II, „Фэдэрацыя“. М. 1929 г. стар. 88.

філёзофскае мовы, то падзяляемай унутранымі сэнсавымі супярэчнасьцямі“...[1]).

Клясычная „монархічная“ мова дарэвалюцыйнай Францыі, мова honnêtsgens, мова прыдворнай знаці і напышлівых акадэмікаў „вульгарызуецца“ ўжо ў перадрэволюцыйную эпоху буржуазіяй, што ўпэўнена пракладвае сабе шлях да ўлады. У момант рэволюцыі трэці стан шпарка і рашуча „абуржуазвае“ мову. Пятае выданьне акадэмічнага слоўніка, выдадзенае ў 1798 г., заключае ў сабе 336 створаных рэволюцыяй неолёгізмаў. Гэтыя народжаныя рэволюцыяй словы выклікалі прыступы клясавага шалу ў ахаваўцаў акадэмічнай традыцыі. Яны напалі на выразы, „уласьцівыя задні́м дваром і рынкам“, „далёкія ад францускай далікатнасьці“ (Габрыэль Фэйдаль). Яны выкрылі „гіпэрболы краўцоў і тых, што не атрымалі „на чай“, падмайстроў цырульнікаў... Жаргон зяленшчыц, мову пакаёвак, простытутак, прачак, зьняважаючых нацыянальныя пачуцьці... фразы годныя толькі гутаркі падзёншчыкаў, сьвінапасаў, цырульнікаў і ўсякай сволачы, фразы, месца якім у разбойніцкіх прытонах і бандах ашуканцаў“. (Ён-жа). Такая ступень клясавага шалу, да якой давялі ідэолёгаў старога рэжыму моўныя новатворы рэволюцыі, і няма нічога дзіўнага, што гэтыя ідэолёгі выставілі патрабаваньне рэволюцыйныя неолёгізмы „зьнішчыць на старонках слоўніка, як зьнішчаюцца пятны крыві ў салях палацаў“ (Абат Моралле).

Рэакцыя, што пачалася пасьля тэрмідору прыступіла да рэалізацыі гэтага патрабаваньня. „Даклад аб працягу слоўніка францускае мовы“, складзены Нацыянальным Інстытутам, казаў: „у працягу рэволюцыі перавялічаныя ідэі парадзілі перавялічаныя словы“. „Яны—гутарка пра рэволюцыянэраў—выдумалі барбарскія словы, нацягнутыя звароты, і, на жаль, знайшлі шмат пасьлядоўцаў“.

Хоць-бы на некалькіх прыкладах можна прасачыць, як ажыцьцяўлялася клясавая барацьба на лінгвістычным фронце ў эпоху Вялікай Францускай Рэволюцыі.

У Жорэса, у Ляфарга, у вышэйпамянёным артыкуле Дзяржавіна і ў шэрагу спэцыяльных прац можна знайсьці сотні неолёгізмаў, уведзеных рэволюцыяй у францускую мову: le dècret—дэкрэт; detrôner—нізрынуць каралеўскую ўладу; robinocratie—уладу чынавенства; contre-revolution—контр-рэволюцыя; impartial,—беспартыйны; exrropriation—экспропрыяцыя; fractionner—ствараць фракцыю і г. д. і г. д. Адначасна з мовы рэволюцыі былі выгнаны сотні слоў, што карысталіся правамі грамадзянства і пашаны ў мове старага рэжыму: sänd—сьвяты; le valet—слуга (пагардліва); cante—граф; baron—барон; chevalier—кавалер, падпалі бойкоту „monsieur“ і „madame“; замест займеньніка vous, зьявілася ўсеагульнае toi і г. д.

[1]) „Язык и литература“, выд. Інстытуту параўнальнага вывучэньня літаратуры і моў. ЛГИЗ 1927. III, II, вып. 1.

Асабліва паказальнымі, як праявы клясавай барацьбы, тыя значэньні, якія розныя партыі і клясы ўкладваюць у адно і тое-ж слова Sans-culotte на мове дваран—бясштаньнік, басяк, на мове трэцяга стану—вораг арыстократыі, рэспубліканец. Le peuple на мове арыстократыі—натоўп, чэрнь; на мове трэцяга стану—народ. Patriote на мове старога рэжыму падданы, на мове рэволюцыі—сябра народу, вораг арыстократыі, адданы рэволюцыі чалавек і г. д. Я лічыў мэтазгодным некалькі затрымацца на лёсе мовы ў эпоху Вялікай Францускай Рэволюцыі таму, што аналёгічныя зьявішчы мелі месца і ў нашай рэволюцыі. Знаёмства з лінгвістычнай сытуацыяй эпохі Вялікай Францускай Рэволюцыі дапамагае нам зразумець клясавы сэнс таго, што адбывалася і адбываецца ў лінгвістыцы ў нас.

Эпоха Мікалая I таксама дае цікавы матэрыял дзеля доказу таго палажэньня, што ўсякія ахоўныя консэрватыўныя тэндэнцыі ў галіне мовы, маюць пэўную клясавую—палітычную мэту. У добра вядомым анэкдоце з шышыкаўскімі „мокроступами“ няправільна было бачыць толькі дзівацтва зьехаўшага з розуму царскага саноўніка. Сваімі „мокроступами“ мікалаеўскі рэакцыянэр спрабаваў адгарадзіць Расію ад пранікненьня шкоднае заразы з Захаду, ад францускага вольнадумства, ад „разбэшчваючага“ ўплыву чужаземшчыны.

Таксама барды пангэрманізму спрабавалі напярэдадні вайны ачысьціць нямецкую мову ад „засьмечаньня“ чужымі элемэнтамі. Усё гэта пэратварэньне тэлефонаў у Fernsprecher'ы і аўтомабіляй у Selbstwagen—было па сутнасьці справы адным з палітычных актаў агрэсыўнага гэрманскага імпэрыялізму.

Нарэшце, з якім скрыгітаньнем зубоў спаткалі пазбаўленыя панаваньня клясы былой Расіі моўныя новатворы, закліканыя да жыцьця рэволюцыяй. „Услухайцеся,—казаў у канцы трэцяга пасьлякастрычнікавага году А. Г. Горнфэльд,—„як выкрываюць новыя назвы новых устаноў—розныя райпрофобры і паліткомы, цэктраны і губземаддзелы і г. д. словы гэтыя ўяўляюцца пабарнікаміісьціна-рускай літаратурнай мовы бясспрэчна эрганічна зьвязанымі з новым ладам“. „Гэта ня мова, гэта бальшавіцкі волапюк, на Захадзе нічога няма падобнага“, крычаць выкрывальнікі“...[1]). Не падлягае сумненьню, што ў процэсе той карэннай ломкі, якой падпала руская мова пасьля Кастрычніка, былі і дзіцячыя загібы, і некаторае зухаваньне „завумнымі“ словамі, злоўжываньне часам незразумелымі скарачэньнямі, і нават баламуцтва славечкамі, узятымі з жаргону злачынцаў. Але абаронцы ісьціна-рускай мовы паўставалі ня супроць гэтых крайнасьцяй, іх абурэньне выклікалася самой лінгвістычнай рэволюцыяй, якую прынёс з сабой Кастрычнік.

У саветызаванай рускай мове яны ўбачылі праяву савецкай культуры. Яны зразумелі, што „бальшавіцкі волапюк“ ёсьць адна з прылад куль-

[1]) А. Г. Горнфэльд. „Новые словечки и старые слова“, Пецярбург. „Колос“, 1922. стар. 11.

турнага наступленьня рабочае клясы. адсюль і абурэньне эмігрантаў „барбарскай расправай“, якую ў „савдэпіі“ зрабілі над „великим могучим и прекрасным русским языком“. Адсюль шматлікія анэкдоты і злое фыrканьне „ўнутраных эмігрантаў“, з прычыны моўных новатвораў, прынесеных рэволюцыяй.

Тая напружанасьць, з якой адбываецца клясавая барацьба на лінгвістычнай ніве, сьцьвярджае выказаную намі вышэй думку, што мова зьяўляецца ня толькі продуктам соцыяльнасьці, ня толькі адбіцьцём соцыяльных адносін, але што яна зьяўляецца і фактарам організацыі грамадзкага сузнаньня. Ролю мовы нельга зводзіць выключна да пасыўна адбіваючай, трэба памятаць, што яна і актыўна-організуючая. Аднэй з найвялікшых заслуг Леніна зьяўляецца тое, што ён падышоў да ідэолёгій рэволюцыйна-дыялектычна, г. зн., што ён выявіў іх дзейную ролю, што ён паказаў, якім чынам сузнаньне „ня толькі адбівае рэчаіснасьць, але і творыць яе“ (Ленінскі Зборнік, IX, 257). Наш абавязак з гэтага пункту гледжаньня падыходзіць да мовы. Мова ня толькі адбітая сапраўднасьць, яна—адзін з фактараў яе ператварэньня. І таму мова клясавага грамадзтва наскрозь прасычана клясавасьцю. Навуковая, матэрыялістычная лінгвістыка робіць гэтае палажэньне выйсьцёвым пунктам для свае дасьледчае працы. „Падыход да тае ці іншае мовы нацыянальнай культуры, як масавай роднай мовы ўсяго насельніцтва“—кажа акадэмік М. Я. Марр,—не навуковы і рэальны, нацыянальная мова па-за саслоўная, па-за клясавая ёсьць пакуль фікцыя[1]). Такім чынам, калі па вядомаму паказаньню Леніна, „у кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі“, то ў нас ёсьць усе падставы сказаць, што „*ў кожнай мове ёсьць дзьве мовы*“. І таму лінгвістыка ўсьцяж ды побач робіцца арэнай жорсткай клясавай барацьбы... Я спрабаваў вышэй спаслацца на некаторыя прыклады, паказваючыя, як адбывалася гэтая барацьба ў эпоху Вялікай Францускай Рэволюцыі.

Прыклады, што даюцца нашай рэволюцыяй, ня менш узорныя. Рэволюцыя наша пахавала сотні слоў, што былі ў масавым ужытку да 17 году і выклікала да жыцьця тысячы новых слоў, да яе невядомых. Ня прыходзіцца, зразумела, гаварыць пра тое, што гэтая ломка мовы мела пэўны клясавы характар, што яна мела на мэце тыя клясавыя мэты, якія ставіла перад сабой рэволюцыя.

Рэволюцыя пахавала, калі зьвярнуцца, да прыкладу, да рускае мовы, такія словы, як „сиятельство“, „благородие“, „камергер“, „инородец“, „тайный советник“, „барин“, „прислуга“, „становой“, „подданный“, „черта оседлости“, „городской голова“, „процентная норма“, „земец“, „гимназист“, „реалист“, „милостивый государь“, „сенатор“, „околодочный“ і г. д. і г. д. Ня цяжка ўскрыць клясавы сэнс зьнішчэньня кожнага з

[1]) Н. Я. Марр. „Яфетическая теория“, Аз. ГИЗ, Баку, 1928, стар. 142.

гэтых слоў, насычаных ідэолёгіяй прыгнятальнікаў і эксплёататараў. І трэба сказаць, што пахаваны гэтыя словы досыць глыбока.

Гэтыя сотні зьнішчаных рэволюцыяй слоў зьмянілі тысячы іншых, што маюць пэўны клясавы характар: „нарком, рабкор, истпарт, выдвиженец, волокитчик, активист, аппаратчик, чекист, агитпроп, керенщина, женотдел, воскресник, месткомщик, лишенец, совдурак, нэпач, ударник, октябрины, нацмен, рабфаковец, упадочничество, раскулачивание“ і г. д. і г. д. Адны з гэтых слоў адбіваюць волю клясы-дыктатара, другія—яго пагарду, трэція—яго іронію і г. д. І ўсе яны, як і ў часе Вялікай францускай Рэволюцыі, для прадстаўнікоў скінутых кляс,—„зьяўляліся часовым утварэньнем, складаючы род рэволюцыйнага жаргону і не выказваючы нічога, апрача шаленства рэволюцыйнай улады, не павінны былі-б забруджваць (нашую) мову“—іх трэба паводле прыведзенага ўрыўку абата Морэлле—„зьнішчыць на старонках слоўніка, як зьнішчаюцца пятны крыві ў салях палацаў“.

Адны і тыя-ж словы ва ўмовах рэволюцыі набылі розную клясава-эмоцыянальную афарбоўку. Возьмем для прыкладу словы белы і чырвоны. Для такога кваліфікаванага рэакцыянэра і монархістага, як Шульгін, слова „белы“ мае асаблівы і ўзвышаны сэнс. „Белыя—чэсныя да Дон-Кіхоцтва... Белыя рыцарскі далікатныя з мірным насельніцтвам... белыя цьвёрды, як дыямэнт, але таксама чысты... белыя цьвёрда захоўваюць правілы прыстойнасьці і гонару...“ [1]) і г. д. і г. д. І таму, гэты чорнасоценны абшарнік слова „белы“ робіць сынонімам усіх агульна-чалавечых і агульна-грамадзянскіх добрых учынкаў. „Белая ідэя“, „белая справа“, горда гучыць у яго пісаньнях... Чырвонае-ж зьяўляецца ў яго вачох выяўленьнем усяго нізкага і злачыннага, на што здольны чалавек. „Чырвоныя—рабаўнікі, забойцы, гвалтаўнікі. Яны бесчалавечныя, яны жорсткія. Для іх няма нічога сьвятога, яны адкінулі мораль, традыцыю, запаведзі бога“... Ня прыходзіцца казаць пра тое, што ў кожнага пролетара, у кожнага ўдзельніка нашага соцыялістычнага будаўніцтва, слова „белае“ і „чырвонае“ набывае процілеглую клясава-эмоцыянальную афарбоўку. „Белые“ ў нас абуджае ўспаміны пра белабандыцкія зьверствы, пра белаакупанцкія гвалты, аб пагромах, экзэкуцыях, карных атрадах, аб азьвярэлых катах і рабаўнікох. „Чырвонае“ ў нас зьвязваецца з крывавымі бойкамі пролетарыяту з сваімі адвечнымі эксплёататарамі, з гэроізмам барыкадных байцоў, што змагаліся пад чырвоным сьцягам, з Чырвонай арміяй—узброеным абаронцам рабочае справы і нашае мірнае працы. Адсюль і розныя словаўжываньні. Унутраны эмігрант кажа: „чырвоны профэсар“ з адценьнем поўіроніі, поўпагарды, гэта ў яго нешта накшталт зазначэньня другаразраднасьці вучонага, яго акадэмічнай няпоўнацэннасьці. Калі пролетарскі студэнт ужывае гэты выраз, ён

[1]) В. Шульгін. „1920 год“.

гэтым зазначае—профэсар, блізка зьвязаны з рабочай клясай і ідэолёгічна згуртаваны з ім, служачы справе соцыялізму.

Анолёгічнае зьявішча можна было-б прасачыць і ў адносінах такіх слоў, як „бязбожнік“, як „чэкісты“ і г. д., густа афарбоўваемых у кляса-эмоцыянальныя тоны.

Напомнім яшчэ пра тое, як дыктатура пролетарыяту паклала свой адбітак і на агульна-прынятыя ў Савецкім Саюзе формы звароту: „пан“ ужываецца толькі ў зносінах з прадстаўнікамі капіталістычнага сьвету, „у дыплёматычнай перапісцы“, ці для зазначэньня варожасьці асобы рабочай дзяржаве: „пан Мільеран, пан Мілюкоў і г. д.“. „Грамадзянін“ ужываецца без зазначэньня таго, што вы зьвязаны з данай асобай чыста вонкава, формальна сумеснай прыналежнасьцю да дзяржавы, тэрыторыяльна ці дзелавым парадкам. Нарэшце „таварыш“ служыць паказчыкам супрацоўніцтва, супольнай працы і барацьбы ў імя пэўных мэт, колектыўнай блізкасьці і сяброўства. Але таксама гэтае слова часам ужываецца варожымі рабочай клясе элемэнтамі, з зласьліва панскі пагардлівым адценьнем: „таварышы пагаспадарылі“, „таварышы стараюцца“ і г. д. Такая дыялектыка клясавага словаўжываньня... Часам гэтая дыялектыка зусім відавочная, я-б сказаў адчувальная. Кадэтцтвуючы профэсар, ці эсэрствуючы прысяжны паверанны не маглі сказаць слова „учредилка“. Яны маглі ўжываць выключна „учредительное собрание“ і гэтым словам абкружалі зьвязанае з ім разуменьне арэолам асаблівага пыятэта, фэтышызавалі яго, імкнуліся ўзьняць яго на пэўны п‘едэстал... Рэволюцыйны-жа пролетар, жадаючы гэты фэтыш зьнішчыць, скінуць яго з гістарычнага п‘едэсталу, замяняў фэтышысцкі шанавальнае „учредительное собрание“, пагардліва-гіронічным „учредилка...“

Але дыялектыка клясавага словаўжываньня далёка не заўсёды так відавочна, наадварот, у большасьці выпадкаў яна пакрыта тоўстымі пластамі ідэолёгічных напластаваньняў, па-за клясавых і агульна-нацыянальных фікцый. Задача марксыцкага аналізу за гэтымі ідэолёгічнымі напластаваньнямі выявіць клясавую сутнасьць.

Мы кажам, што ў кожнай мове ёсьць дзьве мовы; г. зн., што ў нацыянальных мовах змагаюцца між сабой розныя клясавыя сілы, кожная з якіх накладае на сваю мову, на ўсё пабудаваньне мовы свой клясавы адбітак. Так званая агульна-прынятая мова, ёсьць мова пануючых кляс данага грамадзтва. Вось чаму кляса, уступаючая на гістарычную арэну, як новы грамадзкі гегемон, рэволюцыянізуе мову, зьяўляецца асноўным носьбітам рэволюцыі мовы, уяўляючай адзін з вынікаў рэволюцыі соцыяльна-політычнай.

Зусім зразумела таму, што той процэс зьмены рускае мовы, аб якім мы казалі, што гэты процэс мае сваім галоўным рухавіком рускі пролетарыят. Дасьледчыкі ўстанаўляюць, што асноўным вогнішчам саветызацыі рускае мовы зьяўляюцца фабрыка, завод, рабочыя сходы. Яны-жа сьцьвярджаюць, што новатворы мовы пранікаюць у вёску вельмі зама-

руджаным тэмпам, што мова вёскі рэволюцыянізуецца і саветызуецца толькі па меры таго, як яна падпарадкоўваецца социяльна-політычнаму кіраўніцтву гарадзкога пролетарыяту [1]). Было-б памылкай ігнараваць пры гэтым клясавае распластаваньне вёскі і не заўважаць таго, што адпор моўным новаўводзінам рэволюцыі ідзе ад кулацкай верхавінкі вёскі. Колектывізацыя і тут, зразумела, зробіць сваю справу, але гэта, зразумела, патрабуе часу.

У адносінах рускага пролетарыяту справа знаходзіцца досыць ясна. Яго гегемонія ў лінгвістычнай галіне ажыцьцяўляецца па меры таго, як рабочая кляса дамагаецца гегемоніі ва ўсёй культурнай і ідэолёгічнай сфэры.

Значна больш складана і таму патрабуе большай увагі і асьцярожнасьці тая-ж проблема ў прыстасаваньні да мовы нацыянальных меншасьцяй, якія знаходзіліся да рэволюцыі пад русыфікатарскім прэсам самаўладзтва. Тут у наяўнасьці значна ўскладняючы факт таго, што даная нацыянальнасьць да моманту рэволюцыі мела колькасна мізэрны пласт пролетарыяту, ці яшчэ тое, што пролетарыят гэтай нацыянальнасьці значна асыміляваны, дакладней кажучы, русыфікаваны. Выплываючая адсюль складанасьць становішча патрабуе самага ўдумлівага аналізу для таго, каб быць вырашаным у духу ленінскай нацыянальнай політыкі.

Гэтая ўдумлівасьць адсутнічае ў тэй выабражальна-радыкальнай пастаноўцы пытаньня, якая фаталістычна прымае факт асыміляцыі пролетарыяту данай нацыянальнасьці. Фаталістычна ўстанаўляючы факт таго, што пролетарыят данай нацыянальнасьці абрусеў, што яго разгаворнай мовай зьяўляецца мова руская, прадстаўнікі гэтага пункту гледжаньня, натуральна, павінны прысьці да вываду, што мова гэтай нацыянальнасьці павінна быць русыфікавана. „Пролетарыят данай нацыянальнасьці карыстаецца рускай мовай. Пролетарская гегемонія, што ажыцьцяўляецца ва ўсёй культурнай галіне, павінна быць пашырана і на галіну мовы. Такім чынам, мова гэтай нацыянальнасьці падлягае русыфікаваньню". Да гэтага вялікадзяржаўнага нацыяналістычнага сылёгізму няўхільна павінен прысьці ўсякі лінгвістычны фаталісты, які па ўзору аўтара артыкулу „Язык общественного класса" [2]) Г. К. Данілава абмяжоўвае свае дасьледы сьцьвярджэньнем, што „мова рабочых расійскай і украінскай рэспублікі, гэта адна і тая-жа: гэта расійская мова пасьлякастрычнікавае эпохі. Усьлед за такой „об'ектыўна фаталістычнай" рэгістрацыяй застаецца толькі паўтараць чорнасоценныя славечкі аб літаратурна-украінскай мове, як „выдуманай Пятлюрай", што і здарылася з Данілавым...

---

[1]) Гл., напр., А. Селищев. „Язык революционной эпохи". М. 1928.

Артыкулы Г. Данілава: „Язык общественного класса, марксистский метод к лексикологии" і інш.

[2]) „Ученые записки института языка и литературы при РАНИОН-е" VII, III. М. 1929.

Ня прыходзіцца казаць аб тым, наколькі такая фаталістычная пастаноўка супярэчыць рэволюцыйна-марксыцкай. Маркс не дарэмна паказваў, што важнейшая задача, якая стаіць перад матэрыялістым-дыялектыкам, заключаецца ў тым, каб „рэволюцыянізаваць *існуючы сьвет*, каб практычна зьвярнуцца супроць рэчаў, як ён застае іх і зьмяніць іх“. Марксыцкая дыялектыка патрабуе ў межах усьвядомленай неабходнасьці ўмець свабодна дзейнічаць. У прыстасаваньні да пытаньня, што нас цікавіць, гэта значыць,—не ператвараць факта моўнай асыміляванасьці пролетарыяту данай нацыянальнасьці ў сьляпую неабходнасьць, а ўмець падыйсьці да яго па лініі тых агульных задач, якія стаяць перад нашай рэволюцыяй, інакш кажучы,—імкнуцца вазьдзейнічаць на гэты факт у кірунку, які дыктуецца агульнымі інтарэсамі соцыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу.

Што-ж дыктуецца гэтымі інтарэсамі?

Інтарэсы дыктатуры пролетарыяту патрабуюць таго, каб пролетарыят мог найлепшым чынам забясьпечыць свой саюз з бядняцка-серадняцкімі часткамі вёскі, каб ён замацаваў у гэтым саюзе сваю вядучую ролю, каб гэты саюз садзейнічаў утрыманьню ў руках пролетарыяту дзяржаўнае ўлады. Адна з важнейшых умоў на гэтым шляху—аўладаньне з боку пролетарыяту тэй мовай, якая зьяўляецца роднай для пераважаючай часткі вёскі.

Улічваючы, што „нацыянальны парыў між горадам і вёскай, калі вёска гаворыць на аднэй мове, а горад на другой, азначае паслабленьне дыктатуры пролетарыяту (Кнорын), „КПБ бязумоўна і непаслаблена ажыцьцяўляе шэраг мерапрыемстваў, накіраваных як на падвышэньне адноснае вагі беларускай нацыянальнасьці ў шэрагах пролетарыяту Беларусі, так і да ўнядрэньня беларускае мовы ў шырокія масы беларускага пролетарыяту, які гэтай умовай не ўладае. Усе гэтыя мерапрыемствы ўгрунтаваны на цьвярозым улічэньні і тэй акалічнасьці, што ў БССР будзе вельмі цяжка весьці соцыялістычную рэконструкцыю на аснове далейшага замацаваньня змычкі гораду з вёскай, будзе цяжка замацаваць кіруючую ролю пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве,—калі пролетарыят і Комуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі ня будуць гаварыць з сялянствам на роднай мове, калі яны не панясуць у вёску пролетарскую культуру на беларускай мове“... [1]).

Лінгвістычныя фаталістыя, што абмяжоўваюцца „об'ектыўнай“ рэгістрацыяй таго факту, што беларускі ці украінскі пролетарыят значна русыфікаваны, і якія пакорліва схіляюцца перад гэтай „сьляпой неабходнасьцю“, вольна ці нявольна прыходзяць да вялікадзяржаўных вывадаў, якія могуць толькі замацоўваць моўны парыў між горадам і вёскай, і, такім чынам, расхістаць дыктатуру пролетарыяту. Рэволюцыйны марк-

---

[1]) Нацыянальная політыка комуністычнай партыі. Пад рэдакцыяй А. Гаруновіча і С. Будзінскага (па даручэньню АПАД ЦК КПБ), Менск. 1930.

сызм з такога роду фаталістычнымі намерамі нічога супольнага ня мае. Рэволюцыйны марксызм, наадварот, патрабуе актыўнага палітычнага ўмяшаньня з мэтаю ліквідацыі гэтае гістарычнае спадчыны, што цяжкой перашкодай ляжыць на шляху нашага соцыялістычнага разьвіцьця. Гэта значыць, што перад беларускім пролетарыятам стаіць задача магчыма шпаркага аўладаньня мовай беларускай вёскі — беларускай мовай. Пераводзячы сказанае ў галіну практычных мерапрыемстваў, гэта значыць, шырачэзнае ўцягваньне рабочае масы ў рэчышча беларусізацыі, організацыі гурткоў вывучэньня беларускае мовы на нашых фабрыках і заводах, стварэньня пунктаў навучаньня беларускай мове і груп вывучэньня беларускай літаратуры і г. д. Адным словам, інтарэсы дыктатуры пролетарыяту патрабуюць ад рабочае клясы Беларусі веданьня беларускае мовы.

Паколькі ў яго гэтых ведаў няма, ён павінен іх *набываць*, ён павінен вучыцца беларускай мове. Гэтае апошняе палажэньне трэба, аднак, разумець ні ў якім разе не мэханістычна, а дыялектычна. Гэта значыць, што беларускі пролетарыят павінен вывучаць беларускую мову, але, вывучаючы яе, ён пачынае сам уплываць на яе далейшы лёс, на яе пасьлядуючую эволюцыю, тут можна сьмела сказаць, „cum disbunt docent“, такім чынам, вывучаючы беларускую мову, наш пролетарыят становіцца важным—адным з асноўных фактараў яе разьвіцьця.

Разуменьне гэтага дыялектычнага процэсу ў многіх з асоб, што займаюць камандныя вышыні ў галіне беларускай лінгвістыкі, на жаль, адсутнічае. Дыскусія, якая нядаўна адбылася ў Беларускай Акадэміі Навук, выявіла далёка нядобрае становішча на нашым лінгвістычным фронце. Яна канстатавала наяўнасьць часткі філёлёгаў з процілеглымі сказанаму ўстаноўкамі.

Я ўжо спрабаваў у часе дыскусыі ахарактарызаваць гэтыя ўстаноўкі, формулёваныя, з аднаго боку, В. О. Воўк-Левановічам, з другога боку—проф. Бузуком і паглыбленую акад. Лёсікам. Лічу патрэбным коратка спыніцца на іх і цяпер.

Пачну з першай. Самай вялікай заганай гэтай устаноўкі зьяўляецца ігнораваньне таго гістарычнага лёсу, які стагодзьдзямі перацярпела беларуская мова. Нельга ні на хвіліну забываць, што той асноўны падважнік, з дапамогаю якога на працягу 18 і 19 ст. ст. прыдушвалася беларуская мова, гэта падважнік русыфікацыі. Гэта русыфікацыя выганяла беларусую мову са школы, літаратуры, з друку, з быту. І калі кастрычнік аднавіў права беларускае мовы на жыцьцё і забясьпечыў рэальнае існаваньне гэтага права, то наіўна было-б думаць, што цяжкая гістарычная спадчына русыфікацыі была ліквідавана ў адзін дзень. Воўк-Левановіч ня выявіў у сваім дакладзе разуменьня таго, што ўціск, які беларускія працоўныя масы вякамі цярпелі з боку пануючых кляс Расіі, быў непараўнальна больш цяжкі таго ўціску, які яны адчувалі з боку польскіх эксплёататараў. Уціск, якім прыдушваў гэтыя масы магутны дзяржаўны

апарат царскай Расіі, што ўладаў безьліччу рознага роду прыладамі практычнага і ідэолёгічнага заняволеньня мас, гэты ўціск быў найбольш бязьлітасны і цяжкі. Вось чаму і зразумела ў пэўных маштабах была законамернай тая асьцярожнасьць, тая хваравітая, я-б сказаў, чуласьць, якую праяўлялі пасьля рэволюцыі раней прыгнечаныя нацыі да ўсіх зьявішчаў, у якіх можна было ўгледзець працяг па гістарычнай інэрцыі гегемоніі рускай культуры.

Адна з гэтых зьяў—нацыянальная мова. Вось чаму на першым этапе было законным імкненьне як мага больш ачысьціць беларускую мову ад чужых, штучна прывітых русыцызмаў. Не разумець гэтага, значыць, быць атручаным вялікадзяржаўным шовінізмам.

З разгортваньнем ленінскай нацыянальнай політыкі і братэрскага саюзу працоўных мас розных нацый пад гегемоніяй пролетарыяту, зьнішчаецца тая асьцярожлівасьць, аб якой я казаў. Ліквідуюцца разам з тым некаторыя перагібы палкі ў бок дэрусыфікацыі. Ажыцьцяўляецца процэс разьвіцьця мовы, які (процэс) нічым не калечыцца.

Аднак нельга ўжо лічыць вялікадзяржаўны расійскі шовінізм, што ён адышоў у мінуўшчыну гістарычных паданьняў, ён яшчэ ня plusquaperfectum. Яго перажыткі ўсё яшчэ застаюцца präsens'ам. Вялікадзяржаўная пагарда да культуры, так званых „малых нацый“, вялікадзяржаўнае супраціўленьне стварэньню нацыянальнай вышэйшай школы ў Грузіі, Узбэкістане, Украіне, Беларусі, Армэніі і г. д., вялікадзяржаўнае трактаваньне украінскае, беларускае моў, як падмоў, як папсаваных рускіх гутарак і г. д.—усё гэта ня можа заставацца па-за нашага пункту гледжаньня, калі мы кажам аб політыцы ў адносінах да моў у Савецкім Саюзе, аб прынцыпах моўнай нормалізацыі. Усё гэта было сьвядома затушавана ў дакладзе Воўк-Левановіча і гэта патрабуе жорсткай марксыцкай крытыкі.

Пераходжу і да другой з названых установак.

Устаноўка Бузука—Лёсіка характарызуецца ў асноўным выкрэсьліваньнем пролетарыяту з ліку фактараў, якія могуць актыўна ўплываць на разьвіцьцё беларускае мовы, на стварэньне беларускай літаратурнай мовы. Выходзячы з факту нязначнасьці беларускага пролетарыяту і яго русыфікаванасьці,—аўтары гэтай устаноўкі скідваюць пролетарыят з вагі пры сваіх разважаньнях аб соцыяльных сілах, што вызначаюць лёс беларускай літаратурнай мовы. Памянёная ўстаноўка адводзіць пролетарыяту выключную ролю *об'екта* беларусізацыі, і рашуча выступае супроць таго, каб рабочая кляса выступала як *об'ект-суб'ект*. Так, напрыклад, проф. Бузук сьцьвярджаў, што „доцэнта ці профэсара унівэрсытэту бясспрэчна засьмяялі-бы рабочыя фабрык і заводаў, калі-б ім заявілі: „Мы прышлі да вас, але ня вучыць вас, прышлі ня з лекцыяй, мы прышлі самы вучыцца ў вас мове“... Вось чаму сама думка аб пролетарыяце, як адным з асноўных фактараў вывучэньня беларускай мовы здаецца проф. Бузуку „зьдзекам“...

Гэтая пастаноўка ператварае дзесяткі тысяч беларускіх пролетараў у школьнікаў, якія павінны вучыцца беларускай мове, але якія ня могуць аказваць уплыў на яе разьвіцьцё. Гэта вынік яе мэханістычнасьці, ігноруючай дыялектычную прыроду мовы. Н. Я. Марр неяк у поўнай меры слушна заўважыў, што ня існуе „словаспажыўцоў“ і „словавытворцаў“ ў паасобку. Абодвы гэтыя разуменьні дыялектычна зьвязаны між сабой, у асаблівасьці, калі гутарка ідзе не аб індывідуумах, а аб цэлых грамадзкіх групах. Кожная грамадзкая група і „моваспажывец“ і „мовавытворац“, аб апошнім асабліва нельга забываць, калі справа ідзе аб клясе-дыктатары, якая заваявала сабе кіруючую ролю ва ўсім нашым дзяржаўным і грамадзкім жыцьці, якая зьяўляецца гегемонам ня толькі гаспадарчага, але і культурнага будаўніцтва краіны. Напомнім таксама, што гэтая кляса прадстаўлена ў нашай рэспубліцы лічбаў у 250 тыс. профэсыянальна-організаваных пролетараў, з якіх амаль $^{2}/_{3}$ беларусы па нацыянальнасьці... Дзе-ж тая клясавая сіла, калі ёю ня лічыць пролетарыят, якая павінна зьявіцца асноўным індуктарам сталага рэволюцыянізаваньня мовы ва ўсіх рэспубліках, што жывуць і растуць пад знакам Кастрычніка?

Мы паказвалі вышэй на неабходнасьць самага стараннага ўлічэньня сваясаблівасьцяй паасобных нацыянальных рэспублік. Мы падкрэсьлівалі, што гэтая сваясаблівасьць уладарна патрабуе беларусізацыі, украінізацыі і г. д. шырокіх рабочых мас паасобных рэспублік. Але мы павінны рашуча пярэчыць супроць таго, каб гэтую сваясаблівасьць ператвараць у аснову для ўхіленьня пролетарыяту ад актыўнай ролі ў процэсе выпрацоўкі беларускай, украінскай і г. д. літаратурнай мовы, хоць-бы гэта суправаджалася ўсякімі агаворачкамі на тэму аб тым, што датычыцца толькі „сёньнешняга дню“, што ў „будучым“, у будучым, зразумела, трэба будзе прызнаць правы пролетарыяту ў гэтых адносінах і г. д. Добрымі намерамі і пекла выбрукавана, а наконт соцыялізму ў „будучым“ вельмі красамоўна гавораць і тыя, якія з ім ня менш дзейна змагаюцца... Але гэта, зразумела, паміж іншым.

Па сутнасьці-ж справы, што азначала-б перамога ахарактарызаванай вышэй установкі? Яна азначала-б, што беларуская мова ў параўнаньні, скажам, з мовай рускай ці грузінскай, была-б менш саветызаванай, што тая „пераніцоўка“, якую зрабіў Кастрычнік ў адносінах рускае мовы, прайшла-б міма мовы беларускае, бо мы ўжо казалі, што асноўнай дзейнічаючай асобай гэтай пераніцоўкі зьяўляецца іменна пролетарыят. Клясавы сэнс разглядаемай установкі ў тым, што яна ўяўляе сабой адну з шматлікіх праяў нявер'я ў культурную магутнасьць пролетарыяту, неразуменьне яго кіруючай ролі на ўсіх вучастках ідэолёгічнага фронту.

Небясьпека-ж гэтай установкі ў тым, што яна простай дарожкай вядзе да „слаўнай“ тэорыі „самабытнасьці“. Я лічу таму невыпадковым, а зусім законамерным, што проф. Бузук, даўшы гэтую ўстаноўку, прагаварыўся аб тым, што нашым філёлёгам трэба раўнацца на самабыт

насьць. „Усякі цьвярозы мовазнаўца,—заявіў ён,—скажа, што, самабытнасьць беларускае і украінскае моў, у выніку тэй русыфікацыі, якая праводзілася ў часы царызму, захавалася перш за ўсё ў мове няпісьменных“... Гэтая самабытніцкая тэндэнцыя зьяўляецца натуральным і об‘ектыўна няўхільным,—хай асабіста для проф. Бузука і непажаданым,—вынікам тэй устаноўкі, аб якой мы казалі. Лёгіка памылак жорсткая і няўмольная. Хто адмаўляецца ад орыентацыі на пролетарыят, той павінен орыентавацца на тыя соцыяльныя пласты, якія захавалі ў непарушнасьці „скарб“ „самабытнасьці“ мовы мінулых часоў.

А што азначае гэтая орыентацыя,—аб гэтым у свой час добра сказаў тав. В. Г. Кнорын: „Для пролетарыяту права беларускіх працоўных на беларускую мову выплывае зусім не з таго, ці жыў і працаваў на беларускай мове сярэднявяковы манах Скарына, а ад рэволюцыйнага роўнапраўя ўсіх народаў, нават самых адсталых, ад права кожнага чалавека карыстацца культурнымі здабыткамі на роднай мове. Таму пролетарская дзяржава ня можа нікога з сярэднявяковых манахаў—прадстаўнікоў панаваўшых кляс—зрабіць шэфамі новай нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу культуры“... [1]) Тав. Сянкевіч нядаўна таксама паказаў, як на адзін з асноўных сымболяў нацыянал-дэмократычнай „веры“, на „так званую тэорыю самабытнасьці, тэорыю аб тым, што наша сёньняшняя культура бярэ свой пачатак не ад нашай рэволюцыі, а мае свае карэньні ў старасьвеччыне“, у Скарыны, у Сімеона Полацкага“... [2]).

Дык вось гэтая рэакцыйная, усебакова збанкрутаваная тэорыя самабытнасьці, ад якой рашуча адмовіўся шэраг яе выдатных абаронцаў у галінах гісторыі, літаратуры, крытыкі, экономіі, мастацтва і г. д., гэтая, як павінна было здавацца, да канца выкрытая тэорыя, цяпер зноў выплывае на паверхню, на гэты раз ужо ў лінгвістычнай вопратцы... Лінгвістычная самабытнасьць уяўляе сабой адну з тых траншэй, у якіх умацоўваецца варожая пролетарыяту навуковая ідэолёгія. Па гэтай траншэі і трэба адкрыць агонь марксыцкай крытыкі.

Яскравым узорам гэтае самабытнасьці зьяўляецца артыкул А. Харэвіча „Беларуская мова, як соцыяльна-клясавы раздражальнік“ [3]). Гэты асаблівы, па-свайму анэкдотычна-няпісьменнаму імкненьню мэханічна перанесьці фізыолёгічныя прынцыпы ўмоўных рэфлексаў у грамадзкае жыцьцё, артыкул больш-менш не заслугоўваў-бы таго, каб падвяргаць яго сур‘ёзнай крытыцы, каб—яго восьсю звароту ня служыла тэорыйка, якая карыстаецца яшчэ некаторым аўторытэтам у часткі нашых лінгвістых. Тэорыйка гэтая заключаецца ў тым, што беларуская мова зьяўляецца мовай спэцыфічна клясавай, што беларуская мова мае сваю „клясавую адзнаку“ ад моў усіх іншых народаў, што беларуская мова, як такая,

[1]) В. Кнорын: „За культурную рэволюцыю“, Менск, 1928, ст. 80.
[2]) А. А. Сянкевіч: „Беларускі нацыянал-дэмократызм“, Менск. 1930.
[3]) „Полымя“, 1927. № 1, ст. 145—147.

зьяўляецца мовай заняволеных і эксплёатуемых кляс. У гэтай сваясаблівай формулёўцы Харэвіча гэта тэорыйка кажа наступнае: „У працягу шмат стагодзьдзяў яна (бел. мова.—*С. В.*) зьяўлялася сымболем грамадзка-клясавых перажываньняў працоўнага, пераважна сялянскага, стану. Беларуская мова... сваёй *чыста клясавай адзнакай* (падкрэсьлена мною.—*С. В.*) выклікала і будзе выклікаць з боку буржуазнае і буржуазна-настроенае (?) клясы рэфлексы нездаволеньня, рэфлексы гневу, ганьбы і г. д... Калі мы параўнаем беларускую мову з іншымі мовамі, як, напрыклад, расійскай, польскай, нямецкай і т. п., якія ўвесь час аднакова ўжываліся і тэй і другой клясай у межах сваёй нацыі, то мы адносна беларускае мовы, дзякуючы... *чыста клясаваму* (падкрэсьлена мною.—*С. В.*) яе характару, назіралі і назіраем такую больш уласьцівую, у параўнаньні, больш сталую зьяву, як пераход яе з умоўнага рэфлексу у энэргію асяродзьдзя. Беларуская мова, зьяўляючыся сваявобразным умоўным рэфлексам для шырокіх рабоча-сялянскіх мас... становіцца *соцыяльна-клясавым раздражальнікам* (курсыў аўтара) [1]).

Якое-ж об'ектыўна-клясавае значэньне гэтай тэорыйкі?

Перш за ўсё яно ў тым, што яна імкнецца ўзьвесьці тую пэўную сваясаблівасьць, якая бязумоўна характарызуе гістарычны лёс беларускае нацыі, у ступень такой спэцыфічнасьці, якая дазволіла-б ахапіць *соцыяльна-клясавае* ў нацыянальным, *агульна-народным*. Павінен сказаць, што арыгінальнага ў гэтым прыёме амаль нічога няма. Так паступалі ў свой час, ды і цяпер робяць і ангельскія, і італьянскія, і нямецкія, і польскія, і яўрэйскія, і літоўскія рыцары адзінага „агульна-нацыянальнага“ фронту. Кожны з іх імкнецца знайсьці ў гістарычных лёсах сваёй нацыі той гістарычны спэцыфікум, тую, як кажа Харэвіч, нацыянальную „адзнаку“, ухапіўшыся за якую можна затушаваць той факт, што ў „кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі“. Адны бачаць „адзнаку“ ў тым, што выключна ангельскі народ мог стварыць дзяржаву, якая стала ўладаром марэй і гаспадаром сусьветнага рынку, другія ў тым, што выключна яўрэйскі народ мог жыць тысячагодзьдзямі ў расьсеяньні, пераносячы нацыянальныя ганеньні і г. д. і г. д.

Тав. А. Валабрынскі ў каштоўным дакладзе аб клясавай барацьбе ў яўрэйскай лінгвістыцы, які ён нядаўна зрабіў у катэдры марксызму-ленінізму БАН, паказаў, якія шматлікія ўстаноўкі, што робяцца ў адносінах яўрэйскае мовы „ідышысцкімі“ тэорэтыкамі. Так, напрыкл., Н. Штыф у 1922 г. пісаў: „сьмешна, калі нам прад'яўляюць патрабаваньне аб пролетарскай культуры. Яўрэйская культура сама па сабе зьяўляецца найбольш пролетарскай“ [2]). Падобныя думкі, па паказаньні тав. Валабрынскага, выказваў і тав. Аршанскі, які сьцьвярджаў, што яўрэйская мова заўсёды была мовай прыгнечаных мас, на якой яўрэйская буржуазія не гаварыла...

---

[1]) „Полымя“ 1927. № 1, ст. 145–147.

[2]) Цытую па дакладу.

На гэтай глебе і пачынаюць расьці нацыянал-дэмократычныя ідэйкі рускай, турэцкай, яўрэйскай, сэрбскай, чэскай і ўсякай іншай „самабытнасьці“. У галіне лінгвістыкі гэта прыводзіць да таго, што вялікадзяржаўны расійскі шовіністы непахільна ўпэўнены ў тым, што толькі „великий, могучий и свободный русский язык“ можа перадаваць думкі так, як ніякая іншая мова, і пагардліва фыркае па адрасу „малороссийского и белорусского наречий“. У той час францускія нацыяналістыя, ап‘яненыя музычнасьцю свае нацыянальнае мовы, гатовы паўтараць словы Руссо аб тым, што руская мова, гэта толькі папсаваная гутарка грэцкае мовы. У той-жа час нямецкі нацыяналісты гатоў ганьбіць усякую мову, якая не зьяўляецца накшталт нямецкай—мовай „філёзофаў і лятуценьнікаў“ і вуснамі гэніяльнага Гегеля па салдафонску заяўляць: „на францускай мове нельга вывучаць філёзофіі—яна дзеля гэтага не прыстасавана“ і г. д. і г. д., аж да ператварэньня беларускае мовы ў чыста клясавую,—у „сваяасаблівы соцыяльна-клясавы раздражальнік“... Такім чынам і ствараецца тая фікцыя „нацыянальнае, па-за станавае“, „па-за клясавае“ мовы, ненавуковасьць і рэальнасьць якой, як мы казалі, выкрывае Н. Я. Марр. Фікцыя гэта вастрыём накіравана супроць таго палажэньня, што ў кожнай мове ёсьць дзьве мовы. Яна ўяўляе сабой лінгвістычную інтэрпэтацыю прынцыпа адзінай па-за клясавай ці аднаклясавай нацыі. „Беларуская мова ёсьць выключна мова працоўных мас“, „Беларуская мова мае клясавую адзнаку параўнальна з усімі іншымі мовамі“. Як быццам-бы на *аднэй* беларускай мове пісаліся ў 1918 г. проклямацыі рэволюцыйных партызан і слаліся вернападданыя тэлеграмы кайзэру... Як быццам-бы на аднэй беларускай мове гавораць прыдушаныя польскім імпэрыялізмам вясковыя масы Заходняй Беларусі тыя, якія поўзаюць на каленях перад гэтым імпэрыялізмам, нацыянал-фашыстыя... Як быццам-бы адна беларуская мова ў рэкрутуемых у армію колгасьнікаў беларускіх беднякоў і батракоў і ў вясковай верхавінкі, якая раскулачваецца... Як быццам-бы на аднэй беларускай мове тварылі Дунін-Марцынкевіч і Міхась Чарот. Як быццам-бы адна і тая-ж мова Менскай комуністычнай „Зьвязды“ і Віленскай ксяндзоўскай „Крыніцы“... Не, тут дзьве мовы, і ня толькі па зьместу, але і па эмоцыянальна-клясавай афарбоўцы мовы, па яе агульнаму тонусу, па яе стылістыцы, па характару фразэолёгічных сродкаў, па складу слоўніка, па фонэтычных і морфолёгічных асаблівасьцях і г. д. Спроба затушаваць гэты факт не азначае нічога іншага, як імкненьне працягнуць праз філёлёгічныя вароты контрабанду „адзінай рабоча-сялянскай нацыі“, існаваньне якой спрабаваў „па вучонаму“ ўгрунтаваць проф. М. В. Доўнар-Запольскі. Аб тым, наколькі гэтая спроба клясава-варожа пролетарыяту, казаць, зразумела, ня прыходзіцца.

Аб усім гэтым трэба памятаць, калі мы гаворым аб нормалізацыі літаратурнай мовы. Нельга забываць таго, што гэтая нормалізацыя заўсёды праводзіцца па пэўнаму соцыяльнаму крытэрыю. Соцыолёгія не

прызнае наяўнасьці ў клясавым грамадзтве, па-за клясавай торычэлевай пустаты. Усякі мовазнаўца жыве ў пэўнай соцыяльнай атмосфэры; гэта значыць, што ён да задачы нормалізацыі мовы падыходзіць сьвядома ці несьвядома,—з пэўным соцыяльным крытэрыем у руках. Аб гэтым ведаў нават правадыр суб'ектыўна-ідэалістычнай школы ў лінгвістыцы, профэсор І. А. Бодуэн-дэ Кортунэ, які ў адказ на шматлікія апэляцыі філёлёгаў да „духу часу" досыць едка цытаваў Гётэ:

> Was ihr den Geist der Zeiteu heisst,
> Das ist im Grunn der Herren eigener Geist.

Дадамо толькі, што „der Herren eigener Geist" гэта ёсьць псыхолёгія тэй клясавай групы, выказчыкамі якой зьяўляюцца мовазнаўцы. Украінскія контр-рэволюцыйныя змоўшчыкі з „СВУ" не выпадкова зрабілі адным з сваіх апорных пунктаў „Інстытут навуковае мовы". Дочэрняя організацыя „Спілкі Визволеньня Украіны"—тэрорыстычны гурток „Інарак" меў аднэй з асноўных задач шкодніцтва ў галіне лінгвістыкі. „Організатары Інарака",—паказаў у часе сьледзтва акадэмік Яфрэмаў,—„ставілі задачай уносіць нацыянальны кірунак у працы Інстытуту па складаньні слоўнікаў, надаючы тэрмінам пераважна украінскі характар, замяняючы агульна вядомыя словы спэцыяльна надуманымі" [1]). Старшыня „Інарака", кіраўнік „Інстытуту Украінскае народнае мовы", Халодны быў у сваіх паказаньнях яшчэ больш адкравенным: „Інарак—заявіў ён—праводзіў конкрэтнае шкодніцтва ў стварэньні украінскіх слоўнікаў, выкідваючы з іх інтэрнацыянальныя словы і ператвараючы украінскія слоўнікі ў прыладу шовіністычнага выхаваньня мас" [2]).

Зьявішча, якое проф. Бузук калісьці назваў „беларускай шышкоўшчынай", бязумоўна таксама мае клясавую сутнасьць,—незалежна ад таго, усьведамляюць ці не ўсьведамляюць гэтую сутнасьць адэпты шышкоўшчыны. Беларуская шышкоўшчына часам абмяжоўвалася стварэньнем штучна выдуманых, няўдала падробленых пад народнасьць слоў, ператвараючы „атавізм" у „зваротна-спадчынасьць", „пэсымізм" у „смутнагляд", „зоолёгію" ў „жывёлазнаўства" і г. д. Але часам гэтая пурысцкая тэндэнцыя не аказвалася нагэтульні бясшкоднай; у такіх выпадках яна прыводзіла да соцыяльнага абяскроўленьня слова, да яго соцыяльнай нэўтралізацыі. Для прыкладу я-б узяў такое слова як „алімэнт". „Алімэнты"—адзін з віднейшых продуктаў політыкі савецкае ўлады ў галіне забесьпячэньня фактычнае роўнасьці палоў, у галіне забесьпячэньня жанчыны ад эксплёатацыі. Конгрэс так званай „сусьветнай лігі сэксуальнай рэформы", які адбыўся ў мінулым годзе ў Копэнгагене, які ў большасьці складаўся з буржуазна-лібэральных вучоных, вымушаны быў прызнаць алімэнты,—адным з важнейшых соцыяльна-карысных ме-

---

[1]) „Правда" ад 1 сакавіка 1930 г.
[2]) „Зьвязда" ад 3 сакавіка 1930 г.

рапрыемстваў савецкае ўлады. Нядаўна мне прышлося чытаць, якім рэволюцыйным выклікам патрыярхальнаму быту гэтае слова гучыць у закінутых кішлаках Сярэдняй Азіі, дзе яно сымболізуе канец адвечнага заняволеньня жанчыны. Дык вось, нашыя пурыстыя бяруць гэтае набыўшае пэўны соцыяльны сэнс слова і замяняюць яго соцыяльна-нэўтральным, якое нічога ня выражае—„утрыманьне“. Няўжо яны сур'ёзна думаюць, што слова „алімэнты“ ня будзе зразумелым у беларускай вёсцы, ці што яно пярэчыць „духу мовы“?.. Другім яшчэ больш яскравым прыкладам служыць лёс слова „эксплёатацыя“, якое заменена „вызыскам“. На пленуме сэкцыі навуковых працаўнікоў Лёсік казаў, што гэтая замена патрэбна таму, што „эксплёатацыі“ ў беларускай вёсцы не зразумеюць. Я дазволю сабе выказаць упэўненасьць, што беларускі батрак, што беларускі бядняк, нават, калі раней не разумелі гэтага слова, то, прайшоўшы школу Кастрычніка, добра зразумеюць яго сэнс. А што датычыцца беларускага рабочага, то будзьце ўпэўнены, ён ніколі не згадзіцца вырваць з таго слова, якое будзіць ва ўсіх краінах клясавую ненавісьць да прыгнятальнікаў, яго рэволюцыйнае джала, замяніць яго клясава нявыразным, эпічна бесстаронным,—падмяніць „эксплёатацыю“—„вызыскам“. Тут перад намі добры ўзор таго, ці можна выкрэсьліваць пролетарыят з ліку асноўных фактараў, уплываючых на ўтварэньне беларускае мовы. Але аб гэтым ужо падрабязна казалі.

Міжвольна ўзьнікае некалькі пытаньняў аўтаром нашай афіцыяльнай тэрмінолёгіі па грамадазнаўству. Чаму гэта тэрмінолёгія ператварае расійскае „расслоение общества“ ў „падзел грамадзтва“, а ня ўжывае „распластаваньне грамадзтва“? Чаму гэта „земледелие“ ператворана ў „рольніцтва“, а „земледелец“ у „рольніка“ і г. д.? Чаму аўтары тэрмінолёгіі лічаць, што ў вёсцы не разумеюць „Народны Камісарыят Земляробства“?! Чаму гэта „колектыў“ перадаецца ў першую чаргу, як „суполка“, няўжо ў вёсцы ня чулі такога слова, як „колектывізацыя“? Чаму гэта „междоусобная война“ воляю нашых моватворцаў ператвараецца „ў дамовую вайну“? Чаму гэта „артель“—ператворана ў „сябрыню“ і якім гэта чынам і якая сапраўды патрэбна выабражальнасьць для таго, каб „пролетарыят“ ператварыць у „убоства“ [1]) (ці ня зьбіраюцца нашы філёлёгі гаварыць аб „дыктатуры ўбоства“?!).

Чаму гэта ў нашай тэрмінолёгіі па грамадазнаўству, як значыцца на яе вокладцы—„Тэрмінолёгія па соцыялёгіі, прызначаная для вышэйшай і сярэдняй школы, „адсутнічаюць такія словы, як „ідэалізм“, „дыялектыка“, „базыс“, „надстройка“, „бядняк“, „кулак“ і г. д. Няўжо ўсё гэта выпадковасьці. Яшчэ Наполеон казаў: „Выпадковасьць раз, выпадковасьць два, выпадковасьць тры, ёсьць-жа нарэшце і сыстэма“. Раней, чым закончыць, я-б хацеў паказаць яшчэ на наступнае. Мы зьяўляемся

[1]) С. М. Некрашэвіч і М. В. Байкоў.—Расійска-беларускі слоўнік, стар. 486. Менск, 1928 г. БДВ.

сьведкамі і ўдзельнікамі нябачнай па свайму абвастрэньню барацьбы кляс. Галіна навукі цалкам захоплена гэтай барацьбой. Навука больш чым калі-небудзь выконвае цяпер функцыю магутнае прылады ў руках клясавых сіл, што вядуць змаганьне між сабой. На капіталістычным захадзе гэта выяўляецца ў тым містычным захапленьні, якім характэрызуецца становішча розных навук, пачынаючы філёзофіяй і канчаючы мэдыцынай, і якое даходзіць, часам, да простага падпарадкаваньня навукі рэлігіі. Яно там праяўляецца ў імкненьні, якое ўсё ўзмацняецца, ператварыць навуковыя даныя тэй ці іншай дысцыпліны ў ідэолёгічныя санкцыі існуючага парадку рэчаў. Яно там дае сябе адчуваць у тым агностытычным скепсысе, які ўсё мацней пачынае разьядаць тэорэтычную думку вучоных... Натуральна, што ў нас клясавая барацьба на навуковым фронце праходзіць у іншых, больш замаскаваных формах, замест адкрытай барацьбы з марксызмам, мы часта маем справу з формальным прызнаньнем і фактычным скажэньнем. Замест адкрытых клясавых вылазак, мы маем справу з формальна схолястычнымі абстракцыямі, закліканымі затушоўваць соцыяльны зьмест тых ці іншых грамадзкіх інстытутаў, з „атрутнымі“ гістарычнымі анолёгіямі, з колекцыянаваньнем фактычных апісаньняў бяз усякіх прынцыповых абагуленьняў, з паасобнымі скептычнымі ноткамі і славечкамі бязьвер‘я і г. д. і г. д.

Мова—гэта соцыяльны падважнік вялізарнага значэньня. Гэрцэн яшчэ казаў аб мове, як „страшэннай сіле“, а Тургенеў называў яе „магутнай зброяй“. І ня дзіўна, што захапіць гэтую зброю імкнецца ўсякая кляса, што змагаецца на гістарычнай арэне. І таму, спрэчкі на лінгвістычным фронце менш за ўсё зьяўляюцца абстрактнымі акадэмічнымі спрэчкамі. Варта толькі некалькі наблізіцца да нашай лінгвістыкі, каб адчуць у ёй біцьцё магутнага пульсу клясавай барацьбы. Той не марксысты, хто ня ўмее праз усякія містычныя і ідэолёгічныя напластаваньні адчуць гэты пульс, які выразна б‘ецца...

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ТВОРЧАСЬЦЬ І. ХАРЫКА

**Н. Кабакоў**

Будзе, здаецца, зусім правільна, калі мы скажам, што адным з нешматлікіх поэтаў усёй пляяды пісьменьнікаў і поэтаў пасьлярэволюцыйнай яўрэйскай літаратуры СССР, які ўсёй літаратурнай грамадзкасьцю і комуністычнай крытыкай аднагалосна, амаль што бяз спрэчак, прызнаны пролетарскім—гэта *І. Харык.*

Яго апошняя поэма „Душой і целам", зьяўляецца лепшым пацьверджаньнем таго, што Харык па сваіх мастацкіх магчымасьцях, унутранай грамадзка-ідэёвай прыродзе, соцыяльнай інтуіцыі і накіраванасьці зьяўляецца, бязумоўна, поўнацэнным поэтам вялікай эпохі пабудовы соцыялізму.

Харык, праўда, пакуль што амаль не закранае тэм з жыцьця рабочых, у яго творчасьці мы пакуль што ня маем малюнкаў нашай соцыялістычнай фабрыкі, нашага соцыялістычнага заводу. Харык піша, галоўным чынам, пра бедную частку мястэчка, саматужнікаў, ён малюе жыцьцё працоўнай інтэлігенцыі. Але ўсё гэта не гаворыць аб тым, што ён ня можа быць пролетарскім пісьменьнікам. Можна пісаць і пра інтэлігенцыю, і пра мястэчка, пра саматужнікаў, укладаючы ў сваю творчасьць пролетарскае сьветаадчуваньне, пролетарскі сьветапогляд. Мы разумеем пролетарскую літаратуру, як літаратуру, якая служыць інтарэсам рабочае клясы, дапамагае рабочай клясы ў яе барацьбе за новае соцыялістычнае грамадзтва. Вось чаму мы і гаворым, што пролетарскім зьяўляецца такі пісьменьнік, які ўсю сваю творчасьць, усе свае здольнасьці і сілы накіроўвае на карысьць, на службу агульнай справе рабочай клясы—сусьветнай соцыяльнай рэволюцыі.

А такім, менавіта, без усялякіх агаворак і зьяўляецца І. Харык, бо ў яго—

> Кожны дзен—бальшавік,
> Кожны бальшавік—таварыш,

як пісаў ён яшчэ ў 1924 годзе ў сваёй поэме „Менскія балоты".

Для Харыка—кожны дзень—гэта бальшавік, бо ён усімі карэньнямі, усім яго мастацкім мэтодам, лірычнай эмоцыянальнасьцю, усім яго сьветаадчуваньнем стаіць пад адзнакай пролетарскай рэволюцыі. Тут трэба яшчэ адзначыць вельмі характэрную для Харыка рысу—інтэрнацыянальны характар творчасьці яго:

> Увесь сьвет—наша памяшканьне...
>
> („Менскія балоты").

У нашым цяперашнім крытычным артыкуле мы не паставілі сабе мэтай даць вычарпальную ацэнку творчага шляху І. Харыка. Гэта— вельмі ўдзячная тэма, якая патрабуе асобнай сур'ёзнай працы.

Марксысты-крытык, які хоча правільна ацаніць мастацкі твор таго ці іншага пісьменьніка, павінен праз раскрыцьцё рэчаіснасьці, якая маецца ў мастацкім творы, знайсьці тую жывую рэчаіснасьць, тое соцыяльнае асяродзьдзе, якія выклікалі, вызначылі і парадзілі даны мастацкі твор. Крытык, знайшоўшы соцыялёгічны эквівалент і ацаніўшы форму твору, павінен знайсьці адзінства суб'екта і об'екта ў мастацкай творчасьці поэты, пісьменьніка.

Вось, калі мы з гэтага пункту погляду падыходзім да ацэнкі творчасьці Харыка і, у прыватнасьці, поэмы „Душой і целам“, мы прыходзім да вываду, што поэта аўладае ў сваёй творчасьці мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, ён бачыць, разумее, знаходзіць у сьвятле вялікай гістарычнай пэрспэктывы тое сапраўды новае, сапраўды соцыялістычнае, што мы маем у нашай краіне, якая будуе соцыялізм.

Яшчэ ў 1925 годзе Харык напісаў сваю поэму „Хлеб“. Гэта было якраз у той час, калі пачалося зямлянадзяленьне працоўных яўрэяў. Поэма „Хлеб“ зьяўляецца вялікім укладам у новую яўрэйскую савецкую літаратуру. Тут поэта перадае нам першыя радасныя малюнкі мястэчка, частка працоўнага насельніцтва якога зноў пачынае адчуваць эканамічную глебу пад сабою.

У гэтай поэме поэта вяртаецца ў мястэчка, якое ўжо мае пэрспэктывы, дзе організуецца ўжо сельска-гаспадарчы колектыў.

У гэтай поэме мы маем клясычныя радкі, рэдкія па сваёй мастацкай тэхніцы і зьместу вершы, некаторыя з іх па мілагучнасьці і рытмічнасьці так і просяцца на музыку.

Поэму „Душой і целам“ Харык напісаў у 1927 годзе, г. зн. у канцы адбудоўнага і пачатку рэконструкцыйнага пэрыяду нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

У якім становішчы знаходзілася тады мястэчка? Тады ўжо пачалося гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчка, яно ўцягвалася ў коопэрацыю, колгас, дзе-ні-дзе пачалі будавацца і фабрыкі ў мястэчках, больш-менш узмоцненым тэмпам пачалася праводзіцца культурная рэволюцыя.

І вось тут Харык здолеў нам дыялектычна даць найпрыгажэйшы малюнак мястэчка з усімі яго супярэчнасьцямі, соцыяльнай дыфэрэнцыяцыяй, ценямі і сьветам. Тут мы маем эпічную поэму з сюжэтным разьвіцьцём тэмы і з яскрава абрысаванымі портрэтамі дзейных асоб.

Які сюжэт поэмы „Душой і целам“?

Прыяжджае ў мястэчка настаўніца. Гэта, толькі што скончыўшая яўрэйскі пэдтэхнікум, настаўніца—поўная энэргіі, яна хоча на трэцім фронце „паспытаць свае сілы“. У мястэчку яна адчыняе яўрэйскую школу. І вось тут аўтар з рэдкай мастацкай праўдзівасьцю і моцаю перадае тыя зьдзекі, якія прышлося настаўніцы перанесьці. Мястэчка,

„у якім яшчэ ўсё дзікім мясам пакрыта", не прызнае новай яўрэйскай школы, стары хэдэр ня хоча яшчэ ўступіць сваё месца гэтай школе. Але настаўніца нічога не палохаецца, яна робіць сваю справу, яна адчыніла школу і ў „страшнае" сьвята „Иом-Кипур" арганізуе антырэлігійную дэманстрацыю з моладзі. Яна клапоціцца аб местачковай моладзі, якая ня ведае —

Што рабіць?
Куды дзявацца?
Столькі юных і здаровых рук.

І настаўніца, „як маці родная", апавядае гэтай моладзі, як людзі працуюць у варштатаў на машынах.

А яны —
прасілі ў яе:
— „працы" —
Усе яе галодныя сыны...

Цяжка настаўніцы і ў школе. Ёй не дапамагаюць:

Ну, што ей рабіць? Так нязьведаны шлях...
Самой-бы вучыцца 'шчэ годы і годы..
Ну, вось, спрабавала цяпер Дальтон-плян,
А мо' нарабіла аднэй толькі шкоды—
Хай будзе! Як будзе, так будзе!
...Эх, ты!
Таварыш Дальтон, эх, далёкі таварыш! [1]).

Але гэта энтузіястка настаўніца, гэта, у поўным сэнсе слова ўдарніца-брыгадырка, ня плача, ня енчыць. Не —

І столькі, здаецца ёй, тут пекнаты
У сшытачках гэтых ляжыць захаванай.
Яна гэта знойдзе і вынясе ўсім.
Для дзетак сваіх назаўсёды, на шчасьце [2])

І яна, гэта настаўніца, поўная энтузіязму, пролетарскага отпымізму і веры ў пасьпяховасьць пабудовы соцыялізму, працягвае сваю карысную працу, бо, як яна кажа, —

Заўсёды здаецца мне,
Што заўтра павінна быць сьвята.
(„Душой і целам", стар. 62).

І калі Харык мотто да гэтай поэмы даў:

Я хацеў у камень і сталь
Адзець цябе, мястэчка ты маё..., —

дык настаўніца, гэтая гэроіня на трэцім фронце, фронце культурнай рэволюцыі, ведае —

Можна-ж у сьветлыя гарады
Перайначыць маленькія мястэчкі...

[1]) Па перакладу Ю. Таўбіна, „Маладняк" № 8, 1929 г.
[2]) Па перакладу Ю. Таўбіна, „Маладняк", № 8, 1929 г.

І яшчэ:

> А вось здаецца мне, што хутка-хутка
> І мястэчкі势 стануць ля машын.

Гэтыя мары аб тым, каб „мястэчкі сталі ля машын“, у Харыка і яго гэроіні поэмы „Душой і целам“ зьяўляюцца адным з асноўных момантаў у вырашэньні местачковай проблемы. Гэта значыць, што ня толькі аграрызацыя працоўнага местачковага насельніцтва, але і ўцягненьне яўрэйскіх працоўных мас, галоўным чынам, моладзі ў вытворчасьць, на буйныя фабрыкі і заводы—вось як можа быць вырашана местачковая проблема. „Адзець у камень і сталь“ мястэчка—вось аб чым марыць Харык.

І тут вельмі характэрным у поэмы „Душой і целам“ зьяўляецца тое месца, дзе местачковы хлопчык, папаўшы на гарадзкую фабрыку, з вялікай радасьцю піша ліст у мястэчка к сваім „ребятам“ аб тым, як ён працуе на сэліфактары.

Настаўніца душой і целам аддаецца працы. Яна і ў колектыў едзе, выступае з прамовамі, яна ўсюды пасьпявае, яна ўсім, што робіцца ў мястэчку, цікавіцца.

Мы маем у поэме прыгожыя вершы аб барацьбе настаўніцы з цёмнымі сіламі мястэчка—крамнікамі, меламедамі, разьнікамі, клерыкаламі. З непадробленай мастацкасьцю, клясычнымі радкамі намалёвана мяшчанства мястэчка. Гэта сатыра, поўная атрутнасьці, вытрыманая ў стылі фольклёра, высьмейвае ўсе местачковыя плёткі, адсталасьць, някультурнасьць. Гэта сатыра зьяўляецца лепшым літаратурным узорам. Такім жа, паміж іншым, зьяўляецца і верш „На базары“.

Але не хапіла сіл у настаўніцы. Настаўніца працавала, працавала пакуль —

> З горла яе раптоўна брызнула кроў
>
> (стар. 68)

Ня вытрымала настаўніца—памёрла.

> Нічога. Хаўтуры. Што тут здарылася?
> Чалавек памёр сёньня. Быў і ня быў.
> 13-14 комсамольцаў задумаліс....
> 44 піонэры—у пачэсным каравуле [1]).

Вы бачыце: у мястэчку ёсьць ужо комсамол, піонэры, расьце зьмена памёршай настаўніцы. І само мястэчка зусім ужо ня тое, якое раней было.

Прыехала ў мястэчка другая настаўніца. Да яе ўжо зусім добра адносяцца—мястэчка культурней стала:

> Праходзіць яна вуліцу
> Саромяцца гаварыць,
> Хто калі сьмяяўся,
> Зараз не сьмяецца з дзяўчыны...
> — Даў-бы бог другой хоць
> Доўгія гады [2])

[1]) [2]) Пераклад вольны.

Асаблівай рыскай Харыка зьяўляецца тое, што яго пачуцьцё—інтэнсыўнае, актыўнае, пасьпявае за тэмпамі жыцьця і таму ён заўсёды высоўвае сучасную, востра-актуальную для эпохі тэматыку.

Ён даў нам мастацкі вобраз пролетарскай інтэлігенткі-настаўніцы, якая ўсю сябе аддала рэволюцыі, барацьбе на ідэолёгічным фронце, за культурную рэволюцыю. Ён здолеў даць вобраз мястэчка з усімі яго супярэчнасьцямі, паказаў „ідыятызм“ мястэчка, соцыяльна-экономічную і ідэолёгічную дыфэрэнцыяцыю, паказаў перамогу новага, сьветлага, гэроічнага, пролетарскага над старым згніўшым, трухлявым.

Ня толькі поэмы Харыка („Менскія балоты“, „Душой і целам“), але нават і раньняя лірыка яго вызначаецца імкненьнем да сюжэтнасьці, да прадметнасьці.

Бязумоўна, што для вялікага сюжэту з разгорнутай фабулай і галерэяй пэрсонажай патрэбна вялікая поэтычная форма, якой зьяўляецца поэма. Харык яшчэ ў сваіх поэмах „Менскія балоты“ і „Хлеб“ паказаў, што ён зьяўляецца вялікім мастаком даваць эпічныя творы.

У поэмы „Душой і целам“ з асаблівай яскравасьцю выпірае конкрэтнасьць, панаваньне зрокавых вобразаў, стройная пабудова поэтычных асоцыяцый, а ўсё гэта накіравана ў адну кропку—узмацніць дынамічнае разгортваньне сюжэту.

Харык дае вельмі ўдалыя малюнкі прыроды, пэйзаж роднай яму Беларусі (ён сам з Беларусі, з м. Зембін). Трэба сказаць, што нават і апісаньні прыроды ў Харыка таксама маюць нейкую сюжэтнасьць і даюцца яны тады, калі трэба ўзмацніць вобраз, фабулу, сюжэт.

> Неба празрыста, прасторна і ясна.
> Празрыста і ясна у смутку асеньнім.
> У ходзе павольным скрыгочуць калёсы —
> Калі яна будзе? калі ўжо прыедзе? [1])
>
> („Душой і целам“, стар. 7).

Але:

> Нямы маладзік і вялікі і белы
> Раптоўна зьявіўся ў кавалачку неба...
> Спыніўся, падумаў, пасунуўся зданьню
> І шпарка пабег, даганяючы сані.
> Вярста за вярстой... Асыпаюцца зоры.
> І сосны стаяць, як мядзьведзі ў прасторы...
> Ах, сані, вы, сані... За вамі ў тумане
> Сьпяшаецца месяц—і месяц прыстане,
> Ах сані, ах сані, ах сані, —
> І разам з прасторам вы мкнецеся самі...[2])

Вось гэтыя пэрсонфіцыраваныя мэтафоры асабліва характэрныя для поэмы Харыка. Маладзік, які „спыніўся, падумаў, пабег“ і сосны, якія стаяць, „як мядзьведзі“, і сьнег, які „плакаў і енчыў з відна да

---

[1]) Пераклад вольны.
[2]) Па перакладу Ю. Таўбіна, „Маладняк“, № 8, 1929 г.

відна, зласьліва і нудна падвысіўшы голас“—усе яны, быццам, зьяўляюцца дадатковымі дзейнымі асобамі поэмы.

Аб чым гэта сьведчыць?

Гэта сьведчыць аб тым, што мэтафора, апісаньне прыроды ў Харыка служаць ня толькі сродкам для здавальненьня нашых эстэтычных запатрабаваньняў, ня толькі сродкам поэтычнай ігры, не аздобай, а што яны зьяўляюцца неад‘емнымі часткамі сюжэту, дапаўняюць яго.

Харык ня трымаецца строгіх разьмераў вершаў. Розная ў яго поэме пабудова строфаў, тактаў, і рытмаў у зьвязку з агульнай архытэктонікай, агульнай композыцыяй. Поэма пачынаецца дактылем, потым пераходзіць на хорэй і ямб. Ёсьць у яго і белыя рыфмы.

Вельмі ўдалым зьяўляецца і тое, што Харык дае рэфрэн: канчае поэму двума вершамі, якімі пачаў поэму. Ня гледзячы на тое, што пачатак поэмы паўтараецца ў канцы, мы ўсё-ж адчуваем тую вялікую перамену, якая адбылася ў мястэчку, калі прыехала другая настаўніца.

Хочацца яшчэ ўказаць, што ў некаторых мясцох поэмы Харык скарыстоўвае фольклёр, падняўшы яго на вялікую мастацкую вышыню. Гэтыя месцы па сваёй пабудове, рытміцы, вельмі падобны да яўрэйскай народнай песьні.

Калі мы падыходзім да формальнай структуры, стылю поэмы „Душой і целам“, мы павінны перш за ўсё заўважыць, што стыль у мастацтве і літаратуры ня ўносіцца поэтам знадворку, а зьяўляецца сумай мастацкіх сродкаў пісьменьніка ці поэты. А мастацкія сродкі пісьменьніка, гэта значыць яго погляд на рэчаіснасьць, соцыяльна абумоўлены той клясай, на пункт погляду якой ён цьвёрда стаў. „Існаваньне кожнага стылю ў мастацтве прадбачыць існаваньне такіх людзей, якія жывуць пры пэўных політычных умовах, твораць пры пэўных вытворчых адносінах і маюць зусім пэўныя ідэалы“ (Плеханаў—„Асноўныя проблемы марксызму“). І вось тут трэба сказаць, што стыль Харыка больш усяго набліжаецца да стылю пролетарскага рэалізму, а гэта абумоўлена тым, што поэта моцна стаў на пункт погляду пролетарыяту.

Поэма „Душой і целам“—гэта органічная частка пролетарскай літаратуры, гэта органічны кавалак нашай клясавай барацьбы, барацьбы за новае соцыялістычнае грамадзтва. Вобраз настаўніцы, які нам даў Харык, гэта вобраз рэволюцыянэра на культурным фронце, гэта малюнак барацьбы новага колектыва са старым.

Харык сапраўды пролетарскі поэта, поэта нашай вялікай эпохі, эпохі пабудовы соцыялізму.

Харык—яшчэ малады поэта, і мы спадзяемся, што ён дасьць яшчэ шмат каштоўнага нашай пролетарскай грамадзкасьці, нашай пролетарскай літаратуры.

Мы спадзяемся, што Харык дасьць нам яшчэ малюнкі нашага соцыялістычнага гораду, соцыялістычнай фабрыкі, дасьць прыгожыя мастацкія творы з непасрэднага жыцьця рабочых.

# КНІГАПІС

**Анры Барбюс. Розныя факты.** Пераклад з францускай мовы *Н. Бяляхоўскай. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1929. Тыраж 3000 экз. 203 стар. Цана 1р. 30 кап.*

Кніга жудасных фактаў. Іх пазьбіраў з усяго сьвету гэты пісьменьнік з найдасканальнейшым грамадзкім сумленьнем, які паставіў мэтай свайго жыцьця „змаганьне з прыгнечаньнем і гвалтам, адкуль-бы яно не паходзіла“ (з праграмнае дэкларацыі барбюсавага часопісу „Le Mond“).

Гэта кніга напісана з пэўнай мэтай—паказаць грамадзкай думцы сапраўдны твар нашага XX веку, які больш за ўсё можна назваць „векам крыві“, калі пад маскай хвалёнай буржуазнай цывілізацыі і прогрэсу „барбарства пануе ўсюды ў нашы дні“.

І ва ўсіх трох разьдзелах кнігі перад чытачом праходзяць адна за аднэй цені замучаных ахвяр імпэрыялізму. У разьдзеле „Вайна“ аўтар з найвялікшай праконанасьцю паказвае чытачом, якое дзікае зьверства хаваецца пад вэлюмам „геройскага патрыотызму“ афіцэраў і генэралаў. Ён паказвае, як крываваю муштрай робяць з людзей быдла, у якога не хапае адвагі быць людзьмі. І гэта робіцца ў тэй краіне, дзе па думцы некаторых жартаўнікоў, усе людзі маюць правы, якія і называюць урачыста „правы чалавека“.

А на справе: „зьверскі садызм Атыл і Тамерланаў узьняўся надзвычайна высока ў наш прогрэсыўны век. Удасканалілі ня толькі машыны, удасканалілі таксама двудушнасьць, подласьць і нізкасьць чалавечыя“.

І, прачытаўшы гэтыя кароценькія апавяданьні, здаецца, нельга забыць гэтых няшчасных людзей, якія гэтак недарэчна гінуць з-за капрызу „дзікіх зьвяроў, апранутых у парадную форму афіцэраў генэральнага штабу, якім даецца ў часе вайны поўная воля забіваць людзей, калі толькі яны (афіцэры) гэтага зажадаюць“.

Апошнія два разьдзелы апісваюць тыя сярэднявяковыя жудасныя катаваньні, якімі буржуазія стараецца задушыць усё болей і болей узрастаючы рэволюцыйны рух.

І якім непадробным, бяскрайным трагізмам вее ад гэтых баўгарскіх дзяцей, якія, пераймаючы ўсё, што робяць дарослыя, пачалі амаль не па ўсёй краіне гуляць у паліцыю і павесілі некалькі сваіх маленькіх таварышоў. Або ад гэтага мэксіканскага рэволюцыянэра, засуджанага ў астрог на ўсё жыцьцё, якога буржуазнае „правасудзьдзе“ паводле свайго „дабрачыннага“ звычаю адпусьціла на адзін дзень дахаты, і які да таго аслабеў у астрозе, што ня здолеў дайсьці дахаты („Няспраўджаная пабыўка“).

Гэтую кніжку нельга чытаць спакойна. Яна ня можа ня выклікаць абурэньня і нянавісьці да тэй „цывілізацыі“, якая параджае, апраўдвае і абараняе ўсе гэтыя зьдзекі, злачынствы і зьверствы.

„Калі гэтыя старонкі ўсхвалявалі некаторых людзей, дык толькі таму, што здолелі абудзіць струны жывога сэрца, як тыя скрыпкі з старых легенд, якія турбавалі і трывожылі людзей не таму, што яны былі артыстычна зроблены, а таму, што ў гэтых скрыпках пяяла чыясьці замкнутая ў іх душа“.

І сапраўды, з гэтых старонак Барбюсавай кнігі даносяцца да нас крывавыя стогны людзей, закутых і заціснутых у ланцугі вастрогу і прыгнечаньня. Гэта здаецца першая кніга з француськай літаратуры, выдадзеная БДВ. Яна бясспрэчна заслугоўвае дадатную ацэнку і зойме адно з відных месцаў у нашай небагатай яшчэ перакладной літаратуры.

Адносна самога перакладу трэба адзначыць слабое знаёмства перакладчыцы з беларускай мовай, перагружанасьць русіцызмамі, ужываньне не ўласьцівых беларускай мове дзеяслоўных прыметнікаў, усюды, дзе трэба і ня трэба, а таксама і невыстарчальную працу стыльрэдакцыі. Але побач з гэтым, як становучы момант у перакладзе, трэба адзначыць наяўнасьць прыгожых і вобразных стылістычных зваротаў.

**В. Армак.**

**„Наш Край"**—*штомесячнік цэнтральнага бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук. 1929 г. №№—1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11 і 12. Менск. Выданьне БАН.*

„Наш Край" галоўная краязнаўчая часопісь, трэба прызнаць, займае не апошняе месца сярод іншых цэнтральных беларускіх часопісаў. Гэта адна з сталых і сур'ёзных часопісаў (зразумела ў сваёй галіне), якая да рэчы ў наступным 1930 г. будзе спраўляць свой пяцігадовы юбілей. Пачаўшы выходзіць у канцы 1925 г., яна рэгулярна выходзіла ўсе гады па якіх-небудзь 10 нумароў на год, памерам 5—6 друкаваных аркушоў. Да гэтага часу выдадзена 51 нумар часопісі, у якіх можна знайсьці для сябе самы рознастайны краязнаўчы матэрыял, партыец, настаўнік, аграном, колгасьнік, гісторык, доктар, этнограф і г. д.

Аб тым, што гэта так, мы пераканаемся зараз - жа пры разглядзе часопісі за мінулы год.

Часопісь па свайму зьместу падзяляецца на наступныя тры разьдзелы: 1) навуковы, 2) матэрыялы з месц і 3) хроніка і бібліографія. У сваім разглядзе мы застановімся галоўным чынам на першых двох.

Свой разгляд часопісі пачнем са зьмешчаных матэрыялаў аб другой усебеларускай краязнаўчай конфэрэнцыі. Яны даюць нам уяўленьне аб тэй аграмаднай працы, якую праводзяць нізавыя краязнаўчыя організацыі на мясцох. Знаёмячыся з гэтымі матэрыяламі, прыходзіцца адзначыць, што нават самы злы вораг савецкае ўлады павінен будзе прызнаць, што ў нас у галіне краязнаўства разгорнута аграмадная творчая праца.

Калі мы да рэволюцыі ў сэнсе краязнаўчага вывучэньня краю мелі толькі асобных аматараў-адзінак, то зараз, як гэта відаць са справаздачнага артыкулу тав. А. Казака „Вынікі II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі" (№—2), у нас на працягу 1928 г. толькі 60 раённымі і акруговымі краязнаўчымі організацыямі, якія далі справаздачы, сабрана экспонатаў для музэю 4378, запоўнена анкет 786, зроблена розных апісаньняў 208, апісаньняў для географічнага слоўніка 699, запоўнена фэнолёгічных картак 1098, гідролёгічных 88, запісаў мэтнаглядань-няў 2997, фольклёрных запісаў 9815, сабрана слоў 8827, запоўнена праграм асаблівасьцяй мовы 122, праведзена экспэдыцый і экскурсій 104 і запоўнена розных іншых матэрыялаў 856. У тых-жа самых краязнаўчых таварыствах апрача пералічанага організавана 22 краязнаўчыя музэі, у якіх налічваецца 15233 экспонаты. Вось тая праца, аб якой нам вядома, якая праведзена далёка ня ўсімі краязнаўчымі організацыямі, а толькі часткаю іх, але з гэтага відаць той размах, тая шырыня працы, якою захоплены працоўныя гушчы будаўніцтва свае соцыялістычнае краіны.

На тэй-жа самай конфэрэнцыі, якая адбывалася ў студзені, было прапрацавана 16 дакладаў мэтодычнага характару і паказана практычна

як павінна весьціся праца па вывучэньні раёну, укладаньні географічнага слоўніка, апісаньні архіолёгічных помнікаў, вывучэньні копэрацыі, зьбіраньні гэрбарый ды іншае. Конфэрэнцыя поруч з практычнымі пытаньнямі вырашыла і шэраг організацыйных пытаньняў, дзе намячаліся шляхі, як павінна весьціся праца нізавымі організацыямі, каб яна болей адказвала запатрабаваньням працоўных, і служыла-б тым мэтам, якія ставяцца партыяй і ўладай, у сучасны момант організацыям, што вывучаюць зараз становішча нашае краіны.

Чамусьці бюро краязнаўства Акадэміі Навук не зрабіла так, як гэта ім рабілася дасюль, ня выдала асобнай брошуры аб працы конфэрэнцыі і яе выніках. Такая брошура мела-б куды большую вартасьць. Такім шляхам была-б дадзена мажлівасьць азнаёміцца з краязнаўчай працай шырокім колам грамадзкасьці.

Працягам названае конфэрэнцыі, паглыбленьнем яе, да некаторай меры зьяўляюцца ніжэйпаданыя артыкулы, зьмешчаныя ў „Нашым Краі“ за 1929 г.: Я Раманчука „Вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху“ (№—10), у якім аўтар зазначае аб патрэбе вывучэньня мясцовага рэвруху, як аб аднэй з буйнейшых політычных задач, і поруч з гэтым даецца невялічкая програма зьбіраньня і вывучэньня матэрыялаў рэвруху. Па яго думцы програма гэтая павінна складацца з такіх вузлавых тэм: а) ад сялянскіх паўстаньняў 18 стагодзьдзя да зараджэньня соцыял-дэмократыі, б) ад зараджэньня соцыял-дэмократыі да рэволюцыі 1905 году, в) рэволюцыя 1905 году, г) паміж дзьвюма рэволюцыямі (1905—1917 г. г.), д) Лютаўская і Кастрычнікавая рэволюцыі, е) грамадзянская вайна, ж) соцыялістычнае будаўніцтва. У асноўным з пададзенай схэмай можна згадзіцца, толькі над адным можа паўстаць пытаньне, гэта ў мэтазгоднасьці выстаўляць такую шырокую тэму, як ад сялянскіх паўстаньняў 18 в. да соц.-дэмократыі. Тут крышку замнога будзе.

У тым-жа нумары падаецца В. Самцэвічам у артыкуле „Аб організацыі краязнаўчае працы на фабрыках і заводах“ схэма, якая складаецца з дзесяці пунктаў, якія могуць быць пакладзены ў аснову працы краязнаўчага гуртка на вывучэньне прамысловых прадпрыемств.

У артыкулах: А. Шашалевіча „Краязнаўчая праца ў раёне“ (№ 11), В. Самцэвіча „Да пытаньня аб краязнаўчай працы ў нізавых краязнаўчых організацыях (№ 6—7) і д-ра Ів. Цьвікевіча „Мэдычна-санітарнае вывучэньне раёну“ (№ 5) мы знаходзілі думкі, якія паглыбляюць і пашыраюць тыя мэтодолёгічныя краязнаўчыя пытаньні, што былі высунуты названай другой конфэрэнцыяй. Названыя два артыкулы падводзяць некаторыя вынікі працы нізавых краязнаўчых організацый на мясцох, на падставе тых матэрыялаў, якія маюцца ў цэнтральным бюро. Абодва аўтары зазначаюць, што адным з актуальных пытаньняў у раёне зьяўляецца адсутнасьць інструктароў па краязнаўству. Падаюцца факты, што бывае часам так, што калі які-небудзь гурток організуецца, ён даволі хутка развальваецца, прычынаю чаго больш за ўсё зьяўляецца зазначаная вышэй адсутнасьць на месцы падрыхтаванага належным чынам кіраўніка. Вось чаму пытаньне аб інструктажы, жывым кіраўніцтве краязнаўчаю працаю нізавой краязнаўчай сеткаю зьяўляецца вельмі сур'ёзным і важным пытаньнем, на якое цэнтральнаму бюро ў сваей працы належыць зьвярнуць максімум увагі. Зазначаецца і на адсутнасьць мэтодычнае краязнаўчае літаратуры на мясцох. Гэта тыя два асноўныя пытаньні, у якія ўпіраецца амаль уся праца на месцы, устраніць якія неабходна. Стварыўшы патрэбны краязнаўчы актыў з рабочых, колгасьнікаў і вучнёўскай масы, справа з дасьледчым вывучэньнем раёну зможа

пасунуцца наперад і дасьць патрэбныя для нас вынікі.

У працы д-ра Ів. Цьвікевіча мы маем некаторыя тлумачэньні да „Схэмы санітарна-бытавога дасьледаваньня вёскі“, „Програмы вывучэньня мястэчак“ і інш., у якіх указвалася, якім чынам можна праводзіць мэдыка-санітарнае краязнаўчае дасьледаваньне свайго раёну.

Артыкул надзычайна цікавы і каштоўны для кожнага краязнаўцы сваімі мэтодолёгічнымі заўвагамі аб пастаноўцы гэтай справы.

Дапаўненьнем і некаторым разьвязаньнем толькі што закранутых пытаньняў у разгледжаных вышэй артыкулах зьяўляюцца працы: 1) М. Касьпяровіча „Ліквідаваньне краязнаўчай няпісьменнасьці і падрыхтоўка краязнаўцаў“ (№ 4), у ім ставіцца пытаньне, якім чынам мажліва ліквідаваць краязнаўчую няпісьменнасьць. У гэтай справе павінны галоўным чынам прысьці на дапамогу газэты. Таксама не апошнюю ролю сыграюць тут даклады, лекцыі ў школах, хатах-чытальнях і клюбах, на сходах партыйных, сялянскіх і грамадзкіх организацый. Адносна другой часткі артыкулу, аб падрыхтоўцы кадраў краязнаўчых, як правільна зазначае М. Касьпяровіч, вялікае месца павінна тут заняць вышэйшая школа і тэхнікумы. У іх павінна быць уведзена выкладаньне курсу краязнаўства, праз які пройдуць студэнты і такім чынам будуць створаны так патрэбныя зараз працаўнікі для нізавой краязнаўчай сеткі. Думка бязумоўна правільная. Неабходна поруч з гэтым, каб і некаторыя дысцыпліны былі прасякнуты краязнаўчым зьместам. Толькі тады мажліва будзе мець працаўнікоў, 2) М. Азбукін у артыкуле „Да пытаньня аб вывучэньні сялянскіх будынкаў“ (№ 6—7) дае програму апісаньня гэтых будынкаў. Програма можа быць таксама скарыстана і пры вывучэньні санітарна-бытавых умоў населеных месц. Яна мае шмат агульных пунктаў з іншымі. Ці не пара ўжо падумаць аб выданьні больш агульных (стандартных) програм, якія-б ахоплівалі ўсе бакі, вывучаемыя краязнаўцамі? Гэта нам думаецца зэкономіла-б шмат сродкаў і часу тых, хто вывучае раён. Гэта пытаньне высоўваецца самім жыцьцём, здаецца, што гэта тычыцца цэнтральнага бюро краязнаўства, а то неяк сапраўды атрымоўваецца, што для таго, каб ня толькі весьці працу, але нават разабрацца ў тых краязнаўчых програмах, што выдадзены ў нас, трэба даволі аснавацельна быць падрыхтаваным. А як-жа будзе з людзьмі звычайнымі не падрыхтаванымі? Патрэбен адказ.

Мы разглядзелі працы, якія зьмешчаны ў часопісі за 1929 г. і якія па свайму характару вырашаюць некаторыя мэтодолёгічна-краязнаўчыя проблемы. Гэтыя артыкулы зьяўляюцца, як-бы працягам тых пытаньняў, якія паставіла адбыўшаяся ў пачатку мінулага году краязнаўчая конфэрэнцыя. Мы падкрэсьлілі сувязь гэтых прац з названай конфэрэнцыяй.

Пяройдзем да разгляду матэрыялу, зьмешчанага ў „Нашым Краі“ з гісторыка-рэволюцыйным зьместам. Назавем дзьве працы І. Т. Мірскага. 1) „Матэрыялы да вывучэньня рабочага і сялянскага руху ў Магілеўшчыне ў пэрыод 1903—1910 году“ (№ 1) і 2) „Лютаўская рэволюцыя ў Магілеве“ (№ 5) даволі слабенькія нататкі, без скарыстаньня ўсіх матэрыялаў, аб тэй тэме, пра якую бярэцца аўтар разважаць, адсутнічае ў іх і аналіз падзей, што ў такіх працах зьяўляецца неабходным. Другі артыкульчык, які займае толькі дзьве з лішнім старонкі, зьяўляецца ўласным успамінам аўтара, даволі аднабаковым і мы-б сказалі асаблівай цікавасьці не прадстаўляе. Ів. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч зьмясьцілі цікавейшы нарыс „Мястэчка Койданава“ (№ 2, 3) у якім названыя аўтары даюць гістарычны нарыс гэтага мястэчка, пачынаючы з XII веку, якія ў сваім нарысе сабралі і апра-

цавалі розныя гістарычныя факты, што сустракаюцца аб Койданаве ў розных гістарычных крыніцах. Апрацаваныя імі дадзеныя гістарычных падзей падаюцца імі ў хронолёгічным парадку. Гэта ў № 2; што тычыцца другой часткі працы, зьмешчанай у чарговым нумары, то тут аўтарамі даюцца весткі, пачынаючы з 1917 г. У гэтай частцы падаюцца ўсе падзеі, якія мелі месца ў мястэчку пасьля лютаўскай рэволюцыі. Пераходы ўлады з рук у рукі, сьвяткаваньні рэволюцыйных сьвят, выбары ў „учрадзілку“, нямецкая ды польская акупацыі, наступленьне Чырвонай арміі ў 1920 г. ды інш. Адным словам, у ім падаецца надзвычайна шмат фактаў, што мелі месца ў тыя часы на тэрыторыі Беларусі, усё гэта апавядаецца на конкрэтным прыкладзе аднаго беларускага мястэчку. Працягам і да некаторай ступенькі прывядзеньня задуманай аўтарамі монографіі да канца, даецца імі і „Сучасны стан м. Койданава і раёну“ (№ 4). Такім чынам, як можна бачыць з разгледжаных трох нарысаў аб м. Койданаву, аўтары ахапілі амаль галоўныя моманты, якія неабходны для вывучэньня гісторыі мястэчку. Трэба дадаць, што ўражаньне ад нарысу застаецца самае прыемнае. Ёсьць шмат чаму навучыцца ў аўтароў раённаму працаўніку, які вядзе ў сябе краязнаўчую працу.

Тыя-ж аўтары ў № 10 часопісі зьмясьцілі грунтоўную працу аб рэволюцыйных падзеях 1830—31 г. Носіць назву яна „Сынхроністычная табліца падзей паўстаньня на Беларусі, Літве і Польшчы ў 1830—1831 г. г.“ Гэтая табліца апрацована паводле друкаваных прац аб паўстаньні 1830—31 г. г. Аўтары пакінулі за сабою права папоўніць яе яшчэ данымі архіўных крыніц. Гэта шмат унясе новага ў іх сынхроністычную табліцу; у такім выглядзе праца, бязумоўна, будзе зьяўляцца значным укладам у скарбніцу гістарычнае навукі. Мы-б лічылі патрэбным зазначыць, што неабходна калонкі „Беларусь і Літва“ разьяднаць хоць-бы і па тэрыторыяльнаму прызнаку, гэта дало-б больш яскравы малюнак. Аўтарамі дадзена да іх працы і схэматычная карта, што таксама зьяўляецца дадатным бокам працы.

Аднэй з цікавейшых прац у часопісі „Наш Край“ за мінулы год мы знаходзім дасьледчы нарыс аб літоўскіх калёніях В. Скардзіса „Літоўцы на Беларусі“ (№ 6-7, 8-9). Аўтар, добра знаёмы з бытам і жыцьцём працоўнага літоўскага насельніцтва на Беларусі, узяўся ў сваіх нарысах, на падставе ўласнага знаёмства, з аднаго боку, і з другога — тых нязначных крыніц, што маюцца, пазнаёміць грамадзкасьць з узьнікненьнем літоўскіх паселішч, з іх разьвіцьцём, эканомічным і культурным сучасным станам. Задуманая аўтарам мэта, бязумоўна, цікавая. Нават падыйсьці да працы з таго пункту погляду, што дагэтуль ніхто такога нарысу не даваў і наогул справа з вывучэньнем нацменшасьцяй у нас вельмі пастаўлена слаба.

Зьяўленьне такое працы патрэбна ўсямерна вітаць. Зразумела, што гэтым мы ня хочам сказаць, што яго праца ня мае некаторых хібаў. Як на адзін з такіх хібаў, мы лічым неабходным зазначыць на наступнае: аўтар даволі бегла падае экономічнае становішча літоўскіх колёній на Беларусі, у гэтых адносінах яму патрэбна яшчэ шмат папрацаваць над зьбіраньнем матэрыялаў. У гэтым адно з слабых месц яго нарысаў. Аўтар ня выкарыстаў усіх колёній, што раскіданы па Аршанскай, Віцебскай, Магілеўскай ды інш. акругах, мажліва, што дасьледаваўшы іх больш падрабязна вывады прыдзецца зрабіць зусім іншыя, якія мы маем зараз у працы ў яе цяперашнім выглядзе. Адносна гэтага трэба параіць дасьледчыку, каб ён працягваў сваю цікавую працу далей. Да хібы ў працы трэба аднесьці і адсутнасьць карты, на якой можна было-б бачыць, як размяркоўваецца літоўскае на-

сельніцтва па Беларусі. Усё-ж праца ў агуле пакідае добрае ўражаньне.

Апошнія часы мы зьяўляемся сьведкамі вялікіх гістарычных падзей, мы разумеем соцыялістычную рэконструкцыю сельскае гаспадаркі, якую праводзяць працоўныя масы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі. Які-ж знайшоў адбітак сабе гэты вялічэзны рух на старонках разглядаемае часопісі. Прыходзіцца констатаваць, што гэтую справу рэдакцыя ў мінулым годзе разгарнула яшчэ зусім не дастаткова. Быў зьмешчаны толькі адзін каштоўны артыкул В. Самцэвіча „Да вывучэньня колгасаў“ (№ 12). Артыкул гэты цікавы, як спроба пастаноўкі пытаньня, гэтае новае для краязнаўцаў тэмы. Аўтар асноўнаю задачаю вывучэньня колгасаў бачыць у дасьледваньні іх з мэтаю дапамогі колгаснаму будаўніцтву. Сюды трэба ўкладаць самае шырокае разуменьне. Тут-жа ў сваёй працы ён дадае і кароткую праграму дасьледваньня колгасаў, гэтая кароткая праграма складаецца з 22 разьдзелаў і займае 8 старонак часопіснага тэксту. У другім нумары (№ 11) мы маем, распрацаваньня мабыць цэнтральным бюро краязнаўства, два пляны: адзін, для дасьледваньня і апісаньня колгаснага руху ў раёне, другі—колектыўнай гаспадаркі. Як у праграме В. Самцэвіча, так і ў названых двух плянах шмат пунктаў, якія супадаюць. Атрымоўваецца ўражаньне, што рэдакцыя ня надта ўважліва аднеслася да такой важнай тэмы. Ды і чым іншым можна вытлумачыць такое зьявішча, як зьмяшчэньня трох праграм, для вывучэньня колгаснага руху, хай сабе і з розных пунктаў погляду. Мы думаем, што бяз усякае шкоды для краязнаўства гэта можна было замяніць аднэй, справа ад гэтага толькі выйграла-б, а так яна будзе ўносіць толькі путаніцу. Атрымліваецца такое ўражаньне ад гэтай часткі матэрыялу, што рэдакцыя аднеслася да яе ня зусім сур‘ёзна, не завастрыла на ім свае ўвагі. У гэтым яе асноўная памылка.

Таксама слаба абстаіць справа з вывучэньнем саўгасаў, прынамсі, мы маем толькі два артыкулы С. Нікіфаровіча пра „Саўгас „Весялоўка“ імя т. Чарвякова“ (Барысаўскі раён № 10), ды Забелы, П. У. і Шацкага, Т. С. „Парк пры саўгасе „Барысаўшчына“, Гомельскай акругі“. (там-жа).

У часопісі мы маем шмат артыкулаў, якія тычацца вандраваньняў на Беларусі. Застановімся спачатку на тых прошчах, якія вызначаюць ужо пэўны экскурсыйны об‘ект, дзе экскурсанту можна значна чым зацікавіцца і папоўніць свае веды. Да іх трэба аднесьці артыкулы: 1) М. Касьпяровіча „Куды і як вадзіць экскурсіі“ (№ 4), у ім аўтар застанаўліваецца па двух маршрутах па г. Менску і г. Віцебску, тут ім падаецца, як практычна праводзіць экскурсіі па гэтых гарадох, куды ісьці і што аглядаць; 2) артыкул Д. Васілеўскага „Экскурсыйныя об‘екты Аршаншчыны“ (там-жа), у ім аўтар застанаўліваецца на культурна гістарычных і прамыслова-экономічных маршрутах, таксама ім вызначаюцца об‘екты, якія карысна бачыць і ў акрузе, напр., М. Дуброўна, дзе знаходзіцца адна з найбольшых ткацкіх фабрык на Беларусі, палац князёў Любамірскіх, помнікамі старой яўрэйскай сінагогальнай архітэктуры і г. д. Аўтар пералічае амаль па кожнаму раёну, што ў ім ёсьць цікавага для экскурсіі.

Галоўная прычына слабага разьвіцьця ў нас экскурсыйнай справы—адсутнасьць органа, які-б кіраваў гэтай справай, а таксама і адсутнасьць адпаведнай мэтодычнай літаратуры. Шмат артыкулаў, прысьвечаных экскурсіі па Беларусі, мы знаходзім у „Нашым Краі“ як Ус. Мікіцінскага „Дванаццаць дзён краязнаўчага вандраваньня“ (№ 1, 2 і 3) па Слуцкім і сумежных раёнах, М. І. Саламікіна „Дарожныя нататкі“ (№ 6-7), Веткаўскі р. Гомельшчына, В. Самцэвіча „Па Барысаўшчыне“ (№ 11 і 12), А. Шашалевіча „Па

Дзьвіне ў Сурат“ (№ 8—9), нататкі М. Валасэвіча „Па родных абшарах“ (№ 4), экскурсія краязнаўчага гуртка 4-ай Мен. 7-годкі па р. Бярэзіне, М. Касьпяровіча „На Асінбуд“ (№ 6-7). Значны лік артыкулаў у разглядаемым комплекце часопісі, ды дадаўшы сюды за мінулыя гады, паказвае, што экскурсыйнай справай у нас усё ж цікавяцца. Нават з тых артыкулаў, якія мы пералічылі, можна выбраць шмат цікавых маршрутаў. Яны шмат даюць цікавага як для вучняў, гэтак і экскурсантам адносна таго, што аглядаць і ў якія месцы вадзіць экскурсіі. Пры скарыстаньні адпаведнай літаратуры, мы змаглі-б ўлажыць *свой экскурсійны праводнік.* Гэту справу павінна ўзяць на сябе рэдакцыя часопісі, яна павінна паклапаціцца арганізаваць асьветнікаў і краязнаўцаў для распрацоўкі маршрутаў па ўсіх гарадох і мястэчках БССР, на падставе якіх потым трэба будзе ёй улажыць падрабязны тэматычны экскурсыйны праводнік. Гэта неабходна зрабіць, і гэта была-б вялізная дапамога экскурсыйнай справе, якая яшчэ дагэтуль у нас не арганізавана. Улажыўшы праводнік, справа гэта атрымала-б пэўны патрэбны напрамак. Для ўкладаньня такога праводніка, усе дадзеныя маюцца ўжо, большая частка працы праароблена.

Кінуты партыяй лёзунг, поруч з колектывізацыяй сельскай гаспадаркі аб павялічэньні ўраджайнасьці зернавых культур, знайшоў таксама свой хоць і слабы адбітак у „Нашым Краі“. Гэтай тэме мы маем прысьвечаных два артыкулы. Артыкул В. Самцэвіча „Проблема падвышэньня ўраджайнасьці і краязнаўства“ (№ 3), зазначае аб неабходнасьці краязнаўчым організацыям паставіць перад сабою задачу прыняць удзел у соцыялістычным будаўніцтве, шляхам практычнай дапамогі ў справе ўраджайнасьці збожжавых і тэхнічных культур. Краязнаўчыя організацыі гэтаму пытаньню павінны ўдзяліць максымум свае ўвагі. Тут-жа аўтарам даецца і кароткі плян працы для краязнаўчых організацый па падвышэньні ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі. Другі артыкул, які зьвязаны з гэтай тэмай і які ня мае практычнага характару, належыць проф. П. Салаўёву і носіць назву „Аб тэрмінах сяўбы жыта ў сувязі з падвышэньнем ураджайнасьці“ (№ 6-7).

З усяго папярэдняга, што намі разгледжана можна бачыць, што ў „Нашым Краі“ за мінулы год, зьмешчана шмат каштоўных матэрыялаў. Мы разглядалі толькі тыя, якія маюць найбольшую навуковую вартасьць. Што-ж тычыцца рэшты іх, як навуковых артыкулаў, гэтак і нататак з месц, то яны таксама цікавы і каштоўны, ня толькі з боку краязнаўчага, але, яны цікавы і для чытача, і для працаўніка, які працуе ў гэтай галіне. Каб не разглядаць гэтых прац, што заняло-б у нас надзвычайна шмат месца, і наогул наша рэцэнзія разраслася-б да вельмі значных памераў, мы дазволілі сабе толькі тэматычна пералічыць, да якіх галін навукі яны адносяцца, тут мы маем *вывучэньне нашых прыродных багацьцяў і магчымасьць скарыстаньня іх для найбольш вытворчых мэт*, аб народнай мэдыцыне, спробы экономічнага вывучэньня раёну, будаўніцтва сельскай гаспадаркі, этнографія, экспэдыцыі, археолёгія, літаратура, тэатр, музэй і шмат іншага.

Зробім невялічкія вынікі аб часопісі „Наш Край“ за мінулы год. Трэба адзначыць, што мінулыя чатыры гады, названая часопісь стала масавым популярным органам, як сярод краязнаўцаў, гэтак і сярод нашага масавага чытача. Гэта факт бясспрэчны. З таго матэрыялу часопісі, які мы разглядзелі, а ён далёка гэтым ня вычэрпваецца, можна бачыць аб аграмаднай рабоце, якую прарабіла рэдакцыя. Тут набываюць асаблівую каштоўнасьць мэтодолёгічныя артыкулы і розныя програмы, якія наказваюць нізавому краязнаўцу, як у данай галіне трэба вывучыць той або

іншы краязнаўчы об'ект. Працы дасьледчага характару, якіх налічваецца ў часопісі цэлыя дзесяткі, уносяць значны ўклад у скарбніцу пролетарскае навукі. Гэта відавочна і ніякі вораг Савецкае дзяржавы ня будзе гэтага адмаўляць.

Рэдакцыя зрабіла некаторыя і промахі. У першую чаргу трэба ёй паставіць у віну слабую пастаноўку справы з вывучэньнем колгаснага руху, а тыя-ж працы (артыкулы і програмы), што зьмешчаны ў часопісі, як намі вышэй адзначалася, відаць папалі бяз сур'ёзных адносін да прац з боку рэдакцыі.

Прыходзіцца паставіць у віну і адсутнасьць у часопісі інформацыі аб працы краязнаўчых організацый СССР, а таксама і замежных, калі ня лічыць артыкул М. Крываротчанкі „Украінскае краязнаўства" (№ 6-7).

Разьдзелы хронікі ў часопісі займаюць 1/3 усяго зьместу, часта гэтая хроніка мае вельмі малую грамадзкую каштоўнасьць. Мы ня супроць хронікі, але тут патрэбен якісьці фільтр. Амаль адсутнічаюць рэцэнзіі на краязнаўчыя працы, што выходзяць у РСФСР, а нам вядома, што там выдаецца шмат краязнаўчай літаратуры, думаем, што хаця-ж бы коратка знаёміць з ёю нашых краязнаўцаў не пашкодзіла-б.

Лічу неабходным застанавіцца на „адказах краязнаўцам", якія сустракаюцца ў некаторых нумарох часопісі. Гэтую жывую форму сувязі і кіраўніцтва рэдакцыі з яе нізавымі корэспондэнтамі неабходна практыкаваць і надалей, яна можа прынесьці значную дапамогу краязнаўцу, а рэдакцыі даць цікавы матэрыял.

**С. Баркоўскі**

**„Маладняк".** *Літаратурна-мастацкая і грамадзка-політычная часопісь—орган Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў. Год выданьня восьмы. Кніжка першая. Студзень. Менск. 1930. Выдавецтва „Чырвоная Зьмена". Тыраж 1500 экз. 154 стар. Цана 40 кап.*

Часопісь пачынаецца артыкулам „За пролетарскую літаратуру", у якім высунуты лёзунг і ўдзелу БелАПП'у ў трохмесячніку беларускае і нацменаўскае пролетарскае культуры, і апрача таго, наогул намечаная ў агульных рысах задача БелАПП ў рэконструкцыйны пэрыод.

Буйных прозаічных твораў зьмешчана ў гэтай кніжцы тры. Пачатак Галавачовае аповесьці „Вінаваты", працяг Хурсікавае аповесьці „Чорны мост" і пачатак п'есы І. Гурскага „Качагары". Зьяўленьне за апошні год цэлага шэрагу буйных твораў, аповесьцяй ужо само па сабе выразна гавораць аб творчым росьце і паасобных пісьменьнікаў, і ўсяго БелАПП'у ў цэлым. Іншая справа, наколькі яны падыходзяць да вырашэньня пастаўленае БелАПП'ам задачы „даць высока мастацкую пролетарскую творчасьць". Ня трэба толькі забывацца на тое, што амаль усе аповесьці, якія друкаваліся ў „Маладняку", зьяўляюцца першай спробай іх аўтараў у галіне буйных жанраў, чым у значнай меры можна тлумачыць іх, магчыма, не заўсёды высокую мастацкую вартасьць.

У творчасьці Платона Галавача пераважаюць два кола тэм: сялянскае жыцьцё і жыцьцё гарадзкіх партыйцаў. Аповесьць прысьвечана апошняму. Проблема, якая, як відаць, будзе распрацоўвацца ў ёй, гэта лёс шчыра адданых соцыялістычнаму будаўніцтву людзей з соцыяльна-чужым паходжаньнем. Проблема, як бачым, орыгінальная і актуальная. Пакуль што ў першай частцы аўтар расказвае аб тым, як сялянскі хлапец Мікіта (напэўна ён акажацца далей шаўцовым бацькам) пайшоў пасьля салдатаў служыць у паліцыю і зрабіўся шпегам. На Мікіту галоўным чынам сконцэнтравана аўтарава ўвага і ён хоча паказаць яго чытачу, як арэну змаганьня „чалавека" з „народжаным (?) шпегам":

пачаў друкаваць новы свой роман „Визволення“, у якім піша пра нашу моладзь, вынаходніцтва. Роман хутка выйдзе і асобнаю кніжкаю ў выданьні ДВУ.

* Выданьнем ДВУ вышла кніжка поэзій Нікіфара Шчэрбіна—„Ранок“. У гэтай кніжцы падана поэзія 1922—1929 г. г.

* Кіеўская сэкцыя працаўнікоў друку ўзялася выдаваць орган кіеўскіх журналістых „Київський Журналіст“. Газэта будзе выходзіць тры разы на месяц на украінскай мове.

* У Кіеве пачаў выходзіць штотыднёвік „Радянське Містецтво“, прысьвечаны пытаньням тэатру. Часопісь высьвятляе ўсе галіны тэатральнай работы і мастацтва.

* Інстытуту Шэўчэнкі ахвяраваў поэт В. Полішчук сваю перапіску з Ганнай Барвінок, а таксама некалькі фотографій Куліша і Барвінок.

Перапіска гэта нідзе не друкавалася і ўпяршыню будзе апублікавана ў новай гісторыка-літаратурнай часопісі інстытуту „Літературний архів“.

* У сэрыі твораў пісьменьнікаў народаў СССР у расійскіх перакладах вышла некалькі кніжак твораў украінскіх аўтараў — Коцюбінскага, Стэфаніка, Падмагільнага, Івашле.

* У маскоўскай газэце „Известия ЦИК“ ад 19 сьнежня м. г. зьмешчаны пасьмертны артыкул акадэміка Д. К. Забалотнага пад назваю „Покоренные микробы“. Артыкул рэдакцыя атрымала ад Д. К. Забалотнага незадоўга да яго сьмерці.

* У траўні 1930 году на Украіну мае прыехаць вялікая група чэскіх і славацкіх пісьменьнікаў, якія наведаюць Харкаў і Кіеў. Мэта прыезду—наладзіць сувязь з украінскімі літаратарамі.

* 31 студзеня 1930 г. часопісь „Украінські Щоденні Вісти“, што выходзіць у Нью-Ёрку, адзначыла дзесятыя ўгодкі свайго існаваньня.

„Украінські Щоденні Вісти“ пачалі выходзіць пасьля разгрому часопісі „Робітник“, офіцыйнага органу Украінскай Фэдэрацыі Соцыялістычнай партыі, а з 11 верасьня 1919 г.—Комуністычнай партыі Амэрыкі. Апошні нумар „Робітника“ вышаў 3 студзеня 1920 году. Першы нумар „Українськіх Щоденних Вистей“ зьявіўся 31 студзеня 1920 г.

* У канцы мінулага году наведаў Украіну выдатны пісьменьнік і крытык Уладзімер Клеменціс—рэдактар літаратурна-мастацкай часопісі „DAV“ („Маса“) у г. Браціславе, якая аб'яднае славацкія комуністычныя літаратурна-мастацкія сілы. У. Клеменціс прабыў у СССР месяц і наведаў Ленінград, Маскву, Харкаў і Кіеў.

* Рэдактар славацкай часопісі „DAV“ т. Клеменціс склаў з ДВУ умову на выданьне зборніка славацкіх новэль на украінскай мове. Ёсьць меркаваньне выдаць таксама зборнік поэзій славацкіх поэтаў.

* Львоўскае ваяводзтва зьліквідавала цэлы шэраг украінскіх організацый, у тым ліку—Т-ва „Сокіл“ і чытальні „Просьвіта“.

* У лістападзе м. г. у Львове ў Акадэмічным Доме адбылася выстаўка прац вучняў малярскай школы Новакоўскага.

* Ідзе падрыхтоўчая праца выстаўкі вясною 1930 г. мастацтва Заходняй Украіны ў Харкаве і Кіеве. Значная частка экспонатаў для выстаўкі ўжо сабрана.

* Украіна прымае ўдзел у мастацкай выстаўцы, якая адбудзецца ў Бэрліне. Бюро выстаўкому ўсеукраінскага таварыства сувязі з закардонам распрацавала пляны і прынцыпы, якіх трэба прытрымлівацца пры экспозыцыі выстаўкі. Агульная ўстановка выстаўкі украінскага мастацтва—„мастацтва ў сучасным соцыялістычным будаўніцтве“.

З сучаснага мастацтва на выстаўцы экспанавана будзе: мастацтва вёскі (вышываньне, тэкстыль, разьбярства, малярства па дрэву і г. д.) і мастацтва гораду (малярства монумэн-

тальнае, графіка аўтарская і рэпродукцыя, скульптура, архітэктура ў фотоздымках новазбудованых будынкаў, кіно, фото, тэатр). Экспонаты сучаснага мастацтва будуць распадзелены: на мастацтва ў быце, мастацтва школы і мастацтва політасьветы. Да графікі будзе залічаны політычны плякат, афіша, рэклямная афіша, газэтная карыкатура, насьценгазэта.

У часе выстаўкі будзе арганізаваны таксама тыдзень украінскай музыкі з твораў сучасных украінскіх композытараў у выкананьні найлепшых артыстычных сіл.

Прэм'ераю Дзяржаўнай Акадэмічнай опэры гэтага сэзону ў Харкаве быў твор А. Вахняніна „Купала“ на 4 дзеі.

Музыку да опэры А. Вахнянін напісаў у пляне старой італьлянскай вялікай опэрнай формы, загэтым галоўныя пэрсонажы маюць багата мэлёдыйных арый, частка якіх пабудавана на народных мэлёдыях.

Опэра ідзе ў пляне тэатралізаванай героіні, пабудаванай на музычным рытме.

Ужо 9 гадоў, як працуе на Украіне дзяржаўны квартэт ім. Вільома. Квартэт заснаваўся ў 1920 г. у Харкаве. Пропаганда лепшых узораў камернай музыкі сярод рабочых, абслугоўваньне культурных патрэб пролетарыяту УССР—надалі рабоце квартэту вялікую музычна-грамадзкую вагу.

Акрамя клясычнай музыкі, квартэт шырока популярызаваў сучасную музыку, асабліва украінскую. Сувязь квартэту з мясцовымі музыкамі дала яму магчымасьць атрымаць творы маладых композытараў татар, манголаў, буратаў, якутаў і выконваць іх у концэртах.

Харкаўскі тэатр юнага гледача выклікаў на соцспаборніцтва кіеўскі тэатр. Абодвы тэатры падпісалі дагавор соцспаборніцтва.

У сьнежні м. г. у Кіеве, Харкаве, Адэсе адбылася выстаўка Японскага кіно, організованая Усеукраінскім Т-вам культсувязі з закардонам.

У організацыі выстаўкі прымалі ўдзел фірмы і асобы: Сіоціку, Кабусікі Кайся, Макіно, часопісь „Кінема Дзюмпо“, Д-Дзій Іппей Фукуро, Тэйноку кінэма Энгей Кабусікі Кайся, Тоа кінема Кабусікі Кайся, Ніхон Кацудо Сясін Кабусікі Кайся, Бандо Цумасабуро, Шчыкава Утасмон, Д-Дзій Сіохей Івата і інш.

Бліжэйшы ўдзел у падборы матэрыялу прымаў упаўнаважаны Т. К. С. і Японіі проф. Е. Спальвін (Токіо).

Выстаўка японскага кіно на Украіне—гэта другі факт абмену культурнымі прыдбаньнямі паміж Савецкай Украінай і Японіяй. Выстаўка японскага кіно, якая адбівае цэлыя эпохі жыцьця Японіі, адыграе вялікую ролю ў справе азнаямленьня шырокіх колаў працоўных з Японіяю і Усходам.

Усеукраінская фото-кіно Ўправа агаласіла конкурс на лепшыя сцэнарыі на такія тэмы:

I. Антырэлігійная. Сцэнары павінен высьветліць пачаткі рэлігіі з часоў першапачатковага фэтышызму, татэмізму, анімізму. Гэта мае быць мастацкі, напаўсюжэтавы, напаўкультурны фільм.

II. Моладзь у рэволюцыі. У тэме патрэбна высьветліць удзел нашай моладзі на розных франтох клясавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва.

III. Соцыялістычнае змаганьне.

IV. „Колгасы“.

V. Новы чалавек.

VI. Перараджаньне.

VII. Школа.

VIII. Вольная тэма.

Удзельнікі пішуць сцэнары на вольную тэму, але абавязкова для комэдыйнага фільму.

Сцэнары трэба распрацоўваць з разрахункам на поўнамэтражныя карціны, на адзін кіно-сэанс. Акрамя высокага мастацкага і тэхнічнага

выкананьня, кожны сцэнары мусіць мець выдатную соцыяльную вартасьць.

Тэрмін для напісаньня сцэнарыя і падачы яго ўстаноўлены на 4 месяцы: з 25-га лістападу 1929 г. да 25-га сакавіка 1930 г.

Найлепшы сцэнары атрымае першую прэмію ў 3000 р.

У Нью-Ёрку дэмонстраваўся фільм ВУФКУ „Арсенал“. Характарызуючы працу Довжэнькі (рэжысэр), газэта „Дэйлі Воркер“ піша, што, стварыўшы гэты фільм, ён „займае сваё месца сярод найбольшых у сьвеце кіно-рэжысэраў“.

Каб найлепей забясьпечыць спэцыялістых і вышэйшыя тэхнічныя школы літаратураю і падручнікамі, урад даручыў ВСНГ організаваць на Украіне навукова-тэхнічнае выдавецтва.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* К. Федзін скончыў аповесьць „Старик“, якая выйдзе ў ГІЗ.

* І. Нікіцін выпускае ў ГІЗ роман „Прыжок в неизвестное“, які атабражае жыцьцё герояў грамадзянскай вайны ў пэрыяд нэпу.

* С. Вегін падрыхтаваў да друку кнігу апавяданьняў пра Пэрсыю і Турэччыну „В стране Гашиша“. Скончыў п‘есу „Мироед“—з жыцьця стараверства і соцыялістычнай перабудовы вёскі.

* Л. Ракоўскі канчае роман „Четвертая жена“, у якім атабражаецца нямецкая і польская акупацыя Беларусі ў часы грамадзянскай вайны.

„Турция в борьбе за независимость“ пад такою назваю вышла кніга 2-м выпускам у сэрыі кніг пра ўсход у выданьні Навуковай Асоцыяцыі Усходазнаўства РСФСР.

Аўтары гэтай кнігі—М. Паўловіч, Ц. Гурко-Крашын і Ф. Раскольнікаў.

Па прапанове групы пісьменьнікаў (А. Дарагайчэнка, А. Дзямідава, П. Нізавога, С. Юрына і інш.) былы дом адпачынку ў сяле Малееўцы перададзены Літфондам колектыву пісьменьнікаў, якія стварылі ў ім пісьменьніцкую комуну.

У статуце комуны гаворыцца: „Пісьменьніцкая комуна організуецца з мэтаю ўнядрэньня асноў новага комуністычнага быту ў пісьменьніцкі асяродак і з мэтаю больш пасьпяховай творчай працы пісьменьнікаў“. Комуна паставіла таксама сваёй задачай пропаганду ідэй колектывізацыі і культурную працу сярод насельніцтва бліжэйшых вёсак.

На першым паседжаньні прэзыдыуму новага праўленьня МАПП былі ўстаноўлены асноўныя прынцыпы работы організацыі. Уся работа МАПП падзелена на сэктары: нізавыя гурткі, гурткі павышанага тыпу, творчыя аб‘яднаньні, масавая праца, навукова-мэтодычная праца, кіраўніцтва ўсімі друкаванымі выступленьнямі гурткоў, дзіц. сэкцыі, дрампраца і інш. Працай кожнага сэктару кіруе тройка.

* Пры часопісі „Рост“ організаваўся гурток рабочай крытыкі. Большасьць членаў гуртка складае актыў рабочых крытыкаў з раённых літгурткоў МАПП.

Члены гуртка маюць непарыўную практыку пры часопісе, даючы водзывы аб рукапісах, якія паступаюць, рэцэнзуючы новыя кнігі. Працы гурткоўцаў будуць зьмяшчацца ў часопісі „Рост“.

* Н. Асееў працуе над перакладам у вершах п‘есы Бруно-Ясенскага „Слова аб Якубе Шэле“. У ГІЗ выходзіць яго кніга „Избранные стихи“. У выдавецтве „Фэдэрацыя“ вышла яго кніга „Проза поэта“.

* На пленуме МАПП была вынесена рэзолюцыя па пытаньні аб пропагандзе распаўсюджаньня часопісяй РАПП‘у: „Октябрь“, „Рост“ і „На літпосту“. Складзена ўмова з Маскоўскім аддзяленьнем дзяржвыдавецтва на распаўсюджаньне гэтых часопісяй праз членаў МАПП, мапаўскімі гурткамі і шляхам мобілізацыі заводзкіх грамадзкіх організацый.

* Асноўныя пісьменьніцкія кадры МАПП бяруць пэрсональнае літаратурнае шэфства над пачынаючымі пісьменьнікамі з гурткоў і акруговых асоцыяцый. 46 пачынаючых пісьменьнікаў ужо прымацаваны да асобных пісьменьнікаў—шэфаў.

* У бліжэйшы час пры клюбе ФОСП адчыняецца літаратурная консультацыя „Перавала“,—для пачынаючых пісьменьнікаў. У працы консультацыі прыме ўдзел увесь актыў садружаства.

* Заканчваецца падрыхтоўка да друку дэклярацыйнага зборніку „Перавала“, прысьвечанага пытаньням мастацкай плятформы садружаства.

* Здадзены ў друк 8 альманах „Перавала“,—„Ровесники“.

* Падрыхтоўваецца для друку антолёгія перавальскай крытыкі пад агульнай рэдакцыяй А. Варонскага.

* На паседжаньні МТП (Маскоўскага Тарыст. Пісьменьнікаў) з удзелам рэдакцыйнай колегіі і актыву быў зацьверджаны рэдплян на бягучы год. У новым рэдпляне амаль усе назвы прысьвечаны выключна сучасным рэволюцыйным тэмам: соцыялістычнае будаўніцтва ў горадзе і вёсцы. Ня менш паловы пляну адводзіцца нарысам, мэмуарнай і камсамольскай літаратуры, за тым у рэдплян уключаны тры зборнікі: 1) пра правы ўхіл у мастацкай літаратуры, 2) пра работу ўдарных брыгад у раёне суцэльнай колектывізацыі і на заводзе і 3) пра значэньне нарысу ў сыстэме літаратуры. Усе тры зборнікі будуць падрыхтаваны да друку ў самы бліжэйшы час.

* Маскоўскае аддзяленьне дзяржвыдавецтва „Московский Рабочий“ 4 сакавіка організуе разам з Расійскай асоцыяцыяй пролет. пісьменьнікаў у Колённай залі Дому Саюзаў вялікі вечар пролетарскай літаратуры для чытацкага актыву маскоўскіх прадпрыемстваў.

Мэта вечару—абгаварэньне задач пролетарскай літаратуры ў рэконструкцыйны пэрыод.

* В-ва „Фэдэрацыя“ організоўвае выданьне шэрагу зборнікаў для маладых пачынаючых пісьменьнікаў. У зборніках будуць зьмяшчацца вершы, аповесьці, апавяданьні і нарысы звычайнага часопіснага памеру.

Рэдсавет выдавецтва „Фэдэрацыя“ распрацаваў орыентыровачны плян новай сэрыі кніг пад агульным загалоўкам „Социалистическое строительство“. У гэту сэрыю ўвойдуць кнігі нарысаў, прысьвечаных будаўніцтву буйных заводаў, саўгасаў, колгасаў і соцыялістычных гарадоў.

Да сэрыі прыцягнуты пісьменьнікі, якія нядаўна зьвярнуліся з паездак у раёны суцэльнай колектывізацыі.

* У дзіцячую сэкцыю МАПП паступіла прапанова ВССП аб стварэньні фэдэрацыі дзіц. пісьменьнікаў. Дзіц. сэкцыя, абгаварыўшы гэта пытаньне, прызнала немэтазгодным стварэньне фэдэрацыі. У мэтах коордынаваньня працы сэкцый дзіц. пісьменьнікаў усіх літорганізацый, дзіцячая сэкцыя МАПП лічыць неабходным стварыць пры фэдэрацыі бюро дзіцячых пісьменьнікаў.

Дзіцячая сэкцыя ставіць перад оргкамітэтам Наркамасьветы, па скліканьні зьезду аб дзіцячай кнізе, пытаньне аб тым, каб творчыя задачы дзіцячых пісьменьнікаў знайшлі сваё адлюстраваньне на зьезьдзе.

У красавіку МАПП мяркуе правесьці „Месячнік дзіцячай кнігі“.

* Д. Угрумаў скончыў сатырычную комэдыю на тэму аб чыстцы партыі, пад назваю „Неувязка“.

* Л. Нікулін працуе над п'есай „Атака“— пра рэволюцыйны рух на Заходзе і фашыстоўскі націск на СССР.

* Аб'яднанае бюро сэкцый драматургаў—членаў Модпіка і Драмсаюзу ўхваліла аб'яднаць усю працу грамадзка-ідэолёгічнага парадку. Бюро ставіць сваёй задачай падсумаваць дзейнасьць кожнай сэкцыі і ў бліжэйшы час зрабіць поўнае іх злучэньне.

* Маскоўскі Дзяржаўны яўрэйскі тэатр даў 25-ю пастаноўку п'есы „Глухой“. Увесь збор прадназначаны на пабудову дому падшэфнай тэатру комуны „Красная Пресня“. Перад спэктаклем прадстаўніком маскоўскага камітэту ОЗЕТ быў зроблены даклад аб бліжэйшых задачах апошняга.

* Ф. Вішнеўскі (Вотск. краіна) працуе над п'есай з калгаснага будаўніцтва „В колхозы“ і падрыхтоўвае да друку свае п'есы „Красная звезда“, „Падший ангел“, „Яшка“ і інш., ганарар за якія ім прадназначаны на пабудову нардому ў с. Новыя Зятцы, Удмурт. краіны.

* Маскоўскі тэатр опэрэты організаваў брыгаду ў складзе артыстых трупы і трох гарманістых. Брыгада ў шэсьць дзён падрыхтавала водэвіль з сьпевамі „Хряк“—з жыцьця вёскі, а таксама эстрадную програму. Выехала яна ў Татрэспубліку.

* Дзяржцырк рыхтуе вялікую пантоміму, прысьвечаную падзеям 1905 г. Сцэнары да яе напісаны Ў. У. Маякоўскім.

* С. Карташоў, аўтар п'есы „Наша молодость“, уключанай у рэпэртуар МХТ, працуе над другой п'есай „Нежность не в счет“.

* Тэатр ім. Мэйерхольда сфармаваў дзьве ударных артыстычных брыгады па абслугоўваньні справаздачнай кампаніі Массавету. Ударнікі-мэйерхольдаўцы паступілі ў распараджэньне Краснапрэсьненскага райсавету, па пуцёўках якога яны выступаюць з спэцыяльнай програмай.

* Тэатр ім. Няміровіча-Данчэнка рыхтуе ў сучасны момант опэру „Горад вятроў“, першая пастаноўка, якой адбудзецца ў сярэдзіне сакавіка. У сувязі з гэтым спэктаклем, тэатр організуе спэцыяльную выстаўку, якая павінна прыцягнуць увагу гледачоў ня толькі да бакінскіх здарэньняў, што паслужылі тэмаю для п'есы В. Кіршона, на сюжэт якой напісана опэра композытарам Л. Кныппер, але, галоўным чынам, да пытаньняў пяцігадовага соцыялістычнага будаўніцтва нашай прамысловасьці, а таксама да пытаньняў абароны і міжнароднага становішча СССР. У выстаўцы прымуць удзел грамадзкія і гаспадарчыя організацыі, у тым ліку—Музэй Рэволюцыі, Нафтасындыкат, Асоавіяхэм і інш.

Наладжваючы гэту выстаўку, тэатр ім. Няміровіча-Данчэнка выклікаў у парадку соцыялістычнага спаборніцтва, тэатр ім. Вахтангова організаваць падобную-ж выстаўку да прэм'еры падрыхтоўваемай вахтангаўцамі п'есы В. Катаева „Авангард“.

* МХАТ 2-гі дае прэм'еру новай п'есы Ал. Талстога „Петр І“. Прачытаць гістарычную п'есу вачыма нашага сучасьніка, угадаць яе соцыяльнае гучэньне і даць пэўнае ўражаньне яе быту і нораваў—вось шлях, па якім ішла работа пастаноўшчыка і мастака гэтага спэктаклю.

* Тэатр Сэмпэрантэ паказаў новую сваю работу, прысьвечаную тэме антысэктанцкага паходу—„Корабль“ (так называецца п'еса тэатру)—разгарнуў карціну напружанай барацьбы адурманенай махлярамі ад рэлігіі адсталай масы і сьвядомай грамадзкасьці ў вёсцы. Сюжэтная лінія п'есы прысьвечана барацьбе за дзяўчыну-комсамолку, якую завабілі ў свае сеці былыя памешчыкі, белагвардзейцы і кулакі, аб'яднаныя ў колгасе „Корабль“.

* Сэкцыя композытараў МОДПІКА і Драмсаюзу на пашыраным пленуме бюро сэкцый ухвалілі організаваць адзіную сэкцыю композытараў РСФСР. З гэтай мэтай 20 лютага ў концэртнай залі Дома Герцэна скліканы агульна-гарадзкі сход усіх маскоўскіх композытараў.

* Іванава-Вазьнясенскі Краёвы Пролеткульт справіў 19-га лютага дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня. У памяшканьні тэатру Пролеткульту адбылося ўрачыстае паседжаньне, на якім былі заслуханы даклады: Маркава—„Дзесяць год Пролеткульту“, Борава — „Творчы шлях Пролеткульту“.

* У Дзяржаўнай Трэцьцякоўскай галярэі адчынілася выстаўка карцін, намечаных да прыдабытку. Пытаньне аб пакупцы музэем тэй ці іншай карціны будзе вырашана дырэкцыяй у залежнасьці ад ацэнкі карцін прадстаўнікамі рабочай грамадзкасьці.

* Усерасійская бяспройгрышная кніжная лётарэя „Книга вместо водки“ праходзіць з вялікім посьпехам. З агульнай колькасьці ў 2 мільёны білетаў па аднэй Маскоўскай вобласьці разьмеркавана ўжо звыш 525000. У ліку выйгрышаў—падручнікі энцыклёпэдычныя слоўнікі, збор твораў Леніна, Маркса, Чэрнышэўскага.

* Дзяржаўная акадэмія мастацкіх навук падрыхтоўвае выстаўку на тэму „1905 год у мастацтве“.

* У канцы мінулага году ў Баку адбылася пятая Усесаюзная Нарада Кніжных Палат. У нарадзе ўдзельнічалі прадстаўнікі ад кніжных палат усіх саюзных рэспублік: Азарбайджану (Тэрэгулаў, Дондараў), Беларусі (Сіманоўскі), Арменіі (Туманяк), Грузіі (Бэрышвілі), РСФСР (Яніцкі, Бароўскі, Шамурын), Туркменістану (Якобсон), Украіны (Годкевіч, Дзімант), Узбэкістану (Квасьнецкі).

Асноўным пытаньнем на нарадзе было пытаньне аб формах масавай працы Кн. Палат.

Шэраг актуальных проблем, што стаяць перад савецкаю бібліографіяю ў сувязі з пераходам да актыўных мэтодаў абслугоўваньня справы пашырэньня кнігі ў масах, на думку Палат, выклікае патрэбу склікаць увосень 1930 г. 1-ы Ўсесаюзны Бібліографічны Зьезд.

* Акадэмік Ц. Камароў, в. а. неадменнага сэкратара Акадэміі Навук СССР, адпаведна з пастановай СНК Саюзу ад 6 красавіка 1928 г. аб сьпісе катэдр Акадэміі, абвясьціў аб наяўнасьці ў аддзяленьні гуманітарных навук па разьдзелу мовазнаўства і літаратуры вакантнай катэдры па славяназнаўству.

Кандыдатамі на гэту вакансыю высунуты проф. Н. М. Карынскі (групаю акадэмікаў па мовазнаўству і літаратуры) і проф. Козьмін (навукова-дасьледчым інстытутам параўнаўчай гісторыі літаратур і моў Захаду і Ўсходу).

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА ЗСФСР

* Па ініцыятыве профэсараў Шанідзе і Аўхледзіяні ў Дзяржаўным Тыфліскім Унівэрсытэце адчыняецца катэдра Украінскай мовы.

* Актыў Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў Грузіі ўхваліў узяць актыўны ўдзел у вясновай пасеўнай кампаніі.

Практычна гэты ўдзел мае выявіцца: 1) у напісаньні апавяданьняў, радыё-п'есы і інш.—агітацыйнага характару і ў выданьні іх асобнымі кніжкамі, і 2) у вылучэньні некалькіх пісьменьнікаў для кіраўніцтва рабочымі брыгадамі.

* У гэтым сэзоне ў Дзяржаўным Тыфліскім Тэатры прынята да пастаноўкі п'еса І. Мікітэнкі „Дыктатура". Пераклад п'есы на грузінскую мову належыць Цагарэлі.

* Пролетарскі пісьменьнік К. Канадзе напісаў новую п'есу „Хатыджэ". П'есу ўзялі да рэпэртуару тэатру К. Марджанава.

* К. Лорткіпанідзе закончыў новую кнігу з жыцьця колгасаў—„Новыя сяляне". Кніга вышла асобным выданьнем.

* Ал. Машашвілі нядаўна выдаў у выданьні Дзярж. Выдав. Грузіі новую кніжку поэм—„Кніга поэм". У кнігу ўвайшлі навейшыя вершы і поэмы поэты.

* Пролетарскія пісьменьнікі Азэрбайджану склалі ўмову з Дзяржаўным Выдавецтвам Грузіі на выданьне сваіх твораў на грузінскай мове.

* Рэжысэрам Мадатаянам закончана здыманьне горскага Загезурскага павету для поўнамэтражнага культфільму „Турыстычная Арменія".

У фільме будуць зазьняты вядомыя археолёгічныя помнікі Арменіі, краявіды, Севанскае возера, а таксама і быт сялянства.

* Нядаўна Арменкіно распачало выдаваць і рэгулярна выпускаць кіночасопіс „Арменкіно". Часопісь дэмонструюць на экране, паказваючы значныя падзеі ў рэспубліцы і штодзенную працу з соцыялістычнага змаганьня.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

* У выдавецтве Мэколея (Нью-Ёрк) выходзіць цікавы зборнік, пад агульнаю назваю „Sexin Civilisation". У ім прымаюць удзел больш трыццаці выдатных аўтароў. Ініцыятыва зборніка належыць Кальвэртону і Шмальгавэену. Гэта кніга шырока ахапляе жыцьцёвую проблему.

* Цікавы зборнік апавяданьняў выпусьціў Пэдро Авліно. Проста пабудаваныя апавяданьні, захапляюць глыбінёю назіраньняў над социяльным атачэньнем, гастратою, якою аўтар выкрывае соцыяльныя супярэчлівасьці.

* У 1930 і 1931 г. г. па розных мясцох лацінскай Амэрыкі намечана правесьці шэраг конгрэсаў. Так у Бразіліі адбудзецца чацьверты конгрэс архітэктароў (ліпень 1930 г.). У Коста-Рыка—сёмы панамэрыканскі навуковы конгрэс (сьнежань 1931 г.), у Уругваі—другі амэрыканскі конгрэс журналістых (сьнежань 1930 г.).

* У Ля-Пац організавана „Драматычнае выдавецтва" з мэтаю азнаямленьня галоўных месц Амэрыкі з крэольскаю і індыйскаю драмаю і фольклёрам Болівіі. Таварыства носіць назву „Tiaһvanacu". Праца падзелена між трыма сэкцыямі: драмы, танцаў, крэольскага оркестру. Мяркуюць, што ўтварэньне гэтага таварыства будзе стымулам для ажыўленьня мясцовай драматургіі.

## Вэнгрыя (Угоршчына)

* Ж. Кодоланый у „Futoluz" („Полымя"), сваім соцыяльным романе з сучаснага, падае гісторыю провінцыяльнай сям'і, дзе можна знайсьці ўсіх тыпаў дарэволюцыйнай Вэнгрыі. Асноўныя рысы роману—шчырасьць, рэалізм і глыбокая пранятасьць соцыяльнымі ідэямі. Аўтар аналізуе з нейкаю глыбінёю сутнасьць усіх соцыяльных клясаў, што складалі старую Вэнгрыю. Канчаецца роман апісаньнем першых дзён рэволюцыі і апофэозом вызваленьня мас.

* „Каляска, Вежа Бабеля, земная куля" пад такою назваю вышаў новы твор трылёгія пісьменьніка Георга Сакто. Аўтар у сваёй творчасьці адыходзіць у мінулае.

Да 1914 году Сакто быў мастаком, але папсаваўшы на вайне вочы, ён перайшоў да літаратуры. Творы яго адзначаюцца багацьцем фарб і цікавасьцю вобразаў.

## Італія

* Пісьменьніца Эстэр Ломбардо напісала цікавы роман з жыцьця сучаснай жанчыны „La donna Senza Cuore". Роман выдадзены ў Мілане выдавецтвам Корбаччо. Героіня яго (роману)—тып „дзелавой жанчыны", якая становіцца банкірам, умела кіруе грашовымі справамі, але аднойчы, як звычайная жанчына, становіць сваё пачуцьцё над усім і ахвяруе ўсё сваё багацьце і становішча каханьню. Роман напісаны з вялікаю мастацкасьцю і тонкаю псыхолёгіяй

* Вышла кніга „Гісторыя італьлянскай літаратуры", гэта новы досьлед Дзонта, які адзначаецца новай трактоўкай старой тэмы, а таксама новым падзелам літаратуры на групы і орыгінальнасьцю думкі.

* Вялікую полеміку выклікала кніга П'етро Міньюзі—„La polsia italiana di ques'o secalo" („Сучасная італьянская поэзія"). П'етро Міньюзі адзін з выдатных поэтаў, кіраўнік часопісі „La tradizione" і прадстаўнік каталіцкага напрамку ў італьлянскай

поэзіі. Усю літаратуру разглядае ён з погляду ўпартага католіка і таму яго групоўкі пісьменьнікаў, яго ацэнкі і характарыстыкі прымаюць зусім неспадзяваны характар. Гэта кніга выклікала абурэньне вялікай часткі італьлянскіх пісьменьнікаў і была прычынаю гарачай дыскусіі ў друку.

* Поэт Эльпідзіо Йёнко, адзін з піонэраў італьлянскага авангардызму, пасьля больш дзесяці гадоў маўчаньня, ізноў выпусьціў дзьве кніжкі поэзіі. Крытыка адзначае, што гэтыя яго новыя кніжкі „Романтычныя Ноктурны" і „Морскія Воды" адзначаюцца гэткім-жа арыстократызмам слова, майстэрствам формы і музычнасьцю, як і папярэднія.

**Нямеччына**

* Адам Шарэр, пісьменьнік-рабочы, напісаў кнігу пра вайну, якая заняла выдатнае месца сярод усяе ваеннай літаратуры. Характэрная асаблівасьць яе гэта—надзвычайная праўдзівасьць яе, шчырасьць. Кніга называецца „Vaterlands-lose Gesellen" і апавядае ад асобы сьлёсара салдата Ганса Бэцольда гісторыю яго ваеннага навучаньня, аб фронце, аб працы на заводзе Круппа, аб удзеле ў забастоўцы, у рэволюцыі.

* Альфрэд Доблін у сваім новым романе „Berlin, Alexander platz" падае роман вялікага гораду, рэальнае жыцьцё сярэдняга чалавека ў вялікім горадзе. Роман адзначаецца вялікаю сілаю і мастацкасьцю.

* Цікавую проблему паставіў пісьменьнік Фрыдрых фон Галерн у сваім романе „Вуліца". Гэта сапраўдная эпопея паўднёва-славянскага народу. Асноўная тэма яе—руйнаваньне прыроды і людзей праз культуру. Вартасьць кнігі ў шырокіх малюнках жыцьця і дэталёвым азнаямленьні з тым куточкам зямлі, які малюе аўтар, з народам, які жыве там, як панамі, гэтак і пролетарыямі.

* В. Е. Зюскінд, адзін з найталенавіцейшых прадстаўнікоў маладой генэрацыі, выпусьціў свой першы вялікі роман „Моладасьць". Роман моцны ў мастацкім адлюстраваньні сьвету пасьляваеннага часу, у глыбокім назіраньні і псыхолёгіі.

**Португалія**

* З літаратурных навін Португаліі можна назваць некалькі твораў, якія выйшлі ў апошні час. Гэта—„Португальскія легенды" Роха Мартынса, пісьменьніка-журналістага, які спэцыялізаваўся на гістарычных творах. Гэты цікавы зборнік апавяданьняў мае ў аснове факты, узятыя з гісторыі Португаліі. Падае ён іх у форме новэль.

**Францыя**

* Анры до Рэньe выдаў кнігу пад назваю „Lui ov les feurmes etr'amour" („Ён або жанчыны і каханьне"). Гэта—зборнік сэнтэнцый, афорызмаў у звычайнай аўтару мастацкай форме.

* Прэмію першага роману атрымаў Эмануэль Робін за роман „Accusè, lève-toi" („Абвінавачаны, устань"). Рэалістычнасьць малюнкаў жыцьця дзіцяці і юнака, якое няспынна вяло яго да злачынства, робіць глыбокае ўражаньне.

**Чэха-Славакія**

* У Празе памёр вядомы чэхаславацкі пісьменьнік Гэрман Унгар, які пісаў на нямецкай мове. Ён пакінуў пасьля сябе небагата твораў, але іх орыгінальнасьць і глыбіня давалі аснову спадзявацца, што ён дасьць яшчэ шмат цікавага. Дэбютаваў Унгар ня так даўно—1922 г. новэлямі „Хлопцы і Душагубы" („Knaben und Mörder"). Гэта кніга была адзначана Помасам Манном і Стэфанам Цвайгам, як твор, які бязумоўна заслугоўвае ўвагі. З іншых яго романаў можна зазначыць „Die Verstummelten" і „Die klasse".

Унгар, быў аўтарам трамы „Der Rote general", якая мела вялікі посьпех на нямецкай сцэне. Незадоўга да сьмерці Унгар пачаў быў новы роман і канчаў драму „Garteulaube", сюжэт якой узяў з аднэй сваёй новэлі. Памёр Унгар, маючы 37 гадоў.

## ЗЬМЕСТ




*Рэдакцыйная колегія:* **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**